# Міхась Кацюшэнка

# Дні, як усе іншыя



Міхась Кацюшэнка

# Дні, як усе іншыя

АПОВЕСЦІ
І АПАВЯДАННІ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

# НА АДНЫ СУТКІ

## 1

Два пальцы ліхаманкава бегаюць па клавіятуры пішучай машынкі. Колькі ні дапякалі Кастуся на журфаку, ён так і не навучыўся друкаваць прафесійна. Можна падумаць, што Кастусь робіць жудасную па нагрузцы работу. Тонкія, хударлявыя плечы ходзяць хадуном, сам ён падскоквае на стуле, але, тым не менш, роўнымі радкамі ў белае поле паперы ўбіваецца чорны шрыфт. Першую старонку Кастусь аддрукаваў даволі хутка. Мяне ахапіла чорная зайздрасць — ён «у форме», ён нікуды, ні ў якія шпаргалкі не зазірае, перад ім толькі шэрае акно, а за ім залеўная заслона.

Я другую гадзіну ўдыхаю ў сябе цыгарэтны дым, гляджу то на Кастуся, то за акно, дзе далёка ўнізе бясконцым раўчуком цякуць людзі, слухаю шоргат ветру, і галава ад усяго гэтага яшчэ больш наліваецца цяжарам, ніводнай думкі аб матэрыяле, і нават страх — артыкул трэба здаваць сёння — не выратоўвае. Звычайна ў такіх выпадках у галаву лезуць розныя пабочныя думкі, а сёння — пустата: ні думак, ні жадання пісаць. Выйсце адно — збіць Кастуся з тэмпу. Вядома, я пачаў з самага галоўнага.

— Кастусь, ты чытаў старадаўнюю кнігу «Акадэмія верхавой язды»?

Непрабіваема маўклівы Кастусь працягвае стукаць на машынцы — ужо пайшоў на трэцюю старонку.

— Дык вось у ёй сказана, што галоўнае — не ездзіць на кані, а гаварыць аб ім.

Некалькі месяцаў назад Кастусь зваліўся з каня і пасля кульгаў на правую нагу. Шэф празваў яго «жакеем», але мянушка гэта, на шчасце, не прыстала да Кастуся.

Ён увесь сцяўся, яшчэ больш схіліўся над машын-

кай. Я збіраўся ўжо ўстаць і прайсціся па рэдакцыі, але Кастусь раптам залямантаваў на ўвесь голас:

— Тады, Калінка, скажы, што такое слуп?

— Частка старанна абструганага дрэва або адлітага ў спецыяльнай форме бетону, якую затым патоўшчаным канцом перпендыкулярна ставяць у зямлю, а на вяршыню...

— Ёлупень цара нябеснага! — ён павярнуў да мяне свой твар — колеру вугалю бровы, ненатуральна вялікія вочы.— Слуп, гэта на мове стайні — фініш.

Няўжо ўсё, няўжо зноў уткнецца ў машынку? Быць не можа, гаворка ж ідзе пра коней...

— «Слуп», гэта значыць фініш,— гаворыць ён.

— Але бывае і інакш, калі фініш у разлік не прымаецца...

— Як жа так? — я нікольні не прыкідваюся, мяне гэты няшчасны фанатык стайні і на самой справе заінтрыгаваў.

— Бывае, класныя коннікі-спартсмены наладжваюць паміж сабой «гамбургскі падлік» — паказваюць адзін аднаму сваё майстэрства пры зачыненых дзвярах манежа, без публікі: такія сустрэчы калісьці праводзілі цыркавыя барцы ў Гамбургу. Тут самі элітныя коннікі рашаюць, хто з іх лепей валодае канём, і «слуп» у разлік не прымаецца.

— Дзякуй, Кастусь, дзякуй вялікі. А чаму б табе не напісаць нарыс пра коней? Магло б атрымацца цікава.

— Я яшчэ мала ведаю пра іх. Майстры засмяюць, але праз некалькі гадоў, вось убачыш, абавязкова напішу.

Яго вочы глядзелі на мяне ўмольна.

— У мяне камандзіроўка гарыць. Шэф без гэтага рэпартажу не адпусціць, а я па рыбалцы страшэнна занудзіўся.

Кастусь перанёс у дзяцінстве парок сэрца, аб чым

сведчыць рубец цераз усе грудзі, ён хварэў астмай, але ўсё гэта перасіліў і цяпер любіць коней, рыбалку ды вось гэтае стуканне на машынцы.

Ён зноў прымаецца ўбіваць літары ў паперу. Я так-сама пішу хутка, у рэдакцыі нас празвалі аўтаматчыкамі, але сёння не магу з сябе радка вымучыць. Дома ў падобнай сітуацыі я шукаю любую работу, толькі б не пісаць. Я выяўляю раптам, што твар мой пакрыўся шчаціннем і яго неабходна тэрмінова, ну проста неадкладна, пагаліць, спачатку электрабрытвай, а пасля ўжо падгладзіць «жылетам». Хапаюся за тэлефонную трубку, не ведаючы яшчэ, каму буду званіць, пачынаю перабіраць кніжную паліцу — чаго толькі ў яе не напхана?.. У нас аддзел такі — інфармацыі і быту. Пісаць прыходзіцца або прама ў нумар, або ў наступны. Да якасці, безумоўна, прыдзіраюцца. Калі не заўсёды, то зрэдку, пасля вось такога «высмоктвання» з пальца, праскочыць раптам абкатаная безліччу пакаленняў газетчыкаў трафарэтная фраза, а ты ганіш радкі далей, быццам гэта нешта фатальнае, што адбылося не па тваёй віне, і радуешся, калі нечакана праслізне светлы абарот, які ты ў сабе і не стараўся адшукаць, а рука сама, па ўласнай волі, вывела яго на паперы, і настрой адразу ж робіцца радасным. Потым застаецца толькі вымараць штампы, калі, вядома, дазваляе час. Галоўнае ў газетнай рабоце, адносна слоў нашага загадчыка аддзела Георгія Георгіевіча Шараверы — прафесіяналізм. Газетчык-прафесіянал, лічыць ён, заўсёды, у любую хвіліну дня і ночы, выб'е любы матэрыял, даведаецца аб усіх таямніцах, што датычаць чалавека ці нейкіх абставін — і зробіць гэта чытабельна, дасціпна і дакладна, і будзе гэта ў аднолькавай ступені прымальна для чытача з аналітычным складам розуму, і для абывацеля, і для людзей «адтуль» — ён у такіх выпадках тыцкаў пальцам угару. Такі газетчык-прафесіянал акажацца дасціпным у любой

праблеме і можа выдаць матэрыял, пастараўшыся, натуральна, для любога, самага высокага ўзроўню, выдання. Яшчэ Гарык любіў паўтараць: «Я не гігант, але стойце на маіх плячах, пакуль я не ўцёк з «маладзёжкі».

А на яго плячах можна было стаяць спакойна. Нам з Кастусём пашчасціла, што мы трапілі ў шкаляры да сапраўднага газетнага «ваўка». Пасля універсітэта, дзе нас вучылі выкладчыкі, што бачылі газету хіба толькі ў кіёску, Шаравера цярпліва разбіраў кожны наш радок, вучыў, з якога боку падабрацца да аб'екта, даставаў запісную кніжку, з якой браў усялякія мудрыя думкі, як, напрыклад, выказванне Роджэра Бэкана аб тым, што існуюць чатыры перашкоды пазнання ісціны: пакланенне перад ілжывым аўтарытэтам, прывычка да старога, погляды невукаў, гардыня ўяўнай мудрасці...

— Дык вось,— сцвярджаў Гарык,— калі вы пераступіце цераз гэтыя перашкоды, то можаце лічыць сябе газетчыкамі. Роджэр Бэкан хоць і не пісаў у газету, але трапіў у самую кропку.

Цяпер мы змагаемся з Кастусём удвух. Шаравера паляцеў у Сочы, каб адпачыць ад жонкі, дзяцей, ад нас з Кастусём і набрацца мудрасці ад жыцця, якое, па яго словах, б'е на курортах невычэрпнай крыніцай. Але мы добра ведаем, якая гэта мудрасць — будзе хадзіць па кабінетах урачоў, трацячы пасля кожнай новай сустрэчы з белымі халатамі надзею пазбавіцца ад радыкуліту, а потым, нават лежачы на пляжы, рабіць запісы ў сваім неразлучным блакноце. Ён ахвяраваў з гэтага блакнота некалькі старонак для таго, каб даслаць у рэдакцыю пісьмо з дакладным і самым вычарпальным апісаннем сонца і пляжа. А ў нас тут дождж, туга, і я гатовы разгружаць на таварнай станцыі вагоны з цэментам, толькі б не пісаць артыкул.

Тэлефонны званок — вось ён, мой ратунак! Хапаю трубку.

— Кастуся Мікалаевіча.

Які прыемны жаночы голас!

— Цябе, канявод.

Калі Кастуся называюць па імю і па бацьку, ён саромеецца, худыя шчокі яго ружавеюць.

Ён адскоквае ад машынкі і прымае сур'ёзны выгляд. З-за гэтага выгляду Кастуся цягнулі ва універсітэце ў аспірантуру, ды толькі ён цвёрда вырашыў пайсці ў рэдакцыю.

Ён заканчвае размову, вешае трубку і, не звяртаючы на мяне ніякай увагі, кідаецца ў крэсла.

— Слухай, Кастусь Мікалаевіч,— кажу я з натхненнем.— Ты прабач, але я толькі цяпер заўважыў...

— Што? — Кастусь узнімае галаву.

— У цябе лоб, як у прафесара са стажам,— высокі, з залысінамі. Гледзячы на яго, ніколі не скажаш, што ты заўзяты халтуршчык.

Ён паварочваецца да мяне і дакорліва ківае галавой:

— Сам ведаеш, з-за чырвонца гібею. Грошы во як патрэбны. Не чапляйся, перакрые шэф па тваёй міласці камандзіроўку, а мне хочацца рыбу павудзіць і з рыбакамі аб жыцці пагаварыць. Раптам не толькі рыбкі, але і нарыс прывязу або нават серыю.

І на самай справе — чаго я прычапіўся да чалавека? Я з тугой гляджу на тэлефон, чакаючы званка. Яго няма, і яшчэ некалькі мінут я малюю ў сваім уяўленні недарэчную, прымітыўную сітуацыю — ідзе яна да тэлефона, паўдарогі ўжо прайшла, як раптам выклікае шэф. Яшчэ варыянт — яна выйшла ад шэфа і ўспомніла пра мяне, але Галка, тая самая Галка, на якую я аднойчы ўвесь вечар заглядаўся, павісла на тэлефоне.

І тут мяне паклікалі да рэдактара.

— Вы адразу ж, вось цяпер зайдзіце.

Сакратарка ў нас нядаўна і ўсіх, у тым ліку і нас з Кастусём, на «вы» называе.

Наш шэф талковы — высокі чалавек з гучным голасам, дзвюма выразнымі складкамі на шчоках. Калі я ўвайшоў, ён хадзіў па сваім кабінеце. Ён вечна ходзіць, нават на лятучках. Амаль што не карыстаецца сваёй шыкоўнай белай «Волгай». Калі ён толькі прыйшоў да нас з камсамольскай работы, усе вырашылі — дзівак, пабудзе нейкі час сціплым і памчыць па горадзе на сваёй «Волзе», не заўважаючы ўсіх тых, хто мітусіцца на тратуары. А пасля дазналіся, што ён не піжоніцца, што ў яго быў мікраінфаркт, і праз некаторы час мы зразумелі, дзе і чаму ён захварэў. Шэф з першага дня пачаў рабіць газету, спадзеючыся больш на сябе. Ён, відаць, прывык працаваць як той вол, і мы гэта адразу адчулі. «Ніводнага нумара без чытабельнага матэрыялу, без жывінкі!» — такі прынцып устанавіў шэф. Многія, хто пісаў зрэдку, адразу ж прачнуліся, некаторыя з тых, хто спачываў на лаўрах, заробленых у даўнія гады, вымушаны былі таксама заварушыцца — набівалі партфелі блакнотамі і кацілі ў камандзіроўкі. Шэф шукаў саратнікаў сярод нас, зялёных газетчыкаў,— мы хапаліся за любую тэму, набівалі сабе шышкі, але ён мог ужо сёння разлічваць на нас, а тым больш заўтра.

— Чым займаешся?

Ён усё ходзіць па кабінеце, а я правальваюся ў глыбокае крэсла. Гэта месца Гарыка, і на лятучках ніводзін чалавек да крэсла не набліжаецца.

— Ды вось бытавым абслугоўваннем. Сёння здам артыкул.

Я вымавіў гэтыя словы, не верачы ў іх рэальнасць.

— Што ж, цудоўна! Нам трэба пісаць пра заганы ў бытавым абслугоўванні, але, прабач, не гэта галоўнае.

— Хведар Аляксеевіч, але ж вы самі на мінулай лятучцы...

— Ды не лаві ты мяне на слове! Я добра памятаю, што гаварыў, і тэму тваю не перакрэсліваю, тым больш здасі сёння артыкул — паставім у наступны нумар. Макеты яшчэ не малявалі. А чытач што скажа? Мы перш за ўсё аб ім павінны думаць, а самі абмялелі за апошні час. Хіба ў нас зубы павывальваліся і мы нікога ўкусіць не можам?..

Ён садзіцца насупраць.

— Ты скажы, ці падабаецца табе ідэя з планаваннем ударных тэм?

Ну і пытанне падкінуў! Планаванне ўдарных тэм азначала, што кожны, не менш чым раз у месяц, павінен здаць праблемны артыкул. Многім гэта не падабалася, планы ўдарных тэм не выконваліся. Шэф па чарзе выклікаў нас у кабінет. Надышла і мая чарга.

— Я не супраць ударных тэм, газета без іх не можа, але ж ці так лёгка знайсці тэму, не заўсёды часу хопіць раскруціць яе.

— А вы ў рэдакцыі не сядзіце, я не стану засякаць па гадзінніку, калі вы пайшлі, калі прыйшлі. Разабраліся з пісьмамі, здалі цякучку, і бывайце здаровы — шукайце тэмы, сярод людзей бывайце, наладжвайце кантакты.

Прынеслі друкарскі адбітак першай паласы. Шэф схапіў чырвоны аловак і ўзяўся перамячаць лінейкі.

— Каша, а не паласа,— сказаў ён сакратару.— Ты, пэўна, любіш кашу, га? Часцей бывай на выстаўках графікі. Сакратар — гэта нейкім чынам мастак.

Яны ўдвух схіліліся над макетам.

— Хведар Аляксеевіч, я магу ісці?

— Калі зразумеў усё, то ідзі!

Я канчаткова зразумеў, што артыкул у рэдакцыі не напішу. Кастусь усё ляпае на машынцы. Рэпартаж

раздуваўся на «падвал». Успамінаю, што абяцаў пазваніць Бялькевічу.

Званю, але яго няма. Нейкае тэрміновае заданне — і Сяргей пабег. У рэдакцыі «Апошніх паведамленняў» на радыё рэдка каго-небудзь пабачыш. Практыку я таксама на радыё праходзіў. Не вытрымаў і тыдня — абрыдлі плёнкі, мантажы — і ўцёк у рэдакцыю газеты, дзе і застаўся. Сяргей любіць беганіну і ненавідзіць маральныя опусы. Яго цікавіць толькі інфармацыя. А мне такая беганіна не па душы. Да таго ж той рэпартаж выплюнуць у эфір, і справа [illegible] канцом, а тут хоць папера застаецца. У мяне ў кладоўцы цэлыя горы жоўтых папер, і на кожнай маё прозвішча.

Дома я зачыніўся ў сваім пакоі і гадзін у адзінаццаць дапісаў нарэшце артыкул. Па тэлевізары ішоў фільм. Мая сястра, пятнаццацігадовая Волька, сядзела ля тэлевізара і латала свае старыя джынсы. На іх месца жывога не было, але Волька лічыць, што гэта «фірменна», і на месцы дзірак нашывае латкі-сэрцайкі, выразаныя са скуры.

— Мне званілі?

— Ва ўсякім разе, не Наташка.

— Паслухай, ты ж дарослая ўжо, вакол цябе хлопчыкі ўюцца, запісачкі табе пішуць...

— Прабач, брацік,— яна прыткнулася цёплым носам да маёй шчакі.

— Калі бацька [illegible] маці прыйдуць?

— Яны да цёткі Надзі на дзень нараджэння пайшлі.

Волька прамовіла гэта звычайным тонам. Падумаць толькі — старыя нашы ўдваіх выбраліся ў госці. Калі гэта было апошні раз? Нават успомніць не магу. Летась або нават раней... Паміж імі нібы цень прабег — спачатку маленькі, але з кожным днём, месяцам ён набываў усё больш жудасныя памеры. Раней, у мінулым іх жыцці, усё было інакш — замілаванне адно да аднаго, не фальшывае, наігранае, а вельмі шчырае.

І куды гэта ўсё падзелася?

Я не паспяваю адказаць сабе на гэта пытанне. Зусім нечакана я нібыта правальваюся ў нейкі туман — засынаю як забіты.

## 2

Я чую крокі маці на кухні. Устаць не спяшаюся. Я даўно ўжо не бегаю раніцай, не раблю зарадку. Адкрываю кран, струмень вады ўдарае ў ракавіну. У напаўдрымоце бачу святло за дзвярыма. Няўжо бацька сядзіць за чарцяжамі пасля святкавання дня нараджэння. Да маёй прафесіі, у адрозненне ад мамы, бацька ставіцца сур'ёзна. Бацька і маці ў мяне інжынеры. Бацькавы сябры заўсёды лічылі, што з яго атрымаецца таленавіты чалавек, а цяпер перасталі лічыць — праляцелі гады, а бацька так і застаўся старшым інжынерам у другараднай праектнай канторы. У яго не было хваткі, практычнага падыходу да жыцця, яго абыходзілі на паваротах слабейшыя, яго падміналі серадзнякі, а ён разводзіў рукамі: «Я так не ўмею».

У апошні час бацька зусім здаў — старасць, тытул няўдачніка, холад у адносінах з жонкай. Магчыма, няўдачы, безвыходны сум па страчанай маладосці — ні ўзлётаў, ні падзенняў — і з'явіліся першапрычынай разладу ў нашай сям'і. Можа, мне пагаварыць з ім, але ці змагу зрабіць гэта тонка і дыпламатычна?

Бацька п'е чай. За шкельцамі акуляраў — устрывожанасць.

— Як дзень нараджэння? — спытаў я.

Ён глянуў на мяне так, быццам я задаў проста вар'яцкае пытанне.

Маці завіхалася каля стала, ён на яе нават не глядзеў, працягваючы піць чай, гледзячы ў адну кроп-

ку. Я зрабіў некалькі глыткоў і паспяшаўся выйсці хутчэй з дому.

У рэдакцыі ў поўнай цішыні я кончыў нарэшце артыкул аб бытавым абслугоўванні, аддаў яго ў машбюро і ўспомніў пра тэлефон, пракляты тэлефон, які маўчаў — аўтары душу не вярэдзяць: «Калі артыкул пойдзе?» — сябры некуды падзеліся і яна — таксама.

Я набіраю яе нумар.

— Наташа выйшла да вучонага сакратара, хутка вернецца.

Безумоўна, гэта Галка, яе элегантная і вытанчаная сяброўка, рэдкая дурніца і крыўляка. Яна чапляе на сябе недарэчную вопратку — на яе глядзяць як на пудзіла, а ёй здаецца, што жаданы эфект у кішэні. Пры апошняй сустрэчы, калі я, несусветны дурань, заікнуўся пра Наташку, у Галкіных вачах заблішчэлі агеньчыкі.

— Ты варушыся трохі,— у яе словах была насмешка,— а то прамаргаеш. Яна многім падабаецца. Маладыя прафесары пры яе з'яўленні забываюць пра свае формулы і эксперыменты, а ты, наколькі мне вядома, не Хемінгуэй.

І пайшла-паехала несці нейкую лухту пра Наташкіны вартасці.

З Наталляй Фаустаўнай Патапавай (яна не любіць імя свайго бацькі) я знаёмы, як гаворыць мой Бялькевіч, з каменнага стагоддзя. Мы разам вучыліся ў школе, нават у адным класе, і так здаралася, што іншы раз сядзелі за адной партай. На Наташку многія паглядалі, але ўсур'ёз да яе адносіўся толькі адзін чалавек — тоўсценькі выдатнік Віця Голубеў. Віцька лічыўся неперараўзыдзеным у матэматыцы і іншых дакладных навуках, а мяне ж пры адным успаміне пра іх і сёння кідае ў холад. За час, адведзены на кантрольную, Віцька паспяваў рашыць многа задачак. Сабе і іншым. Сярод іншых я быў не апошнім. Таму я не мог

сабе дазволіць пазлаваць яго, пакпіць з Наташкі. Віцька б адвярнуўся ад мяне. Я маўчаў. Часам нават шкадаваў Віцьку.

Ён гаварыў пра Наташу ўсюды — у кіно, на трэніроўцы, на пляжы,— і твар яго кожны раз святлеў. Аднойчы я сказаў яму:

— Так нельга, Віця. Ты не маленькі. На выгляд ты нават вельмі дарослы мужчына. Трэба сказаць ёй пра ўсё. У класе і так усе даўно ведаюць... і яна таксама...

Ён страшэнна мучыўся два дні, абдумваючы маю прапанову.

Узважваў абсалютна ўсё. Ну і, вядома, ён знайшоў выйсце. Я павінен быў сыграць галоўную ролю. Ён купіў білеты на арганны канцэрт, а мне належала запрасіць на гэты канцэрт Патапаву. Віцька аддаў мне білеты і сказаў:

— Давай...

Ён адышоў убок, а я, шчыра скажу, разгубіўся. Нічога падобнага раней са мной не было.

На перапынку я падышоў да Наташы і сказаў прама:

— На арганны канцэрт не хочаш пайсці?

Твар яе застыў ад здзіўлення. Яна працяла мяне сваімі вачыма, спытала:

— А калі?

— Заўтра. Вось табе білет,— я акуратна разарваў білеты папалам.

Білет яна ўзяла. З мяне быццам пятлю знялі. Ужо на хаду я сказаў:

— Віця будзе чакаць цябе а палове восьмай каля філармоніі.

— Віця?! — яна паружавела. Заўсёды яна ружавела, калі пачынала псіхаваць.— Пры чым тут Віця? Бяры свой білет,— і яна шпурнула скамечаную блакітную паперку мне пад ногі.

Выходзячы, яна насмешліва праспявала:

— Сва-ат... Знайшоўся мне!

Білеты я вярнуў Віцьку.

— Ну што? — спытаў ён.

— Не можа. Часу ў яе няма. Гаворыць, англійскім трэба займацца.

— Ну добра, тады ўдвух пойдзем, га?

— У мяне трэніроўка...

Ён потым паехаў у ваеннае вучылішча, ажаніўся з урачыхай. А Наташа стала фізікам, і, здаецца, вельмі неблагім. Так, па меншай меры, мне аб ёй расказвалі. Мы часта сустракаліся і перазваньваліся адно аднаму. Мы не маглі не сустракацца падоўгу. Я, ва ўсякім разе, не мог.

Яна павінна была пазваніць мне па тэлефоне адразу пасля камандзіроўкі, як мы дамовіліся. І чамусьці не звоніць.

А цяпер Галка гаворыць, што яна выйшла да вучонага сакратара.

Я ўсё яшчэ, аказваецца, трымаю трубку ў руках...

Я схамянуўся — мне сёння дзяжурыць. Праўда, да дзяжурства яшчэ шмат часу. Можна зайсці дамоў паабедаць, але есці не хочацца. Заходжу выпіць кавы ў «тэлевізар», празваны так за вялікія, на ўсю сцяну, вокны, якія работнікам кафэ ніяк не ўдаецца занавесіць шторамі. З вуліцы бачна, што п'юць і што ядуць у кафэ знаёмыя і незнаёмыя. Мяне сустракае швейцар Пётр Васільевіч.

— Вітаю,— гаворыць і ўсміхаецца,— што не відаць даўно?

— У камандзіроўцы быў і яшчэ розныя справы.

— Гэта справа — камандзіроўка. Я твой артыкул неяк бачыў, здаецца, нарыс. Але вось аказія — газетку нехта знёс. Ты б прынёс мне пачытаць, цікава, што ты там на «падвал» выдаў.

Лексікон у Васільевіча не ўступае лексікону самага бывалага газетчыка. Неяк Гарык параіў практыкан-

там з універсітэта павучыцца спачатку ў Васільевіча, а толькі пасля ўжо прыходзіць у рэдакцыю. Калі практыканты даведаліся, што гаворка ідзе «ўсяго толькі» пра швейцара — страшэнна пакрыўдзіліся.

Васільевіч так увайшоў у ролю, што ўсе ўжо прывыклі — ён дае самыя дакладныя ацэнкі артыкулам знаёмых газетчыкаў і ніколі не крывіць пры гэтым душой. Калісьці Пётр Васільевіч працаваў токарам на вялікім заводзе, ваяваў. Дзеці выраслі і ўнукі таксама, а ён засумаваў на пенсіі і пайшоў, па яго словах, «швейцарыць», каб сярод людзей быць. Неяк яго моцна пакрыўдзілі. Прыйшоў у кафэ знаёмы заводскі майстар, падвыпіў і пачаў ушчуваць Васільевіча за новую прафесію. Гэтага чалавека таварышы з кафэ выгналі, а Васільевіч расстроіўся.

— Як нажом па самым сэрцы рэзнуў,— скардзіўся мне пасля.

На гэты раз кафэ было паўпустым. Час абеду яшчэ не настаў. Мы пацягваем з Васільевічам кофе. Ён гаворыць:

— Андрэй учора тут зноў быў. Увесь вечар быў. Балюча глядзець. Прападае хлопец... Шкада... І чаго ён п'е? Рукі ўжо дрыжаць — як на людзях толькі блакнот раскрывае.

Андрэй Варанцоў ужо шмат гадоў у нашай газеце. Колькі часу назад я прынёс яму першую сваю заметку.

Пісаў Андрэй раней проста здорава, і на лятучках пра яго артыкулы гаварылі коратка:

— Варанцоў у сваім стылі.

І ўсе ведалі, як гэта разумець. У Андрэя выйшла некалькі зборнікаў нарысаў. Адзін нават перавыдалі ў Маскве.

У апошні час справы ў яго ішлі дрэнна. Пісаць стаў мала. Раніцай меў выгляд пакамечанага чалавека — мяшкі пад вачамі, няголены. Неаднойчы Андрэй

з'яўляўся п'яным на дзяжурства, яго падмянялі, рабілі гэта так, каб нічога не ведаў рэдактар. Але рэдактар пра ўсё ведаў і колькі разоў прапясочваў Андрэя. Той абяцаў выправіцца. Але абяцанкі так і заставаліся абяцанкамі.

На мае пытанні і іншых супрацоўнікаў Андрэй не адказваў, і ніхто так і не ведаў, што ж з ім адбылося.

— Прыдумаць можна што-небудзь,— быццам чытае мае думкі Васільевіч,— самі пра іншых пішаце, а тут свой чалавек прападае.

— Так,— няпэўна гавару я, а сам ведаю, што Андрэй пашле любога да ўсіх д'яблаў.

Я гляджу на гадзіннік. Праз дзесяць мінут у рэдакцыі мне прынясуць першую паласу.

— Мне пара,— гавару я,— дзяжурства.

— Ты хоць зрэдку заходзь,— гаворыць Васільевіч.

— Зайду. Абавязкова.

Я вычытаў паласу і пайшоў пакурыць з сакратарыятчыкамі.

— Зноў з графіка выбіўся? — спытаў адказны сакратар.

— Што значыць — выбіўся? Артыкул на машынцы. Гэта ваша сфера. Я сваю справу зрабіў.

— Вычытай і здай хутчэй. У наступны нумар няма чаго ставіць. Хоць бы афіцыёз пайшоў, ці што? Дарэчы, не давай сваім дзяўчатам тэлефона сакратарыята.

— А што?

— Нейкая Наташа прасіла, каб ты сустрэў яе а палове сёмай каля інстытута.

— Мяне на месцы не было, і яна, відаць, цераз бюро даведак... Але ж я дзяжуру...

— Давай валяй, падмяню сам,— адказны засмяяўся.— Каля любога інстытута шмат усякага народу бадзяецца. Могуць украсці.

Роўна а палове сёмай я сустракаю яе каля інстытута фізікі.

— Добры вечар,— гаворыць яна,— ты яшчэ больш узмужнеў. Твар асунуўся, і гэта табе ідзе.

Ужо гэта першая фраза, зусім непатрэбная і пустая, не дае мне сказаць ёй, як я чакаў званка ўсе гэтыя дні.

— Ты б наогул магла і пазваніць. Гэта так проста. Усяго дзве капейкі.

Яна смяецца.

— Ва ўсім горадзе раптам зніклі двухкапеечныя манеты. Немагчыма пазваніць, а ў лабараторыі ў нас вечна шмат народу.

— Як твая дысертацыя?

— Процьма работы яшчэ. А так усё нарэшце праяснілася да канца. Вось і зараз доследы. Да позняга вечара кожны дзень. А ў цябе што чуваць?

— Розныя дробязі. Як і заўсёды...

З яе гэтага дастаткова. Больш яна ні пра што не спытае. Я пачынаю адчуваць, што мне трэба папрасіць прабачэння і ісці дадому або паехаць да каго-небудзь у госці. Толькі б не быць з ёй адзін на адзін.

— Халаднавата,— сказаў я.— Можа, заедзем да скульптара ў майстэрню?

— А ён у сябе?

Іваноў зняў трубку. Пачуў мой голас і, мне здаецца, узрадаваўся. Я здзівіўся. Іваноў адносіўся да тых людзей, якія не праяўляюць сваіх пачуццяў. Да таго ж звычайна Іваноў шмат працаваў і не любіў, каб яму перашкаджалі. Але ж я быў выключэннем. Іваноў гаварыў:

— Няма чаго так проста сядзець. Пазіруй.— І я пазіраваў.

Я пазіраваў і ў першую нашу сустрэчу, калі Іваноў яшчэ не меў сваёй майстэрні, не ўдзельнічаў ні ў адной выстаўцы, а вучыўся на апошнім курсе інсты-

тута. Я прыйшоў пісаць пра яго. Іваноў махнуў, давай, маўляў, пішы, а пасля, нібы між іншым, прапанаваў:

— Можа, папазіруеш?

Я згадзіўся. І страшэнна мучыўся. Дзве гадзіны я стаяў у нейкіх скурах і павінен быў выконваць ролю зімоўшчыка. З мяне градам каціўся пот, занямелі ногі, але варта было мне паварухнуцца, як Іваноў пачынаў прасіць:

— Слухай, пастой яшчэ крышачку.

А іншы раз бурчаў:

— Цябе што, кусаюць?

Ён быццам растварыўся ў сваёй рабоце, забываў на ўсё і не чуў маіх пытанняў. Але затое я бачыў, як ён працуе. У яго быў шырокі і немалады ўжо твар. Вялікія залысіны і маленькая рыжая барада. Бародка гэта яму яўна не пасавала да твару, пра што я яму і сказаў адразу. Ён агрызнуўся:

— Вялікая не расце. Няхай хоць гэта будзе.

Дэкан факультэта мне шмат расказваў пра Іванова. Ён быў самым сталым са студэнтаў і самым старэйшым з іх. Паспеў шмат пабачыць — завод, армія, плаваў кітабоем. Я любіў бываць у Іванова. І ён таксама мяне ўвогуле цярпеў, нягледзячы на тое, што нарыс яму не падабаўся. Ён доўга перачытваў яго, ківаў галавой, а пасля сказаў:

— А каму гэта ўсё трэба, скажы ты мне?

Зараз я напісаў бы пра яго інакш — сам бачыў, як наіўна напісаны той даўнішні нарыс. Цяпер Іванову пераваліла ўжо за трыццаць, аб ім нярэдка пісалі і гаварылі, але я не пісаў — пісаць пра сяброў неяк няёмка.

З майстэрні даносіўся шум. Адчыніў Іваноў. Убачыў нас і заўсміхаўся:

— Даўно вас не было. Я па табе, пісака чортавы, засумаваў. У мяне маленькае свята. Тое-сёе адабралі на выстаўку ў Маскву.

У Іванова былі нейкія незнаёмыя мне людзі. Ён пазнаёміў мяне са сваёй жонкай. Сказаў, што яна лепшая машыністка адной з салідных устаноў і я магу прыносіць друкаваць ёй свае опусы.

— Шкада, прыносіць няма чаго,— сказаў я.— Але калі-небудзь абавязкова прынясу.

Усе ўжо былі «цёпленькія». На доўгім стале, складзеным з некалькіх дошак,— віно, сыр, каўбаса.

Мы з Івановым адышлі ўбок.

— Калі гэта ты паспеў ажаніцца, што я не ведаю?

— Два тыдні назад. Ты ж ведаеш, я быў перакана्ны халасцяк. А ўбачыў яе і — зразумеў: усё жыццё толькі і рабіў, што яе чакаў. Я табе званіў — хіба ж дазвонішся. Але ты не хвалюйся, вяселля яшчэ не было. Хутка ўселімся ў новую хату — і тады ўжо згуляем абавязкова.

Я слухаў, глядзеў на яго і не пазнаваў гэтага чалавека. Быццам і не ведаў я ніколі Іванова — тлуставатага і змрочнага. Чалавек, які так хутка перарабіў яго,— маленькая і жвавенькая жанчына — пра нешта ўжо размаўляла з Наташай. Мы выпілі віна. Іваноў уключыў музыку. Вядома, арганную. Ён лічыць, што арган дапамагае яму працаваць. Калі я сказаў, што адзін баксёр-прафесіянал трэніруецца пад суправаджэнне джазавай музыкі, Іваноў пакрыўдзіўся.

— Знайшоў што параўноўваць — скульптуру і мардабіцце.

— Ну і што?! — абурыўся я.— І там і тут чалавек выкладваецца псіхалагічна, фізічна, ён адшуквае ў сабе нябачныя сілы для перамогі: ты — над каменем, баксёр — над сапернікам.

Але ён ужо забыўся пра сваю крыўду.

— Ты ведаеш, я нешта заўважыў,— сказаў Іваноў так, што чуў толькі я,— Наташка на цябе інакш глядзіць. Быццам і не ты побач.

Я кісла ўсміхнуўся.

— Гэта табе здаецца, Іваноў, на самай справе ўсё не так.

Я глянуў на Наташу і ўбачыў, што яна думае аб нечым сваім. Хутчэй за ўсё, не вельмі вясёлым.

Я папрасіў прабачэння ў Іванова — заўтра рана ўставаць, і таму час нам ісці дамоў.

— Браце, часцей заходзь. Тое-сёе пакажу, там ёсць...

Ён кіўнуў у бок дзвярэй, што вялі ў другі пакой майстэрні. Там ствралася самае патаемнае, і не кожны мог туды трапіць. Іваноў паказваў толькі гатовыя работы.

— У камандзіроўку з'езджу і прыйду.

— Мяне таксама некалькі дзён не будзе. Еду на новабудоўлі. Восень — вятры, дождж... Толькі і працаваць.

Мы ішлі з Наташкай і маўчалі. Мяне ахапіла шчымлівая трывога.

— Што адбываецца? Можа, ты растлумачыш?..

Яна нічога не адказала, толькі пацерла далонямі твар. Яна так клапоціцца пра свой твар. Калі цалаваў яе, яна жартам адбівалася:

— Ты сваім шчаціннем ператворыш мяне ў бабулю. Гэта так страшна — стаць бабуляй.

Мы сядзелі страшэнна скурчаныя, прытуліўшыся адно да аднаго ў каморцы на гарышчы. У яе было гарачае цела і гарачыя вусны, я ніколі не думаў, што ў яе такое гарачае і гладкае, матавае цела. Хвіліны блізкасці мы купілі цаной пакутлівага чакання. Каму яно патрэбна было, гэтае чаканне? Я гаварыў ёй пра гэта, і Наташка ціха смяялася. Так, чаканне гэтае, пакутліва-доўгае чаканне было нікому не патрэбнае. Потым, пасля паездкі да мора, пачаліся бясконцыя пошукі ключоў ад пустой кватэры, іншы раз яна выпрошвала ў бацькі «Масквіч», і мы кацілі за горад, і зноў былі побач.

Я лічыў, што мы заўсёды павінны быць разам, я гаварыў ёй пра гэта, а яна глядзела на мяне з сумам дарослага чалавека, які назірае за хлопчыкам. Яна лічыла, што, узяўшы шлюб, мы ўцiснем сябе ў непатрэбныя рамкі, акрэсленыя фальшам адносін.

— Ты ніколі нічога не ўспамінаеш? — сіплым ад хвалявання голасам спытаў я.

— Якое ты дзіця, Глеб, божа мой, якое ты дзіця! — шчыра ўсклікнула яна.— У якой жа ты меры недасведчаны чалавек у адносінах мужчын і жанчыны. І яшчэ пішаш артыкулы, іншых вучыш жыць.

Размаўляць з ёй было дарэмна.

— Ідзі дамоў,— сказаў я і пайшоў да тралейбуснага прыпынку.

— Я пазваню табе. Я пазваню табе, можа, заўтра раніцай,— крыкнула яна ўслед.

## 3

Раніцай тэлефон маўчаў, як загіпнатызаваны. Яна пазвоніць на работу, вырашыў я, але ад тэлефона не адыходзіў. Старыя мае адно на аднаго не глядзелі. Ад бацькі нязвыкла несла перагарам — такое ўражанне, што ён перамяшаў мноства розных напіткаў. У маці прыпухлыя вочы. Бацька прайшоў у ванную, і яна паклікала мяне ў свой пакой.

— З бацькам нешта адбываецца. Я не сплю начамі. Думала, ты сам здагадаешся падысці.

— Ты з ім размаўляла?

— Спрабавала. Слова не выцягнуць. Мне здаецца,— яна глыбока ўдыхнула паветра,— інтуіцыя мне падказвае, ён звязаўся з нейкай бабай.

Бацька выйшаў з ванны, і я зрабіў выгляд, што шукаю нешта ў шафе. Выйшаў на вуліцу, калі да планёркі заставалася з дзесятак мінут. Ледзь убіўся

ў тралейбус, праціснуўся паміж двума ўкормленымі мужчынамі, і — о шчасце! — выслабанілася месца.

— Добрай раніцы! Што новага ў прэсе?

Я добра ведаў, што калісьці знаёміўся з гэтым чалавекам. А вось дзе, успомніць не мог. Няпэўны ўзрост, глыбокія маршчыны праз увесь твар, жоўтыя мяшкі пад вачыма.

Ён гаварыў аб праклятай зіме, аб тым, што надакучыла мерзнуць, праседжваць на рабоце і дома, што яму страшэнна хочацца паехаць у экспедыцыю.

І я ўспомніў. Гэта вучоны сакратар інстытута біялогіі Вермішаў. З паўгода назад я рабіў адтуль рэпартаж у нядзельны нумар, і ён быў маім гідам. Калі рэпартаж быў надрукаваны, пазваніў і прасіў заходзіць яшчэ. Абяцаў паказаць нешта цікавае.

— Што ў вас новага? — спытаў я.

— Сяджу паціху над доктарскай. Справа, здаецца, рухаецца. А наогул я не выпадкова імкнуся ў экспедыцыю. Кожны дзень іду ў інстытут, як на катаргу,— сказаў ён, не гледзячы на мяне.

— Што адбылося?

— Гэта не тралейбусная размова, чэсная слова. Заходзьце, пагаворым. Хоць я не ведаю, ці мае гэта сэнс.

— Я буду ў вас сёння.

— Калі можаце, у тры гадзіны. Я буду свабодны, і мы пагаворым.

Роўна ў тры гадзіны я хадзіў па вузкіх калідорах інстытута. Зазірнуўшы ў адны з дзвярэй, я ашалеў ад колькасці колбаў, прабірак, мікраскопаў і гаспадынь усяго гэтага — дзяўчат у белых халатах.

Я спытаў, як знайсці вучонага сакратара. Яго кабінет аказаўся побач.

Вермішаў мяне чакаў. Зірнуў на гадзіннік:

— Зайздросная пунктуальнасць.

Праз гадзіну ў Вермішава павінна была адбыцца

сустрэча з членамі біялагічнага гуртка адной са школ, і ён адразу прыступіў да галоўнага.

— Вы памятаеце, я знаёміў вас з адным нашым вучоным,— падсунуў да мяне нейкі часопіс на англійскай мове.— Гэта яго артыкул.

На мяне глядзеў са старонкі сівы паўнаваты чалавек з цяжкім падбародкам і прыжмуранымі вачыма. Я прачытаў яго прозвішча — Некрашэвіч.

Безумоўна, я памятаў яго. Некрашэвіч расказваў неверагодныя рэчы пра кажаноў, і добрую палавіну рэпартажу з інстытута я прысвяціў яго рабоце.

— Некрашэвіч сапраўдны вучоны, педагог. У яго вучні дактары навук. А ён над сваёй доктарскай працаваў чвэрць стагоддзя. Самыя каштоўныя і прадуктыўныя гады вучонага! Дарэчы, я вам расказваў пра гэта ў мінулы раз.

— Я памятаю. З такімі вучонымі не кожны дзень даводзіцца сустракацца.

— Так, многія цяпер працуюць па прынцыпу — вучоным можаш ты не быць, а кандыдатам або доктарам быць абавязаны. Бяздарных вялікае мноства. І сутнасць імкнення — гарантаваны аклад і даволі спакойнае, стабільнае жыццё. Навошта пра ўсё гэта гавару? Работа Некрашэвіча пад пагрозай, калі зусім не...— ён рассек далонню паветра.— І ведаеце, па якой прычыне? Абвінавачваюць у плагіяце. Дабіваюць чалавека і маральна і фізічна, а яму ўжо пад шэсцьдзесят. Паспрабуй вынесці такое.

Я не вытрымаў.

— Хто абвінаваціў, за што?

— Гэта не простая гісторыя.— Ён закурыў, робячы частыя зацяжкі.— Дырэктар нашага інстытута Крыўцоў чалавек параўнаўча малады для ўсіх сваіх тытулаў — акадэмік, мноства ганаровых званняў, кніг, а яму яшчэ і пяцідзесяці няма. Ён заслужыў усё гэта з поўным правам. Былі ў яго працы, пошукі, адкрыцці,

была напружаная работа шукальніка, але ўсё ў мінулым. Цяпер ён выбівае з гэтага ўсё магчымае, а каб у навуцы застацца, навязвае таленавітым хлопцам сааўтарства. Некалькі сваякоў у аспірантуру прыстроіў, пляменніку за два гады зманціраваў дысертацыю і — наце вам — загадчык лабараторыі. Бездар законченая. Арганізуе псеўдаэкспедыцыі і палюе разам з дзядзькам. Справаздачы? Яны ёсць, прымітыўныя, вядома, але, уявіце сабе,— прымаюцца за чыстую манету. І не хто-небудзь зацвярджае — вучоны савет! Усіх заблытаў, уцягнуў у багну хлусні, з непажаданымі расправляецца.

Вермішаў рэзка падняўся з крэсла, страсянуў попел прама на падлогу.

— Такія людзі часцей за ўсё толькі пра сябе думаюць. Шэф — глыба, у яго моцныя сувязі! Усе скарыліся, апроч Некрашэвіча. На кожным вучоным савеце ён з упартасцю разносіў Крыўцова. Калегі, вядома, у душы задаволены: няхай нават такая, але справядлівасць! Крыўцоў часу дарэмна не губляў — знайшоў усё ж магчымасць адпомсціць, нанесці больш чым адчувальны ўдар. Я гаварыў, Некрашэвіч многіх у вучоныя вывеў. Колькім ён дапамог, ахвяруючы часам, распыляючы сілы, веды. Адной з вучаніц ён неяк падправіў рэферат. Яна, натуральна, з бляскам абаранілася. А ў выніку ў доктарскай Некрашэвіча знайшлі думку з рэферата вучаніцы, яго ўласную, зразумейце, думку, якую ён шчодра ў гэту работу ўклаў. Абвінавацілі ў плагіяце. І вучоны савет актыўна ў гэтым фарсе ўдзельнічаў. Я супраць галасаваў, яшчэ тры чалавекі — бура ў шклянцы вады... Вядома, Некрашэвіч не здасца. Ён моцны як крэмень, гэта работа — усё яго жыццё! Але такі ўдар, такая ганьба!

Ён глянуў на гадзіннік.

— Мне трэба выязджаць. Рабяты ў школе чакаюць.

Ужо на вуліцы Вермішаў спытаў:

— Берацеся? — І не даў адказаць.— Тэма складаная, згадзіцеся, акадэмікаў у газетах не часта з трона зганяюць. Усё больш стрэлачнікаў...

— Бяруся! — сказаў я, а сам радаваўся — вось яна, тэма, такой яшчэ ў газеце не было!

— Артыкул павінен быць доказным, тонкім, калі хочаце. Крыўцоў не дробная сошка, яго так проста не прымусіш узняць угару рукі.

— Я днямі прыйду.

Вермішаў моцна пацісну мне руку і ўсміхнуўся:

— Гэта куды цікавей, чым рэпартаж. Гэта як зацяжны скачок з парашутам. Заводзім маторы?

— Заводзім!

## 4

Кастусь злавіў мяне да планёркі.

— Якая рыбалка была, якая рыбалка!

Я аднойчы наслухаўся вось такіх захапленняў і паехаў з ім. Доўга не вытрымаў, сядзеў у лодцы, драмаў і, каб не заснуць і не боўтнуцца ў ваду, курыў. Кастусю давялося сачыць за сваімі і маімі паплаўкамі.

— Цягні, цягні! — крычаў ён, калі рыба клявала. І ўздыхаў: — І такога лопуха я ўзяў на рыбалку?

Ён пацягнуўся следам за мной у сакратарыят, дзе я збіраўся паглядзець папку з гранкамі.

— Цыкл пра рыбакоў праз тыдзень будзе ў шэфа на стале! — не сціхаў ён.

Я пагартаў гранкі. Адна сухамяціна. І на самой справе і шэфу, і сакратарыятчыкам туга прыходзіцца пры кампаноўцы чарговага нумара.

Кастусь выгаварыўся і традыцыйна спытаў:

— А ты што ж? Усё Наташку вечарамі сустракаеш...

— У мяне ў адрозненне ад цябе, Кастусь Мікалаевіч, выхваляка і піжон, у кішэні тэма, тэмішча, і не пра рыбакоў, з якімі ты чаркамі звінеў.

— Вядома ж, інтэрв'ю, па крайняй меры, з лаўрэатамі фестывалю ў Сан-Рэмо.

Я зрабіў выгляд, што яго лухта адносіцца не да мяне.

— Маладога, таленавітага акадэміка, а па сутнасці скулу на целе грамадства, знішчаю ў чарговым нумары газеты. Купляйце! — прадэкламаваў я, і ў Кастуся зрабіўся зусім сур'ёзны выгляд.

— На самай справе?

— Слова гонару.

— Хто тэму падкінуў?

— Шукаць трэба, Кастусь Мікалаевіч. Добрая тэма на паверхні не ляжыць.

— Не дурэй, я сур'ёзна...

— Выпадкова. Як снег на галаву. Толькі я яшчэ не ведаю, радавацца ці не. Акадэмік, кажуць, ні ў чым маху не дае.

— Ты Гарыка ў курс справы ўвядзі, а лепш за ўсё адразу двух — яго і шэфа,— параіў Кастусь.

Перад Шараверам ляжала паласа з маім артыкулам.

— Я, між іншым, тэмку нядрэнную знайшоў,— паведаміў я без усякіх эмоцый.

Гарык яўна быў не ў гуморы.

— Не ведаю, што ты там знайшоў, перад вачыма ў мяне муць, жвачка нейкая, а не артыкул. Быў бы я на месцы — не падпісаў бы.

— Вось так няўдумлівы кіраўнік можа адразу адбіць ахвоту пісаць! — сказаў я, амаль на памяць цытуючы кавалак з артыкула Гарыка аб праблемах адносін кіраўніка і падначаленага на вытворчасці.

Кастусь мне падміргнуў і пачаў дэкламаваць нараспеў:

— Адразу адбіць ахвоту ствараць, адбіць ахвоту ствараць адразу, ахвоту ствараць адразу...

Гарык адсунуў паласу, абвёў нас невясёлым позіркам.

— Вы тут, я гляджу, зусім разбэсціліся... Артыкул і на самой справе нейкі вялы, без шпяня. А можа, ён не падыходзіць пад мой кепскі настрой? Дома нелады, Андрэй зноў штуку выкінуў. Пераблытаў у артыкуле прозвішчы, імёны і імёны па бацьку, факты — усё, што можна было, пераблытаў. Выдаў абракадабру нейкую. Шэфа да начальства выклікалі, прыехаў злосны як чорт. У аўторак рэдкалегія. Баюся, гэта канец для Андрэя.

— Выганяць? — спытаў я.

— Выгнаць не выганяць, але заяву вымушаны будзе напісаць. Як гаворыцца ў цыркулярах, «па ўласнаму жаданню».

— Ты пагаварыў бы з ім. Кажу, сябрамі былі некалі. Усіх астатніх ён не слухае,— параіў Кастусь.

Шаравера іранічна ўсміхнуўся.

— Былі сябрамі... Такога не бывае. Калі былі сапраўднымі сябрамі, значыць, гэта назаўсёды. І перадражніў Кастуся: «Пагаварыў бы». Андрэй сам усё разумее. Я пытаўся, у чым справа. Баюся, кажа, на паперу глядзець. Апусціўся ён паступова, але апусціўся. Ды вы і самі бачыце. Ён ужо нарысы машыністцы з галавы дыктуе.

І тут зайшоў у пакой Андрэй, заўсміхаўся Гарыку:

— Даўно я тваю фізіяномію не бачыў. Як здароўе жончына?

— Ужо лепш,— сказаў Гарык,— хутка дамоў забяру.

Не паспеў Гарык вярнуцца з водпуску — жонку паклалі ў бальніцу, і ён усе гэтыя дні кідаўся паміж бальніцай, рэдакцыяй і дзіцячым садам, куды хадзіў двухгадовы сын яго Лёшка. А тут яшчэ камандзіроўка.

Сына Шаравера вымушаны быў перадаваць цешчы, якую арганічна не пераварваў. Яна прадавала кветкі, якія вырошчвала на сваёй дачы, і Гарык вёў дома вайну.

Цешчу ён амаль перавыхаваў, але з таго часу кожны раз, калі ўпамінаў пра яе, крывіўся, як ад болю.

— Так, цяжка табе прыйшлося,— спачувальна сказаў Андрэй.— Фізіяномія вунь як паплыла.

— Табе таксама, я бачу, нялёгка даводзіцца...

Шаравера пачаў пакусваць ніжнюю губу,— значыць, зараз псіхане.

Андрэй кіўнуў галавой:

— Так, стары, нялёгка.

— Гляджу я — ты гэта ці не ты? Што будзе ў аўторак, ты хоць пра гэта думаеш?

Я пакасіўся на Андрэя. Увесь ён неяк выцвіў: твар, вочы, валасы. Быццам усох на спапяляючым сонцы і страціў усе свае былыя адценні.

— Думаю і каюся,— глуха вымавіў Андрэй.— І табе ўдзячны, асабліва за тое, што ты размову гэту пры пацанах завёў. А цяпер я пайду, а ўсё астатняе ты дагаворыш без мяне.

І нячутна зачыніў за сабой дзверы. Шаравера паківаў галавой.

— Вось і пагаварыў. Не ведаю, што рабіць. А тут яшчэ матэрыял трэба дарабляць, у бальніцу бегчы, за Лёшкам... Дык што там у цябе за тэма? — спытаў ён зусім нечакана.

Я коратка расказаў. Гарык ускочыў са стула са скорасцю спрынтэра, які пачуў выстрал стартавага пісталета.

— І ты паўдня маўчыш, марочыш мне галаву нейкай дробяззю, а пра галоўнае — ні слова. Пайшлі да шэфа!

Я ледзь паспяваў за ім па доўгім калідоры. Рэдактар цярпліва выслухаў усю гісторыю.

— Пацікаўся сур'ёзна. Але будзь асцярожны, не пары гарачкі. Выключы самую нязначную магчымасць прадузятасці, дэталёва вывучы аргументы абодвух бакоў. Можа, усё гэта акажацца паклёпам на заслужанага чалавека.

— Але, вы разумееце...

— Разумею,— шэф не даў мне запярэчыць.— Разумею, што ты давяраеш Вермішаву. Вельмі добра. Але пры вывучэнні канфлікту ты абавязаны быць нейтральным. Настрой сябе, калі ласка, іменна на гэту якасць, у іншым выпадку ты не дапаможаш справе, людзям, а толькі пашкодзіш. Ты згодзен са мной, Калінка?

Вядома, я быў згодзен. Як заўсёды, у шэфа жалезная логіка, супраць яе не пойдзеш. Я вычытаў аўтарскі артыкул, даў адказы на два пісьмы — калі-небудзь пісьмы мяне сапраўды даканаюць! — і пачаў думаць, з кім бы пайсці паабедаць. Шаравера пабег у бальніцу да жонкі, Кастусь зусім прапаў. Уся рэдакцыя быццам вымерла — на планёрцы шэф даў разгон усім аддзелам па чарзе, і супрацоўнікі разбегліся ў розных напрамках. Я раптам злавіў сябе на думцы, што зусім не думаю пра Наташку. Цудоўнае гэта пачуццё натуральнай свабоды, калі нішто над табой не вісіць — ні маўклівы тэлефон, ні бяссэнсавыя размовы!

Я ведаю, каму пазваніць — бацьку! Маці ў апошнія дні замучыла мяне нямым пытаннем: «Калі?» Я ківаў галавой, маўляў, пагавару, абавязкова пагавару. Некалькі разоў круціўся каля бацькі, але рашучасці не хапала.

Нейкая незадаволеная жыццём жанчына — гэта адчувалася па яе нацягнутым тоне — паклікала Арсенія Паўлавіча Калінку да тэлефона.

— Арсеній Паўлавіч?

— Я вас слухаю.

— Звоняць з Галоўпраекттэхпрыборцяжмаш. У

сваім чарговым праекце вы напаролі столькі памылак, што работнікі нашага Галоўпраекттэх...

— Глеб, канчай дурэць. У мяне запарка.

— У цябе не запарка, а абедзенны перапынак. Прапаную правесці яго ўдвух у пельменнай на паўдарозе ад нашых кантор.

— Так, але,— ён сумеўся.

— Я частую. Атрымаў добры ганарар — каля сотні,— у маім голасе прагучала гордасць.

— Твой творчы рост ашаламляе,— пасміхнуўся бацька, але паабедаць разам згадзіўся.

Я прыйшоў у пельменную першым і паспяшаўся заняць месца. Бацьку ўбачыў праз акно. Ішоў пажылы чалавек з шэрым тварам, ён не звяртаў ніякай увагі на свой знешні выгляд — пакамечаная кашуля, пацёрты паласаты гальштук, пакрыўленыя чаравікі на мікрапорцы. Забі мяне пярун, але маці на гэты раз памылілася, гаворачы пра захопленасць бацькі нейкай асобай жаночага полу. Грэшная думка, але бацьку такая захопленасць пайшла б толькі на карысць.

Ён стаяў пасярэдзіне залы і жмурыўся скрозь акуляры, шукаючы мяне. Я памахаў яму рукой. Бацька сеў за стол, паправіў гальштук, праверыў, ці на ўсе гузікі зашпілены пінжак.

— Дзіўна, што ты запрасіў мяне паабедаць,— неяк ціха прамовіў ён.— Па-мойму, гэта падзея адбылася ўпершыню.

Сваім тонам ён адразу збіў маю гатоўнасць пачаць размову адразу, без усякай падрыхтоўкі.

— Віна вып'ем? — спытаў я.

— Ды што ты, я потым не змагу працаваць. Не той узрост — галава наліваецца цяжарам, ва ўсім целе кволасць. Можаш пачынаць сваю размову без віна. Ці мо храбрасці не хапае?..

Ён раптам заўсміхаўся, і маршчынкі на ягоным твары зайгралі, утвараючы неверагодна вясёлыя малюнкі.

— Бачыш, я даўно хацеў, але ўсё неяк не выходзіла. То часу мала, то да цябе не падступішся...

Прынеслі пельмені, бацька паліў іх воцатам і засяроджана пачаў есці.

— Ты што, жаніцца надумаў? — спытаў ён, не ўздымаючы вачэй ад талеркі.

Гэтым пытаннем бацька ўшчэнт развеяў мае надзеі, што ён зразумеў, да чаго я хілю. Цяпер пачынай усё спачатку.

— Якая там жаніцьба, я проста хацеў пагаварыць пра твае адносіны з маці. Волька і тая ўстрывожана, я ўжо не гавару пра маці, якой усякія дурныя думкі ў галаву лезуць.

— Што ж гэта за думкі?

— Уяві, яна цябе раўнуе. Яна начэй не спіць, стараючыся зразумець, што з табой адбываецца.

— І даручыла табе пагаварыць са мной?

— Не, што ты? — бойка схлусіў я.— Яна, наадварот, папрасіла, каб я не лез табе ў душу, ты ўжо прабач мне.

Ён адклаў відэлец, адкінуўся ў крэсле.

— Раўнуе, гэта ж трэба. Раўнуе. Яна ніколі не магла як мае быць зразумець мяне, ты ўяўляеш — ніколі. Яна лёгка ўбірала ў сябе ўсё, што ляжала пад рукой, на паверхні, але ўглыб... Спачатку яна была маладой, потым зрабілася жанчынай сярэдняга ўзросту, цяпер амаль пажылая кабета, але засталася ранейшай.

— Жанчыны ўсе такія,— ляпнуў я.

— Ты, я бачу, стаў вялікім знаўцам жанчын. Нешта пра Наташу ні слова ў апошні час ад цябе не чую.

Я прамаўчаў, каб не адводзіць увагу на іншую тэму. Тым больш што я ні разу не размаўляў з ім аб Наташы па шчырасці.

Мы выйшлі на вуліцу, закурылі.

— Я праводжу цябе,— сказаў я.— Як-ніяк амаль вольны мастак. Магу затрымацца хоць на дзве гадзіны.

На вуліцы было халаднавата. Бацька глыбока ўцягнуў галаву ў плечы, ссутуліўся. Як стары.

— Як бы табе гэта растлумачыць,— ён прыкусіў ніжнюю губу, пакутліва напружыўся.— Адчуў я нейкую запозненую шкадобу да сябе. Не выйшла ж нічога ў жыцці, не выйшла! Нейкі зацяжны прыпынак на адным месцы даўжынёй гадоў пятнаццаць. І вось стаў бесперспектыўным няўдачнікам. І справа не ў тым, што засеў у старшых інжынерах і грошай плоцяць не шмат... Чалавеку патрэбен рост, хоць бы намінальны, разумееш, але для гэтага трэба варушыць локцямі, вышукваць сувязі, а можа, мне так ад злосці здаецца. Гадоў дзесяць назад — такая даўнасць! — была ў мяне магчымасць заняцца цікавай справай, адказнай справай, не тое што даваць ход чужым думкам, але ўпусціў я яе. Не хапіла настырнасці, энергічнасці, смеласці, нарэшце. А цяпер ужо і сілы не тыя, і фантазія за зямлю чапляецца.

Ён яшчэ больш скурчыўся, патануўшы ў сваім вялізным старым паліто. Мы дайшлі да яго інстытута, які літаральна заглытваў пасля абеду аднаго за адным чарцёжнікаў, праекціроўшчыкаў.

— Гэта мой сын,— сказаў бацька нейкаму тлустаму бледнатвараму чалавеку ў клятчастым капелюшы. Мужчына падаў мне вялікую мяккую далонь.

— Вельмі прыемна. Семяновіч Сяргей Фёдаравіч. Мне Арсенцій Паўлавіч пра вас шмат расказвае, а калі газеткі не дастаецца, Арсенцій Паўлавіч у абавязковым парадку паказвае.

Бацька адчуваў сябе няёмка, быццам раскрывалі нейкую ягоную тайну.

— Вы прабачце, Сяргей Фёдаравіч,— я прамовіў гэта вельмі пачціва.— Нам з татам трэба яшчэ ў ГУМ зазірнуць. У нас яшчэ цэлых пятнаццаць мінут.

2 Зак. 399

І я падхапіў бацьку пад руку:

— Пайшлі.

— Глеб, які яшчэ ГУМ, я на работу спазнюся.

— Не спознішся. Я хачу тое-сёе купіць, а ты дапаможаш выбраць. Сам хваліўся, што ў цябе быў калісьці выдатны густ.

Мы прабіліся ў абутковы аддзел. Велізарная чарга, і гэта называецца самаабслугоўваннем. Я штурхаю бацьку наперадзе сябе.

— Прабачце, у нас чарга, мы толькі адышлі на момант...

Фу, праскочылі! Ззаду чуюцца праклёны, ну ды нічога.

— Ты нахабнік,— бацька круціць галавой па баках, баіцца, каб знаёмыя не былі сведкамі яго ганьбы.

— Сам гаварыў, трэба працаваць локцямі...

Мне пашчасціла — італьянскія чаравікі. Натуральная скура, выдатная работа. Пытаюся:

— Табе падабаюцца?

Бацька ківае галавой:

— Добрыя чаравікі. Бяры. Дарэчы, гэты самы Сяргей Фёдаравіч па турыстычнай пуцёўцы быў у Італіі. Дык вось там такія чаравікі вельмі дарага каштуюць — 18 тысяч лір...

— Вяром гэтыя чаравікі за 18 тысяч лір,— гавару я прадаўшчыцы.— Нам яны падабаюцца.

Бацька з палёгкай уздыхае і глядзіць на гадзіннік, але дарэмна, я моцна трымаю яго пад локаць.

— Яшчэ адзін аддзел, на некалькі хвілін.

Зноў пашчасціла — вельмі модныя венгерскія кашулі, прыталеныя, замест гузікаў кнопкі, накладныя кішэні. І адны жанчыны ў чарзе. Праштурхоўваюся да знаёмай прадаўшчыцы, крычу цераз галовы:

— Леначка, сорак першы па каўняры.

Гатова! Цяпер гальштук, вядома ж, аднатонны, карычневы.

Узмакрэлыя, пакамечаныя, выбіраемся на вуліцу. Даводжу бацьку да інстытута, сую яму пакупкі. Ён абураецца:

— Яшчэ чаго, сам дамоў аднясеш. Я не ўзяў сёння партфель.

— Гэта табе, на дзень нараджэння, нічога, што ён быў месяц назад. А ўвесь гэты хлам,— паказваю пальцам на чаравікі, кашулю,— больш не насі. Ты яшчэ малады і прыгожы.

Бацька моўчкі міргае сваімі вялікімі вачыма. Адыходзячы, я паварочваюся — ён усё так жа стаіць пасярэдзіне тратуара, трымаючы ў руках пакункі, і разгублена глядзіць мне ўслед.

У рэдакцыі перш за ўсё набіраю нумар рабочага тэлефона маці.

— Марыю Сцяпанаўну.

— Ты пагаварыў? — у голасе хваляванне, ён дрыжыць.

— Пагаварыў. Табе трэба зрабіць вось што.

— Я слухаю, слухаю...

— Прыйдзі сёння дамоў, абдымі і пацалуй бацьку.

— Што за лухту нясеш?

— Памыляешся, я пры сваім розуме. Прыйдзі дамоў і перш-наперш абдымі і пацалуй бацьку. І ўвечары пацалуй, і ноччу, і раніцай!

5

У сваім пакоі я прыдумваў будучую размову з акадэмікам. Уся наша сям'я была ў зборы. Бацька разгульваў па пакоі ў новай кашулі, пастукваў абцасамі італьянскіх чаравікаў. Калі ён апрануў усё гэта, маці пляснула ў далоні:

— Які ты яшчэ малады і нікольк не сутулы.

І адразу ж запытала:

— За якія ж гэта грошы?

2*

— Сын падарыў,— бацька сказаў гэта ўсміхаючыся і пайшоў глядзецца ў люстэрка.

— Ты звар'яцеў,— ціха шапнула мне маці.— Такія грошы ляснуў. А футра Вольцы, а крэдыт за мэблю — вы пра ўсё гэта забываецеся.

Ну што з ёю зробіш?

— З наступнага ганарару куплю бацьку касцюм і знайду яму добрую жанчыну.

Я сустрэўся з матчыным позіркам, які не абяцаў нічога добрага. Я вывернуў кішэні, аддаў астатнія грошы, і позірк яе пацяплеў.

— Бацьку трэба дапамагчы, а для гэтага яго неабходна зразумець,— сказаў я.— І перш за ўсё табе — вернаму спадарожніку жыцця.

Апошнія словы я прамовіў знарок урачыста, і маці, пакрыўджаная, нічога не сказаўшы, выйшла.

Волька збіраецца на вечар і круціцца каля люстэрка. За апошнія паўгода яна стала зусім дарослай дзяўчынай. Маці любіць Вольку без памяці, і мы з бацькам змірыліся з тым, што яна выхоўвае яе па сваёй уласнай сістэме. Волька вельмі прыгожая, маці гэтым ганарыцца і песціць дачку, як толькі можа. Але ў Волькі ёсць галава на плячах, і я не баюся, што яе прыгажосць стане нашай сямейнай трагедыяй.

Волька пайшла.

— Вы так хутка выраслі,— гэтыя словы атрымаліся ў маці сумнымі.— Бацька ўжо якую гадзіну сядзіць над чарцяжамі...

Маці спрабуе наладзіць адносіны з бацькам, дый ён сам, відаць, зразумеў, што пакрыўдзіў яе, замкнуўшыся ў свае праблемы.

Калі я чую гул іх ажыўленых галасоў за дзвярыма, на душы ў мяне наступае спакой.

— Няхай бы Глеб жаніўся,— пачынае бацька.— На жыццё зарабляе, як гаворыцца, чалавек самастойны. Мы ў наш час былі больш рашучымі.

— Наташа дзяўчына добрая,— працягвае мама.

— Тэндэм, наперад! — крычу я, але на іх гэта не дзейнічае.

— Я нядаўна сустрэла Наташыну маці, яна гэтаксама лічыць. І бацька яе, Пётр Мікалаевіч, не супраць.

Хіба растлумачыш ім усё? Звоняць у дзверы. У кватэру ўрываецца задыханы Бялькевіч.

— Вось палюбуйцеся,— гавару я бацькам,— тыповы экземпляр паспешлівай жаніцьбы.

— Добра, што ты на прыколе. Жонка захварэла, а ў мяне білеты на арган — Шэцеліх прыехаў, шкада прапускаць, апранайся.

Я згаджаюся і іду апранацца.

Ён тым часам скардзіцца маім бацькам:

— Называецца, сябры. Раней — кожны дзень разам, а цяпер, бывае, па месяцу не бачымся.

— На якога д'ябла жаніцца трэба было?! — крычу я з другога пакоя.— Яго жонка на крок ад сябе баіцца адпусціць.

— Ну і як сямейнае жыццё? — пытаецца ў Сяргея мама.

— Нічога страшнага. Гавораць, бывае і горш. Добра, што кватэра ёсць. Хоць маленькая, адзін пакой, але свая, асобная. Я ў камандзіроўках, дый так цэлымі днямі на нагах, а яна вучыцца яшчэ. Бачымся рэдка і не паспяваем адно аднаму надакучыць.

Мы спазняемся. Добра, што таксі трапілася.

— Я чуў, у цябе там нейкая фешэнебельная тэма з'явілася?

— Перадавалі па тэлетайпе?

— Кастуся сустрэў...

— Ясна. Значыць, не толькі на радыё, а ўжо і на тэлебачанні ведаюць і ўсюды. А ўсё Кастусь, тут не трэба і тэлетайп.

— І навошта толькі табе лезці ў бутэльку. Нібы няма добрых людзей, пра якіх хоць вагон дабра на-

пішы, ніхто слова супраць не скажа. Яму, бачыце, тэма спадабалася. Ты ж прафесіянал, а не студэнцік... Хіба трэба табе тлумачыць.

— Я цябе рэдка бачу,— кажу я.— І ты ўсё больш мяняешся.

— Проста раблюся дарослым і пачынаю разумець, што да чаго, а ты, па-мойму, ад інфантыльнасці не ў стане адкараскацца.

Шэцеліха я раней слухаў. Ён добры арганіст, наколькі я ў гэтым разбіраюся, але зараз я доўга не мог сканцэнтравацца.

Пасля канцэрта мы прайшліся крыху, як гэта бывала раней, па праспекце. Я маўчаў, а ён гаварыў не сунімаючыся:

— Думаеш, я чаго сяджу ў апошніх паведамленнях? Мне добра, мяне ніхто не турбуе і не псуе нервы. А грошы тыя ж і яшчэ больш. Гэта галоўнае. І нервы ў парадку. А помніка, колькі б ты ні пыхцеў, табе ніхто не паставіць. Газета жыве адны суткі. Праз суткі ўсе твае старанні ператвараюцца ў нікому не патрэбныя шматкі паперы.

— А ты надзвычай змяніўся.

— Добра,— гаворыць і калюча ўсміхаецца,— я змяніўся, а ты — не.

Я не мог зразумець, што з ім здарылася. Ці я не здолеў разгледзець яго за доўгі час? І Наташку таксама... А Вермішаву паверыў пасля некалькіх гадзін знаёмства. Магчыма, шэф мае рацыю — мог жа ён хлусіць мне, а сам думаў, вось пацан, вушы развесіў, потым напіша выкрывальны артыкул у газету.

Ноччу я дрэнна спаў. Думаў адразу пра многае — пра Сяргея, Наташу, Некрашэвіча. Галава раніцай была цяжкай. На вуліцы дзьмуў вецер, і я стараўся ісці так, каб ён дзьмуў прама ў вочы. Калі я не высыпаўся, было такое адчуванне, быццам у іх насыпалі цёртага пяску.

У рэдакцыі нікога не было, толькі Кастусь сядзеў і нешта пісаў.

Убачыўшы мяне, ён урачыста сказаў:

— А нарыс першым я закончыў! Рэдкая з'ява — мне самому падабаецца. Значыць, нармальна. Даўно мне мая пісаніна не падабалася.

— Малайчына, Кастусь,— кажу я,— ты і на самой справе хутка ў пісьменнікі выб'ешся.

Кастусь абыходзіць мяне з усіх бакоў.

— Ты што, на банкеце ўчора быў ці яшчэ дзе? — пытаецца ён таямніча.

Кастусь добры хлопец, але я ўжо гаварыў — пабалбатаць ён мастак. Асабліва наконт перамог над жанчынамі. Любіць з іншых выцягваць дакладна такія ж гісторыі. Але ўжо хто-хто, [redacted] я ведаю, што Кастусь як агню баіцца сваёй жонкі, [redacted] пры іншых жанчынах бляднее і чырванее...

— Адгадаў, Кастусь,— уздыхаючы, кажу я.

— Хто яна?

— Балерына...

Я закатваю вочы, а Кастусь гаворыць:

— Я ледзьве не ажаніўся на балерыне.

Падвоху ён не ўлавіў.

І зараз будзе доўгая гісторыя, прыдуманая тут жа, на месцы. Чыстая імправізацыя. Але ў пакой уваходзіць Гарык, і Кастусь спыняецца на паўслове.

— Мне павінны званіць. Пабудзьце ля тэлефона. Я на рэдкалегіі.

Мне вельмі захацелася пабыць на пасяджэнні рэдкалегіі. Кастусю таксама.

Пакуль рэдкалегія засядала, ні адзін чалавек не пайшоў з рэдакцыі.

Шаравера выйшаў ад рэдактара разам з Андрэем і нешта паціху гаварыў яму. Яны ўвайшлі ў аддзел Андрэя. Андрэй неўзабаве пайшоў.

Гарык зайшоў у пакой, сеў і закурыў.

— Як там? — спытаў Кастусь.

— Усё нармальна... Апошняе папярэджанне. Ён нічога не стаў тлумачыць на рэдкалегіі. Толькі зараз мне ўсё расказаў. На яго месцы любы б запіў...

— А што [redacted] ім?

— Ад яго пайшла жонка. І, натуральна, дачку з сабой забрала. Памятаеце, прыходзіла колькі разоў. Прыгожая... Як ён яе кахаў! Едзеш з ім у камандзіроўку, ён толькі пра яе і гаворыць. І пражылі разам пяць гадоў.

— Што, так проста ўзяла і пайшла? — здзіўлена працягнуў Кастусь.— Напэўна, ён піў, яна і пайшла.

— Не піў ён, Кастусь. Піць пасля пачаў. І маўчаў... Банальны выпадак. Неяк сказала яму, што сустрэла другога, гэта сапраўднае, а з ім, [redacted] Андрэем, не.

— Я доўга збіраўся, але вазьму і напішу нарэшце артыкул,— рашуча прамовіў Кастусь.— Скажыце мне, чаму дачка павінна быць з ёй, а не застацца з Андрэем. Ініцыятар скасавання шлюбу жанчына? Ну і ідзі сабе на ўсе чатыры бакі! Чаму ён павінен некаму аддаваць сваю дачку?

Гарык засмяяўся:

— Хоць ты і мужык, Кастусь, і жонку маеш, а зусім яшчэ пацан.

— Загнуў ты, Кастусь,— умяшаўся я.— Тут проста так не разбярэшся. Для дзіцяці патрэбна маці. Лепш не пішы такі артыкул.

Мы яшчэ некаторы час гаварылі аб сямейных праблемах, успаміналі свае і чужыя артыкулы на гэту тэму.

Я паехаў да Іванова. Ён чакаў мяне ўжо даўно і пачаў лаяцца, таму што зусім забыўся, пра што хацеў сказаць мне.

— Ну, чорт з ім. Я, Глебушка, успомніў, у мяне навіна добрая. Ад'язджаю на тры месяцы на здымкі

фільма ў горы. Паездку на новабудоўлю пакуль што адкладу.

Я здзівіўся:

— Як гэта разумець?

— Усё проста. Запрасілі мастаком.

— Ты б яшчэ асвятляльнікам паехаў,— упікнуў я яго.

І на самой справе блазнота. Скульптар [illegible] даволі вядомым ужо імем — едзе мастаком на фільм.

— А як жа з «Бягучай»?

«Бягучая» — скульптура дзяўчыны ў натуральны рост. Яе Іваноў рабіў па заказу Міністэрства культуры. «Бягучая» павінна была ўпрыгожыць новы атэль на моры.

— Пасля закончу. Як пачуў, што ў горы едзем, дык і загарэўся. Усюды быў — у моры, у пустыні падыхаў ад спёкі, а ў гарах не быў. Не быў — і ўсё тут. А такі выпадак нельга ўпусціць. Папрацую крыху на кіно, што тут такога. Папішу эцюды.

З ім дарэмна было спрачацца. Іваноў мог бы паехаць і рабочым любой экспедыцыі. Калі ўжо ўваб'е сабе што-небудзь у галаву — не падыходзь.

Жонка яго падагравала чай, Іваноў усё імкнуўся ёй дапамагчы, але толькі блытаўся пад нагамі.

Калі жонка выйшла, Іваноў шапнуў мне:

— Я думаў ужо, што яна зусім без характару. Ні слова супраць. А як сказаў, што еду на тры месяцы, такі скандал учыніла. Я яе цалую ад радасці, а яна... Аказваецца, ёсць характар, і яшчэ які.

— І чым скончылася?

— Растлумачыў, што нельга мне не ехаць. Яна згадзілася. Чалавек у мяне жонка, чэснае слова, не хлушу.

Яна прынесла чай.

— А пасля паедзем з ёй куды-небудзь разам. Няхай звальняецца са сваёй канторы і мне дапамагае.

Жонка глядзела на Іванова ўсмешлівымі, шчаслівымі вачыма.

— Ён у мяне яшчэ і паэт. Толькі нікому пра гэта не гаварыць.

— Не, калі ўжо ён сказаў,— так і будзе,— запярэчыў я.

Я хацеў расказаць Іванову пра Лёньку і не мог. Сам не ведаю чаму. Баяўся — здасца яму, што я разгубіўся, дакладней кажучы,— здрэйфіў.

— Ты сёння на дзіва цікавы тып. Нібыта нешта ўсярэдзіне маеш і трымаеш. Дай я цябе памалюю.

Ён узяў блакнот і, нягледзячы на мае пратэсты, прыняўся за работу.

— Таня, ён мяне да смерці замучыць,— паскардзіўся я.

Яна толькі ўсміхнулася — паспела, відаць, усвядоміць, што Іваноў, пакуль свайго не даб'ецца, нікога з рук не выпусціць.

— Паглядзім, што там у цябе ўнутры ляжыць. Толькі памалюем, і ўсё гэта праявіцца. Хочаш ты гэтага ці не.

— Дай хоць зірнуць,— узмаліўся я праз некаторы час.

Але Іваноў быў няўмольны:

— Тайна. Творчасць — наогул тайна.

Таня сядзела ўбаку і моўчкі назірала, як Іваноў працуе.

Іваноў перахапіў мой позірк.

— Вось так сядзіць і глядзіць. Можа так цэлымі днямі. Я спачатку саромеўся, а цяпер нічога. І нават лепш. Як кантроль адчуваю.

— І віно перастаў піць, калі працуе,— смеючыся сказала Таня.

Іваноў развёў рукамі:

— Нічога не зробіш — жонка.

Малюнак атрымаўся нядрэнны.

— Толькі я не такі насуплены,— запярэчыў я.— Гэтага тыпа толькі што прыгаварылі да пакарання смерцю.

— Ты не круці! Яшчэ пару сеансаў, і ўсё табе стане ясна. Можа, заўтра?

— Заўтра не магу. Тэрміновая тэма.

— Што-небудзь цікавае?

— Такой тэмы яшчэ не было. Магу паказаць, калі напішу.

— Толькі заходзь хутчэй, а то рызыкуеш не атрымаць свой партрэт яшчэ тры месяцы.

Ён прынёс мне тонкі сшытак і яшчэ раз папярэдзіў:

— Пачытаеш дома.

Дамоў я пацягнуўся пешшу праз увесь горад. Аказалася, што яшчэ зусім рана — каля адзінаццаці. Дома нікога не было. Дзе ўсе загуляліся? Я ўспомніў — збіраліся ісці ў тэатр. І Вольку з сабой узялі.

Я адкрыў сшытак з запісамі Іванова і ўбачыў на стале запіску, напісаную Вольчынай рукой: «Пазвані Наташы. Яна сказала — у любы час. Толькі абавязкова. Зразумей, рыжы асёл!»

Я падумаў, што за гэтыя дні, як ні дзіўна, успомніў аб ёй усяго некалькі разоў і то мімаходзь. Такое было ўпершыню, бадай, за ўвесь час.

— Ты куды знік? Мы, наколькі я памятаю, дамовіліся сазваніцца...

— Справы былі, і мне здаецца, што табе ў галаву ўдарыла ранейшая дурасць, а можа, і не дурасць, не ведаю і нічога не разумею.

Хлусня, чыстай вады хлусня! Нічога падобнага мне і ў галаву не прыходзіла, вырашыў пазлаваць яе, вось і ўсё. Аднойчы, года паўтара назад, яна падоўгу мне не званіла, знікала кудысьці і пры сустрэчы адводзіла вочы. Гэта працягвалася да таго часу, пакуль яна не бухнула, што мы абодва ўсё наблыталі, а зна-

чыць, нашы сустрэчы не маюць сэнсу і яна не можа і не хоча мне больш хлусіць.

Назаўтра яна прыйшла ў рэдакцыю, выклікала мяне, зусім ашалелага, прасіла прабачэння, тлумачачы ўсё сваім настроем, чарговым заскокам.

Кастусь у тыя дні гаварыў, што бачыў яе з некім у тэатральным кафэ, але мне было на гэта напляваць, а потым яна зноў апынулася побач, і пайшло — пошукі ключоў, паездкі за горад, а праз некаторы час блытаніна, ад якой я стаміўся.

— Што ж ты маўчыш? Не маўчы, я вельмі цябе прашу,— у голасе такая шчырая трывога і раптам іранічна стрыманае: — А можа, што змянілася?

— Нічога не змянілася, нічога не можа змяніцца. Я не веры самому сабе і гавары ўсё гэта па прывычцы.

— Можа, нам трэба ўбачыцца, прама зараз?

— Для гэтага трэба ісці некуды, а ў мяне, уяві, ніякага жадання. І я ні ў чым не вінаваты, я доўга быў расслабленым, а цяпер мне нічога не хочацца, і званкоў тваіх я болей не чакаю. Мне гэтага хацелася — успомні нядаўнюю размову, а цяпер нешта зламалася ўнутры.

Пасля размовы з Наташай я яшчэ раз спрабаваў зразумець — што ж адбылося? Але з гэтага нічога не выйшла. Я толькі адчуваў страх, што гэта надоўга і я ніколі ўжо не змагу адносіцца да яе, як раней.

## 6

Акцёрам прасцей, чым нам, журналістам. Яны іграюць гатовую п'есу, з якой, як ні ўваходзь у ролю, як ні пераўвасабляйся, ніводнага слова не выкінеш і лішняга не скажаш. Не лічачы дробязяў. Усё сказана драматургам, а справа акцёра — давесці яго думкі да слухача. У нашай прафесіі прыходзіцца складаць п'есу на

ходу і адразу ж, без рэпетыцый, іграць галоўную ролю. Ад дыялогаў і ад таго, як усё будзе выканана, і залежыць поспех. Увесь вечар я правёў дома ў Некрашэвіча. Гаварыў ён нетаропка, спакойна і не крыўду выпячваў — уводзіў мяне ў сваю навуку, у сваё жыццё. Бледны і стомлены на пачатку размовы, ён потым разгарачыўся, расчырванеўся. Мне здавалася, што ён ужо забыўся, навошта мы сустрэліся, забыўся, што ў яго ўсё рушыцца. Ён гаварыў, а мне бачылася ўжо канва артыкула і ў цэнтры яго — лёс вучонага Некрашэвіча. Многае яшчэ не было высветлена, належала сустрэцца з супрацоўнікамі, дапамагчы ім выгаварыцца, каб, асэнсаваўшы бяду ці трагедыю Некрашэвіча, пайсці далей, зразумеўшы адносіны, што склаліся ў інстытуце. Мяне, нарэшце, чакала сустрэча з Крыўцовым. Заўтра дык заўтра, адкладваць далей нельга.

— Вы разумееце, гэта можа здацца дзіўным,— нервова скрывіўшы губы, гаварыў Некрашэвіч,— але я не маю на Крыўцова асаблівай крыўды. Так, так! Я ніколі не хлушу. Справа не ў ім самім, а ў тых абставінах, калі чалавек атрымаў магчымасць распараджацца лёсамі людзей, ператвараць сумленных у несумленных, затаптваць іх сумленне, распраўляцца з непажаданымі... Калі вы будзеце пісаць артыкул, ваша задача, на мой погляд, узвысіцца над фактамі, каб даць асэнсаванне гэтым, падкрэсліваю, асаблівым абставінам. Яны не такія ўжо рэдкія ў нашым жыцці, і людзей, падобных на Крыўцова, можна сустрэць дзе хочаш...

Мы збіраліся развітацца, калі зазвінеў званок і ў дзвярах з'явіўся задыханы Вермішаў.

— Прабачце, пасяджэнне партбюро. Як заўсёды, заседзеліся.

— Калі ўжо ты прыйшоў, пойдзем чай піць. Я прапаноўваў, але Глеб адмовіўся,— і Некрашэвіч пачаў падштурхоўваць нас да кабінета. Жонка ягоная пры-

гатавала чай, мы пілі яго і зноў гаварылі аб кажанах, аб Крыўцове, аб адносінах у інстытуце. Выйшлі ад Некрашэвіча позна. Вечар быў бязветраны, ціхі, і мы вырашылі прагуляцца.

— Я доўга думаў наконт Крыўцова, хацеў яму ў душу зазірнуць — чым жыве, які ход яго думак. І прыйшоў да аднаго вываду! — усклікнуў Вермішаў.— Справа ў нас саміх.

Замахаў рукой, не дачакаўшыся пытання:

— Зараз растлумачу.

Ён нахмурыў лоб, прыкурыў зноў цыгарэту.

— Не так даўно яшчэ мы жылі кепска — апраналіся як пудзілы, псавалі страўнікі сваёй жудаснай ежай, калі такая была наогул,— ён зірнуў на мяне спагадліва.— Дарэчы, вам гэта не знаёма... А цяпер жывём добра і,— ён замяўся, знаходзячы патрэбнае слова,— паспяхова зжываемся з гарнітурамі пад даўніну, аўтамабілямі, дублёнкамі, джынсамі, турпаездкамі за мяжу. Нам усё гэта падабаецца, нашым жонкам і дзецям яшчэ больш. І калі ўзнікае перад некаторымі людзьмі, якія спазналі дабрабыт у поўнай меры, пытанне аб прынцыповасці, аб рызыцы дзеля справядлівасці, яны пачынаюць баяцца страціць месца, пасаду, аклад, а значыць, і ўсё тое, аб чым я гаварыў вышэй, усё такое непрывычнае, амаль ілюзорнае, але прыемнае, салодкае. І некаторыя — іх так, на жаль, многа! — залазяць у шкарлупінне маўчання, абыякавасці, толькі б не аддаць свой кавалак, толькі б зноў не адчуць неўладкаванасць, страх перад заўтрашнім днём. Вось гэта і ёсць у вышэйшай ступені мяшчанства!

Развітваючыся, ён параіў:

— З Крыўцовым будзьце паасцярожней. Галоўнае, трымайце сябе з ім спакойна.

Ён усміхнуўся мне ў цемры. І моцна паціснуў руку.

Назаўтра ад самай раніцы свяціла сонца, у мяне быў нейкі лагодны настрой. Хацелася б пасядзець

спакойна ў парку або зусім махнуць за горад. Ва ўсякім выпадку, ісці да Крыўцова не было ніякага жадання, але і адкладваць нашу сустрэчу больш няма куды. Я пазваніў яму, адрэкамендаваўся. На другім канцы провада замест мяркуемага басу — як жа яму, Крыўцову, іншы голас мець?! — прагучала мяккае:

— Прыемна, што газета намі зацікавілася. Напісаць, безумоўна, ёсць аб чым, і да таго ж ваш брат-журналіст даўно не заглядваў да нас.

— Тады я буду ў вас праз паўгадзіны.

— Калі ласка. Дарэчы, дзе вы знаходзіцеся, таварыш Калінка?

— У Доме друку.

— Цудоўна. Тады праз пяць мінут можаце выходзіць, вас будзе чакаць мая машына з нумарам МАР 20-10. Так будзе і хутка, і, я думаю, зручна, ці не праўда?

Вось дык клопат аб прэсе! Упершыню за мной машыну прысылаюць... Ведаў бы акадэмік, навошта я да яго еду!

— Акадэмік падаслаў персанальны лімузін,— гавару я Гарыку.— Якая пачцівасць!

— Глядзі, каб назад ён цябе не адправіў у колбе і нам не давялося б гадаць, ты гэта ці не ты.

— Добры дзень, маё прозвішча Калінка,— называюся я шафёру, але ён не рэагуе. Машына ад'язджае ад Дома друку на вялікай хуткасці. Добра, калі цябе вязуць на «Волзе» і не працуе лічыльнік! Шафёр вядзе машыну быццам гуляючы, зрэдку пазіраючы на сябе ў люстэрка — цяжкі падбародак, фірменны джынсавы пінжак.

— Падабаецца? — ён перахоплівае мой позірк.

— Вартая ўвагі рэч.

Шафёр усміхаецца:

— Шэф падкінуў з чарговай паездкі за мяжу.

Сакратарка страляе ў мяне натрэніраваным прафесіянальным позіркам.

— Таварыш Калінка?

— Так.

— Дырэктар вас чакае. Можаце заходзіць.

Мэбля пад чырвонае дрэва, такія ж сцены, хіба крыху святлейшыя, мяккі варсісты дыван. Цікава, як бы пісалася ў такім кабінеце? Стрыманы поціск рукі на паўсілы:

— Крыўцоў Леанід Сцяпанавіч.

Правільныя рысы твару, пруткасць у кожным руху. Так, ён прыемны, і нават вельмі! На выгляд яму не больш трыццаці пяці, ну, у крайнім выпадку, сорак.

— А я чытаю вашу газету, і да таго ж пастаянна.— Ён нібыта пагладжвае мяне вачыма.— У ёй ёсць лёгкасць маладосці, сустракаецца незвычайнасць меркаванняў, амаль адсутнічае сухамяціна, ад чаго іншы раз пакутуюць салідныя газеты.

Ён мякка ступае па дыване.

— Скажыце, Леанід Сцяпанавіч, што ў вас у інстытуце здарылася з Некрашэвічам?

Сам не ведаю, як у мяне вырвалася гэта паспешлівае пытанне. Яго ўпэўнены і спакойны выгляд мяне надзвычай раздражняў.

Позірк яго замітусіўся, але толькі на імгненне і зноў набыў пункт апоры.

— Хм, дзіўнае пытанне. Вы б адразу сказалі, што вас цікавіць іменна гэта.

У слова «гэта» ён уклаў нейкі асаблівы важны для сябе сэнс.

— Прабачце, Леанід Сцяпанавіч, але вы не пыталіся.

Ён вярнуўся за стол, пакачаў па ім ручку.

— Што здарылася? Вельмі гучна сказана. Паверце, ніякага чэпэ. Даўно працуе ў інстытуце, амаль заўсёды добра, пісаў сваю доктарскую, хацеў свет здзівіць.

І вось здзівіў. Як кажуць студэнты — падчыстую здуў прынцыповае з работы сваёй жа вучаніцы. Вось такі казус, асуджаны, дарэчы, вучоным саветам інстытута.

У мяне ў горле перасмягла, я забыўся на ўсе свае аргументы, пытанні. Такой жалезнай логікі, спакою і ўпэўненасці я не чакаў.

— Колькі вам гадоў? — адчуўшы замінку, ён пастараўся ўхіліцца ўбок. Вельмі знаёмы ход.

— Калі гэта мае адносіны да нашай размовы... дваццаць чатыры,— мой тон ледзяны, крыху хітры.

Ён адкінуўся ў крэсле.

— Маладосць! У вашым узросце я стаў кандыдатам навук, нарады, сходы, сімпозіумы. Усюды паспяваў... Дарэчы, у вашым узросце я лічыў, што існуюць людзі моцныя і прывабныя — ім спадарожнічае поспех, і яны могуць рабіць усё, што ім уздумаецца, астатнія ж асуджаны на гібенне. З узростам я замяніў словы «ўздумаецца» на «прыносіць карысць грамадству». Вы згодны з гэтым выказваннем?

Ён, аказваецца, да таго ж моцны ў літаратуры або, па крайняй меры, гартае часопісы,— працытаваў фразу, толькі злёгку змяніўшы, з выдатнага апавядання Фітцжэральда. Ну і піжон: «У вашым узросце я лічыў...» Але я не стаў называць яму апавяданне і гаварыць, што да гэтага дадумаўся ўсяго толькі Фітцжэральд.

— Я не зусім разумею, якое гэта мае дачыненне да Некрашэвіча?

— Самае прамое,— ён зноў выскачыў з-за стала.— Самае, падкрэсліваю, прамое. Ён адносіцца да няўдачнікаў, азлобленых усім на свеце і, перш за ўсё, раннімі і трывалымі поспехамі іншых. Але гэта не ўсё. Такія людзі, як ён, перашкаджаюць працаваць іншым. Замкнутыя ў свае абмежаваныя ўяўленні, яны бачаць ва ўсім загану, суюць, прабачце, усюды свой нос і, больш за тое, перешкаджаюць нават самім сабе. Узяць

Некрашэвіча. Выступаў на кожным сходзе, вучоным савеце, звяртаўся да бязгрэшнага сумлення вучонага, а сам тым часам спісваў дысертацыю. Вышэйшая ступень дэградацыі асобы!

Ён выгаварыўся, і працягваць гэту размову не было ніякага сэнсу.

— Леанід Сяргеевіч, я хачу, каб вы ведалі, што я буду вывучаць гэту гісторыю больш дэталёва. Многія вашы супрацоўнікі лічаць інакш, яны пераканаганы, што Некрашэвіч таленавіты вучоны і вучоны савет зрабіў няправільна, прызнаўшы ў яго рабоце плагіят.

Ён жорстка, з выклікам кінуў:

— Што ж, аспрэчвайце думку вучонага савета... І, дарэчы, чым вы кіраваліся, калі ішлі да мяне? Вуснай скаргай, пісьмовай?

— Гэта не мае значэння,— не задумваючыся выпаліў я і нарэшце — о шчасце! — выбраўся з яго кабінета.

Каля інстытута стаяла, адліваючы бляскам, машына «Волга» з нумарам МАР 20-10. Убачыўшы мяне, шафёр уключыў запальванне. Я паківаў галавой:

— Цяпер пешшу!

Калі я прыйшоў, Шаравера ўскочыў са стула.

— Дзе цябе носіць?

— У інстытуце быў, ты выдатна гэта ведаеш.

— Ты паўзеш з інстытута са скорасцю чарапахі, а шэф сам не свой. Тры разы да нас прыбягаў.

— Што здарылася?

— Здаецца, з інстытута званілі.

Мы пайшлі да рэдактара ўдвух.

— Ты быў у інстытуце? — у голасе шэфа жалезныя ноткі.

— Быў і давёў усё да ведама акадэміка Крыўцова,— я спакойны, чаго мне хвалявацца.

— Дык вось акадэмік пазваніў, выказаў здзіўленне з выпадку твайго наведвання, пералічыў свае

заслугі перад камсамолам. І мне, Калінка, давялося па тваёй міласці хлусіць. Трэба, урэшце, раз і назаўсёды засвоіць газетныя законы.

Твар рэдактара наліўся крывёю. Я нічога не разумеў.

— У мяне спыталі — на якой падставе мы заняліся справай гэтага, як яго... Некрашэвіча... Ну, вядома, сказаў я, на падставе заявы, скаргі, падпісанай вучонымі інстытута і адрасаванай рэдакцыі. А дзе гэта заява?

Я на імгненне сумеўся.

— Бачыце, я проста не падумаў.

— І ты, Шаравера, малайчына! Вопытны работнік, мог бы растлумачыць, што да чаго... Нам не ставяць бар'ераў, але прасілі, каб да артыкула, калі ён будзе, паставіліся прынцыпова, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», кожны аргумент павінен быць арганічна даказальны. А заява каб праз гадзіну ляжала ў мяне на стале! Табе ўсё ясна?

— Надзвычай ясна.

— Хутка дворнікаў нельга будзе крытыкаваць. У іх таксама хто-небудзь будзе за спіной,— прабурчаў я, калі мы выйшлі ад шэфа.

— Ты не тэарэтызуй, а радуйся, што шэф зусім крыж на тваёй тэме не паставіў,— Гарык і сам быў усхваляваны.— Будзь на яго месцы ранейшы рэдактар, паклаў бы ты свой блакноцік у столік. Як са мной аднойчы было... Зрабіў я на магазін падпісных выданняў фельетоншча — факты проста жудасныя былі,— а пра яго даведаўся дырэктар і адразу ж прыбег да рэдактара. Фельетон мой так і не выйшаў, а шэф, хутчэй за ўсё, папоўніў бібліятэку. Вось так! Бяры галаву ў рукі і імчы ў інстытут за заявай.

Я пазваніў Вермішаву і расказаў яму аб усім. Мінут праз сорак яны разам з Некрашэвічам з'явіліся ў рэдакцыі. Некрашэвіч працягнуў мне лісток:

— Вось, напісалі прама на хаду. Тут гаворка ідзе не толькі аб маёй рабоце, а аб усім, аб чым мы гутарылі. Сабралі пяць подпісаў. Магло быць і больш, але не хацелі, каб да Крыўцова дайшло і ён здагадаўся, што заява напісана пасля яго званка. А за гэтых пяцёх я ручаюся.

У мяне адлегла ад сэрца.

— Давай мы самі аднясём заяву рэдактару,— прапанаваў Вермішаў.

Я зірнуў на Шараверу.

— Не варта,— запярэчыў ён.— Рэдактар падумае, што вас Калінка паслаў у сваю абарону.

Я паклаў заяву на рэдактарскі стол. Ён паглядзеў на гадзіннік:

— Якая пунктуальнасць!

Прабег вачыма заяву.

— Цяпер поўны парадак. Адкідай усю цякучку і займайся тэмай. І спяшацца не след, і цягнуць таксама. Цяпер чакай іншых званкоў, твой акадэмік пастараецца.

## 7

З кожным днём у мяне ўсё больш разбухалі блакноты і галава трашчала ад бясконцых размоў з супрацоўнікамі інстытута біялогіі. Вось некаторыя з іх.

— Як вы адносіцеся да гісторыі з вашым калегам Некрашэвічам?

Загадчык лабараторыі прафесар Клімчук моршчыць лоб.

— Бачыце, ён працуе ў іншай галіне, і ў ёй я не спецыяліст, але, ведаючы яго столькі гадоў, упэўнены—падтасоўка фактаў. На вучоным савеце я быў разам з Вермішавым і іншымі за Некрашэвіча. Мне здаецца, яму трэба знайсці магчымасць даказаць, дзе ён уклаў у дысертацыю сваю ўласную думку.

— Што вы можаце сказаць аб мікраклімаце, які склаўся ў інстытуце?

— Вотчына дырэктара... Вось іменна так наш інстытут можна назваць. Наша лабараторыя зусім іншага напрамку, і мы не ўдзельнічаем у так званых экспедыцыях дырэктара і К°. Але гэта чорт ведае што! Гэта не ў вашай кампетэнцыі, але я лічу, што даўно час звярнуць увагу на наш інстытут партыйным інстанцыям.

— Не разумею, чаму вакол такога паважанага, таленавітага чалавека, можна сказаць, свяцілы айчыннай біялагічнай навукі, узнікла нейкая, прабачце, мышыная валтузня,— на твары старшага навуковага супрацоўніка Любові Цімафееўны Галушкінай непадробнае абурэнне.— Леанід Сцяпанавіч, па сутнасці, стварыў наш інстытут, гэта найсвятлейшая галава! А Некрашэвіч? Ды гэта ж сыч нейкі, ён нічога, апрача сваіх мышэй, ведаць не хоча...

— Але тым не менш выступаў з крытыкай дырэктара.

— А гэта вынік яго замкнёнасці, схільнасці да схаластыкі, калі хочаце... Смяльчак знайшоўся... З зайздрасці гэта, з зайздрасці!

— Вы даўно ведаеце Некрашэвіча, былі яго вучнем. Няўжо вы паверылі, што ён мог займацца плагіятам?

Без пяці мінут доктар навук, загадчык лабараторыі Бізюк глядзіць на мяне з выклікам.

— Калі хочаце, у сваёй доктарскай я адышоў у іншую галіну, дарэчы, вам гэтага не зразумець, і, натуральна, не меў магчымасці дэталёва прааналізаваць момант, пра які ідзе гаворка.

— Але на вучоным савеце вы галасавалі супраць Некрашэвіча?

— Так, галасаваў, што з таго? Вы часта ў сябе ў рэдакцыі галасуеце супраць рэдактара, га? Маўчыце!

А ў мяне двое дзяцей, жонка бясконца хварэе і кватэра палутарка. Прагаласуй я супраць лініі дырэктара, дык яшчэ дзесяць гадоў задыхаўся б у сваёй клетцы. Вы б лепш напісалі ў сваёй газеце аб праблеме жылля для вучоных!

Ён збаўляе тон і знаходзіць патрэбныя словы.

— Я ведаў да таго ж, што Некрашэвіч так або інакш абароніць дысертацыю, а мой голас не меў прынцыповага значэння. Не думайце, я доўга мучыўся потым, нават пакутаваў, баяўся ў вочы Некрашэвічу глядзець, а ён хоць бы што — усміхаецца, пытаецца, як справы...

— Гэта я ва ўсім вінавата, я адна!

Малодшы навуковы супрацоўнік Надзея Лапун вось-вось заплача.

— Алег Пятровіч Некрашэвіч мне так дапамагаў, нават завельмі! Ён заўсёды так — укладвае ў работы вучняў усе свае сілы. Ды я клянуся вам, што ён упісаў гэту частку ў маю манаграфію і дысертацыю сам, яна была слабаватай, і ён выцягнуў, выцягнуў яе! І вось цяпер у мяне дыплом кандыдата навук, а яго абвінавацілі ў плагіяце! Вы скажыце, я напішу куды трэба, у ЦК, у Маскву.

— Федзя, ты працуеш у лабараторыі Важнаўца, пляменніка дырэктара інстытута. Што ты можаш сказаць?

Сакратар камсамольскай арганізацыі інстытута Фёдар Смалякоў адказвае не задумваючыся:

— Ды які гэта загадчык лабараторыі? Ён да навукі мае такое ж дачыненне, як я да танцаў на лёдзе. Ты разумееш, шэф, тым больш навуковы кіраўнік, павінен быць пастухом, а не паганятым. А ён іменна паганяты. Крычыць — з такімі вучнямі і работнікамі, як вы, я скампраметую сваё імя ў навуцы. Прыходзіш да яго, ён надае агульных указанняў і нават без намёку на выхад з сітуацыі.

— А экспедыцыі? Ты ж у іх удзельнічаеш...

Ён сумеўся, але толькі на нейкае імгненне.

— А, добра, мне ўсё роўна адсюль ісці. Скажу як ёсць. Экспедыцыі — гэта, па сутнасці, гульбішчы, без усякіх, вядома, навуковых мэт. Юшка, паляванне... Некаторыя кабеты з інстытута спецыяльна з сабой бяруцца. А мы — я ды яшчэ хлопцы, пры ўсім пры гэтым як абслуга. І самім, вядома, дастаецца. Не без гэтага. Ды ты пачытай справаздачы, сам зразумееш, што навукай там і не пахне. У мяне ўсё гэта вось дзе сядзіць! — ён правёў рукой па шыі.— А тое, што я сказаў — выдавай у газеце простай мовай, я не пакрыўджуся, нават наадварот. Хоць перад нашымі апраўданне будзе — камсорг усё ж...

Некалькі дзён я патраціў на вывучэнне дысертацый — Некрашэвіча і Лапун. Злашчасныя старонкі ў Некрашэвіча яўна пераклікаліся з кавалкам з работы яго вучаніцы. Як даказаць, што ён сам дайшоў да гэтага намнога раней? У адваротным выпадку застаецца толькі маральны аспект, але не доказны! Відаць, таму такі спакойны Крыўцоў! У інстытуце я некалькі разоў сустракаўся з ім.

— Добры дзень, Глеб Арсенцьевіч! Як ідуць справы? Жадаю вам аб'ектыўнасці, гэта ў нашых і вашых інтарэсах.

Усмешка, спакойны голас, усё тая ж спружыністая паходка спартыўнага мужчыны...

З Вермішавым мы гарталі навуковыя справаздачы аб экспедыцыях Крыўцова і яго сваякоў. Складзены яны былі па шаблону, больш таго — перапісваліся з году ў год без змен. Я крыху супакоіўся — артыкул вырысоўваўся без дакументальнага доказу невінаватасці Некрашэвіча. Мне не цярпелася хутчэй засесці за стол. Засталося толькі пагаварыць яшчэ з некаторымі. А ў рэдактара літаральна разбівалі тэлефон. Хто толькі не клапаціўся аб Крыўцове!

— Паступіла скарга, і мы павінны разабрацца,— адказваў шэф.— Дарэчы, вы чыталі нядаўнюю пастанову ЦК партыі аб рабоце з пісьмамі і скаргамі працоўных? Чыталі... Ну, дык вось мы дзейнічаем у плане выканання гэтай пастановы.

Ён аддыхваўся, выціраў пот, а праз некаторы час гаварыў у трубку ўсё тую ж фразу.

Цэлы дзень я не прыходзіў у рэдакцыю — манціраваў артыкул у хатняй цішыні, але яна працягвалася нядоўга. Неяк увечары дамоў прыбег бацька, нагружаны скруткамі, бутэлькамі, каробкамі. Маці пляснула ў далоні:

— Пэўна, усю зарплату патраціў. Што здарылася, сынок?

— Усё па парадку, усё па парадку! — бацька бегаў з пакоя ў пакой, накрываў на стол. Адкаркаваў бутэльку, разліў па бакалах.

— Давайце спачатку вып'ем, а то ў мяне ўсё пераблыталася ў галаве!

Ён выпіў залпам і я следам за ім.

— Я вам гаварыў, што ў нас новы начальнік канструктарскага бюро? — голас яго ўрачысты і ўсхваляваны.

— І што з таго? — маці адсунула ад бацькі бутэльку.

— А вось што! Роўна некалькі тыдняў спатрэбілася яму, каб разабрацца ў людзях — хто на што здатны, у каго якія магчымасці. І ўва мне разабраўся. З заўтрашняга дня я — кіраўнік групы. Яму гаварылі — Калінка, маўляў, бесперспектыўны, узрост ужо не той, трэба б каго маладзейшага, а ён гаворыць: затое вопыт, веды, унікальны прафесіяналізм, так і сказаў — унікальны прафесіяналізм!

Мы пацалавалі бацьку. Даўно я не бачыў яго ў такім цудоўным настроі. Я сілком вырваў з рук маці бутэльку.

— Сёння, у бацькаў дзень, абыдземся без тваіх рамак.

Бацька падтрымаў мяне:

— Інакш пойдзем у рэстаран, калі хоць слова скажаш,— у начны рэстаран.

Ён выпіў некалькі бакалаў.

— Ведаеш, ён будзе мной задаволены, і яшчэ як! Я ж не працаваў у апошнія гады, а служыў, быццам па прымусу. А цяпер мы пакажам, мы такія праекты выдадзім, што ўсе ахнуць...

Маці з Волькай ужо даўно леглі, а мы ўсё сядзелі за сталом. Раніцай, расплюшчыўшы вочы, я сустрэўся з асуджальным позіркам Волькі.

— П'янчугі! У кожнага з вас не твар, а накрухмаленая прасціна.

Маці на нас з бацькам не глядзіць. Думка аб дараванні яшчэ лунае ў чарадзе іншых яе думак.

— Перабралі мы, Арсенцій Паўлавіч!

Бацька мне ўсміхаецца:

— Яўна перавысілі дозу.

Знаходжу электрабрытву — любімы «жылет» у дрыготкай руцэ здаецца скальпелем. Брытва гудзе, ачышчаючы мой змучаны твар, і ад яе шуму ваніты падкочваюцца да горла.

У рэдакцыі Кастусь прарывіста ўздыхнуў:

— Ох, і наклюкаўся ж ты ўчора!

Ну і нюх у яго!

— Было. З бацькам яго павышэнне запівалі.

Ясна, што сёння ніякай работы. Апрацаваўшы некалькі аўтарскіх пісьмаў, артыкул пакідаю на заўтра. Не ўяўляю, як людзі п'юць штодзённа? Шаравера вяртаецца з планёркі і з ходу агаломшвае мяне:

— Да рэдактара, тэрмінова!

Кастусь пасміхаецца:

— Яму нельга сёння.

Але Гарык не звяртае на яго ўвагі.

— Ледзь не кожны дзень — «тэрмінова да шэфа!».

— Я не думаю, што пашчасціла. Ідзі, шэф сам табе ўсё раскажа.

Няўжо зноў званкі наконт Крыўцова?

— Нешта мы з табой вельмі часта сустракаемся, Калінка? — пытаецца ў мяне рэдактар.

— Мне таксама здаецца,— адказваю я, стараючыся трымацца ад яго на адлегласці.

— Памятаеш свой нарыс пра Лёньку — былога злодзея?

Яшчэ б не памятаць! З Лёнькам я сустракаўся ў час адной з камандзіровак. Мне трэба было зрабіць нарыс аб ліцейшчыках, і тут я ўбачыў Лёньку. У яго была лёгкая каціная паходка, шырокія плечы атлета і твар, які Іваноў, бадай, захацеў бы ляпіць.

Я спытаў у начальніка цэха — хто гэта? Ён запрасіў мяне ў канторку цэха.

— Яму дваццаць шэсць. Дзесяць гадоў з іх — у калоніі. ...Цяпер хлопца не пазнаць. Хочаш, пішы. Я ручаюся за яго.

Лёнька не ўвайшоў у канторку, а неяк бязгучна з'явіўся перада мной.

— Дык я слухаю,— ён з цікаўнасцю паглядзеў на мяне. Усё было ў гэтым позірку — і зацікаўленасць, і насмешка.

Я адразу зразумеў, што тут, у канторцы начальніка цэха, размова ў нас не атрымаецца.

— Слухай, у цябе ж зараз работа стаіць?

— Праўда, стаіць работа. Хлопцы там выкладваюцца. План у нас гарыць. Прыходзіць начальнік, гаворыць — карэспандэнт хоча ўбачыць. Ну, я і пайшоў, а работа стаіць.

— І мне трэба яшчэ ў адно месца... Ты зараз ідзі ў цэх, а я пасля работы цябе ля варот сустрэну. Добра?

— Глядзі, табе відней. Толькі навошта ўсё гэта?..

Рэдактар хадзіў па кабінеце.

— Можа, вельмі хутка ты пранікся даверам да гэтага хлопца?

— А што ў гэтым пісьме?

— Мог бы і здагадацца. Зноў заляцеў твой Лёнька. Пасадзілі яго. Дарэчы, чытай сам...

І працягнуў мне пісьмо.

«Паважаны таварыш рэдактар,— пісаў начальнік ліцейнага цэха,— у вашай газеце быў надрукаваны нарыс пра нашага рабочага Леаніда Швідзенку, а з ім зноў здарылася бяда...» Ён заканчваў: «Мы верым, што гэта памылка, і просім прыслаць карэспандэнта».

У мяне адразу ж адлягло ад сэрца. Значыць, усё ж вераць, што памылка. Што ж там здарылася?

— Заўтра раніцай і ляці. Непрыемна, вядома, калі ты прамахнуўся з гэтым нарысам,— сказаў рэдактар.

— Але ж пішуць, што памылка, відаць, адбылася...

Рэдактар паціснуў плячыма.

— Можа, і яны ў яго паверылі. Так жа бывае. Ну, а калі памылка... Дарэчы, калі гэты злашчасны артыкул здасі? Ён мне ўжо начамі сніцца пачынае...

— Адразу пасля прыезду і здам. Я ўсё для сябе высветліў.

Ля самых дзвярэй я ўспомніў, што мне трэба яшчэ сустрэцца з Некрашэвічам.

— Заўтра я не магу ляцець. Тэрміновая справа...

— Добра, ляці паслязаўтра. Толькі цягнуць, сам разумееш, нельга. Закрануты гонар газеты.

Кастусь сустрэў пытаннем:

— Навошта выклікаў?

— Памятаеш нарыс пра Лёньку?

— Вядома.

— Вось прачытай пісьмо.

Кастусь прачытаў і скрывіўся:

— Гарбатага магіла выправіць... Хоць я веру таму

Лёньку [redacted] твайго нарыса. Бяры камандзіроўку дзён на пяць. За дзень-два не разбярэшся, што да чаго.

Мы закурылі.

— Ты зараз не ламай галаву. Не дапаможа. Ідзі куды-небудзь, прагуляйся. Лепш за ўсё — у кіно схадзі. Я ў такія хвіліны заўсёды ў кіно іду. І ведаеш — выходзіш з іншым настроем. А артыкул сёння ты ўсё роўна як след не выправіш. Прыйдзецца мне яшчэ корпацца.

Выходзіў з Дома друку і сутыкнуўся з Андрэем. Ён у гэтыя дні і выгляду не падаваў, што яму кепска. Параіцца б з ім, як быць з Лёнькам. У Андрэя вялікі вопыт.

## 8

Я пазнаў яе здалёк па чорным скураным паліто.

— Ні адзін самалёт не адлятаў — туман. Я пыталася,— мне здалося, што яна прамовіла гэта з палёгкай.

Вылет адклалі да адзінаццаці. Яна пазваніла ў інстытут і сказала, што затрымліваецца. У зале чакання было некалькі свабодных крэслаў, і мы зручна ўселіся.

— Ты калі прыляціш?

— Праз чатыры дні.

— Я вазьму білеты ў тэатр. Мы даўно з табой нідзе не былі.

Наташа камечыла ў руках пальчаткі.

— Я табе хачу сказаць нешта вельмі важнае. Я ніколі табе гэтага не гаварыла. Я часта была няправай. Калі хочаш ведаць — я не разумела добра, што ты для мяне значыш. Я прывыкла за шмат гадоў, што ты заўсёды побач, а цяпер раптам уявіла...

Яна замоўкла.

— Слухаю цябе.

— Што цябе можа не быць побач. Я не змагу так. Я кахаю цябе, Глеб.

Як доўга я чакаў гэтых слоў! А цяпер яны быццам не да мяне адносіліся, чэснае слова. Сказаць ёй штонебудзь у адказ — значыць, схлусіць. І я маўчаў.

— Гэта я ва ўсім вінаватая.

— Ведаеш што, Натуся, ты зараз ідзі, я і сам дачакаюся самалёта. Я табе пазваню, як прыеду. Можа, у мяне ўсё пройдзе, а зараз, разумееш...

Яна далонню закрыла мне рот.

— Не гавары, лепш не гавары нічога.

Я праводзіў яе да тралейбуса. Яна глядзела ў акно і кісла ўсміхалася мне.

Я ішоў да самалёта і не ведаў, ці пазваню ёй. Сцюардэса аказалася знаёмай — я пісаў пра яе ў нейкім рэпартажы.

— Як справы? — спытаў я.

— Лятаем,— адказала яна.

А я ўсё ўспамінаў, як яе завуць — Зоя ці Галя. Але так і не ўспомніў.

— А ў вас?

— Таксама. Раз вы — сцюардэса, значыць, і камандзіроўка будзе ўдалай.

Яна разносіла цукеркі і сыпанула мне цэлую жменю.

Я выцягнуў з папкі свой стары блакнот з запісамі пра Лёньку. Вось такую яго фразу я запісаў даслоўна: «Маці бацьку напісала, маўляў, ты сам па сабе, а я сама — разышліся, значыць, дарожкі. Мы ў яе двое, ды малыя — што ведалі тады. Ён там у акопах сядзеў, а яна са старшынёй нашым шашні вадзіла. Старшыня потым смяяўся, ён сам з гарадскіх быў, а бацьку забілі. Можа, сам пад кулю палез. Расказалі мне ўсё. Людзі такія ёсць. Прафесія ў іх — расказваць што папала. Я з таго дня ад маці адышоў. Знайшоў пацаноў на вёсцы, і зладу ніякага са мной не было. А аднойчы

ў краму залез і выцягнуў усе цукеркі. Адправілі мяне ў калонію. Там трапіў у «патрэбныя» рукі. Выйдзеш і неўзабаве назад, туды ж. Мяне Лёнькам-адзіночкам звалі. Адзін на справу хадзіў. Так і жыў. А брат у мяне чалавек. Ён галоўным інжынерам у нашым калгасе».

Была ў Лёнькавым жыцці гісторыя, дзякуючы якой ён улавіў сэнс жыцця. Выйшаў ён перадапошні раз з турмы, дамоў не паехаў (толькі за тыдзень да нашай сустрэчы ён да маці разам з жонкай у госці з'ездзіў). На работу яго не ўзялі, пабаяліся звязвацца. Грошы, заробленыя ў калоніі, скончыліся, і, згаладаўшыся, Лёнька залез у прадуктовы магазін. Паеў і вырашыў паспаць. Прачнуўся ад галасоў. Вартаўнік, аказваецца, заўважыў, што лесвіца, якая вяла на гарышча, не на месцы, і паклікаў людзей. Яны акружылі магазін і чакалі міліцыю. Лёнька адчуваў сябе затраўленым ваўком. Са шпагатаў зрабіў пятлю і хацеў павесіцца там, на гарышчы. Але пятля не вытрымала, абарвалася.

Яго вялі праз натоўп, і людзі глядзелі яму прама ў вочы.

Я зразумеў, ён не мог так хлусіць...

Пачало гайдаць. Самалёт ішоў на пасадку. Я пажадаў сцюардэсе спадарожнага ветру на адваротным шляху і пабег на прыпынак таксі. Я не зайшоў у гарком адзначыць камандзіроўку, а паехаў на завод. З самага пачатку мне не пашанцавала. Начальнік ліцейкі Грыбовіч быў на нарадзе ў дырэктара. Старшы майстар цэха, якога я ў свой першы прыезд не сустракаў, адразу ж здагадаўся:

— Вы, відаць, наконт Лёнькі прыехалі?

— Так.

— Справа тут такая, адразу не ўцяміш, што да чаго. Паехалі нашы заводскія на ўборку бульбы ў падшэфны калгас. Ну і Лёнька, значыць, таксама.

На два тыдні паехалі. А праз тыдзень у вёсцы магазін абакралі. Ці мала хто мог абакрасці яго? Прыехала міліцыя, забралі Лёньку, маўляў, за старое, галубок, узяўся. Кажуць, нейкае рыззё за вёскай закапанае знайшлі. Цяпер следства ідзе. Я, зразумейце, нічога сказаць такога не хачу, але і за Лёньку не ручаюся. Хлопец ён працавіты, школу вячэрнюю ў гэтым годзе закончыў... Ага, яшчэ быццам ён хлопцам хваліўся, што можа магазін адным пальцам адкрыць. І замок кратаў, а пасля грабяжу, гэта літаральна праз некалькі гадзін адбылося пасля Лёнькавага выхвалення, следчы яго адбіткі на замку і выявіў. Там і другія былі, але і Лёнькавы таксама!

У цэху было горача ад печаў. Спёка нібыта цякла ў маленькую канторку, якая служыла начальніку кабінетам. Я ўвесь узмакрэў, хоць, мабыць, і не ад гарачыні. З паўгадзіны я чакаў начальніка і калі ўжо сабраўся ісці — ён увайшоў у кантору.

Чамусьці адразу ж спытаў:

— Горача? Прывычка патрэбна,— і дадаў: — Гэта добра, што вы прыехалі адразу.

Ён яшчэ раз, намнога падрабязней, расказаў мне гісторыю, ужо расказаную старшым майстрам.

— Вы былі ў следчага? — спытаў я.

— Быў. Запішыце яго прозвішча — Варашуха. Лічыць, што іменна Лёнька абакраў гэту краму. Але доказаў ніякіх. Адны меркаванні. Я шмат бачыў — і вайну, і ўсякае, а ён мне — не лезьце, гаворыць, не ў сваю справу.

— Дзякуй. Я зараз жа да Варашухі і пайду, толькі загляну ў гарком і ў гасцініцу ўладкуюся. Заўтра абавязкова вам пазваню.

Я выйшаў з прахадной і ў горад пайшоў пешшу. Я любіў прыязджаць сюды. Горад быў старажытны, вайна яго амаль не кранула, і ад вулачак, вузкіх, добрасумленна брукаваных, ад вузкіх аканіц, падоб-

ных на байніцы, павявала мінулымі стагоддзямі. У цэнтры горада, на высокай гары, стаяла крэпасць. Ад яе засталіся адны абломкі. Унізе працякаў Нёман. Кожны раз, калі я прыязджаў у гэты горад, ішоў у музей. Цяпер, пэўна, не ўдасца.

У гаркоме мне адзначылі камандзіроўку і спыталі, па якой справе прыехў. Я прамармытаў нешта няпэўнае. З гасцініцай усё было ў парадку — асобны нумар, пісьмовы стол і яшчэ да ўсяго іншага — душ. Рэдка трапляюцца ў камандзіроўках такія нумары.

У пракуратуры я пачаў шукаць пакой з таблічкай на дзвярах «Следчы Варашуха». Гэты пакой я адшукаў на другім паверсе. Перад маладым бялявым юнаком сядзела паўнаватая, з азызлым тварам жанчына. Яна неяк дзіўна паглядзела на мяне.

Я назваўся.

— Закончу допыт, і мы пагаворым,— даволі пачціва прамовіў Варашуха.

Але я не застаўся. Выйшаў у вузкі, з рыпучымі, прагнутымі дошкамі, калідор і закурыў. У мяне ўжо выпрацаваўся інстынкт — варта мне выехаць у камандзіроўку, як я пачынаў курыць удвая больш, чым звычайна. Каля іншых дзвярэй таксама сядзелі мужчыны — старэйшыя і маладзейшыя за мяне, і ўсе без выключэння дымілі. У пракуратуру проста так не выклікаюць. Выйшла жанчына з кабінета Варашухі, рыпнулі дошкі пад яе грузным целам. Следчы выйшаў следам за ёй і запрасіў мяне зайсці. Я цяпер толькі разгледзеў яго як след. Не такі ўжо хлопчык, як гаварыў Галубовіч. А мо для яго ён і хлопчык.

Варашуха не сеў за свой стол, а прайшоўся па кабінеце, памацаў кішэні і са шкадаваннем сказаў:

— Чорт, скончыліся цыгарэты.

Я дастаў пачак.

— Мне Галубовіч гаварыў, што напісаў вам пісьмо. Гэта праўда? Як-ніяк ваш і яго падапечны,— ён крыва

ўсміхнуўся.— Галубовіч тут ледзь не нахаміў мне, але так нельга! І наогул — адкуль такая ўпэўненасць у гэтым чалавеку?

Я адчуваў, што ён нешта недагаворвае. Рыхтуе канцоўку.

— Да таго ж Галубовіч яшчэ не ведае ўсяго. Учора гэты ваш Лёнька паставіў подпіс пад прызнаннем. Справа, па сутнасці, закончана, і дарэмна вы ехалі. Ай-ай, непарадак!

Я быццам зноў апынуўся ў гарачым ліцейным цэху.

— Я быў упэўнены з самага пачатку, што магазін абакраў ён. Вельмі ўжо прафесіянальна. І гаспадыня паказала, што ўначы ён знікаў з дому.

— На колькі часу?

— Ну, ведаеце, яна добра не помніць — спаў жа чалавек. А цяпер ён ужо сам ва ўсім прызнаўся...

— Вы паможаце мне спаткацца з ім?

— Спаткацца? — на ягоным твары было непадробнае здзіўленне.— Калі ласка. Прыходзьце заўтра ў тры гадзіны.

— Заўтра я буду ў вас, як і дамовіліся. Да пабачэння.

## 9

Чалавек заўсёды імкнецца навесці парадак у свеце вакол сябе і ў самім сабе. Я прыйшоў у гасцініцу, паваліўся на ложак і пачаў прыводзіць у парадак свае думкі. Але яны былі няпэўнымі. Вырашыў паспаць крыху, але не заснуў. Варочаўся доўгі час з боку на бок. Мне неабходна было неадкладна з кімсьці пагаварыць. Я пазваніў нашаму ўласнаму карэспандэнту па вобласці. Адказала жонка. Ён паехаў у адзін з раёнаў па пісьму і вернецца толькі дні праз тры.

Я пазваніў у тэатр і папрасіў да тэлефона актрысу

Таццяну Папову. Мне пашанцавала — яна была ў тэатры. Якраз ішла рэпетыцыя. Папову я ведаў з маленства. Яна жыла ў нашым двары, у доме насупраць. Танька паступала ў тэатральны інстытут, але прабілася туды толькі з трэцяга заходу. А цяпер, я чуў, мае поспех у гэтым тэатры.

— Добры вечар, Алёша Паповіч,— кажу я.

У нас у двары яе так звалі. Мянушка гэта да яе прыклеілася яшчэ з дзяцінства. Танька была тоўсценькая і непаваротлівая, а потым раптам змянілася, стала танклявая і прыгожая. Да яе заляцаліся хлопцы з нашай вуліцы.

— Я вельмі рада,— сказала Таня.— Хутка скончыцца рэпетыцыя, і я буду свабодна.

— Праз колькі часу?

— Праз гадзіну, напэўна.

— Я цябе сустрэну. Я цябе сто гадоў не бачыў, Алёша Паповіч, і нават сумаваў.

Пакуль яна вешае трубку, я чую яе смех. Відаць, рэпеціруе класічную ролю. Ні разу не чуў ад Паповай такіх слоў: «Вельмі рада...»

Я падыходжу да тэатра крыху раней. Танька спазнілася на дзесяць мінут.

— Як камандзір я аб'яўляю вам, Алёша Паповіч, вымову. І ў дадатак тры нарады без чаргі.— Гэта значыць, яна павінна тры разы пацалаваць мяне ў шчаку.

Калі ў двары мы гулялі ў вайну, дзяўчынкі таксама прасіліся, але бралі мы толькі Таньку. Адзіная з дзяўчынак яна карысталася вышэйшай прывілеяй.

Я не бачыў яе год. Год назад яна паехала па накіраванню ў абласны тэатр. Яна нікольні не змянілася. Толькі з'явіліся маршчынкі каля вачэй. Яна перахоплівае мой позірк.

— Гэта не ад старасці, Глеб. Ад грыму.

— А ты не мажся.

Таня смяецца.

— Па-першае, я не мажуся, а па-другое, з чаго гэта ты ўзяў, што калі актрыса, значыць, павінна фарбавацца.

Я адчуваю сябе вінаватым і адразу ж выпраўляюся:

— Цяпер усе фарбуюцца. І актрысы і неактрысы. Нават мая сястра Волька так, бывае, вочы падмалюе, што прыходзіцца трымаць яе за косы і сціраць фарбу насоўкай.

— Ты заўсёды быў вельмі строгім. Прыдзіра стары. З Наташкі таксама фарбу сціраеш?

Я крыху сумеўся. Пацiснуў плячыма.

— Вы яшчэ не пажаніліся? — спытала яна.

— Не, Паповіч, не пажаніліся.

Яна артыстычна пляснула ў далоні.

— Пра вас хоць п'есу пішы. Ты б узяў і напісаў. А я сыграла б галоўную ролю.

— Толькі п'есы мне не хапала, Паповіч. З Наташкай не ведаю, што будзе. Заблыталіся мы. Спачатку яна мазгі мне круціла. Я ўсё перажываў, сцэны рэўнасці наладжваў. А цяпер, здаецца, яна перамянілася, не лічачы некаторых заскокаў — раптам званіць перастае або з кімсьці недзе яе бачаць,— але я стаў іншым. Заўсёды імкнуўся заваяваць яе любоў, а калі яна ўзмужнела і нарэшце ўсё зразумела, ува мне раптам нешта перагарэла. Я не магу без яе і з ёй не магу.

Мы ішлі па старой брукаванай вулачцы. Водбліскі ад старадаўніх ліхтароў падалі на мокрыя камяні.

— Ніколі не думала, што ў цябе з Наташкай так усё складзецца. Вам трэба не сустракацца крыху, і ўсё вы зразумееце.

— Ну, а ў цябе што?

— Жыву адна. Сумаваць часу няма. Гастролі, рэпетыцыі, тэатральная мітусня. Трошкі, праўда, сумую без маці. Ёй зараз вельмі цяжка. Бабуля нядаўна памерла.

— Я не ведаў. Даўно не сустракаў тваю маці.

— Зайшоў бы калі-небудзь. Яны з братам цяпер адны. Ён дрэнна вучыцца, і мяне побач няма. Цяжка ёй. У новым сезоне, можа, перавядуся дамоў. З галоўным рэжысёрам размаўляла. Здаецца, усё ў парадку.

Мы зайшлі ў маленькае кафэ. Крэслы і сталы замянялі дубовыя калодкі — вузейшыя і шырэйшыя. Замест сцен бялелі ствалы бяроз, скрозь іх лілося мяккае святло — чырвонае, жоўтае, сіняе.

— Цудоўны горад,— сказаў я.

— Я б ніколі і не думала ехаць адсюль. Тэатр добры, але маці цяжка.

Мы пілі віно, кофе і ўспаміналі сяброў, дзяцінства, якое прамільгнула, як хуткі цікавы фільм.

— У цябе якія тут справы?

Я расказаў усю гісторыю пра Лёньку. Тані я павінен быў зараз расказаць усё. Яна была катэгарычнай, як усе жанчыны.

— Ты павінен пайсці ў пракуратуру. Вядома, ён не мог гэтага зрабіць. Няхай разбяруцца.

— А калі... Прызнанне ён падпісаў. Заўтра пагавару з ім, калі з гэтага што-небудзь атрымаецца.

— У цябе цікавая прафесія, Глеб. Я неяк, даўно ўжо, вырашыла — правалю ў тэатральны трэці раз, пайду на журналістыку. У дзяцінстве ўпотай ад вас пісала вершы і была страшэнна ўлюбчывай дзяўчынкай.

Мы вярталіся. Дажджу ўжо не было. Я праводзіў яе да самага дома.

— Ідзі і збярыся з думкамі, камандзір. І старайся спаць спакойна.

— Добра, Паповіч, пастараюся.

— А заўтра пазвані мне, як і што. Пазвоніш?

— Пазваню. Я рады, што цябе тут сустрэў.

— Я таксама рада, камандзір.

Я пайшоў не адразу, а паслухаў яшчэ, як пастукваюць яе абцасы па рыпучай лесвіцы.

## 10

Маці гаворыць, што я пайшоў у бацьку. Я і сам гэта ведаю. Злосць на каго-небудзь падоўгу не затрымліваецца, хоць я іншы раз сам гэтага хачу. Наташка гаворыць, што я псіх, але адходлівы.

Раніцай я пайшоў у пракуратуру і не адчуваў ранейшай непрыязі да Варашухі. Ён сустрэў мяне словамі:

— Я лічу, дарма вы будзеце [redacted] ім сустракацца. Пустая гэта справа.

Я нічога не адказаў.

— Вам давядзецца з паўгадзінкі пачакаць. Яго прывязуць.

У пакой зайшоў міліцыянер. Высокі, [redacted] тонкім безвалосым тварам.

— Увесці? — спытаў ён.

— Увядзіце.

— Я вас пакіну адных,— сказаў Варашуха.

— Дзякуй. Мінут на дваццаць.

Увайшоў Лёнька. Ён мяне не заўважыў або зрабіў выгляд, што не заўважыў. Зняў шапку са стрыжанай галавы і пачаў камячыць яе ў руках, гледзячы вышэй нашых з Варашухам галоў, у нейкае няпэўнае месца.

— Вось, Швідзенка, карэспандэнт прыехаў, хоча пагаварыць з табой. Ты не грубіянь, а гавары ўсё як ёсць, ясна?

Лёнька на Варашуху не глянуў. На мяне таксама. Прагаварыў ледзь чутна:

— Ясна.

Варашуха выйшаў, каля самых дзвярэй падміргнуў мне, давай, маўляў, дзейнічай.

— Ты сядай, Лёня,— прапанаваў я.

Ён сеў і ўсміхнуўся. Усмешка атрымалася ненатуральнай, быццам ён сілком расцягваў свае губы, сціснутыя спружынай.

— Вось і сустрэліся, грамадзянін карэспандэнт. А вы пра мяне распісалі...

Я даў яму закурыць, адчуваў я сябе ўшчэнт разгубленым.

— Я табе паверыў тады. Чэснае слова, паверыў і цяпер таксама веру.

Яго позірк ажывіўся, стаў вастрэйшым.

— Верыце? Жонка таксама верыць. Выклікала мяне. Я ведаў — больш дамоў не прыйду, а яна кажа — ведаю, Лёнька, не мог ты.

Твар яго стаў суровым і пабялелым.

— Слабы я стаў. Раней што... Адным тэрмінам больш, адным менш. А каму дакажаш, што не браў я гэту краму, не браў?

— Навошта ж тады падпісаў усё?

— Усё роўна хана... Падпісаў — не падпісаў. Усё чысценька зроблена, а тут, пад бокам, такі гросмайстар, як я. Міліцыя і ўхапілася. Рыззё нейкае знайшлі за вёскай, вось ужо чаго ніколі не браў. Непрыязь у мяне да ўсякай вопраткі. А тут гаспадыня з перапуду ляпнула, што ўначы некуды хадзіў... Варашуха гэты прычапіўся як банны ліст.

Ён безнадзейна махнуў рукой:

— Цяпер са мной усё ясна.

— Нельга так, разумееш ты,— ён пачынаў мяне раздражняць.— Хлопцы з цэха ўсюды ходзяць, начальнік пісьмо ў рэдакцыю прыслаў, не мог, маўляў, Лёнька, а ты нюні распусціў...

— Галубовіч чалавек... Мне раней не было каго саромецца, а цяпер ёсць. Хлопцы ў нас у ліцейцы цудоўныя. Ніхто ніколі слова не сказаў, маўляў, мы людзі, а ты, Лёнька, так сабе. Вас вось саромлюся. Жонка мая гэту газету ў альбом уклеіла... А на мне кляймо сто гадоў будзе. Калі што — Лёньку пацягнуць з сябрукамі. А сябрукі гэтыя і цяпер ходзяць. Краму нехта чысценька зрабіў. Не падкапаешся...

Увайшоў Варашуха і спытаў:

— Усё?

— Усё, грамадзянін следчы,— сказаў Лёнька і падняўся.

Ён пайшоў. Варашуха глядзеў на мяне з непрытоенай цікаўнасцю.

— Я ж гаварыў — дарэмна. Тып гэты Швідзенка.

Ён дастаў са стала вялізную папку і падсунуў яе да мяне.

Выглянула сонца. Даўно яго не было. Неба нібыта зарасло шэрасцю. І тут раптам — сонца... Промні леглі на касцёл, на нас з Варашухай, на падлогу, на сцены.

— Я чытаць не буду, няма ніякага сэнсу. Гэта не Лёнькавых рук справа.

Я выйшаў з пракуратуры, пахадзіў ля касцёла. Сонца было цёплае, зусім вясновае. Раптам мяне быццам токам працяла. Супраць жа Лёнькі па сутнасці няма ніводнай сур'ёзнай улікі, ніводнага доказу... Акрамя адбіткаў пальцаў. Як Галубовіч мог забыцца пра гэта?! Мяне цягнула адразу ж вярнуцца да Варашухі, хоць не, пакінем гэта для пракурора.

Я знайшоў паблізу ад касцёла тэлефонны аўтамат. Галубовіч быў на месцы.

— Вам знаёмая фраза — гаварыць праўду і толькі праўду?

Галубовіч крыху разгубіўся ад гэтага пытання.

— Я вас не зусім разумею...

— Зараз зразумееце,— супакоіў я яго.— А за хлуслівае сведчанне што можа быць, ведаеце?

— Ды гаварыце вы ясней! — не вытрымаў Галубовіч.

— Нарабілі вы клопатаў з адбіткамі пальцаў. Гэта ж галоўная ўліка супраць Лёнькі. Трэба было ўсё расказаць як ёсць, а вы і хлопцаў сваіх з панталыку збілі, і Лёньку таксама.

— Вы мяне не вінавацьце, я не юрыст. Да таго ж

я зусім забыў пра гэты выпадак. Думаў, як хлопцу дапамагчы. Што ж цяпер рабіць?

— Я думаю ісці да пракурора. Неадкладна!

Галубовіч прапанаваў схадзіць разам. З паўгадзіны я круціўся ля касцёла, у душы праклінаючы Галубовіча і самога Лёньку, які, расхваляваўшыся, так усё заблытаў. Нарэшце з'явіўся Галубовіч. Мы прайшлі знаёмым мне калідорам да свежа абабітых дзвярэй.

Пракурор Іван Васільевіч Сцепанцоў, пажылы, хваравіта-тлусты чалавек, быў у кабінеце. Мы з Галубовічам гаварылі па чарзе і нярэдка адзін аднаго перабівалі. Сцепанцоў пераводзіў позірк з мяне на Галубовіча і наадварот. Не ведаю, ці зразумеў ён нас як след.

— Варашуха следчы малады, але здольны,— пасля нашых усхваляваных прамоў пракурор гутарыць з намі вельмі спакойна.— Ён, вядома, мог і памыліцца... Вы вось таксама малады,— ён кінуў у мой бок,— і хіба не памыляецеся. А гэта гісторыя з адбіткамі?! Ды вас, таварыш Галубовіч, і ліцэйшчыкаў вашых, вы мне прабачце, пугай трэба, пугай! Такая ўліка... Я і ордэр на арышт толькі з-за гэтай самай улікі падпісаў. Вядома, вы хацелі памагчы... Але б з юрыстам сваім заводскім хаця б пракансультаваліся — як следчыя органы лягчэй вакол пальца абвесці. А прызнанне між тым ёсць...

— З роспачы ён, Іван Васільевіч, з роспачы! Вы яму паверце,— ад напружання маім вушам зрабілася горача, быццам іх у кіпень апусцілі.

— Таварыш пракурор, я ўсю вайну прайшоў, на заводзе трэці дзесятак, рэдка ў людзях памыляюся. А за гэтага хлопца...— Галубовіч змоўк, падбіраючы патрэбнае слова, ды так і не знайшоў яго.

Пракурор раптам заўсміхаўся. Яму, відаць, вельмі цесна ў мундзіры. Дома ён з радасцю скідае яго і пералазіць у піжаму і ў хатнія туфлі, яго цела, раз-

мякшае і вялікае, распаўзаецца ў крэсле. У яго добрыя, як ува ўсіх тоўстых людзей, вочы.

— Вы абодва вельмі гарачыя, але вас можна зразумець,— працягваў пракурор.— Я пагавару і са следчым, і з гэтым хлопцам, таварыш Галубовіч. Разбяромся ва ўсім і нейкае рашэнне прымем.

Дамовіліся — пракурор паведаміць Галубовічу, а той ужо скажа мне.

Мы папілі піва і толькі тады аддыхаліся.

— Нібы змену ля печы адстаяў,— уздыхнуў Галубовіч.— Я ж да вайны на сваім заводзе ліцейшчыкам пачынаў.

Мы развіталіся.

— Пайду да ягонай жонкі, супакою. Яна там месца сабе не знаходзіць.

У гасцініцы я мог купіць білет на самалёт, які адлятаў праз тры гадзіны. Але не купіў. І справа не ў тым, што мы дамовіліся з Паповай сазваніцца. Я злавіў сябе на думцы, што мне проста неабходна яе ўбачыць, мая рука сама цягнулася да тэлефона, каб хутчэй пачуць яе голас.

— Што ў цябе чуваць? — пытаецца яна.

— Справа наладжваецца.

— Ты прыйдзеш да мяне піць каву і ўсё раскажаш,— голас у яе быў крыху сумны. Зусім не такі, як учора.

— Што з табой? Прастудзілася?

— Не, я крыху паплакала. Гэта ад старасці, камандзір. Успомніла дзяцінства, наш двор і яшчэ многае з таго, што не ўдалося ў жыцці. Яшчэ да таго ж роля адна не атрымліваецца. Сёння дарэмна сілы і час губляла. Рэжысёр распсіхаваўся, і я таксама.

— Ох, і дурань жа ты, Паповіч. Плаксай стала. Ты ж выдатная актрыса, хутка будзеш першай зоркай, і ніхто не паверыць, што я цябе ведаю ўжо сто светавых гадоў.

Яна ціха засмяялася.

— Мы так і прагаворым увесь вечар па тэлефоне?

— Ну, вядома, не!

Я ледзь прабіўся да гастранамічнага прылаўка — было каля сямі і мужчыны спяшаліся. Знайшоў вулачку, дзе яна жыла, і апынуўся ў маленькім пакойчыку са спартанскім убранствам. Пахла нечым смажаным і печаным.

Таня была ў світэры ■ высокім каўняром, у джынсах.

— Паслухай, Паповіч, ды ты ніколькі не змянілася.

Яна ўсміхнулася:

— Ты балбатуном і застаўся. Сядай за стол. Я, між іншым, упершыню за год, паверыш, занялася хатняй гаспадаркай, чым здзівіла суседку па камунальнай кватэры.

Мы выпілі на кілішку віна і пачалі разважаць аб праблемах тэатра, аб тым, што зніклі цікавыя праблемныя п'есы і незразумела, чаму многія дурні, якія апрацоўваюць тысячу разоў апрацаванае поле, становяцца вядомымі і атрымоўваюць лаўры.

«Ну вось мы і ўдваіх, я марыў пра гэта цэлы дзень»,— хацелася сказаць мне, але я без стомы працягваў заведзеную і такую непатрэбную нам размову, не знаходзячы прычыны гаварыць зусім аб іншым або, можа, наогул маўчаць...

І размова, калі гэта можна назваць размовай, пераключылася на іншае. Інакш і быць не магло, у гэтыя хвіліны ўсё станавілася на нейкія свае, намі не прадугледжаныя месцы, рабілася простым і ясным. Паступова паміж намі знікала стрыманасць, што замінала нам на пачатку вечара. Я ўспомніў сустрэчу — якім я быў ідыётам тады! — з яе маці. Яна была зусім хворая. Я ўспомніў яе ранейшую, жвавую і вясёлую (Танька падобная на яе), глядзеў на зморшчаны твар і ацяжалелую, згорбленую фігуру і думаў аб тым,

як хутка бяжыць час. Проста жудасна іншы раз становіцца.

— Ты Тані хоць пісьмы пішы,— гаварыла яна.— Таня цябе заўсёды больш, чым мяне, паважала. Я, памятаеш, нават ад злосці вушы ёй хацела накруціць, калі ты яе ў сваю кампанію цягаў. Ты прабач ужо. Яна і цяпер на кожным слове пра цябе ды пра цябе. І які ты добры і смешны. Як толькі прыедзе — пытаецца адразу, ці не бачыла Глеба, як ён? Я ёй: а ты пазвані і спытай. Усміхнецца толькі, але не звоніць.

У той раз некалькі дзён я гнаў ад сябе адну надакучлівую думку. Здалося гэта ўсё Танькінай маці. Мы сябры дзяцінства, і толькі. Мне тады вельмі хацелася, каб так было на самой справе. Але не цяпер.

Я сядзеў моўчкі, адчуваючы ў далонях цеплыню яе рукі, і мне здавалася, яна разумее, што я без слоў перадаю ёй.

— Чаму мы сядзім вось так? — спытала яна ціха.— Мы не павінны так сядзець, разумееш?

Яна моцна, але сутаргава прыціснула маю далонь да свайго твару. Я абняў яе і нечакана для сябе моцна пацалаваў у губы. Яна адвярнулася, але супраціўленне было слабым і бязвольным, і я ўжо ведаў толькі адно — у чым яшчэ некалькі хвілін назад баяўся прызнацца і самому сабе і ёй.

Таня выслабанілася і паспрабавала ўсё перавесці на жарт:

— Ты, аказваецца, стаў лавеласам, што і перашкаджае табе ажаніцца з Наташкай...

Але ёй зусім не хацелася ўсміхацца або, тым больш, жартаваць, я гэта адчуваў па выразу яе бледнага і разгубленага твару.

— Ты паедзеш і будзеш усміхацца, успамінаючы аб сённяшнім вечары, і перад Наташай будзеш адчуваць няёмкасць, я ж ведаю цябе, дакладней, ведала, а ця-

пер незразумела, што ты за чалавек, я ж так даўно цябе не бачыла.

— Я хутка прыеду, ты ж ведаеш, гэта гісторыя з Лёнькам... Мне неабходна прыехаць у бліжэйшы час, і мы зноў убачымся тут, у гэтым пакоі, праўда?

Яна маўчала, а я адчуваў, як пачуццё радасці, сілы вяртаецца да мяне і паланіць маю душу.

— Божухна, табе прыйдзецца ісці ў такую цемру! — усклікнула яна, падышоўшы да акна.

Мы доўга стаялі на прыступках яе дома.

— Ідзі, ужо час! — рашуча прамовіла яна, і ў гэтай інтанацыі, якая не церпіць пярэчання, я пазнаў ранейшую Таньку — Алёшу Паповіча.

— Ты ведаеш...— пачаў я, але яна замахала рукамі.

— Нічога не кажы, чуеш, нічога!

Я ляцеў у самалёце і думаў аб тым, што было раней, вельмі даўно і зусім нядаўна. У мінулым... Няўжо Наташка? Я ўспамінаў свае марныя спробы выкінуць Наташку з галавы, усе гэтыя думкі аб «леках», якія толькі абвастралі адчуванне неабходнасці бачыць яе пастаянна. «Лекамі» былі іншыя дзяўчаты.

Я неяк адкрыўся Бялькевічу, і ён сказаў тонам апекуна:

— Ёсць сродак. І можна прымаць самую вялікую дозу. Яшчэ ніхто не атруціўся, павер...

Але я нікога не мог уявіць на месцы Наташкі. Адна знаёмая з ансамбля танца, даволі прыгожая, з фігурай, пра якую Бялькевіч гаварыў адно слова — «антычнасць», палічыла мяне дзіўным чалавекам. Мы аказаліся разам у адной кампаніі, і я не праявіў рашучасці.

Сяргей мне назаўтра пазваніў:

— Яна сказала, што ты хлопчык. Я такіх ідыётаў не бачыў. Цягай з сабой у кішэні сваю Наташку.

Але Танька ж не «лекі». Танька — нешта іншае, надзвычай важнае, вялікае і нечаканае.

## 11

А Кастусь усё ж напісаў нарыс пра рыбакоў. Раніцай па дарозе ў рэдакцыю я купіў нашу газету. Нарыс быў надрукаваны пад лічбай «1». Значыць, напэўна будзе другі, а магчыма, і трэці. Я чытаў нарыс у тралейбусе, і калі паднімӑўся ў рэдакцыю — таксама чытаў. Нарыс здорава чытаўся.

Мне не цярпелася павіншаваць Кастуся. Вядома, ён сядзіць за сталом і чытае самога сябе. Я ведаю пэўна, што будзе далей. Ён адкладзе газету ўбок, акуратна склаўшы яе, затым неўзабаве разгорне яе і зноў будзе разглядаць свой опус.

— Малайчына, Кастусь,— сказаў я,— выдатны нарыс. Ты так, глядзіш, і сапраўды кнігу выдасі.

— А ў цябе што?

— Быццам усё нармальна. Якія тут навіны?

— Цякучка заела. Гарык жонку дамоў забраў. Цяпер такі радасны і спакойны. Андрэй падаў заяву аб звальненні. Рэдактар яго адгаворваў, але ён заўпарціўся. Збіраецца на Поўнач. Там у яго хлопцы знаёмыя і месца ў газеце ёсць.

— Можа, ён мае рацыю.

— Хто як разважае. Што датычыць мяне, то думаю, не варта з-за бабы...

Ён філосаф, Кастусь, зараз пачне разважаць.

— Мне званіў хто-небудзь?

— Уяві сабе — ніхто.

Ён зірнуў на гадзіннік.

— Ідзём хутчэй на планёрку, палова дзесятай ужо.

Адказны прачытаў план нумара. Рэдактар абвёў вачыма кабінет:

— Не разумею, дзе людзі. Складзіце спіс спазніўшыхся, і я з кожным пагавару.

— Добра,— адказны зрабіў паметку ў сваім блакноце. Некаму нагарыць!

Рэдактар пакінуў мяне ў кабінеце. Я падрабязна расказаў аб камандзіроўцы.

— Можа, усё будзе так, як ты гаворыш. А калі здасі артыкул з інстытута біялогіі?

Я ўсміхнуўся:

— Звоняць?

— Гэта не твая справа. Ты скажы, калі здасі матэрыял.

Я прыкінуў рэальныя тэрміны.

— Праз два дні.

— Так і запішам,— і рэдактар зрабіў паметку на календары.

У калідоры я сустрэўся з Андрэем.

— Ну, што ў цябе новага? — спытаў ён.— Усё рашаем несур'ёзныя праблемы?

— Не тое каб вельмі... Так сабе.

— Тады пойдзем піць каву. Я, можна сказаць, на чамаданах сяджу, запасаюся цёплай вопраткай. І не магу нічога рабіць. У марах я ўжо лячу на сабаках...

— Ведаю, мне Кастусь сказаў...

— Кастусю добра,— засмяяўся Андрэй.

Васільевіч нам узрадаваўся. Не так мне, як Андрэю. Наведвальнікаў у кафэ на гэты раз было мнагавата, і ў Васільевіча спраў хапала. Мы перакінуліся з ім некалькімі фразамі і селі за столік бліжэй да гардэроба. Мы ўзялі кофе і яму. Васільевіч прысеў да нас, паскардзіўся:

— Калі не трэба, нікога няма. А цяпер вось усе ідуць і ідуць, ні прасвету.

— Апошнія дзянёчкі ў цябе каву п'ю, Васільевіч,— сказаў Андрэй.

Стары махнуў рукой, зморшчыўся:

— Чуў я такія размовы. Куды гэта табе, Андрэй, перціся? Узрост ужо не той, каб за рамантыкай...

— Якая там рамантыка!

— Дык чаго ж ехаць? — не супакойваўся стары.—

Усякае бывае. Ад гэтага і там табе не схавацца.

Андрэй гаварыў хутчэй за ўсё сам сабе:

— Чалавек жыве чаканнем новага. Вось і я так. Чакаю разліку, пасля самалёт, новыя людзі, снег навокал. Пагляджу, можа, і назусім застануся. Хачу паспрабаваць напісаць вялікую кніжку. Даўно збіраюся. Можа, іменна там гэта і ўдасца.

Я пайшоў дамоў, паспаў гадзіну і нарэшце па-сапраўднаму засеў за артыкул. Дзіўна, але ён пісаўся лёгка. Раніцай я патраціў яшчэ некалькі гадзін і, паставіўшы пад артыкулам сваё прозвішча, кінуў яго на машынку.

Пазваніў Вермішаву.

— Артыкул на машынцы. Заўтра я магу паказаць яго вам.

І тут раздаўся гэты званок. Самы што ні на ёсць звычайны. Я зняў трубку. Голас быў знаёмы, і ў той жа час я і цяпер не ведаю, хто гэта званіў. Голас прахрыпеў у самае вуха:

— Іваноў загінуў. Заўтра ў дзве гадзіны пахаванне...

Я нічога не паспеў, а дарэчы, і не мог нічога спытаць.

— Іваноў загінуў,— прамовіў я ўголас.

Сэнс таго, што здарылася, яшчэ не дайшоў да мяне.

— Які Іваноў? — спытаў Кастусь.

— Скульптар. Ён паехаў на здымкі і загінуў.

Я пачаў надзяваць паліто.

— Пачакай,— спыніў мяне Кастусь,— у цябе вар'яцкі выгляд. Ты белы-белы.

Я пасядзеў яшчэ крыху.

— Як гэта так, ён — і раптам загінуў? — сказаў я.— Іменна Іваноў...

— Як ён загінуў? — спытаў Кастусь.

— Як загінуў? Не ведаю... А можа, і не загінуў?!

Я выбег на вуліцу. Раптам — памылка!

На кінастудыі я ведаў многіх, а першым сустрэў аператара Грыбушкіна.

— Я наконт Іванова. Мне нядаўна званілі,— выдыхнуў я.

— Яго прывязуць сёння вечарам. Загінуў.

— Забілі...

— Недарэчны выпадак. Здымкі ў гарах, каля вузкай рачулкі. Група Еўлампіева. На гары стаяў аўтобус. Нейкі час стаяў, а потым сарваўся і пакаціў да ракі. Усе разбегліся, а на беразе засталася старшая грымёрша. Ёй крычалі, а яна не чула. Зразумець немагчыма, як ён змог ускочыць на хаду ў аўтобус. Усё адбылося імгненна. Аўтобус рэзка павярнуў і пакаціўся з гары, як кансервавая бляшанка. Грымёрша адразу і не зразумела, у чым справа.

Значыць, не памылка.

— Ён не мог не пабегчы,— сказаў Грыбушкін.— Хто-небудзь іншы задумаўся б — ці варта, але толькі не ён.

— Жонцы сказалі?

— Учора яшчэ.

Я даведаўся, што труна з целам Іванова заўтра раніцай будзе ўжо ў Саюзе мастакоў, і пайшоў дамоў. Паваліўся на тахту і заплюшчыў вочы. У галаву лезлі розныя ўспаміны аб сустрэчах з Івановым. Ён бачыўся мне панурым, у запэцканых джынсах, мітуслівым у сваёй майстэрні, усмешлівым. Усякім, якім я ведаў яго. Мы рэдка звычайна задумваемся, хто нашы сапраўдныя сябры. Слова «сябар» стала непапулярным. Усе больш гавораць — прыяцель, знаёмы. Іваноў быў шчырым, верным сябрам, які так многа значыў для мяне. Хто б яшчэ з маіх знаёмых кінуўся ў аўтобус і павярнуў яго ў бездань? Сяргей бы, добра ведаю, не кінуўся, а я сам? Іваноў жа кінуўся!

Я ўспомніў, што ў мяне некранутым ляжыць у стале сшытак з ягонымі запісамі.

Я адразу ўтаропіўся вачыма ў фразу: «Чалавек павінен ненавідзець тое, што ён ненавідзіць! Інакш ён не асоба!»

Іваноў дакладна ведаў усё, што любіць, і любіў гэта ўсё, і дакладна ведаў тое, што ненавідзеў, і ненавідзеў гэта.

І яшчэ раз асабліва ясна я зразумеў, якой наіўнай была мая пісаніна аб ім, як мала я расказаў у нарысе пра Іванова-чалавека.

Вецер ірваў і падмінаў пад сябе ўсё наўкола. Па дошках труны гулка ўдарылі першыя мёрзлыя камякі зямлі. Я глядзеў на людзей, што прыйшлі хаваць Іванова. Іх было шмат, зусім незнаёмых і знаёмых.

Са мной на пахаванне пайшлі Гарык і Наташка. Гарык не ведаў Іванова-чалавека, але любіў Іванова-скульптара. Ён зайздросціў мне, што Іваноў мой сябар, і я ўсё збіраўся як-небудзь пазнаёміць іх.

Пасля пахавання мы зайшлі пагрэцца ў кафэ.

— Слухайце, мне сорамна, мне цяжка,— сказаў я.— Я не напісаў па-сапраўднаму пра яго...

— Ты павінен напісаць сёння, не адкладваючы,— сказаў Гарык.— Гэта твой абавязак. І не патрэбен некралог, патрэбен нарыс!

— Трэба выкарыстаць яго запісы, якія ты чытаў на пахаванні,— прапанавала Наташа.— Я не магла іх слухаць без слёз.

У мяне амаль усё было ўжо напісана. Старонак дзесяць. Заставалася толькі закончыць. Пісаў я ноччу, а раніцай так і не змог прачытаць напісанае. Было страшна — раптам не атрымалася?

Назаўтра я здаў нарыс разам з фатаграфіяй Іванова. На фатаграфіі ён быў зняты з палярнымі лётчыкамі, з якімі лятаў доўгі час на Поўначы. Рэдактар нарыс прачытаў і распарадзіўся ставіць яго адразу

ў нумар. Ніколі да гэтага мне так не хацелася, каб газету прачытала як найбольш людзей. Я гатовы быў бегаць па вуліцах, кожнаму соваць у рукі газету з нарысам і прасіць: «Прачытайце, калі ласка. Гэта быў сапраўдны чалавек».

Я сядзеў і чакаў паласу з адціснутым матэрыялам. Пазваніў Бялькевіч.

— Слухай, Сяргей,— я стараўся не выдаць свайго раздражнення.— Мне зараз цяжка, разумееш, вельмі цяжка з табою гаварыць. Іванова пахавалі.

— Скульптара?

— Так, ты ўжо прабач...

Я павесіў трубку. Быў калісьці сябар, а цяпер няма. Раней ён такім не быў. Ці я не заўважаў? Мы сустракаліся ў апошні час рэдка, балбаталі аб дробязях і разыходзіліся ў розныя бакі. Вядома, кожны становіцца такім, якім хоча быць. Я ўявіў сабе, чым стане Сяргей — мая машына, мая кар'ера, мая дача, мая жонка, мае дзеці — астатняе ґары ґарам. Такіх, да жалю, цяпер нямала. І Бялькевіч — малады хвацкі парастак сярод іх.

Быў час, калі я быў упэўнены і ў сабе, і ва ўсіх, хто акружаў мяне. Кожнаму з іх я ведаў кошт, і ўжо тут падвоху чакаць не прыходзілася. У той час я працаваў на заводзе. Хлопцы побач былі добрыя, шчырыя і простыя. Маці трывожылася: як я, на яе думку, спешчаная істота, ужывуся з імі. А я адчуў з самага першага дня, што яны сталі маімі блізкімі, быццам здаўна знаёмымі людзьмі. Былі, праўда, і сярод іх «тыпы». Іх ведалі напералік, і праўду ім казалі ў вочы. А бялькевічаў так проста не раскусіш. Яны ўсюды ўмеюць прасочвацца, і ў душу лезці прыгожымі слоўцамі, і рэпартажы штампаваць аб ударных вахтах, і вельмі многае іншае рабіць у самых розных месцах таксама нібыта з усёй душой.

Са мной нешта адбывалася пасля смерці Іванова.

Я не ведаў — што менавіта. Відаць, я абазліўся. Мая тэорыя «Чалавек жыве так, як яму хочацца» рассыпалася ўшчэнт. Ён меў рацыю: «Чалавек павінен ненавідзець тое, што ненавідзіць!» Без гэтага нельга жыць!

## 12

Як яна апынулася са мной на пахаванні? Я ўспамінаў падзеі таго трагічнага дня і нічога не мог успомніць. Але як бы там ні было, Наташа была разам са мной на пахаванні, мы з ёй потым хадзілі па вуліцах, быў яшчэ Гарык, але ён пайшоў раней, і сапраўды, я праводзіў яе дамоў, нешта гаварыў... Успомніць бы што... Туман, суцэльны туман засланіў падзеі таго вечара цяжкай, непрабіваемай заслонай.

Трэба пагаварыць з ёй, думаў я, але як, дзе знайсці патрэбныя словы, яны ж здадуцца ёй ненатуральнымі, бессэнсоўнымі пасля стольких гадоў, і няважна, што ў яе самой быў вопыт...

Я вычытаў артыкул пра вучоных, і ён здаўся мне груваскім, і я ледзь дачытаў яго да канца. Шаравера быў аб артыкуле іншай думкі:

— Акцэнты расстаўлены правільна, і гэта самае галоўнае. А канцоўка мне не падабаецца, яна гучыць як прыгавор Крыўцову. Зрабі яе мякчэй, але паглыблена, гэта прымусіць чытача задумацца, і мэта твая будзе дасягнута.

Я дзень пратрымаў артыкул, але канцоўкі так і не прыдумаў і аддаў яго рэдактару: ён некалькі разоў цікавіўся ўжо.

— Чаму няма подпісу Шаравера? — спытаў рэдактар.

— Ён лічыць, што канцоўка не тая, а я не магу прыдумаць новай.

— Пакінь, пачытаем. Будзь на месцы.

— Чым цяпер думаеш заняцца? — спытаў Шаравера, калі я вярнуўся ад рэдактара.

Кастусь за ягонай спіной скорчыў грымасу і пакруціў ля скроні ўказальным пальцам.

— Ды ты што?! Яшчэ гэты артыкул у набор не пайшоў, можа, шэф прымусіць перапісваць, а ты «чым збіраешся заняцца?»... Пісьмы буду правіць,— справядліва абурыўся я.— Некаторыя сядзяць і па два месяцы артыкулаў не выдаюць, а тут без перадыху...

— Я згодзен з Глебам,— Кастусь выбраўся з-за стала.— Апошні час ты нас канчаткова заганяў. Не даеш перадыхнуць.

— Не даю, ну і што,— кіўнуў Гарык з раздражненнем.— І ўявіце сабе — не буду. Я складаю план на будучы тыдзень. Вы толькі паглядзіце на яго... Мне шэф за такі план галаву на рэдкалегіі адкруціць і будзе правы.

— А Глебаў артыкул? — спытаў Кастусь.

— Ён да наступнага тыдня не даляжыць. Хутчэй за ўсё пойдзе ў нядзельны нумар. Ён таксама пусты. А на іншых вы не раўняйцеся. Некаторыя загадчыкі аддзелаў, і я ў тым ліку, даседжваюць у «маладзёжцы» апошнія дні, некаторыя пісаць так і не навучыліся, і шэф толькі рады, што яны не здаюць сваіх опусаў.

Ён перайшоў на больш лагодны тон і, мне здалося, адчуў сябе няёмка.

— А вам працаваць трэба. І я вам не дам, як дазволіў ты, Кастусь Мікалаевіч, сказаць, «перадыхнуць». Потым з удзячнасцю ўспамінаць будзеце. Вы ўявіць не можаце, як мне абрыдла ў «маладзёжцы» ўпірацца. Паглядзіш на іншых — апрацуе пісьмо за тыдзень, свой артыкул раз у месяц здасць і ходзіць у перадавіках. Але пакідаць зараз газету было б неразумна. Яна на пад'ёме, з шэфам працаваць нялёгка, але затое задавальненне якое! Калі б кожны з нас так лю-

біў газету!.. Колькі яму званілі з-за гэтага вёрткага акадэміка, і ведалі б вы, хто званіў?! Але шэфа голымі рукамі не возьмеш, і твой артыкул пойдзе.

Ён рэзка перапыніў свой маналог і ўткнуўся ў паперы.

— Псіхалагічная апрацоўка літрабоў закончана! — аб'явіў Кастусь.— Літрабы ўгрызаюцца пласты жыцця з новай сілай! Я пайшоў у цырк — інтэрв'ю ■ сёстрамі — паветранымі гімнасткамі. Магу адну ■ іх уступіць каму-небудзь з прысутных смельчакоў.

Мы з Гарыкам як па камандзе пачалі рагатаць.

— Смейцеся, смейцеся,— іранічна прамовіў Кастусь.— Вы б на іх паглядзелі!

— А ты нас запрасі,— параіў Гарык.— Разам са сваёй жонкай.

— Балбатун несусветны! — дадаў я.— Здыхля да таго ж, ну якая прыстойная аэрагімнастка на цябе паглядзіць?!

Кастусь моўчкі накідаў у дыпламат блакнотаў і знік. Гарык убачыў на процілеглым баку вуліцы чаргу за апельсінамі і, схапіўшы партфель, кінуў на хаду:

— Буду праз паўгадзіны.

Не губляючы часу, я пачаў набіраць па аўтамаце Танін горад. Яна зняла трубку.

— Добры дзень, Паповіч!

— Дзень добры. Як твае справы?

— Якія там справы?! Я хутка прыеду, хоць бы на адзін дзянёк. Я надзвычай засумаваў па табе.

— Я таксама, але табе не трэба прыязджаць. Усё гэта нейкая неразбярыха.

— І цудоўна, што неразбярыха. Мне трэба гэтаму следчаму Варашуху паставіць скрыню каньяку, гэта ж усё дзякуючы яму! Ты хочаш, я сёння зайду да тваёй маці і скажу...

Я чую за спіной лёгкае пакашліванне. Паварочваюся — шэф!

Позіркам прашу ў яго прабачэння і працягваю:

— Значыць, дамовіліся. Калі што — звaніце!

Яна ціха засмяялася на другім канцы провада:

— Я разумею. Звані, буду вельмі чакаць.

Рэдактар трымае ў руках мой артыкул. У мяне ўсё пахаладзела ўнутры — няўжо «зарэзаў»?

— Вы прабачце, у мяне была тэрміновая размова,— апраўдваюся я.

— Зразумела. У тваім узросце ў мяне таксама былі тэрміновыя размовы. Толькі асабліва не захапляйся, карысці мала. А артыкул я прачытаў. На чацвёрку з плюсам. Тое-сёе падправіў і асабліва — канцоўку. Паглядзі і аддай у сакратарыят. Ён пойдзе ў суботні нумар.

— Я абяцаў паказаць Вермішаву.

— Не варта наогул практыкаваць падобныя вычыткі,— запярэчыў шэф.— Тым больш матэрыялаў на такую, я сказаў бы, слізкую тэму. Купяць газету і прачытаюць!

Артыкул выйшаў у суботу, а ў панядзелак пазваніў Некрашэвіч.

— Ты не ўяўляеш, Глеб, што робіцца ў інстытуце? Але гэта не самае галоўнае. Я знайшоў, знайшоў тую сваю манаграфію.

— Якую манаграфію? — здзівіўся я.— Вы мне нічога не гаварылі аб ёй.

— Няўжо? Дарэчы, я страціў усякія надзеі адшукаць яе і тым самым, гаворачы юрыдычнай мовай, пацвердзіць сваё алібі. Да вайны я яшчэ надрукаваў манаграфію, а ў ёй была думка, з-за якой адбыўся ўвесь скандал.

Я нарэшце ўсё зразумеў.

— Гэта значыць — у вас у руках дакументальны доказ таго, што ўсё гэта надрукавана намнога раней, чым у дысертацыі Лапун.

— Вось іменна! У Маскве жыве мой былы наву-

ковы кіраўнік, акадэмік Гняздзюк. Я напісаў яму пра ўсё яшчэ некалькі месяцаў назад, і ён пазваніў, што знайшоў у сваіх старых архівах маю даваенную манаграфію і сёння ж вышле яе мне.

— Ні ў якім разе! — усклікнуў я.— Папрасіце, няхай аднясе да поезда і папросіць праваднiцу перадаць. Я сам сустрэну гэты поезд. Растлумачце, што гэта проста неабходна.

Назаўтра я паклаў перад рэдактарам манаграфію.

— Здорава! Рыхтуй некалькі старонак у наступны нумар пад рубрыкай «Вяртаючыся да надрукаванага». Гэта вельмі дарэчы — Крыўцоў і некалькі яго людзей напісалі абвяржэнне ў ЦК партыі, патрабуюць стварэння камісіі па праверцы фактаў, выкладзеных у артыкуле. Мне толькі што званілі. Хутчэй за ўсё праверка фактаў будзе даручана камісіі райкома партыі. Не страшна?

— Ніколькі! Я адказваю за кожны радок у артыкуле.

— Само сабою ясна, што адказваеш,— усміхнуўся рэдактар.— Мы з табой разам адказваем.

Дома я зачыніўся ў сваім пакоі і размаўляў па тэлефоне з Танькай. У яе быў свабодны вечар — ні спектакля, ні рэпетыцый.

У пакой заглянула маці.

— Ты вячэраць будзеш?

Я кіўнуў галавой і замахаў рукамі, маўляў, зачыні дзверы. Потым за чаем бацька сказаў нібы між іншым:

— Калі ты размаўляеш па тэлефоне з Наташай, дык дзверы не зачыняеш...

— Мне гэта таксама незразумела! — маці нават папярхнулася, і Волька паляпала яе па спіне.

— А табе нічога не трэба разумець. Гэта мая справа! — амаль выкрыкнуў я.

— Калі ты думаеш, што табе ў аднолькавай ступе-

ні дазволена крытыкаваць акадэмікаў і грубіяніць маці, то памыляешся! — бацька быў грозны, нават шклянку ад сябе адсунуў.

І тут Волька прыйшла на дапамогу.

— Адчапіцеся вы ад чалавека. У яго твар стаў велічынёй з тварык маёй старой лялькі — змучыўся ўвесь. У школе пытаюцца: «Гэта твой брат артыкул напісаў?»

Старыя пераглянуліся, і бацька пачаў ужо больш міралюбіва:

— Можа, гэта і сапраўды не наша справа, але нам, зразумей ты, неяк трывожна за цябе.

— Не трывожцеся, у мяне ўсё ў парадку, і, як ніколі раней, вы павінны быць спакойнымі.

Волька пайшла вучыць урокі, маці пачала звінець посудам на кухні, а бацька прыйшоў да мяне «цыгарэту спакойна выкурыць».

— Ты прабач, што я за сталом пілаць цябе стаў. Маці, сам разумееш, прычапілася — пагаворы ды пагаворы... А са мной можаш па-мужчынску.

І я расказаў бацьку пра Таню.

— А ты нічога не наблытаў, не памыліўся? — спытаў ён.

— Здаецца, не. Я ўпэўнены, што не памыліўся.

— Ну і справы! — Ён устаў, падышоў да акна.— А можа, яно і лепш. Толькі ты ж ніколі нічога не расказваў аб сваіх справах з Наташкай, мы з маці і думаць нічога такога не маглі.

За дзвярыма былі чуваць неспакойныя крокі маці — то стул пераставіць, то посудам ляпне.

— Пайду скажу, што хваляванне было дарэмным. Але ж глядзі, каб потым у жыцці не кусаў сябе за локці.

## 13

«Воскресенье, день весенний»,— напявае Волька за дзвярыма. Я нацягваю коўдру на галаву, каб не даць сну адысці, і мне гэта амаль удаецца, але тут зазвінеў тэлефон. Цяпер ужо я не засну.

— Ты ўсё дрыхнеш? — крычыць у самае вуха Кастусь.

— Што табе трэба? — незадаволена бурчу я.

— Ну і нахабнік! Я спецыяльна да аўтамата выбег, бо не маю персанальнага апарата, а ён?! Ты на скачкі едзеш?

Я зусім забыўся. Учора ён прычапіўся да мяне са сваімі скачкамі, і я прасіў яго пазваніць. Планаў на нядзелю ў мяне ніякіх, і я згаджаюся.

— Выдатна! Ты такое ўбачыш... Сустракаемся роўна праз гадзіну на аўтавакзале. Можаш ежы з сабой узяць, там заўсёды штурханіна ў буфеце, не прабіцца.

Волька прасунула галаву ў дзверы.

— Ты куды збіраешся ехаць?

— На скачкі.

— Вазьмі і мяне з сабой. Я там ні разу не была. Ну, калі ласка.

А што, гэта ідэя! З такой сястрой не сорамна паказацца сярод знаўцаў стайні.

— Тады накладвай у мой дыпламат пабольш ежы.

Кастусь ужо нерваваўся на аўтобусным прыпынку. Побач была яго жонка — такая ж маленькая і худзенькая. Прыгразіў мне кулаком, але, зразумеўшы, што Волька са мной, адразу сцішыўся.

— Я тваю сястру ледзь пазнаў!

У аўтобусе было не прадыхнуць.

— Дарэмна я паехала, але ён так прычапіўся! — паскардзілася Кастусёва жонка.

— І да мяне таксама,— супакоіў я яе.

— А мне вельмі падабаецца.— Волька падміргнула Кастусю.— Нават у аўтобусе пахне konьмі.

На скачках Кастусь не сціхаў ні на хвіліну.

— Калі б вы ведалі, што гэта за людзі — жакеі! Жыццё ў іх метэорскае: р-раз, і ты ўжо стары! Як у балеце. Жакей, нават майстар, хутка адыходзіць у мінулае пры ўсёй сваёй сіле, маладосці. Вы паглядзіце, як яны трымаюцца ў сядле!

Недзе я ўсё гэта чуў. Успомніў! Ну, вядома, артыкул аб конях у адным з часопісаў, яго, Кастуся, артыкул.

— Ты што, усе свае творы, як паэт, ведаеш на памяць? — спытаў я.

Кастусь пакрыўдзіўся і сціх, але ненадоўга.

— Да вашага ведама, Куприн быў адным з лепшых знаўцаў стайні і скакуноў,— зноў пачаў каменціраваць скачкі Кастусь.— Ён нават каня некаторы час трымаў у сябе ў пакоі, каб як след спасцігнуць «конскую псіхалогію».

І пра гэта я чытаў у ягоным жа артыкуле, але прамаўчаў. Мы глядзелі скачкі і елі прыгатаваныя Волькай бутэрброды.

— Не разумею, як можна есці ў час скачак? — абурыўся Кастусь, а потым ужо не звяртаў на нас увагі — ён ператварыўся ў звычайнага каляспартыўнага псіхапата — крычаў, ускокваў з месца, біў сябе кулакамі ў грудзі і ў выніку — ледзь не счапіўся з нейкім падпітым чалавекам, які абазваў клячай каня, на якога Кастусь паставіў.

Відовішча закончылася, Кастусёў пятак «плакаў», і ён уздыхнуў:

— Ён павінен быў выйграць! Проста гэта недарэчнасць. Як ён ішоў! А які жакей!.. Гэта ж сам Апанасенка — двухразовы пераможца Кубка Еўропы, прызёр Трыумфальнай аркі і Вашынгтонскага кубка!

Знаёмыя Кастуся па стайні прапусцілі нас наперад,

і мы запілі бутэрброды свежым бачкавым півам. І тут я ўбачыў Наташу. Дакладней, першым яе ўбачыў Кастусь. Ён адразу замітусіўся ў мяне перад вачыма, каб я нічога не заўважыў. Наташа садзілася ў машыну. Побач былі нейкія незнаёмыя юнакі і дзяўчаты.

Кастусь павёў плячыма, а Волька пацягнула мяне за рукаў.

— Глеб, пайшлі адсюль.

Я засмяяўся.

— Дурні вы, ды гэта ж цудоўна, вы нават не ўяўляеце, як гэта здорава!

— Слухай! — сказаў Кастусь сваёй жонцы.— Ты заўсёды абзываеш мяне псіхам, але ты ніколі не бачыла сапраўднага вар'ята! Вось ён! — і Кастусь тыцнуў у мяне пальцам.

Я адправіў Вольку дамоў і паехаў да жонкі Іванова. Я не бачыў яе пасля пахавання і цяпер не асмельваўся націснуць на кнопку званка. Я пахадзіў па невялікай пляцоўцы, выкурыў цыгарэту.

Таня адчыніла дзверы. Яна схуднела за гэтыя дні, проста цяжка пазнаць.

— Добры вечар. Ты прабач, Таня, але мне неабходна было прыйсці.

З пакоя лілося чырвонае святло і даносілася ціхая музыка. Я ведаў, што яна зусім адна. Бацькоў у яе няма, памерлі, калі яна была яшчэ маленькай, а старыя Іванова — у далёкай вёсцы.

Я стараўся ўсё хутчэй ёй сказаць і пайсці.

— У рэдактара з'явілася ідэя — арганізаваць выстаўку работ Іванова ў Саюзе журналістаў.

— Добра, няхай будзе такая выстаўка,— згадзілася яна.— Саюз мастакоў таксама збіраецца наладзіць яго выстаўку. Хутчэй за ўсё летам.

— Таня, ты ведаеш пра той пакой у майстэрні?

— Так, ведаю. Толькі я там не была. Ён прасіў не заходзіць. Абяцаў пазней усё паказаць... Ён часта

там працаваў перад ад'ездам. Я не была ў майстэрні з таго часу, як ён паехаў... Ты сядай.

Я прысеў у крэсла. Яна прынесла чай у знаёмых мне кубках.

— Што ў цябе чуваць? — спытала яна.

— Усё добра.

Яна прачытала ў маіх вачах пытанне: а як ты? Сказала ціха:

— Мне ўсё здаецца, што ён выйшаў на хвілінку і хутка прыйдзе, загрыміць з парога: «У-ух, старуня, сто пудоў гліны сёння перакідаў. Нешта будзе...»

— Ведаеш што, паехалі зараз жа ў майстэрню.

Яна згадзілася:

— Паехалі. Я ўвесь час адна, нікога не магу бачыць. Усе суцяшаюць, а ад гэтага зусім жыць не хочацца.

Таксі доўга не траплялася, і мы ішлі пешшу, крыху праехалі аўтобусам. Яна падала мне ключ:

— Не магу я. Адчыні сам.

Запалілі святло. Быццам учора выйшаў ён адсюль. Чорны халат на старым крэсле, пастаянны пах тытуню. Пасярэдзіне майстэрні — пачатая скульптура. Цяжка сказаць, што ён задумаў. Цяпер нікому аб гэтым не дазнацца. Я пачуў усхліпванне. Сеў насупраць.

— Таня, пастарайся не плакаць.

Яна, як магла, змагалася са слязьмі:

— Ён любіў расказваць пра двух маленькіх папугайчыкаў. Не помню, як яны называюцца... Яны не могуць жыць адзін без аднаго. Калі памірае адзін, другі таксама памірае. Ён памёр, а я жывая...

Яна паднялася і зрабіла некалькі крокаў па майстэрні.

— Можа, сёння не варта адчыняць гэты пакой? — Я кіўнуў галавой на дзверы, што цямнелі ў далёкай сцяне.

Яна адмоўна паківала галавой:

— Трэба адчыніць. Пойдзем, Глеб.

Таня штурхнула дзверы і ўключыла святло.

Пасярод пакоя стаяла вялікая гранітная скульптура. Метраў каля трох вышынёй. Спакойнай сілай павявала ад твару чалавека.

— Ён называў гэту работу «Сучаснік»,— парушыла маўчанне Таня.— Усё гаварыў: «Вось закончу «Сучасніка»...»

— Хто яму пазіраваў?

— Не ведаю. Ён нічога не казаў пра гэта. Скульптуру ніхто не бачыў, мы першыя. Ён больш як год над ёй працаваў, вельмі хваляваўся і нікога не пускаў сюды. Нават мяне.

Вечар усё больш зацягваўся хмарамі і ператвараўся ў непраглядную цемрадзь. Я павольна ішоў дамоў і ўспамінаў Іванова. Цікава, што б ён сказаў пра Наташку? Мяне так і парывала знайсці для яе рэзкія словы, але чаму, якое гэта цяпер мае значэнне? Ніякага... Засталася прывычка думаць аб ёй, і не больш. Была ўжо амаль ноч, але я пазваніў Алёшу Паповічу. У яе быў сонны, стомлены голас.

— Калі б ты ведала, як я хачу ўбачыць цябе!

## Замест эпілога

Праз некалькі дзён пазваніў Галубовіч. Голас у яго быў усхваляваны.

— Лёньку адпусцілі, узяўшы распіску аб нявыездзе. Варашуху даручана весці расследаванне нанава.

Як мне захацелася ўбачыць Лёньку, пагаварыць з ім! Я ўсё расказаў рэдактару.

— Не бачу асаблівай неабходнасці ў гэтай камандзіроўцы. Віншую цябе, усё ў парадку, а цяпер — за работу.

Але я не выходзіў. Я думаў пра Паповіча. Я проста не магу ўпусціць такі шанс і не ўбачыць яе. Гэта ж так важна для нас абодвух.

— Вы разумееце, мне вельмі трэба з'ездзіць, проста пазарэз. Да таго ж я мог бы прыняць удзел у расследаванні або знайсці якую-небудзь іншую тэму.

— Да таго ж, гаворыш,— рэдактар усміхнуўся.— Ты так прагнеш гэтай камандзіроўкі, нібыта яна ў цябе самая галоўная...

— Сапраўды, самая галоўная,— сказаў я.

## ДНІ, ЯК УСЕ ІНШЫЯ

### 1

З малых гадоў Мацей Захарэвіч быў вельмі ўпарты. Неяк, гадоў дзесяць ён меў або крыху больш, надумаў саскочыць са струхлелай крапаснай сцяны, якая тырчала з зямлі каля самага дома. Хлапчукі пачалі яго адгаворваць, а Мацей на сваім стаіць, маўляў, усё роўна саскочу, а каб палёт затармазіць, вазьму з сабой матчын парасон ды і палячу, як на парашуце. І паляцеў. Парасон, вядома, не памог, і праз некалькі імгненняў Мацей курчыўся на зямлі, але не крычаў, хоць урач у бальніцы і выявіў у яго прамы пералом нагі. Такіх прыкладаў у жыцці Мацея было шмат. Мусібыць, таму і характар Мацея не ўсім даспадобы — занадта яршысты бывае ён, калі нешта сваё задумае.

Колькі ўжо дзён прайшло, як зняў Захарэвіч сваю сержанцкую форму і пакінуў яе дома, у невялікім пасёлачку кіламетраў за трыста ад Мінска, а ўсё ніяк не мог знайсці чалавека, які вельмі быў патрэбны яму. З гэтым чалавекам — Мікалаем Сямёнавічам Шэпелем — былі звязаны ўсе надзеі Мацея ў апошні год перад дэмабілізацыяй. Да арміі Захарэвіч разам з Шэпелем на суседніх участках працавалі, а дакладней, ён на даробчым участку, а Шэпель — на такарным механічнага цэха № 5 вялікага, але вельмі старога завода. Абсталяванне ўстарэла, а план рос, завод яго не выцягваў, і, як гаварыў другі таварыш Мацея па ўчастку Радый Урбановіч, па мянушцы Радый Уранавіч, дзецям на малако тут цяжка было зарабіць.

Шэпель цвёрда абяцаў Мацею памагчы пасля арміі ўладкавацца на завод, міма якога ён не мог прайсці без хвалявання — завод электронных вылічальных машын, самы складаны і мадэрнавы ва ўсім горадзе,

ды і не толькі ў ім. Мацей і сам мог бы пайсці ў аддзел кадраў: так і так, вазьміце. І ўзялі б — адукацыя ў яго для працавітага чалавека добрая — дзесяць класаў, а ў атэстаце ні адной тройкі, тым больш пасля арміі, сержант. Але не хацеў рызыкаваць. Некаторы вопыт у яго ўжо быў — пайшоў тры гады назад у аддзел кадраў свайго завода (завод гэты знаходзіўся побач з домам цёткі, у якой Мацей жыў), і накіравалі яго на ўчастак даробкі — завусеніцы з дэталяў збіваць. Цяпер жа Мацею хацелася стаць настройшчыкам электронных машын. Мацей ведаў, што прафесія складаная, вучобы патрабуе, і ён гатовы быў у вучнях хоць цэлы год хадзіць... Але сам ісці ў аддзел кадраў баяўся: раптам заняты ўсе месцы на ўчастку настройкі, а тады ўжо без знаёмства не абысціся.

У Мікалая ж Сямёнавіча такое знаёмства было — з'явіўся ў яго на заводзе электронных вылічальных машын далёкі родзіч, да таго ж старшы майстар, ён Шэпеля да сябе на завод і перацягваў, а той у сваю чаргу абяцаў Мацею памагчы.

Толькі Шэпеля ён ніяк не мог знайсці. Ён не ведаў, дзе жыве Мікалай Сямёнавіч, і вырашыў шукаць яго на рабоце. Раніцой адправіўся да прахадной завода. Людзі ішлі і ішлі, пакуль восем не прабіла. Шэпеля сярод іх не было. І ў другую змену ён таксама не выйшаў. Мацей уяўляў, як гэтыя людзі-шчаслівчыкі там, за прахадной, займаюцца складанай і цікавай справай, аб якой ён ужо колькі часу марыць, ды ўсё без толку.

Некалькі дзён бадзяўся Мацей ля прахадной, але Шэпеля так і не ўбачыў. Тады ён вырашыў, што, магчыма, Шэпель пайшоў у адпачынак, грэецца дзе-небудзь на сонейку, а ён яго тут чакае тыдзень ці больш.

Мацей пабег у бюро даведак. Высветлілася, што Шэпель Мікалай Сямёнавіч у горадзе не жыве.

— Як гэта не жыве?! — зашумеў Мацей на дзяў-

чыну, якая паглядзела на яго з цікаўнасцю. І адразу ж успомніў — і на самой справе, не жыве Шэпель у горадзе. Гэта так. Дом у яго ўласны, але за гарадской мяжой. Шэпель гэтым нават ганарыўся: у яго там паветра, што ў лёгкія не месціцца, лес побач, рэчка, а ў горадзе ён больш як сем гадзін знаходзіцца не можа...

Засмучоны прыйшоў Мацей у інтэрнат, дзе ён спыніўся на пару дзён у свайго аднакашніка і земляка Сяргея Вольскага. Абодва яны пасля школы прыехалі сюды ў інстытут паступаць — Мацей у політэхнічны, на механіка вучыцца, а Сяргей — у інстытут народнай гаспадаркі, каб пасля заканчэння таваразнаўцам стаць. Толькі нічога ў іх з гэтага не атрымалася — Мацей не прайшоў па балах, а Сяргей і зусім заваліўся. Мацей тады сабраў у чамаданчык свае рэчы, каб ехаць дамоў, ды Сяргей яго адгаварыў.

— А дзе ты дома будзеш працаваць? На прамкамбінаце дошкі перакідваць? Навошта тады было школу заканчваць? Для таго каб дошкі цягаць, шмат розуму не трэба. Ды і ад суму ў нас памерці можна — тры старых ды два калекі, вось і ўсё насельніцтва. Не, я ў горадзе застаюся. Работку падшукаю, тут яе колькі хочаш, а там, на наступны год, зноў у інстытут падамся. Я знайшоў, у чым мая памылка. Мяне цяпер так проста не заваліш...

Мацея доўга ўгаворваць не давялося. Ехаць дамоў не хацелася. Вольскі меў рацыю — ад суму не памрэш, ды і работы добрай з агнём не знойдзеш.

Сяргей на аўтабазу шафёрам уладкаваўся, а Мацей на завод вучнем пайшоў.

Сябар праз месяц-другі з яго пасмейваўся:

— У мяне сто — сто трыццаць заўсёды ёсць, а ты ўсё на свае трыццаць шэсць вучнёўскіх капусту сёрбаеш.

Хутка Вольскага ў армію прызвалі, ён амаль на год старэйшы за Мацея быў. Прыйшоў з арміі раней і ця-

пер зноў працуе шафёрам на сваёй ранейшай аўтабазе. У арміі ўмудрыўся першы клас атрымаць, далі яму новую машыну, у далёкія рэйсы пасылаюць.

Мацей у яго пра паступленне ў інстытут запытаў.

Сяргей рукой махнуў:

— А мне і так хопіць. Пад тры сотні выгарае, ды яшчэ з халтуры часам перападае. А што інстытут дасць? Пяць гадоў загублю і за сотню або, у лепшым выпадку, за паўтары на завод? Не, мне і за баранкай добра... А на мой век машын хопіць. Ды і праз сто гадоў робатаў за баранку не пасадзяць.

Мацей думаў пра ўсё гэта, ідучы да інтэрната. Ён узняўся ўжо на чацвёрты паверх, але потым, успомніўшы, што Сяргея няма, спусціўся да дзяжурнай. Яны пазнаёміліся ў першы вечар, калі з Сяргеем адзначалі сустрэчу. Дзяжурная прынесла ім нават салёных агуркоў. З таго самага вечара Мацей з ёй пасябраваў: яна яму абяцала кватэру знайсці, а ён ёй насіў кожны вечар цукеркі, ад якіх яна спачатку адмаўлялася, а потым пачала складваць у шуфляду стала, зазначаючы: «Унучаццы занясу. Яна ў мяне дужа салодкае любіць».

— Ты так хутка прашмыгнуў міма, што я і слова сказаць не паспела, толькі спіну тваю ўбачыла,— сказала дзяжурная.— Сяргей-та паехаў або не сказаў? Так што ключык вазьмі.

Ён узяў у яе ключ, а потым перадумаў, аддаў ключ назад.

— Рана яшчэ. Аднаму сумна сядзець у пакоі. Пайду куды-небудзь.

— Напэўна, дзяўчыну паспеў знайсці ці былая знаёмая? — спытала дзяжурная і прыжмурыла вочы.

— Ні старых няма, ні новых,— засмяяўся Мацей, успомніўшы, што яна вельмі строга сказала ў першы ж вечар: «Жыць — жыві, толькі дзевак не вадзі! Ні днём, ні нанач».

Ён выйшаў на вуліцу, не ведаючы, куды падацца. Стаў пасярэдзіне тратуара, трымаючы рукі ў кішэнях, і людзі абыходзілі яго бокам, не абураючыся, думаючы, напэўна, што ён п'яны. Ад гэтай думкі Мацей чамусьці павесялеў і адразу ж знайшоў рашэнне — схадзіць да цёткі. Усё ж прытуліла яна яго на цэлых паўгода. Ён толькі пасля зразумеў, што каштавала ёй пайсці насуперак свайму мужу Васілю. Ён быў увогуле дзядзька нядрэнны, але страшэнна баяўся, каб Мацей яго не аб'еў, не парушыў яго спакойнае жыццё.

2

Мацей выйшаў з трамвая ў новым раёне, дзе ў кааператыўным доме ў трохпакаёвай кватэры жыла цётка з мужам і дзецьмі — сынам і дачкой. Раён за два гады яшчэ больш вырас, з'явілася шмат новых, дзевяціпавярховых дамоў, вуліцу, некалі брудную, у лужынах, заасфальтавалі, з'явіліся ліхтары, з якіх лілося дзённае святло.

Мацей ведаў, што дзядзька Васіль працуе рубшчыкам мяса ў гастраноме каля самага дома, і без цяжкасці знайшоў гэты гастраном, які быў яшчэ адкрыты. Народу ў магазіне было вельмі многа, асабліва ў аддзеле, дзе прадаюць гарэлку і віно. Гэта і зразумела — на гадзінніку без чвэрці сем, хутка на прылаўку застануцца шампанскае, каньяк ды сухія віны, на якія грошай трэба значна больш, чым, скажам, на звычайны партвейн. Мацей каля гэтага аддзела абыякава праходзіў і да арміі. У арміі ж ён ад віна зусім адвык і, пасля таго як яны з Сяргеем адсвяткавалі сустрэчу, два дні хадзіў як у тумане, усё не мог адысці ад тупога болю ў галаве. Сяргей над ім падсмейваўся: маўляў, яны ў сваёй часці ў звальненнях умудраліся так добра выпіваць, што і начальства не заўважала...

Сёння трэба ўзяць хоць бы бутэльку віна. Ну, ды

гэта дзядзька Васіль хутка зробіць, а пару рублёў яму Мацей дасць, каб пасля гаворкі не было.

Дзядзька Васіль быў на месцы. Яшчэ больш патаўсцеў, у белым, месцамі запэцканым халаце, ён спрытна рассякаў тушу на роўныя кавалкі. Жанчыны ў чарзе раз-пораз давалі яму парады. Асабліва тыя, што стаялі наперадзе і чакалі свайго кавалка мяса.

— Ты, сынок, мне кавалачак добры адсячы, на катлеткі ўнукам,— асіпла паўтарала старая, самая першая ў чарзе.

— Як атрымаецца, цётачка,— паміж ударамі сякеры гаварыў Васіль.— Усім вам добры кавалак хочацца, а косці ніхто спісваць не будзе. Нам усё трэба прадаць — і мяккія кавалкі, і цвёрдыя.

Ён нарэшце расклаў мяса на прылаўку, і тады падышла прадаўшчыца. Дзядзька Васіль выцер пот з твару і сабраўся пайсці за вузкія ацынкаваныя дзверы, якія вялі, напэўна, на склад. Тут яго Мацей і паклікаў. Дзядзька Васіль неахвотна азірнуўся, думаючы, напэўна, што нехта просіць адсячы кавалачак мяса, але, убачыўшы Мацея, заўсміхаўся ва ўсю шырыню свайго тоўстага, без маршчынкі, твару.

— Мацей! Мне Ганна гаварыла, што ты вярнуўся. Дык вось які ты! Першы клас хлопец.

— І вы таксама — першы клас! — сказаў Мацей.

— Не жартуй, браток. Тоўсты я таму, што сэрца пачало трывожыць... Ты вось што — выходзь на вуліцу і чакай мяне. Я з шэфам у добрых адносінах, думаю, адпусціць. Ды і мяса я сёння гару цэлую насек, няхай ядуць на здароўе.

Не паспеў яму Мацей і слова сказаць наконт віна, як дзядзька Васіль борздзенька схаваўся за дзвярыма. Мацей падышоў да віннага аддзела, якога добра і бачна не было з-за натоўпу мужчын. Нейкі спагадлівы, з тых, што стаяў наперадзе, напэўна, пашкадаваў Мацея — не дастанецца ж яму да сямі, калі ў хвост

чаргі стане, а магчыма, у кампаньёны сабе прыкмеціў. Ва ўсякім выпадку, прапанаваў Мацею свае паслугі:

— Што табе ўзяць, хлопец? Давай грошы...

— Бутэльку партвейну і пачак «Прымы».

— Ты лепш «Біле міцне» вазьмі, «біяміцын» па-нашаму, ад яго толк будзе, а ад партвейну толку ніякага, павер мне, дзядзьку Колю. Я ўсё ў гэтай справе і нават больш, чым трэба, ведаю...

— Добра, давай «біяміцын»,— згадзіўся Мацей, зразумеўшы, што ад дзядзькі Колі не адчапіцца. Тут на дзядзьку закрычалі, чаго, маўляў, сваіх у чаргу прыстройваеш, ды яшчэ рэкамендацыі даеш.

— Хопіць вам, языкі параспускалі! — ціха, але ўпэўнена сказаў дзядзька Коля.— Свой хлопец гэта, зразумела? Разам мы і яшчэ каго-небудзь з сабой прыхапіць можам, толькі не языкастых.

Мацей засунуў у кішэню штаноў бутэльку і паспяшаўся развітацца з дзядзькам Колем, які ад яго ні на крок не адставаў, прапаноўваючы і на самой справе пайсці разам.

— Не магу, чакаюць,— сказаў Мацей.

— Свая, значыцца, кампанія,— панура вымавіў дзядзька Коля.

Аказваецца, Васіль стаяў збоку і за ўсім гэтым назіраў.

— І што за алкаш да цябе прывязаўся?

— Незнаёмы чалавек. Зрабіў паслугу — бутэльку без чаргі ўзяў.

— Захапляешся?

— Ды не. Нават наадварот.

— Гэта добра. А сустрэчу мы гарэлачкай адзначым. Яна ў мяне ў халадзільніку стаіць. Закусачку я прыхапіў. Ганна адбіўныя па-англійску зробіць — пальчыкі абліжаш. У арміі цябе такім не прыкармлівалі.

— Гэта праўда ўжо, біфштэксу па-англійску не давалі,— згадзіўся Мацей.

Дзверы ім адчыніла Ганна Іванаўна, Мацеева цётка па маці. Яна абняла Мацея і пацалавала ў лоб.

— Зусім мужчынам стаў, зусім дарослы.

— Ты нюні не распускай, а ідзі на кухню. Закуску нам гатуй.— Васіль падаў ён пакунак.

Цётка быццам бы толькі цяпер убачыла мужа.

— А дзе гэта вы сустрэліся?

— Мацей малайчына, у магазін па мяне зайшоў, не забыў сваяка!

Яны селі ў мяккія крэслы, і Мацей не ведаў, куды пакласці рукі.

Дзядзька Васіль борздзенька накрыў стол сурвэткай, паставіў бутэльку гарэлкі і дзве піва. Мацей дастаў з кішэні свой «біяміцын» і таксама паставіў бутэльку на стол.

Ганна на кухні вельмі хутка справілася з закускай.

— Давайце вып'ем, каб у цябе, Мацей, усё наступнае жыццё, да самай старасці, як па масле ішло,— сказаў Васіль.

Кульнулі па чарцы і ўзяліся есці прыгатаваныя Ганнай Іванаўнай біфштэксы па-англійску. Яны былі пахучыя, мяккія, і Мацей сказаў:

— Такіх я, і праўда, ніколі не еў.

Васіль хмыкнуў задаволена.

— Уся прычына тут у мясе. Каму-каму, а сабе я такі кавалачак у любой, нават самай здохлай, тушы знайду.

— А чым ты, Мацей, збіраешся займацца? — спытала Ганна Іванаўна, упершыню падаўшы голас.

— На завод пайду. Толькі вось чалавека патрэбнага ніяк не магу знайсці — быццам скрозь зямлю праваліўся. Ён мне паспрыяць абяцаў.

— А я ж таксама на заводзе працаваў,— усміхнуўся дзядзька Васіль і, як здалося Мацею, з нейкай унутранай урачыстасцю глянуў на яго.

— Вы?!

— Так. Не чуў ніколі? Давай вып'ем, я табе зараз раскажу. Чалавек ты свой, цябе навесці на розум трэба.

Выпілі яшчэ і яшчэ. Дзядзька Васіль прыкметна захмялеў. Калі Ганна Іванаўна выйшла, растлумачыў:

— Я сёння ўжо таго... Была справа. З хлопцамі паелі як трэба — каньячку ўзялі, балычком закусілі. Дык вось слухай, на заводзе я працаваў, гэта праўда, хочаш, пасведчанне пакажу — токар чацвёртага разраду. Цяпер бы ўжо шосты даўно меў, а магчыма, і ў майстрах хадзіў бы. Але які толк? Я за дзве сотні там працаваў як вол, пасля змены аж у вачах цёмна было, а тут... Сустрэў неяк сябрука свайго былога, ён і кажа, маўляў, жыццё, Васька, праходзіць, у ім, у гэтым жыцці, хоць бы крыху пажыць трэба дзеля сябе, як чалавеку. Ну і ўладкаваў мяне ў гастраном рубшчыкам мяса...

Тут увайшла Ганна Іванаўна, і дзядзька Васіль на секунду замоўк, пасля чаго растлумачыў ёй:

— Я Мацея розуму вучу. Вось на завод збіраецца зноў, а я і кажу — не трэба. Я магу яго ў любы магазін уладкаваць рубшчыкам, свае людзі, дзякуй богу, усюды ёсць... А работа наша, Мацей, прама табе скажу, даходная. Мазгамі, вядома, трэба варушыць. І два чырвонцы ў дзень да заработнай платы мець будзеш. Магчыма, і больш, толькі скнарам быць нельга ў нашай справе. А я чалавек не сквапны... Я адзін каньяк піць магу. Толькі не трэба, не дурань я. Людзі што скажуць, калі я бутэлькі з-пад аднаго каньяку здаваць пачну? А людзі заўсёды бачаць тое, што ім не трэба бачыць.

— Выпіў ты, я гляджу, вельмі многа,— рэзка перапыніла мужа Ганна Іванаўна.— Няхай чалавек сам думае, што яму рабіць. А ты язык менш распускай.

— На завод я пайду,— сказаў Мацей.— З металам працаваць хачу. А потым і ў інстытут. Пазаймацца толькі трэба — забыў я ўсё.

Ён не стаў больш піць і ўстаў, каб ісці, сказаўшы, што позна ўжо і яго могуць не пусціць у інтэрнат.

— Пасядзі яшчэ, дзівак! Ідзі рубшчыкам,— гаварыў дзядзька Васіль, дыхаючы яму ў твар.— Хлопец ты кемлівы, розум маеш. Не спяшайся...

Ужо ў дзвярах, раптам працверазеўшы, дзядзька Васіль спытаў у яго, глянуўшы скоса на жонку:

— А жыць дзе думаеш?

— Ёсць у мяне кватэра. Знайшоў — асобны пакойчык і не вельмі дарага,— схлусіў Мацей.

— Гэта правільна,— павесялеўшы, сказаў дзядзька Васіль.— Самастойнасць — галоўнае. А табе ў жыццё трэба ісці, час ужо. Толькі паслухай мяне. Сам прыкінь — навошта мне табе зла жадаць?!

### 3

Мацей не захацеў выклікаць ліфт і збег па лесвіцы, быццам баючыся, што дзядзька Васіль яго дагоніць і зноў загаворыць, дыхаючы яму ў твар. Блякла свяцілі праз заслону туману ліхтары. Мацей паглядзеў на гадзіннік — у інтэрнат ісці рана. Сумна сядзець у пакоі аднаму.

Ён пайшоў пешшу. І раптам падумаў, што зусім побач адсюль яго былы завод. Нешта варухнулася ў душы, страпянулася сэрца — ён жа назаўсёды вырашыў: назад у цэх даробкі, да напільніка і завусеніц, дарогі няма.

Хутка ён дайшоў да старога завода, які здалёк нагадваў дзівосны карабель, што плыве, пагойдваючыся, праз туман. Дыхаў завод па-начному спакойна. Мацей перайшоў пустыр, дзе некалі быў гарадскі сметнік, і апынуўся на беразе Свіслачы. За ёй, зусім побач, на супрацьлеглым беразе, быў завод. Мацею здалося, што паветра пахне свежым, толькі што з работы, мета-

лам. Яму страшэнна захацелася зазірнуць у свой цэх, дакрануцца рукамі да гарачага металу.

Ён вырашыў адправіцца заўтра на завод, пабачыцца з хлопцамі.

Раніцай, калі ён ішоў у натоўпе, які гусцеў па меры набліжэння да завода, то нічым не адрозніваўся ад іншых рабочых. Толькі раз-пораз круціў галавой па баках у надзеі ўбачыць знаёмы твар. Яшчэ вечарам ён дастаў з чамадана новы касцюм, куплены яму бацькамі адразу ж пасля прыходу з арміі, але так і не апрануў яго. Нацягнуў джынсы, світэр — старую сваю заводскую амуніцыю, і цяпер яму самому здалося, што ідзе на завод не проста так, а заступаць на змену.

Перад самай прахадной пачуў знаёмы голас, ды так блізка, што нават уздрыгнуў. Ён адразу пазнаў Радыя Урбановіча, вядомага на заводзе па мянушцы Уранавіч. Ён стаяў перад Мацеем у яркай клятчастай кашулі, старых джынсах. На галаве ў яго была добра знаёмая Мацею пацёртая замшавая кепка — прадмет асаблівага гонару Радыя. Ён усміхнуўся Мацею, паказваючы два пярэднія залатыя зубы, і моцна сціснуў яму руку.

— А я гляджу і думаю, хто гэта так абцасамі грукае, быццам не працаваць ідзе, а маршыруе на парадзе. Аказваецца, Мацей! Вярнуўся? Не пазнаць цябе! Зусім хлапчуком быў, а цяпер дзяцюк што трэба! Да нас на завод вырашыў вярнуцца?

— Ды не. Хачу на другі ўладкавацца. Толькі чалавек мне адзін вельмі патрэбны, каб памагчы.

— А дарэмна, Мацей! Завод наш змяніўся. Праўда, ужо і тры дырэктары змяніліся. Але трэці сапраўдны!

— Я таксама вельмі рады,— сказаў Мацей. Праўду сказаў, вельмі ўзрадаваўся ён сустрэчы з Радыем. Два гады назад ім проста часу не хапіла, каб стаць шчырымі сябрамі. З Радыем ён адчуваў сябе ўпэўнена, з ім ніколі сумна не бывала. І слова такое скажа, што кожнаму ў душу западзе.

— Ты ўсё завусеніцы збіваеш? — спытаў Мацей, які з першага імгнення думаў аб гэтым.

— Ты што?! Якія завусеніцы?! У нашым цэху цяпер зусім участка даробкі няма. Расшырылі гэты ўчастак у сёмым механічным, а нашы ўсе на месцах засталіся. Некаторыя перавучваліся крыху, а хто і так абышоўся. Прыйдзеш і ўсё сам убачыш.

— Можа, ты дзе-небудзь сустракаў Мікалая Сямёнавіча?

— Шэпеля, ці што? — здзівіўся Радый.— Сустракаў, і не выпадкова. Кожны дзень яго бачу.

Мацей са злосцю плюнуў:

— Вось д'ябал, а я яго, як дурань, ля прахадной завода электронных вылічальных машын пільнаваў. Ён жа збіраўся звольніцца з гэтага завода.

— Гэта правільна, збіраўся і амаль кінуў. Але раздумаў раптам...

Яны падыходзілі да прахадной.

— Давай так: я цябе прыкрыю, а ты мух не лаві — ідзі спакойна, як ні ў чым не бывала,— хуценька сказаў Радый.— Інакш з пропускам навалэндаешся, а без яго не прапусцяць — вахцёр сёння вельмі злы стаіць.

«Вяртушка» падштурхнула Мацея, і адразу ж ён трапіў быццам на зусім незнаёмы завод. Не, цэхі адразу ж за прахадной былі ўсё тыя ж — цёмныя, з пабурэлай і патрэсканай ад часу чырвонай цэглы, з невялікімі, вузкімі вокнамі, але паўсюдна было шмат кветак — чырвоныя, ярка-жоўтыя. І не было пакарабачаных скрынь-кантэйнераў з-пад новага абсталявання, смецця.

— Ну і цуд! — толькі і змог сказаць Мацей.

Радый засмяяўся, моцна паляпаў Мацея па плячы:

— Ну, як, змяніўся наш старэнькі заводзік?! Ідзеш, быццам па праспекце, і дзяўчаты, між іншым, таксама сустракаюцца не горшыя, чым на праспекце.

— Дзяўчат пакуль, прабач, не заўважыў, а завод, і на самой справе, не пазнаць.

— Ты не ведаеш, што тут на заводзе рабілася. Напэўна, высокае начальства вырашыла ўзяцца за завод як след. І так круцілі, і так — а да плана дарога доўгая. Канца ёй не відаць. На ўсіх нарадах завод крытыкавалі. Мне аднойчы таксама ўляцела на нарадзе перадавікоў. Выступае адзін і гаворыць, маўляў, так і так, прадукцыю вы, вядома, добрую выпускаеце, слава аб ёй па ўсёй рэспубліцы, калі нават не па краіне і далей, ідзе, але мала прадукцыі. Гэта ён пасля майго выступлення гэтак прайшоўся па нас.

— А ты што ж?

— А я з залы крыкнуў: а ты прыйдзі да нас на завод ды і выдай план на абсталяванні, якое дажывае свой век. Ты не толькі план, але і дэталь добрую не вытачыш. На мяне, зразумела, з усіх бакоў зашыкалі. Начальства на гэтай нарадзе шмат усялякага было, але я стрымацца не мог.

Гэта было так падобна на Радыя Уранавіча! Некалі, два з палавінай гады назад, Мацея ўпісалі ў дружыну. Радый у іх цэху за дзяжурства адказваў. Пайшлі яны ў суботу дзяжурыць разам у парк. Гадзін у дзесяць ля танцпляцоўкі пачалася бойка — нейкі хлопец біў дзяўчыну. Яна закрывала твар рукамі, але гэта ёй не вельмі ўдавалася. Радый схапіў хлопца ззаду за рукі, але той вырваўся. Мацей зрабіў падсечку, і хлопец расцягнуўся на асфальце. Радыя, збялелага ад злосці, нельга было ўтрымаць. Ён некалькі разоў тузануў хлопца, прыгаворваючы пры гэтым:

— Вось табе, гад...

Потым, калі яны разыходзіліся па дамах пасля дзяжурства, Радый сказаў:

— Вы, хлопцы, прабачце. Але не мог я стрываць.

Яны прайшлі амаль увесь завод, пакуль не дайшлі да свайго цэха.

— Цікава ведаць, ці пазнаюць хлопцы,— сказаў Радый.— Шчыгол шчыглом быў, пушок на верхняй губе — ты толькі не сярдуй за такое параўнанне, а цяпер — мужык.

Першым, каго яны ўбачылі ў раздзявалцы, быў Мікалай Сямёнавіч. Ён моцна паціснуў руку Мацею, прыгаворваючы:

— Пачакай, пачакай, дай я на цябе пагляджу як след.

— Ды што яго разглядваць? Байцом стаў сапраўдным, а такім у агонь і ў ваду можна ісці,— сказаў Радый, падміргваючы Мацею.— А ён вас, Сямёныч, шмат дзён ля прахадной завода электронных вылічальных машын пільнаваў. Адрас шукаў па ўсіх бюро даведак, а на завод, дурань, прыйсці не здагадаўся.

— Няўжо?!

— Было такое, Мікалай Сямёнавіч. Памятаў я нашу размову аб пераходзе на завод электронных машын. Думаў — вы ўжо там даўно. Вось і тырчаў перад пачаткам кожнай змены каля прахадной.

Шэпель развёў рукамі:

— Памятаю, была такая размова. Быў час, як кажуць, без агеньчыка працавалі — то дэталяў няма, то яшчэ якая затрымка. Ды і план кожны месяц не выконвалі. Заробкі малыя былі. Ды не ў тым справа. Вам, маладым, грошы больш патрэбны — у мяне дзеці, дзякуй богу, самі зарабляюць, дом ёсць таксама, але не магу я працаваць, калі не цікава мне. Вось і думаў пайсці на той завод і цябе з сабой узяць. Але за гэты час многае змянілася.

— І яшчэ як! — перапыніў Шэпеля Радый.— Наш Мікалай Сямёнавіч пад старасць угару пайшоў. Пакуль ты ў арміі быў, ён над кніжкамі сядзеў.

Мацей адразу ж заўважыў, што Шэпелю вельмі хочацца падправіць жоўтыя ад тытуню канцы сваіх пушыстых вусоў. Ён заўсёды гэта рабіў, калі яму было

добра на душы — за гэту звычку за ім нават мянушка прычапілася «Дзядзька Коля вышэй-вус». На гэты раз рука на паўдарозе спынілася.

— Ты кінь, Уранавіч! Надакучыла ўжо — і самому б не шкодзіла калі-нікалі кніжку адкрываць. Дэтальку ж сапсаваў у апошні раз, і класічна сапсаваў. А чаму? У чарцяжы блытаўся, як у цёмным лесе.

Радый ад гэтых слоў нават рот адкрыў. Мацей ведаў — не змоўчыць ён, і вырашыў супакоіць:

— А чаго гэта вы, Мікалай Сямёнавіч, за навуку раптам узяліся? Здаецца, такога ў вас раней не было.

— І дрэнна, што не было.— Шэпель усё ж дакрануўся да вусоў. Але не стаў закручваць іх, а проста пацерабіў.— Тут вось што атрымалася. Падаў гэта я заяву на звальненне. Пры цяперашнім ужо дырэктару. І раптам — выклікаюць мяне да яго. Прыйшоў. Мужчына перада мной маладжавы, падцягнуты. Цыгарэты адну за адной выкурвае. Без такіх, як вы, Мікалай Сямёнавіч, кажа, завод мне не выцягнуць у строй нармальных і перадавых. Пачаў аб планах сваіх гаварыць.

Радый усміхнуўся:

— Сямёныч пры словах аб плане аж слязу пусціў. Пасля ўвесь цэх яму хустачкі прапаноўваў — свая ўся ад слёз была мокрая.

— Ды кінь ты! — спыніў яго Шэпель.— І што за натура ў цябе такая — так і наравіш з чалавека пакпіць... А пасля дырэктар і прапанаваў мне ў майстры падацца, у сувязі з тым, што цэх пераабсталёўваецца, а людзей вопытных мала. Ну і пайшоў я, Мацей, у школу майстроў. Два гады назад. Думаў, не вытрымаю, а быццам бы і нічога!

— Значыцца, вы цяпер наш майстар? — міжволі вырвалася ў Мацея слова «наш». Быццам бы ён ужо ў цэху працаваў. Але ў Шэпеля гэта слова не прайшло па-за ўвагай.

— Вось, ваш майстар. Твой і вось яго, на вялікі

жаль, таксама. Ты давай, Мацей, прыходзь зноў на завод. Нечага табе рабіць на другім заводзе. Усё ж як-ніяк, а год да арміі адпрацаваў у нас. Хлопцы часта добрым словам успаміналі, вось Радый не дасць схлусіць.

— Правільна, успаміналі,— пацвердзіў Радый.— Асабліва той выпадак, калі майстар Аляхновіч цябе, рыцара завусеніц, ад новенькага такарнага станка адцягнуў.

Мацей адчуў, што чырванее.

— Нічога не зробіш, было і такое,— развёў ён рукамі.— Дзе цяпер Аляхновіч?

— У другі цэх перакінулі, на ўмацаванне,— сказаў Радый.

— Гэта нядрэнна. Я па ім не буду плакаць.

Мікалай Сямёнавіч пераапрануўся, Радый таксама, і яны ўсе разам накіраваліся ў цэх. У цэху стаяла непрывычная цішыня. Такое бывае перад пачаткам першай змены. Толькі дзе-нідзе паміж станкамі людзі мітусяцца. Да пачатку змены яшчэ чвэрць гадзіны.

— А варштата свайго не шукай,— сказаў Мікалай Сямёнавіч.

Мацей падышоў да такарнага станка, які стаяў каля самага прахода.

Тут быў раней іх участак. І ён па сем гадзін у дзень завусеніцы збіваў, а потым стаяў і стаяў каля такарных, фрэзерных станкоў, стаяў і глядзеў. Майстар Аляхновіч яму сказаў, пасміхваючыся:

— Ты не глядзі дарэмна — пакуль яшчэ не дарос да такіх агрэгатаў.

А ён ціхенька — часам у абед або пасля змены — ішоў працаваць на станках. Хлопцы да яго прывыклі. Часам нават давалі папрацаваць, а самі ішлі перакурыць. Аднойчы Мацея прыкмеціў майстар. Ён пачаў адцягваць яго ад станка, а Мацей, учапіўшыся, прыгаворваў:

— А сілы ў мяне крыху больш!

На Аляхновіча пасля гэтага выпадку карыкатуру намалявалі ў заводскай насценгазеце з подпісам: «Адносіны Аляхновіча да тэхнічнага прагрэсу». Аляхновіч, убачыўшы Мацея, бурчаў: «Праславіў мяне на ўвесь свет»,— але да станкоў пачаў падпускаць. Калі-нікалі Мацей замяняў прагульшчыкаў. Асабліва ў тыя дні, калі план гарэў і работы было шмат.

— Той самы станок, аляхновіцкі! — усміхнуўся Мацей.— Як жа часта я яго ўспамінаў! Так часам хацелася стружку паганяць!

— Цяпер колькі хочаш ганяй... Ты мне, ветэрану-працаўніку, павер,— Радый стукнуў сябе кулаком у грудзі. І тут жа дадаў: — Ты паглядзі толькі! Хлопцы ўжо дым пускаюць.

Ён паказаў у той бок, дзе была курылка. Па сутнасці, гэта была не курылка, а пляцоўка паміж паверхамі. Курылка знаходзілася ў другім месцы, чамусьці далёка ад цэха, і хлопцы аблюбавалі гэту пляцоўку. Спачатку начальству гэта не падабалася, а потым і яно прывыкла — на пляцоўцы крэслы паставілі і урны, каб цыгарэты па закутках не валяліся. Часам сам начальнік, асабліва ў гарачыя дні, выбягаў сюды выкурыць цыгарэтку-другую.

— Вы пакурыце, а я ў сваю канторку патэпаю, трэба такія-сякія паперкі з раніцы перагледзець,— сказаў Шэпель.— Ты, Мацей, да мяне потым забяжы. Абмазгуем, што і як.

Радый шаркнуў нагой:

— Начальству свая дарога, нам — свая,— і падштурхнуў Мацея да дзвярэй.

На прасторнай пляцоўцы паміж паверхамі было поўна дыму. На лаўках, старых, выцертых да бляску, сядзяць даўнія знаёмыя Мацея. Сярод іх — і Арцём Васюшкін, выдатны токар, былы марак Балтфлоту. Люльку пакурвае Сяргей Здольнік. Ён, напэўна,

хутка інстытут заканчвае. А на завод Сяргея пасля школы прывёў яго бацька, ці то прафесар, ці то дацэнт. Спачатку, гавораць, з ім давялося павалэндацца, а пасля станок у Сяргея працаваў так, што ўсе аж дзіву даваліся.

Вася Палуян не курыць, але ў курылку прыходзіць кожны раз, проста так, для кампаніі. Чалавек ён спакойны і нават завельмі — здараецца, за дзень слова ад яго не пачуеш. І зараз сядзіць моўчкі, зрэдку дым ад сябе адганяе...

— Прывітанне кампаніі! — праграмеў Радый, і не паспелі яму адказаць, як адразу ж спытаў: — Пазнаеце?

— Як не пазнаць! — усклікнуў Здольнік.— Быццам учора яшчэ гэты хлопец завусеніцы напільнікам шараваў, а пасля ля майго станка круціўся.

— Гэта праўда,— падтрымаў яго Васюшкін.— Быццам учора выйшаў, а сёння вярнуўся. Моцным хлопцам стаў, быццам не ў пяхоце служыў, а ў марфлоце. Хоць пасля марфлоту ты яшчэ лепш бы выглядаў, пяхота...

— Цяпер пяхоты няма,— сказаў Мацей незлаславіва.— Даўно ты, Арцём, у арміі служыў.

Мацей прысеў на крэсла, Радыю цыгарэту працягнуў, сам закурыў.

Арцём спытаў:

— Ты што, пакрыўдзіўся? Вы толькі паглядзіце на яго!

Трохі счакаўшы, азваўся Сяргей:

— Ды ты са сваім марфлотам мне, напрыклад, за чатыры гады сумеснай працоўнай дзейнасці, як гаворыць наш непасрэдны шэф Мікалай Сямёнавіч, усе вушы пратрубіў і, мала таго,— галаву адурыў. Чалавек толькі форму зняў, а ты... Брыгадзір,— Сяргей павярнуўся да Радыя,— растлумач як кіраўнік таварышу марфлотцу, што яго паводзіны проста незразумелыя.

Мацей паглядзеў на Радыя са здзіўленнем, брыгадзір, аказваецца, а ні аднаго слова аб гэтым не сказаў.

А Палуян маўчаў, як і два гады назад. Зрэдку ён падганяў дым, і на шырокім, пляскатым твары яго панаваў спакой.

— Хопіць языкамі мянташыць,— сказаў Радый, а Мацей падумаў: «Магчыма, яго і Уранычам непрыгожа называць, як-ніяк брыгадзір».— Час ужо да станкоў тэпаць, а нам трэба яшчэ адно пытанне вырашыць. Наконт пятага чалавека ў брыгадзе.

Палуян упершыню падаў голас:

— Такога, як Пецька наш быў,— не знойдзеш. Старанны хлопец.

— Пецька ад нас прамым ходам у армію пайшоў,— павярнуўся Радый да Мацея.— Сам хлапчук яшчэ, а працаваў добра.

— І каго ты ў кампанію цягнеш? — узняўшыся, спытаў Здольнік.

— Я Мацея прапаноўваю.— Радый паглядзеў на сяброў.— Але прымушаць не буду, каб пасля розных размоў не было, калі што...

Мацей нават здрыгануўся пасля такіх слоў, адчуў, што хоча штосьці сказаць і не можа.

— Нам чалавек гатовы патрэбен або вучань,— выпускаючы дым кольцамі, сказаў Арцём, гледзячы на Мацея.— Вучнем жа ён не пойдзе — як-ніяк, па слясарнай справе разрад мае. А вось ці пасяброе ён з такарнай? Праўда, я памятаю, са станком ён спраўляўся нядрэнна. Але ж колькі часу мінула. Ставіць адразу на заданне... Спачатку на аперацыёнку, скажам.

— Праверыць,— рашуча сказаў, быццам адсек, Палуян.— І рашыць — ставіць на заданне або няхай з месяц у вучнях паходзіць.

— Правільна! — згадзіўся Васюшкін.

Радый спытаў:

— Згодны?

Мацей нічога не адказаў. Толькі кіўнуў галавой.

У цэху было ўжо шмат народу. Той-сёй уключыў станкі. Нейкая дзяўчына сустрэла іх кампанію словамі:

— Радыйнікі, закончылі ранішні перакур?

— Закончылі,— адказаў Радый.

А Сяргей сказаў Мацею:

— За намі трывалая мянушка замацавалася — «радыйнікі» або яшчэ «уранавічы».

— А гэта новенькі з вамі? Дзесьці я яго бачыла.

— Напэўна, у кіно,— сур'ёзна адказаў Арцём.— А магчыма, і ў метро.

— Дурань ты паласаты,— адказала дзяўчына, маючы на ўвазе, напэўна, нацельнік, які Арцём насіў пад кашуляй. Два верхнія гузікі кашулі былі расшпілены.

Мацей на гэту дзяўчыну і не паглядзеў. Яму было не да яе, але Арцём яго папярэдзіў:

— Гэта не па тваіх зубах персона і не па нашых. Тут адзін да яе заляцаецца — інжынер не вельмі, але з выгляду важны.

Мацей нічога не адказаў. Яны падышлі да станкоў, на якіх працавала брыгада Радыя.

— Вось твой,— забірай і карыстайся! — сказаў Радый. Мацей адразу пазнаў — той самы, ад якога яго майстар два гады назад адганяў.

— Які б яму чарцёжык падкінуць? — Радый пацёр падбародак.

— Хопіць вам хлопца дарэмна палохаць,— азваўся Сяргей.— Наваліліся з чарцёжыкамі... Ён два гады служыў, ды і раней да станка хінуўся.

Мацей паклаў Сяргею руку на плячо. Сам не ведае, як у яго гэта атрымалася.

— Хопіць, Сяргей! Я ўжо настроіўся. Давайце чарцёж.

Радый пацісн уў плячыма і пачаў корпацца ў скрыні свайго варштата, а Васюшкін апраўдваўся:

— Мы ж нічога такога. На справе рашылі праверыць, вось і ўсё. Калі забыўся што-небудзь, няхай падвучыцца месяц-другі. Правільна я кажу, Васька?

Палуян згадзіўся.

Радый прынёс чарцёж.

— Я не вельмі цяжкі выбраў, самы патрэбны. Ты паглядзі, разбярыся, што да чаго. Прут звычайны. Трэба пратачыць яго зверху, парэзаць і зацэнтраваць. Пасля нас паклічаш.

Агледзеў сваю рацы і скамандаваў:

— Браточкі, за станкі.

Моўчкі ўсе разышліся. Мацей застаўся адзін, абапёрся на станок. Чарцёж увогуле быў просты. Толькі вось рукі ў яго не тыя сталі... Але часу на трэніроўку не было. Ён падышоў да Радыя, які схіліўся над станком, крануў яго за плячо:

— Гатова. Можна пачынаць.

— Ужо?! Паглядзеў бы яшчэ, разабраўся б лепш.

Мацей адчуў у голасе Радыя непрыхаваны сорам за тое, што пагадзіўся на гэту праверку.

— Не, усё гатова. Я праўду табе кажу.

Радый сабраў хлопцаў. Мацей выбраў загатоўку, заціснуў яе.

— На, вазьмі акуляры,— Сяргей працягнуў яму свае.

Мацей адмахнуўся:

— Сёння парушу тэхніку бяспекі. У апошні раз...

Ён уключыў станок. Скажаш каму — не паверадь. Але дэталь у гэтыя мінуты ён амаль што не бачыў. Вочы адкрыты шырока, але цяпер яны ў той жа самы час амаль невідушчыя. Ні рэплік ён не чуў, ні поту, што струменьчыкамі сцякаў па твары, спіне, не адчуваў. Неабходна было сачыць за тым, як рухаецца рука, з якім рытмам, хуткасцю, а яшчэ — адчуваць дотык да дэталі... Тут патрэбны асаблівы спрыт, каб не ўпусціць і не перастарацца.

— Усё.— Ён працягнуў гарачую дэталь Радыю.— Замярай, Ураныч!

— Мокры ты ўвесь! — уздыхнуў Палуян.

Радый усміхнуўся.

— Да навошта замяраць? Вока ў мяне напрактыкавана. І так бачу — ёсць работа.

— Калі-небудзь вучоныя сканструююць прыбор, які будзе рэгістраваць хвалі ад нашай псіхікі. Якія ж буры зафіксуе ён у такія вось мінуты,— вельмі сур'ёзна сказаў Сяргей, а Мацей зазначыў, што гаворыць Здольнік прыгожа, лепш, чым два гады назад. І ў каторы ўжо раз пазайздросціў яму.

Падышоў Мікалай Сямёнавіч.

— Чым гэта вы тут займаецеся, а станкі маўчаць?

— Ды вось тут Мацей...— Радый падаў Мікалаю Сямёнавічу дэталь.

— Ёлупні! — усклікнуў той.— Праверку наладзілі?

— Толькі як гэта з аддзелам кадраў узгадніць? — Радый глянуў на ўсіх.— У яго ж разрад па слясарнай справе...

— Ты за гэта не хвалюйся,— Мікалай Сямёнавіч узяў Мацея за локаць.— Забыўся, ці што, хто цяпер аддзелам кадраў кіруе? Вось так. Наш былы начальнік цэха. На пенсію пайшоў, а каб дома не сядзець і розніцу паміж зарплатай і пенсіяй не адчуваць, у кадры падаўся. Я з ім дамоўлюся. А потым, зразумела, на разрад Мацей здасць. Толькі вышэй за слясарны...

— Тады поўны парадак,— згадзіўся Арцём.

А Сяргей заўважыў:

— Станкі, між іншым, стаяць без справы. А хутка ж канец месяца.

— Ну, ідзіце да станкоў,— сказаў Шэпель.— А мы з табой, Мацей, пойдзем проста ў аддзел кадраў.

## 4

Нізка над горадам навіслі хмары. Імжэў дождж. Людзі пахаваліся пад парасоны. Мацей ішоў проста па лужынах, не абыходзячы іх, не пераскокваючы. Упершыню за столькі дзён ён нарэшце супакоіўся. Быццам адразу ўсё стала на свае месцы. Каля самага стадыёна Мацей вялікімі глыткамі асушыў куфаль халоднага піва. З раніцы ён не паспеў перакусіць і крыху ап'янеў. Падумаў з хвіліну, ісці на футбол ці не варта, і вырашыў, што трэба схадзіць — даўно не быў. Ужо забыўся, як і мяч па полі ганяюць.

Пакуль стаяў па білеты, наслухаўся ўсялякіх прагнозаў ды футбольных плётак. Да пачатку матча была яшчэ гадзіна, і ён падаўся ў інтэрнат да Сяргея з двума білетамі ў кішэні. Сяргея ў пакоі не было. На стале ляжала запіска. Высветлілася, што Сяргей паехаў на суботу і нядзелю ў Барысаў. Яго дзяўчына была адтуль. Вось і ездзіў так кожны тыдзень, каб бацьку яе спадабацца. Торты ўсё вазіў ды сухое віно. Мацею ён прызнаўся:

— У мяне ад гэтага сухога па тры дні галаву ломіць. Але марку трымаць трэба — цесць жа, акрамя сухога, у рот нічагусенькі не бярэ.

Мацей падлічыў свой капітал. Грошай яшчэ на месяц хопіць. З панядзелка ён пойдзе на работу і ў аванс што-небудзь атрымае.

Са спакойнай душой Мацей апрануў новы касцюм, пачапіў гальштук і пайшоў на стадыён.

Падышоў да галоўнага ўвахода і адразу ж убачыў Арцёма Васюшкіна. Арцём стаяў, шырока расставіўшы ногі, з цыгарэтай у зубах. На ім было лёгкае чорнае скураное паліто.

— Прывітанне яшчэ раз,— сказаў ён Арцёму і падаў руку.

Арцём быў рады гэтай нечаканай сустрэчы, за-

ўсміхаўся шчыра. І адразу ж кампліment у адрас Мацея падкінуў:
— Ты ў сваім касцюме элегантны, як іспанскі спявак Рафаэль. Ведаеш такога?
— Ведаць не ведаю, дарэчы, так, як і ты, але чуў. А ты ў чорным макінтошы на камісара Мегрэ падобны. Толькі нацельнік усё ж трэба было скінуць.
Арцёму гэта параўнанне спадабалася.
— Ты амаль адгадаў,— сказаў ён з адценнем паблажлівасці,— мяне, дарэчы, пасля марфлоту ў кантору запрашалі. І не абы-куды, а ў крымінальны вышук.
Ён прыціх, чакаючы, што Мацей здзівіцца, і Мацей гэта зразумеў:
— Няўжо праўда?
— А што! Не за тое, што здаровы і высокі, а за ўменне. Я да марфлоту кандыдатам у майстры па самба быў і першы разрад па боксу меў. Не верыш? Ты мне, дружа, напомні калі, я табе пасведчанне пакажу.
— Абавязкова напомню. А чаму ж не пайшоў у крымінальны вышук?
— Не мая гэта справа. У кожнага чалавека справа па душы павінна быць. Вось у мяне таксама. І ў цябе. Ты што думаеш, я ў марфлот гандлёвы не мог пайсці? Я ж матарыст першага класа! На моры мог такія грошы мець, што і не сніліся таму ж дарагому і паважанаму Ваську Палуяну. Ведаеш, ён такое аднойчы выкінуў: за пяцігодку павінен набыць «Жыгулі».
Мацей нават прысвіснуў.
— І не ўпікнеш нічым. Збірае сабе на «Жыгулі» — і добра. Чэсна грошы зарабляе, але ж не гэта галоўнае. Таму і не пайшоў я ў крымінальны вышук і на моры не застаўся.
— А як жа нацельнік?
— Памяць аб моры. Але я адразу ведаў, што галоўная мая справа — завод. Люблю я яго — і ўсё. І пяці-

годка мая не грошы, хоць яны мне і не пашкодзілі б, як, дарэчы, і табе.

— Я з табой згодны,— сказаў Мацей.

— А значыць, разумееш, чаму правяралі цябе сёння. Не ката ж у мяшку браць. Бегаў па цэху хлопец — гэта адно. А рабочы новы ў брыгадзе — зусім іншае.

Да Арцёма падышлі знаёмыя хлопцы. Ён на гадзіннік паглядзеў, незласліва вылаяўся:

— Усіх бы вас на камбуз за такія штучкі. Спазніліся на цэлых дваццаць мінут!

Мацей з усімі пазнаёміўся. Перад тым як ісці на стадыён, выпілі па куфлю піва. Тут Мацей успомніў, што ў яго адзін лішні білет.

— У якім сектары? — спытаў Арцём.

— Цэнтр.

— Ого! Гэта выдатна. Я з Мацеем, а вы дуйце ў свой дваццаты. Пасля матча сустрэнемся ў кафэ.

Высветлілася, што за два гады ў мінскім «Дынама» многае змянілася — прыйшлі новыя ігракі. Арцём ведаў амаль усіх. Ён раз-пораз выкрыкваў прозвішчы, свістаў і не даваў Мацею як след сачыць за гульнёй. Калі цэнтральны нападаючы спатыкнуўся і не прабіў з выгаднай пазіцыі, Арцём закрычаў:

— Чаго капыты шкрабеш, уставай, філон!

Яго падтрымала добрая палова сектара, усчаўся такі свіст, што Мацей ажно прыкрыў далонямі вушы. Так глядзець футбол ён не любіў. Сам некалі гуляў за зборную раёна і ведаў, як гэта цяжка. А тут — чэмпіянат краіны. Нялёгкі хлеб у футбалістаў...

Матч мінчане выйгралі, і ў кафэ было цесна — балельшчыкі адзначалі перамогу.

Арцём спытаў:

— А жыць дзе збіраешся?

— Я яшчэ не падумаў нават аб гэтым.

І сапраўды, у мітусні сённяшняга дня, задаволены,

што з работай усё так добра атрымалася, зусім забыўся пра кватэру. У Сяргея сорамна ў інтэрнаце тырчаць, ды і папрасіць могуць.

— Ты вось што зрабі,— сказаў Арцём,— не штурхайся ні ў якім аддзеле аб'яў і ў новыя мікрараёны таксама не ідзі — толку ад гэтага не будзе. Марока адна. Два дні ў цябе наперадзе — субота і нядзеля. Ты прамым ходам у сельгаспасёлак. Месца добрае — цэнтр побач. Там кватэру хутка знойдзеш. І грошы невялікія.

Назаўтра раніцай Мацей сеў у аўтобус і паехаў у сельгаспасёлак, які знаходзіўся паміж двума мікраралёнамі. Тут былі толькі прыватныя домікі. Першы дзень яму не пашанцавала, а на другі, калі ў яго ўжо зусім не заставалася надзеі знайсці кватэру, дзверы невялікага доміка, які стаяў пасярэдзіне саду, адкрыла жанчына ў чырвонай, залапленай у многіх месцах кофце.

— Я наконт пакойчыка,— у які ўжо раз сказаў Мацей.

Гаспадыня агледзела яго з ног да галавы і сказала:

— На вуліцы нязручна неяк гаварыць. Заходзь у хату.

У маленькім і чыстым пакойчыку яна ўважліва вывучала Мацея сваім нетаропкім, паўзатуманеным поглядам.

— Сядай,— падсунула табурэт.— З арміі нядаўна?

— А вы адкуль ведаеце?

— Прычоска кароткая. Цяпер такія не носяць.

Мацей правёў далоняй па галаве.

— Так, нядаўна. Вось толькі на работу ўладкаваўся і кватэру шукаю.

— Я бачу, што шукаеш. Жыву я адна, нядаўна стала адна жыць, і кватаранта вазьму. Ты скажы мне толькі — выпіваеш?

Мацей адмоўна пакруціў галавой. Яму чагосьці за-

хацелася падняцца і пайсці. Нават сам не ведае чаму.

— Дзевак вадзіць не будзеш?

Мацей нічога не адказаў і, рыпнуўшы маснічынамі, памкнуўся да дзвярэй.

— Ты, здаецца, пакрыўдзіўся. Ход у твой пакой асобны, з сенцаў, а народ вы малады ды ранні. Сын мой, прыкладна тваіх гадоў, гэтым ходам карыстаўся. А потым і дастукаўся. З аднаго пачаў, а другім кончыў. Вось я і спытала... А рэчы хоць сёння можаш прывозіць. Браць з цябе буду пятнаццаць рублёў у месяц. Тут усе так бяруць. Згодны?

Зніякавеласць ад гэтых слоў знікла.

— Дзякуй,— сказаў Мацей,— а рэчы я заўтра вечарам, пасля работы, перавязу.

Яна павяла паказаць Мацею яго пакой. Пакой быў маленькі, але светлы. Вокны выходзілі на сонечны бок, проста ў сад.

Калі Мацей сабраўся ісці, яна раптам схамянулася:

— Мы ж так і не пазнаёміліся. Варвара Цімафееўна я.

— А я Мацей.

— Мацей? — яе шэрыя бровы папаўзлі ўверх.— Трэба ж так. Мой шалапут таксама Мацей. У гонар дзеда яго так назвалі. Толькі не ў дзеда ён, не ў бацьку і не ў маці...

Вечарам у інтэрнаце Мацей пачаў складваць рэчы ў чамадан. Перагарнуў падручнікі — забыў ён амаль усё. Цяжкавата будзе пачынаць усё спачатку.

## 5

Быў яшчэ паўзмрок. Мацей стаяў ля акна і глядзеў на вуліцу, дзе церусіў дождж.

Усім, каго ведаў Мацей, спалася ў дождж, як у бярлозе, а ён звычайна прачынаўся ў дажджлівае надвор'е рана і слухаў, як барабаняць кроплі па даху.

Сёння ён удосталь наслухаўся гэтай мелодыі. Гадзін з пяці раніцы, напэўна. Потым прачнулася гаспадыня. І навошта так рана падымацца — на работу ёй к дзевяці.

Мацей паляжаў яшчэ крыху, узяў кнігу па такарнай справе. Кнігу Мікалай Сямёнавіч ледзь не сілком прымусіў узяць: маўляў, вывучай, у нашай рабоце без навукі нельга.

Усё ў ёй было, гэтай кніжцы. Толькі аб адным нічога не сказана — як навучыцца гэтыя праклятыя, няўлоўныя мікроны браць. Тут, напэўна, ніякая навука не паможа. Спрыт асабліва патрэбен, жалезныя нервы — а ўсё разам гэта і ёсць талент. Ва ўсякім выпадку, Мікалай Сямёнавіч так лічыць. А ўжо каму-каму, а яму Мацей верыць. Хлопцы з брыгады заўважылі, што Шэпель па некалькі разоў у дзень наведвае Мацея, усё парады яму дае, ледзь не руку падпраўляе.

— Ты старайся самае нутро металу ўбачыць, калі хочаш душой яго адчуць,— вучыў ён Мацея.— Без гэтага не будзе сапраўднага майстра. У рабочага таксама талент павінен быць.

— Так ужо і талент?! — не стрымаўся Мацей.

Здавалася, кончыкі вусоў Шэпеля вось-вось уверх узнімуцца, ды і сам ён нейкі яршысты стаў:

— Ты слухай, што табе дзед гаворыць. Ты думаеш, рабочы — гэта той, у каго нічога іншага ў жыцці не заставалася? Так, ці што?

— Вось такога я не казаў, ды і не думаю так,— адказаў Мацей.

— Усё роўна слухай. Апошнія блазнюкі так думаюць! Рабочы — гэта таксама, як у газетах пішуць, прызванне. Я вось, напрыклад, нікім іншым быць не змог бы.

Мацей усміхнуўся:

— А вось у майстры пайшлі ж.

— Гэта іншая справа. Гэта, калі хочаш ведаць,

партыйнае даручэнне. Але не ў гэтым справа. Іду раніцой на завод і думаю па звычцы: вось уключу зараз станок і пачну валок абдзіраць. А прыходжу — гаварыльняй пачынаю займацца: то дэталяў няма, то ад каго-небудзь гарэлкай на ўвесь цэх патыхае, то шчыгол які на работу не выйшаў. Я ўжо маўчу аб плане. Асабліва аб тых днях, калі ён зусім гарыць і начальнік цэха з усіх стружку здымае.

Радый і Мацея кпіў як мог.

— Напэўна, хоча цябе Мікалай Сямёнавіч у героі сацпрацы або ў ардэнаносцы вывесці.

Тут ужо і Арцём падключыўся:

— А медаль нашаму Мацею, чуў я, ужо выточваюць у суседнім цэху, дзе адна прыгажуня працуе. Яна гэты самы заказ і выконвае...

Мацей таксама хацеў пажартаваць, але Радый сказаў ужо зусім сур'ёзна:

— Ты прыслухоўвайся да Сямёныча. Токараў такіх на нашым заводзе больш не знойдзеш.

Мацей нічога не адказаў. Ён думаў аб тым, што Арцём усё прыкмячае. Заўважыў і тое, што Мацей часта заходзіць у суседні цэх, каб убачыць дзяўчыну, якую сустрэў яшчэ ў першы свой дзень на заводзе. Тую самую, ля якой, паводле слоў хлопцаў, усё ўвіваецца інжынер з іхняга цэха. Дзяўчына Мацею адразу спадабалася. Нейкі незвычайны твар у яе — задуменны і ў той жа час вясёлы. Вочы вялікія, сінія. І валасы доўгія, спадаюць на халат з-пад беласнежнай шапачкі. Цэх, дзе працуе дзяўчына, падабаўся Мацею — там ціха, усюды кветкі, быццам у аранжарэі. І дах незвычайны — шкляны. Нічога дзіўнага — цэх аптычны. Таня, так завуць дзяўчыну, збірае прыборы, якія завод асвоіў зусім нядаўна. Калі Мацей ішоў у армію, не было гэтага цэха. Дзяўчыны таксама не было. Ва ўсякім выпадку, Мацей мог паспрачацца з любым, што раней не сустракаў яе.

З дзяўчатамі ён адчуваў сябе не вельмі смела. Праўда, два гады назад час ад часу хадзіў на танцпляцоўку. Там, на танцпляцоўцы, дзяўчаты былі знаёмыя, з імі ўсё было інакш...

А з Таняй у Мацея казус атрымаўся. Ён часта заходзіў у оптыка-механічны цэх. Каб не выклікаць падазрэння, браў з сабой Сяргея Здольніка. Але Таня, напэўна, адразу зразумела, што Мацей сюды не на кветкі паглядзець прыходзіць. Неяк у сталоўцы сама падышла да яго і сказала:

— Мяне Таняй завуць, а цябе як?

— Мацей.

— Я вырашыла сама падысці да цябе, а то ў цябе смеласці так і не хопіць,— засмяялася яна і пайшла.

Арцём яму падміргнуў.

— Глядзі, каб на дуэль цябе не выклікаў інжынер. А ўвогуле, віншую — гэта поспех. Бачыў — яна сама да цябе падышла.

У той дзень Мацей раней за іншых прыйшоў у цэх. За шклянымі дзвярыма курылкі ўжо віўся дымок. Ён паспяшаўся ў цэх оптыкі. Але там яшчэ было пуста. Мацей прайшоў цэх з канца ў канец і ля ўвахода сутыкнуўся з майстрам.

— Слухай, хлопец, ты, напэўна, вельмі оптыкай цікавішся, калі тут маячыш кожны дзень?

— Вы правільна заўважылі, цікаўлюся.

Майстар аптычнага цэха паглядзеў на яго і ўсміхнуўся. У цэху амаль адны дзяўчаты, і хлопцы сюды з усяго завода прыбягаюць.

Калі Мацей прыйшоў у свой цэх, усе былі ўжо на месцах.

Арцём пажартаваў:

— Зноў ты не з раздзявалкі ідзеш...

— Пакінь чалавека ў спакоі і лепш парадуй яго,— Сяргей Здольнік артыстычна нахіліўся і паказаў рукой на Васюшкіна.

— Браточкі, сёння старому марскому воўку, гэта значыць мне, трыццаць гадоў споўнілася.— Арцём пацягнуў сябе за вушы.— Карацей — я запрашаю ўсіх вас...— і прашаптаў: — У мяне ёсць спірытус самы што ні ёсць сапраўдны — медыцынскі. Як слязінка!

— Я не супраць,— сказаў Урбановіч.— Дзень нараджэння адзначыць — добрая справа. Толькі дзе?

— Як дзе? — здзівіўся Арцём.— У нашу паркавую забягалаўку — цётка Маша для мяне і маіх сяброў адпаведную закусь прыгатуе.

Не паспеў Арцём давесці сваё, як Мацей сказаў:

— Я ў забягалаўку не пайду. Там адны заводскія алкаголікі збіраюцца. Нам там што рабіць?

Ад нечаканасці Арцём папярхнуўся:

— Вы толькі паглядзіце на яго! Няйначай, у святыя меціш. У нас, дарагі дружа, у краіне сухога закону няма. А забягалаўка — не прыватная крамка. Дзяржаўная, між іншым, установа.

— Толькі піць там нельга,— сказаў Мацей і павярнуўся, каб ісці да свайго станка.

Спыніў яго Сяргееў голас:

— Я неяк у суботу па парку з дзяўчынай гуляў. Залік якраз здавалі і пайшлі праветрыцца. Ідуць наперадзе два хлапчукі і адзін аднаму гавораць: «Паглядзі, зноў рабочыя ў забягалаўцы п'юць». З пагардай гавораць... У кафэ гулянка поўным ходам ідзе. І хто ж там сядзіць? Праўду кажа Мацей — нашы заводскія выпівохі. А пасля дзякуючы ім які-небудзь мамчын сынок-піжончык скажа: «Рабочыя п'юць...» І гэта да ўсіх нас адносіцца. Не, я туды таксама, выбачай, Арцём, не пайду.

Радый уздыхнуў і паглядзеў на Арцёма. Палуян усміхнуўся:

— Вось і дамовіліся!

— Я ж як лепш хацеў,— неяк разгублена сказаў Арцём.

Мацею стала яго шкада.

— Можна што-небудзь больш цікавае прыдумаць,— сказаў ён і паглядзеў на Сяргея: у таго галава заўсёды поўная ідэй.

— Давайце вось што зробім,— азваўся Здольнік.— Спакойненька закончым работу, пойдзем дамоў пераапранёмся і сустрэнемся ў сем ля рэстарана. Напрыклад, ля «Юбілейнага». Скінемся і адсвяткуем дзень нараджэння Арцёма прыгожа, з музыкай...

— А спірт я вазьму на ўсялякі выпадак,— сказаў радасна Арцём.— Лічу, што не пашкодзіць. У мяне ён у пляскатай бутэльцы. Пакладзеш яе ў кішэню, і ніводзін метрдатэль не заўважыць.

Радый пасля гэтых слоў нават прысвіснуў:

— Зноў ты за сваё. Пакінь свой спірытус на прымочкі. А то будзе вельмі прыгожа, калі нас з рэстарана выведуць...

Усе пайшлі да сваіх станкоў. Выгляд у Арцёма быў сумны. Мацей яму сказаў:

— Бачыш, як усё добра атрымалася. А ты — у забягалаўку хадзем!..

Мацей уладкаваўся ля станка. Зрабіў абдзірку валка і валэндаўся з цыркулем, вымяраючы дыяметр. Паступова — з радасцю адчуваў гэта з кожным днём — Мацей усё больш набіваў руку. Праўда, ён па-ранейшаму быў на аперацыёнцы і ўпотай, а часам і ўслых, зайздросціў хлопцам.

Радый яго супакойваў:

— Нічога, зусім мала засталося табе. Пагляджу я, колькі з цябе патоў сыдзе. Сам не рады будзеш, што з аперацыёнкі пайшоў...

Мацей дэталяў амаль не псаваў, а калі і здаралася гэта, дык толькі з-за празмернага старання.

— Мандражэ цябе яшчэ крыху б'е,— гаварыў Арцём.— Ты спортам займаешся? Так вось у спорце бывае: пераxвалюешся да старта — і дрэнь справы...

Мацей вытачыў апошнюю дэталь, яшчэ гарачую, кінуў яе ў паўнюткую скрыню з такімі ж дэталямі і паглядзеў на гадзіннік.

Рука Арцёма лягла на плячо Мацея.

— Дарэмна на гадзіннік глядзіш. У мяне на канец змены страшэнны нюх, асабліва сёння. Бяжы дамоў і каб ля «Юбілейнага» ў палове восьмай быў.

— Прывычка армейская яшчэ не прайшла. Не спазнюся.

Мацей пачаў прыбіраць станок, адкрыў сваю шафу для інструментаў. На трымальніках было шмат разцоў.

Арцём прысвіснуў:

— А ты запаслівы гаспадар. Адкуль столькі набралася?

Мацей правёў рукой па разцах.

— Ды вось так назбіраў... Больш за ўсіх, вядома, Сямёныч дапамог.

— Ну што ж, я табе таксама што-небудзь падкіну. У мяне такія, што больш ні ў кога не ўбачыш. Сам усялякіх прыстасаванняў навыдумляў.

— Я тое-сёе бачыў,— сказаў Мацей.

Ён і на самой справе часта назіраў за работай Арцёма. Бывала ўсялякае. То Сямёныч накрычыць, то Радый моцнае слова адпусціць за брак — калі Арцём не ў форме быў. Ён у такія дні ад складаных дэталяў рукамі адбіваецца, а калі ёсць у яго жаданне папрацаваць — толькі вучыся!

Арцём падміргнуў Мацею:

— Бачыць — гэта адно... Вось калі я табе што-небудзь раскажу... Толькі гэта як-небудзь пасля.

Дома Мацей дастаў з чамадана новую кашулю, гальштук. З-пад цэлафанавага мяшка ўзяў новы касцюм, наглянцаваў чорныя фінскія чаравікі, якія падарыў яму бацька.

Пачуўся асцярожны стук. Увайшла Варвара Ці-

мафееўна. Пачуліся кухонныя пахі — смажанага мяса, цыбулі...

— Можна да цябе?

— Заходзьце, Варвара Цімафееўна.

Мацей стаяў перад ёй у новым касцюме. Толькі гальштук не паспеў завязаць, трымаў яго ў руках. Яна ўсміхнулася:

— Быццам з вокладкі часопіса «Служба быту» сышоў. Куды гэта ты сабраўся?

Мацей пачырванеў ад такога камплімента.

— Усёй брыгадай у рэстаран выпрашылі пайсці. Дзень нараджэння ў аднаго хлопца.

Яна прысела на самы краёк табурэткі.

— Усёй брыгадай — гэта можна. Ад калектыву адступацца нельга,— сказала яна і ўздыхнула.— А я цябе хацела на абед запрасіць. Адной кавалак у горла не лезе. Налью талерку і гляджу ў яе, а есці ніколечкі не хочацца.

— Учора паштальёна я ў вашым двары сустрэў.

— Пісьмо прынёс. Я яго папрасіла, каб у рукі мне аддаваў. Рэдка сын піша. Баюся, каб не згубілася пісьмо. Крыўдна будзе. Піша, што зразумеў цяпер, як жыць трэба. А я веру і не веру. Напэўна, ад таго і пакутую.

— Лепш за ўсё верыць у добрае,— сказаў Мацей і толькі цяпер заўважыў, што ён стаіць перад ёй пасярэдзіне пакоя і гальштук у руках камечыць. Гальштук ён на спінку ложка павесіў, падышоў да крэсла, думаючы, якія б ёй словы сказаць.

— У мяне салдат у аддзяленні служыў. Прозвішча ў яго дужа смешнае было — Нетудыхата. Заўважаю я — ходзіць сам не свой. «У чым справа?» — пытаю. Маўчыць і толькі пісьмы падае. Чытаю. Піша таварыш нейкі, што дзяўчына яго... Ну, не стала, словам, чакаць.

— Так часта бывае,— сказала глухім голасам Вар-

вара Цімафееўна.— Цяпер дзяўчаты такія — лішняга дня чакаць не будуць. Не ўсе, вядома.

— А я яму кажу — нікому не вер. Хлусіць якая-небудзь пачвара, і ўсё! Потым я ад яго пісьмо атрымаў. Недарэмна я яму раіў у добрае верыць. Дзяўчына яго чакала. Так што праўду ваш сын піша — зразумеў ён усё. Не маленькі ж...

Яна паднялася і правяла сваёй маршчыністай, шырокай рукой па твары так, быццам хацела прагнаць стомленасць.

— Дзякуй табе на добрым слове,— усміхнулася аднымі вачыма.— Буду старацца верыць, што і сапраўды мой дурань усё зразумеў... А ў рэстаране, глядзі, за сябрамі сваімі не ганіся. Выпі крышачку, ды і хопіць.

Мацей ёй нічога не адказаў, кіўнуў толькі галавой. Ён думаў, ці правільна зрабіў, схлусіўшы пра Нетудыхату. На самой справе ўсё было не так. Нетудыхата не паехаў у сваю ўкраінскую вёсачку, дзе яму здрадзілі, а на будоўлю ў Сібір падаўся.



На белай шыльдачцы, якая вісела за шырокімі шклянымі дзвярыма, было напісана: «Месц няма».

Так здарылася, што да рэстарана падышлі амаль усе разам. Толькі Палуян спазняўся.

— Жонку ўгаворвае,— сказаў Арцём,— яна ў яго вельмі строгая. А гэта штосьці ды значыць.

— Кінь мянташыць языком. Што рабіць будзем?— спытаў Радый.

Арцём паціснуў плячыма:

— Усім прыспічыла ў рэстаран.

Ля дзвярэй стаяў натоўп людзей, які з кожнай мінутай станавіўся ўсё большы і большы.

Тут Сяргей памкнуўся наперад.

— Грамадзяне! У мяне месцы заказаны.

5 Зак. 599

— Прапусціце шчасліўчыка,— сказаў хтосьці.— Калі ўжо заказаны, то няхай тэпае.

Сяргей прарваўся да запаветных дзвярэй, закрычаў спакойнаму, быццам на рыбалцы, швейцару:

— Шэф, дай два словы сказаць!

Стары швейцар прычыніў дзверы, і тут здарылася нечаканае.

— Хлопцы, за мной! — гукнуў Сяргей. І камусьці ўжо другому: — Я ж казаў, месцы заказаны.

У рэстаране было ўтульна і цёпла. Было шмат іншаземцаў, і дзяўчаты былі апрануты ў такія ўборы, што на нейкі момант хлопцы адчулі сябе зніякавела. Першым апамятаўся Мацей.

— Як гэта ў цябе атрымалася?

— Мне сорамна прызнацца, але я тут вырас,— сказаў Сяргей.— Так, уяві сабе, у гэтым рэстаране. Тут мяне не вучылі валкі абдзіраць, але таму-сяму навучылі. Я гэтаму дзеду паабяцаў падзяку. Зразумела, матэрыяльную.

— Вядзі далей, факір! — прабурчаў Арцём.— Можа яшчэ месц не будзе!

Але месцы былі.

— Швейцар унізе адбірае здагадлівых,— растлумачыў Сяргей.— А супраць шыльды не папрэш. За вечар ён што-небудзь назбірае.

— Цьфу ты,— плюнуў Радый.— Я б на ўсіх гэтых жулікаў добрую сетку накінуў!

— Кінь ты. Гэту прамову ты на пасяджэнні «Камсамольскага пражэктара» скажаш. А сёння ў мяне, дарэчы, дзень нараджэння,— перапыніў яго Арцём.

Селі за столік побач з аркестрам.

— Дзе ж Палуян? — Мацей паглядзеў па баках, быццам мог убачыць тут Васіля.

— Дзівак ты,— супакоіў яго Радый.— Вася работнік што трэба. Але пакуль ён на сябе працуе. Зразумеў? Толькі на сябе. Астатняе яму да лямпачкі.

— Асабліва калі ў кішэню трэба лезці,— працягваў Арцём.— Але гэта яго справа.

Арцём выглядаў па-святочнаму: у шыракабортным пінжаку, чорнай кашулі і чырвоным у сінюю палоску гальштуку з вялікім вузлом, які, тым не менш, амаль не бачны быў з-пад шырокага падбародка.

Сяргей быццам прачытаў думкі Мацея. Зазначыў:

— Арцём з афіцыйнага дыппрыёму да нас завітаў.

Афіцыянт спрытна ўвіхаўся ля стала.

— Чый тост? — спытаў Радый.

— Ты спадзяешся, што тост табе як брыгадзіру першаму дадуць,— Сяргей пакруціў галавой.— Нічога не будзе. Я пачну першы. І скажу нават не просты, а філасофскі тост.

Радый уздыхнуў:

— Шампанскае так можа ў газіроўку ператварыцца...

Сяргей артыстычна падняў руку:

— Я нядоўга. Дык вось, калі хочаце ведаць, дзень нараджэння ўвогуле не вельмі вясёлы дзень.

Радый засмяяўся:

— Ну і сказануў!

Але Здольнік працягваў, не звяртаючы на яго ніякай увагі:

— Чалавек становіцца старэйшы яшчэ на адзін год і пераступае ў сваім жыцці яшчэ нейкую мяжу... Я хачу выпіць шампанскае за тое, каб усе мы былі разам.

— А ён каб тупаў да наступных дзён нараджэння з такімі, як мы! — падхапіў Радый.

— Хлопцы, паглядзіце, як хіпары са сваімі юнымі сяброўкамі скачуць! А нам што, сядзець ды глядзець на іх, ці што?

Ён запрасіў дзяўчыну з-за суседняга століка і праз імгненне так вытанцоўваў шэйк, што нават у зале назіралі за імі.

5*

— Ну і Сяргей! Як сапраўдны артыст вытанцоўвае,— сказаў Арцём. А калі Сяргей, жвавы, з паружавелым тварам, правёў дзяўчыну і падышоў да стала, Мацей сказаў яму:

— Можна падумаць, што ты і на самой справе ў рэстаране вырас.

Віно ўсіх зрабіла вясёлымі, і за сталом стала шумна. Сяргей нахіліўся да Мацея:

— Так яно і ёсць. Не здзіўляйся. Паглядзі па баках уважліва. Бачыш гэтых хлапчукоў з доўгімі валасамі і шырачэзнымі штанамі і дзяўчынак з такімі адкрытымі поглядамі?

— Па праўдзе кажучы, яны мне не вельмі падабаюцца,— сказаў Мацей.

— Яны могуць не падабацца, але не любіць іх нельга. У бацькоў ёсць грошыкі, вось дзеці і весяляцца, яшчэ не зразумеўшы, да чаго рукі свае прыкласці. Толькі ў адных гэта праходзіць, а ў другіх — на жаль, не! Вось і я тут ледзь не кожны вечар тырчаў. Толькі валасы карацейшыя былі ды джынсы вузейшыя. Вырашалі мы праблемы, хто больш талевіты ў ансамблі «Бітлз», Ленан або Макартні, а яны спрачаюцца з-за іншых музыкантаў і спевакоў. І з дзяўчатамі больш смела паводзяць сябе. Але я хутка зразумеў, што гэта ўсё дробнае...

Сяргея перапыніў Радый.

— Вы што — планёрку тут наладзілі? Дайце музыку спакойна паслухаць або танцаваць ідзіце.

— Паглядзіце лепш, хто з левага боку ад маладой сядзіць за вясельным сталом. Каралеўна.— Арцём штурхнуў Мацея.

Але Захарэвіч ужо сам убачыў Таню. І як ён яе адразу не заўважыў?

— Добрая дзяўчына! — уздыхнуў Арцём.

— Вельмі прыемны твар,— сказаў Сяргей.— Я яе часта на заводзе заўважаў.

— Ты яе павінен зараз жа запрасіць на танец,— рашуча сказаў Радый.— Я лічу, што паводзіць сябе трэба па-мужчынску. Калі падабаецца, значыць, ні на секунду не адпускай.

Мацей адчуў, што ў яго чырванеюць вушы. Варта яму пахваляваца крышачку, як вушы адразу ж чырванеюць.

— Вельмі музыка хуткая,— сказаў ён.— Я пад такую не ўмею. Я танга і факстрот толькі магу...

— Гэта не страшна,— супакоіў Сяргей.— Ты паглядзі, як іншыя танцуюць. Трэба вытупваць у такт музыкі. І, вер мне, вельмі добра атрымаецца. Сучасныя танцы прымітыўныя.

— Ідзі, ідзі,— падштурхнуў Мацея Радый.

Выратаваў выпадак. Пакуль Мацей дайшоў да стала, за якім сядзела Таня, музыка сціхла. Але Таня яго ўбачыла. Сказала штосьці сваёй сяброўцы і пайшла насустрач. Яна ўсміхалася яму здалёк, і Мацей ёй таксама ўсміхаўся.

— Як ты тут апынуўся? — спытала.

— Дзень нараджэння Арцёма адзначаем. Вунь той, справа, за нашым столікам.

— Сустракала на заводзе. Вельмі яршысты.

— Не. Ён вясёлы. Я люблю такіх людзей.

Яна засмяялася.

— У такім выпадку ён мне таксама падабаецца.

— Дарэчы, ён сказаў, што ты прыгажэйшая за нявесту.

Яна спахмурнела:

— Проста ў яго дрэнны густ.

— Тады і ў мяне таксама,— хацеў сказаць Мацей весела, але словы гэтыя ў яго атрымаліся вельмі сур'ёзнымі.

Зноў зайграла музыка. І зноў вельмі хуткая. Але яму не было куды адступаць.

— Пойдзем патанцуем,— сказаў ён.

— Пойдзем,— сказала яна.— Мне страшэнна хочацца танцаваць, а ўсе госці старыя.

Яны прайшлі ў самую гушчыню натоўпу. Ён глянуў, як танцавалі навокал пары, і сам стаў гэтак жа танцаваць.

— Ты добра танцуеш.

Мацей падумаў, што яна смяецца, і ў яго зноў пачалі чырванець вушы, а ногі зрабіліся цяжкімі.

Калі Мацей вярнуўся да свайго століка, Арцём сустрэў яго словамі:

— Добра выдаваў. Нічога не скажаш. Ты выпадкова па вечарах не наведваеш танцгурток?

— Кінь ты жартаваць.

— Сапраўды нядрэнна атрымалася. Такое ўражанне, што ты ўсё жыццё танцуеш,— сказаў Сяргей, і Мацей супакоіўся: гэтаму чалавеку можна верыць.

Потым ён запрашаў Таню яшчэ і яшчэ. Яны ішлі доўгай вуліцай, потым вузкімі вулачкамі ад рэстарана да яе дома. Мацею не трэба было прыдумляць, як гэта звычайна было, калі ён праводзіў дзяўчат, нейкія словы, фразы. Яму было лёгка з ёй, гаварыць яны маглі да самай раніцы.

— Калі я цябе ўбачу? — спытаў Мацей.

Яна засмяялася:

— Ты напэўна, забыў, што заўтра нам у першую змену.

— Якая яшчэ змена? — здзівіўся Мацей.— Заўтра ж субота.

— Наш цэх план не выконвае. Мы працуем. Гэта азначае, што я страшэнна стамлюся і вечарам буду спаць.

Ён усё зразумеў. І сказаў:

— Тады ў нядзелю.

— Таксама не атрымаецца. Толькі ў панядзелак,— усміхнулася яна.— Але ў нядзелю вечарам ты можаш пазваніць мне. Запішы нумар.

Ён пачаў ліхаманкава шукаць у кішэнях шматок паперы і ручку, баючыся, што яна перадумае.

## 7

Стары завулак пралягаў між домікамі, якія прытуліліся пад дрэвамі. Святло ад рэдкіх ліхтароў і паўцёмных вокнаў мільгацела на мокрай гальцы.

— Я не думаў, што ўбачу цябе, калі званіў,— сказаў Мацей Тані.

— А я чакала званка і ўжо ведала, што абавязкова выйду да цябе,— сказала яна. І Мацею здалося, што Таня ўсміхнулася.

Яны дамовіліся яшчэ раз прайсці вуліцу з канца ў канец і вярнуцца да Танінага дома.

— Мне пашанцавала, што я жыву ў такім старым раёне...

Ён перапыніў яе:

— А ў цябе шмат сяброў?

— Шмат. Як у кожнай сапраўднай гараджанкі... Але многіх з іх хутчэй за ўсё можна назваць прыяцелямі. А гэта такія розныя паняцці — сябар і прыяцель. А ў цябе шмат?

Мацей перабраў у галаве ўсіх сваіх знаёмых.

— Мала. Хлопцы з брыгады. І яшчэ той-сёй. Праўда, былі выдатныя сябры ў арміі.

Мацей паглядзеў на Таню. Твар яе быў мокры ад дробнага, назойлівага дажджу, і святло ад ліхтароў трымцела ў кожнай кропельцы на лісцях дрэўцаў.

Яны падышлі да яе дома.

— Бацькі твае, відаць, будуць сварыцца,— сказаў Мацей.— Позна ўжо.

— Будуць сварыцца,— сказала яна.— У мяне ж завал з кантрольнымі. Я ў тэхнікуме завочна вучуся...

— І на завод на першую змену мы з табой можам не паспець.

Яна засмяялася:

— Цяпер не страшна. А вось год назад што было!.. Таму, хто спазняўся, выдавалі пропуск метр на метр. Ідзе чалавек па двары з такім пропускам-шчытом, і ўсе на яго пальцамі тыкаюць.

— Разумны чалавек такога не прыдумаў бы... Усялякае ж бывае.

— Новы дырэктар гэты парадак з першага дня адмяніў. А вось сакратар наш камсамольскі, Саша Цімчук, інакш лічыць. Дарэчы, пропускі-шчыты — яго прыдумка...

Мацей успомніў Сашу Цімчука, больш правільна — Аляксандра Аляксандравіча. Калі Мацей прыйшоў у камітэт брацца на камсамольскі ўлік, дык ад здзіўлення нават адступіў да дзвярэй — сядзіць за сталом хлапчук, а ўсе яго называюць Аляксандрам Аляксандравічам. Мацей тады яшчэ падумаў: «Я цябе так зваць не буду, хоць лопні».

— Ведаю я яго,— сказаў ён Тані.— Такі маленькі, але, напэўна, у вялікае начальства меціць. Калі я да яго заявіўся, ён на мяне паглядзеў з пагардай і кажа: «З арміі, значыцца? Нам такія патрэбны. Знойдзем табе даручэнне. Калі што — заходзь. Заўсёды знайду час пагаварыць». І руку працягнуў: «Завуць мяне Аляксандрам Аляксандравічам». А я яму ў адказ: «Зразумела, Саша, значыць. А маё імя Мацей».

— І што далей?

— Пачырванеў як вараны рак. А сакратарка скоса паглядзела ў мой бок.

Яны спыніліся ля пад'езда. Мацей, быццам забыўшыся на тое, што казаў, прапанаваў:

— Можа, яшчэ адзін круг?

— Не. Трэба ўжо ісці. Да заўтра.

І пабегла. Мацей паслухаў, як стукаюць па лесвіцы яе абцасікі, і падумаў: «Як хораша жыць на свеце!»

Назаўтра раніцай, не паспелі «радыйнікі» ў курыл-

цы па цыгарэце выкурыць і ўсыпаць добра Палуяну за тое, што не прыйшоў у рэстаран, як з'явіўся сакратар камітэта камсамола Цімчук.

Ён наблізіўся да Здольніка, сказаў:

— Колькі разоў табе напамінаць?! Да гэтага часу ў камітэце няма справаздачы ад праведзенай у цэху атэістычнай прапагандзе!

— Зноў ты за сваё. Колькі разоў можна табе гаварыць — няма ў нашым цэху набожных!

— Мяне гэта не датычыць. Райком прыслаў план работы, і будзь ласкавы яго выконваць.

У размову ўступіў Арцём:

— Сяргей, усё будзе ў парадку, і таварыш сакратар перанясе крытыку на другі аб'ект. Я ж баптыст. Ты не ведаў, ці што?

Некалькі імгненняў маўчалі. Арцём спусціў рукі, нібыта змахнуўшы пот з твару, які абавязкова павінен быў з'явіцца пасля малення, і сказаў:

— Ты правядзеш са мной атэістычную работу, лекцыю ў курылцы прачытаеш і здасі справаздачу таварышу сакратару. Галачка ў плане будзе пастаўлена. Карацей кажучы, усё ў поўным парадку!

— Клаунада! — ціха, але выразна вымавіў Цімчук.— Гэта яшчэ раз сведчыць аб аўтарытэце сакратара камсамольскай арганізацыі цэха. Нават калі гэты таварыш,— ён паглядзеў на Арцёма,— і не камсамольскага ўзросту. Думаю, аб усім гэтым мы пагаворым на бюро.

— Ды не аб гэтым трэба гаварыць,— Сяргей пачаў хвалявацца.— Савет маладых рабочых стварылі, а дзе ён? На паперы! «Камсамольскі пражэктар» працуе? Д'ябла лысага! Шэфства над ветэранамі дзе? Таксама на паперы?! І здача ГПА — у пратаколах. А чаму так здарылася? Думаў ты аб гэтым? А я думаў! Таму што на паперку, на даведку працуем.

Цімчук гэтыя некалькі хвілін, пакуль Здольнік га-

варыў, выглядаў разгубленым — ён не чакаў такога павароту.

— Ты тут сход не наладжвай. Людзі навокал. Як член бюро можаш зайсці, пагаворым.

Сяргей паспрабаваў яшчэ штосьці сказаць, але Радый спыніў яго:

— Не заводзься, Сяргей.

Мацей толькі цяпер заўважыў, што паступова ля іх сабраліся рабочыя. Цімчук не збіраўся пакідаць цэх.

— Яшчэ вось якая справа,— ён павярнуўся да Радыя.— Усе камсамольска-маладзёжныя брыгады на заводзе спаборнічаюць паміж сабой, а ваша ўбаку...

— Гэта правільна,— сказаў Сяргей, але Цімчук працягваў, не звяртаючы на яго словы ўвагі:

— Час бы і вам з кім-небудзь пачаць спаборніцтва.

— Дык жа ў нашым цэху больш няма камсамольска-маладзёжнай брыгады,— сказаў Радый.— З кім спаборнічаць?

— М-м, мы неяк не падумалі,— сказаў Цімчук. І тут жа дадаў: — У бліжэйшыя дні вырашым гэтае пытанне з вашым майстрам. Або нават начальнікам цэха.

І пайшоў. Арцём зазначыў:

— Чынуша расце проста на вачах. Далёка пойдзе, калі не спыніць!

Пачуўся голас Палуяна:

— Цяпер пачне майстра тармасіць...

— Ёсць у мяне адна задума,— сказаў Урбановіч.— Даўно ў галаве круціцца. Але аб гэтым не цяпер. За работу! На абедзе ў сталовай пасядзім і падумаем, як і што.

— Давядзецца табе, Васіль, разам з усімі ісці абедаць, а сала сваё на заўтра пакінуць,— падкалоў Палуяна Арцём, на што той прабурчаў:

— Цябе гэта не датычыць.

Мацей нядрэнна папрацаваў. Выцер рукі. Глянуў задаволена на амаль поўную скрыню гатовых дэталяў.

У абедзенны перапынак уся брыгада ўселася ў сталоўцы за адзін стол — аб гэтым Арцём паклапаціўся. Ён пайшоў у сталоўку крыху раней і, пакуль сабраліся ўсе, паспеў паставіць на стол талеркі з капустай, шніцэлямі і шклянкамі кампоту.

— Выкладвайце па 0,75 рубля, і прашу да стала,— сказаў ён і першым пачаў есці.

— Не гані так адразу,— азваўся Радый.— Быццам два дні не еў...

— Два не два, а раніцой, гэта правільна, не паспеў. Кніжку адну ўчора да ночы чытаў, сіла!..

— Ну і пайшло,— уздыхнуў Палуян.— Мы ж,здаецца, для іншага сабраліся, а не фантастыку слухаць.

— Справа вось якая,— пачаў Радый.— Як вы самі чулі ад камсамольскага лідэра, нам трэба брыгаду на спаборніцтва выклікаць. Чакаць не будзем, пакуль для нас каго-небудзь адшукаюць. Я прапаную — давайце выклічам на спаборніцтва брыгаду Дашкевіча.

Арцём прысвіснуў:

— Ну і сказануў! Яна ж нас, як дзяцей...

Радый абвёў усіх позіркам.

Мацей пастукаў пальцамі па стале:

— Трэба ўсё ўзважыць. Ці рэальна гэта? У Дашкевіча толькі адзін чалавек без асабістага кляйма працуе — Янушкевіч. І толькі таму, што часцяком выпівае.

— А сам Дашкевіч, можна падумаць, анёл? Удвух яны і п'юць,— сказаў Арцём.— Але справа не ў тым — працаваць яны могуць. І добра. Па тры сотні бяруць, і кропка.

— Так, зарабляюць яны добра,— сказаў Палуян.— А што ім спаборніцтва? Пры чым тут яно?..

— Зараз зноў заявіш: мая пяцігодка — «Жыгулі»! — амаль закрычаў на Палуяна Арцём.

— Нечага жарт ледзь не ў пратакол заносіць! — змрочна сказаў Васіль.— Пажартаваў я тады.

— Ды хопіць вам! — перапыніў сварку Радый.— Давайце спакойна гаварыць.

Але канкрэтна так яны ні аб чым і не дамовіліся. Страшнавата было прайграць Дашкевічу і яго сябрам. Гэта можна дапусціць, калі б размова ішла пра другую брыгаду... Брыгада ж Дашкевіча займаецца шліфоўкай, даводкай вымяральных інструментаў. Дэталі яны атрымліваюць пасля загартоўкі. А да загартоўкі ўсімі датэрмічнымі работамі — свідраваннем адтулін, праточкай — займаюцца іншыя. У тым ліку і брыгада Радыя Урбановіча, хоць часам, у дні запаркі, ім таксама даручаюць даводку. І нічога — хлопцы яго заўсёды спраўляліся.

— Майстар у іх слабахарактарны,— сказаў Радый, калі яны вярталіся ў цэх.— Зацюкаў яго Дашкевіч ушчэнт.

— Нашага б Сямёныча туды, адразу б парадак навёў,— сказаў Арцём, і ўсе з ім пагадзіліся.

— Вось я і падумаў, што якраз надышоў час пацягацца нам з Дашкевічам і яго хлопцамі. Мацей у нас хлопец старанны, ніхто слова супраць яго не скажа. Два-тры месяцы — і будзе любыя заказы за грыву хапаць,— заключыў Радый.

Сяргей паляпаў Мацея па плячы, шчыра дадаў:

— Потым нам другія токары з участка, дзе Дашкевіч з кампаніяй сваю дыктатуру ўстанавіў, вялікае дзякуй скажуць. Ёсць, вядома, рызыка, і прытым — немалая. Але так нават больш цікава.

Ля ўвахода ў цэх спыніліся. Радый сказаў:

— Ну дык што, галасаваць будзем, як на прафсаюзным сходзе, або так усё зразумела?

Арцём махнуў рукой:

— Ды што там — усё зразумела. Трэба ў канцы змены поўным ходам адразу да Дашкевіча ісці.

— Не гарачыся. Параімся таксама і з Сямёнычам,— прапанаваў Сяргей.

З ім пагадзіліся. Сямёнычу Урбановіч сам усё сказаў. Шэпель ідэю адобрыў. Падышоў да Мацея, доўга назіраў, як той працуе, па прывычцы некалькі парад даў. І сказаў адыходзячы:

— Разумееш, на што хлопцы адважыліся?

— Вядома ж, Дашкевіч умее працаваць!

— А ў табе я не сумняваюся,— працуй, як працуеш, на хлопцаў паглядвай, прыслухоўвайся — і ўсё, што трэба, асіліш.

— Асілю,— сказаў Мацей.— Я цяпер ведаю, што асілю.

## 8

У той дзень да позняга прабылі на заводзе. Разам з Сямёнычам абдумвалі да дробязяў, якія абавязацельствы ўзяць, каб яны пад сілу былі. Калі ўжо ахрыплі ад спрэчак, Урбановіч урачыста сказаў:

— Даручаем аформіць наш выклік без пяці мінут інжынеру Сяргею Здольніку. І няхай праваліюся я на гэтым месцы, калі мы не пераможам Дашкевіча!

З такой важнай прычыны ўсёй брыгадай — і Сямёныча прыхапілі — адправіліся ў суседняе кафэ «Маладзёжнае».

Мацей асушыў шклянку і толькі цяпер успомніў, што не зазірнуў пасля змены да Тані. Так загаварыліся, што ён забыў нават пра спатканне, пра білеты ў кіно, якія абяцаў узяць...

— Усё, я знікаю,— рашуча сказаў ён і, не звяртаючы ўвагі на ўгаворы, што, маўляў, на вуліцы церушыць дождж, а тут утульна, пацiснуў усім рукі, схапіў свой плашч і праз некалькі хвілін быў ля тэлефоннай будкі.

Таня падняла трубку. Яму здалося, што яна ўзра-

давалася яго голасу, і хваляванне знікла, быццам і не было яго ніколі.

— Ты памятаеш, дзе мой дом? — спытала яна.

— Вядома ж!

— Дык вось, прыязджай сюды. Сяброўка прынесла цуд-пірог. Мы з ёй чай папіваем і глядзім па тэлевізары эстрадны фестываль.

Мацей ад нечаканай прапановы не ведаў, што і адказаць.

— Разумееш...— пачаў ён, але Таня перапыніла яго:

— Разумею. Усё разумею. Старых маіх дома няма. У госці пайшлі. Вернуцца гадзіны праз тры толькі. А калі і раней, то ты іх не палохайся. Яны добрыя.

— Якая кватэра?

— Сёмая.

Мінут праз дваццаць Мацей быў ля кватэры нумар сем, трымаючы ў руках вялікую каробку з надпісам «Віншую са святам Першага мая». Іншых у гастраноме не было, і Мацей узяў гэтыя цукеркі.

Яшчэ падыходзячы да кватэры Тані, ён пачуў музыку. Дзверы адчыніла яна сама. Сказала:

— Які ты ўрачысты! Я цябе такім яшчэ не бачыла. Нават шкадую, што ў мяне не дзень нараджэння.

Мацею раптам здалося, што вось зараз ён увойдзе з прыхожай у пакой і абавязкова сустрэне там бацьку або маці Тані. Ад гэтай думкі нават халадок па скуры прабег. Але не, у пакоі, дзе грымеў тэлевізар, пасярэдзіне стаяў стол, за якім у крэсле сядзела Таніна сяброўка. Мацей падаў ёй руку.

— Анжэліка,— сказала яна.

І тут Мацей успомніў, што жанчына павінна першая падаваць мужчыне руку, збянтэжыўся і, змахнуўшы чуб з ілба, уладкаваўся ў крэсле.

— Гэта мой сябар, Мацей,— сказала Таня.— Я табе пра яго гаварыла.

— Вельмі прыемна з вамі пазнаёміцца,— сказала Анжэліка і павяла брывом так, быццам яна вядомая актрыса.— А чым вы, акрамя завода, захапляецеся? — пыталася далей Анжэліка.

Мацей падумаў, што зараз яна зноў брывом павядзе, і раззлаваўся:

— Я заводам не захапляюся. Я на ім працую.

Анжэліка не збянтэжылася:

— І ўсё ж, чым вы захапляецеся?

Мацей заўважыў: Таня крыху разгубілася. І вырашыў падыграць сяброўцы.

— Адразу і не скажаш — вельмі шмат захапленняў. Вось, напрыклад, выводжу новую пароду мышэй. Белых. Іх пакуль з Амерыкі прывозяць. Гэтыя белыя мышы вельмі зручныя: яны вучоных у час доследаў за пальцы не кусаюць. Я і хачу вучоным памагчы.

— А поп-музыкай захапляецеся? — спытала Анжэліка.

— Яшчэ як! Вы б толькі ведалі! І не толькі поп-музыкай.

— Чым жа яшчэ?

— Ксёндз-музыкай.

Таня засмяялася. Сяброўка таксама ледзь прыкметна ўсміхнулася.

— З вамі прыемна пагутарыць. Вы не піжон. Я, відаць, параю Тані падтрымліваць з вамі кантакты.

— Вялікае дзякуй.

— Ты дапаможаш мне прыгатаваць чай? — спытала Таня Мацея і, не чакаючы адказу, пайшла на кухню. Мацей — за ёй.

— Ты не крыўдуй на Анжэліку,— сказала яна.— Яна добрая дзяўчына, але яршыстая. Піжонаў не цярпіць. У мяне ёсць на заводзе адзін знаёмы. Дык яна, як толькі ўбачыла яго, адразу вызначыла: піжон і дробная душа. Высветлілася, што сапраўды так.

— Інжынер? — вылецела ў Мацея.

— Адкуль ты ведаеш?

— Хлопцы гаварылі, што ён да цябе заляцаецца.

Яна засмяялася:

— Плеткары вашы хлопцы.

— Не плеткары яны...— Не мог ён ёй сказаць, што хлопцы такую размову пачалі з-за яго самога.

— Добра, не расказвай,— усміхнулася яна.— Я заўсёды раблю тое, што мне падабаецца. І гавару — таксама.

Мацей вырашыў — добра, што будзе, тое будзе, палахліўцам ён сябе ніколі не лічыў.

— Заўважылі хлопцы, што я на цябе пазіраю. З самага першага дня заўважылі, вось і сказалі.

— Я таксама заўважыла.

У пакоі Мацей як след разгледзеў Анжэліку — нос кірпаты, вочкі маленькія.

— Сумны фестываль,— сказала Анжэліка.— З кожным годам усё горшы робіцца. Спевакі зусім безгалосыя.

Мацей адпіў чаю, кіўнуў галавой. Яму страшэнна захацелася застацца ўдваіх з Таняй. Ён адчуваў, што сёння можа сказаць ёй пра ўсё, аб чым нават падумаць баяўся раней.

Напэўна, ад гэтых думак вушы ў яго зноў пачырванелі. У люстэрку насупраць ён убачыў сябе. Твар таксама быў чырвоны.

Анжэліка паглядзела на гадзіннік. Сказала:

— Мне трэба ўжо збірацца.— Потым ціха: — Вам давядзецца мяне правесці. Баюся цемры... Іду, і заўсёды здаецца, што ўслед хтосьці ціхенька брыдзе.

— Вядома, правядзём,— сказаў Мацей.

— Хутка мае з гасцей вернуцца. Хочаш пазнаёміцца? — ціха спытала ў яго Таня, калі яны выходзілі.

Мацей пакруціў галавой.

Таня засмяялася.

Яны пасадзілі Анжэліку ў трамвай.

— Нічога не разумею. Дзівачка яна нейкая, твая сяброўка.

— Ты ёй спадабаўся,— сказала Таня.

— Усё роўна дзівачка.

За размовай не заўважылі, як дайшлі да Танінага дома.

— Глядзі, мае вокны свецяцца. Тата і мама ўжо дома,— сказала яна і паглядзела на Мацея.

У цёплым, зусім не асеннім змроку ён блізка-блізка ўбачыў яе вочы.

## 9

Абапёршыся на стол вялізнымі кулачышчамі, прыкусіўшы цыгарэту, якая даўно патухла, брыгадзір Дашкевіч падсунуў да сябе шырокі аркуш паперы з выклікам брыгады Урбановіча на спаборніцтва, сказаў:

— Ад такіх дакументаў проста так — раз-два — не адмахнешся.— Ён па чарзе, нетаропка, агледзеў кожнага з сваёй брыгады, затым звярнуўся да Урбановіча: — Толькі адно мяне хвалюе, Радый. Навошта нам усё гэта?.. Такі гонар. Як гэта разумець?

Радый не паспеў нічога сказаць, як Янушкевіч, каржакаваты, невысокага росту мацак, выпаліў:

— Усё нават вельмі проста. Думаюць, паспаборнічаюць з намі і таксама па тры сотні ў месяц пачнуць атрымліваць,— твар яго, у частых пражылках вакол вачэй, расцягнуўся ў задаволенай усмешцы.

Радый махнуў рукой, запярэчыў:

— Усё проста тлумачыцца. Вырашылі мы паглядзець, хто каго з нас на лапаткі пакладзе. А на заробак мы таксама не скардзімся.

— Ды хопіць вам, яшчэ кулакамі зараз пачняце махаць,— перапыніў Янушкевіча брыгадзір.— Спаборнічаць дык спаборнічаць. Толькі лічу я, што вы крыху не па адрасу звярнуліся. але гэта справа пятая. Вы нас

выклікалі, мы згадзіліся, вось і ўсё. Праўда, мы ў прамой залежнасці ад вас знаходзімся. Датэрмічкі ад вас ідуць, але справа не ў гэтым. Давайце рукі адзін аднаму пацiснем, як на стадыёне.

Калі пайшлі да сваіх станкоў, Сяргей сказаў:

— Ну і кампанія сабралася! Хоць забіце, не разумею, як яны працуюць. Янушкевіч з раніцы ўжо да шклянкі прыклаўся.

— Справа не ў гэтым,— уздыхнуў Палуян.— Ох і пасмяюцца, паздзекуюцца яны з нас!

Арцём паляпаў яго па плячы:

— Не хныкай. Мы таксама не хлапчукі.

У перапынку, калі ўсе прыйшлі са сталовай і сабраліся ў курылцы, Арцём спытаў Мацея:

— Як у цябе з гэтай дзяўчынай?

— Добра,— Мацей усміхнуўся.

Арцём колькі разоў зацягнуўся, сказаў:

— Ты шчаслівчык. А ў мяне ў асабістым жыцці зноў адна маркота.

— Здарылася што-небудзь?

— Ды дзе там здарылася! — ён адкінуў акурак.— Бязглуздзіца нейкая. Карацей, пазнаёміўся я з адной. Прыгожая, медсястрой працуе. Сустракаліся месяц, у мяне самыя сур'ёзныя намеры, і раптам яна заяўляе: больш сустракацца не будзем. Як гэта не будзем? Па якой прычыне? А яна кажа: разумееш, гэта смешна для цябе, для мяне не вельмі. Я табе раскажу ўсё, і ты сам больш не прыйдзеш да мяне. Мяне дома дачка чакае, разумееш, не лялька, а самая сапраўдная, з вялікімі і разумнымі вачыма...

Ён змоўк. Нейкі час глядзеў на Мацея, затым спытаў:

— Што ж ты маўчыш? — І сам жа адказаў: — Ніхто парады добрай даць не можа.

— А навошта яна табе, парада? Сам вырашай, ніхто да цябе ў душу не ўлезе.

— Правільна кажаш. Я ўсё разумею сам. Толькі адно мяне хвалюе — інačай я да яе адносіцца стаў. Не магу на яе ранейшымі вачыма глядзець. І забыць яе таксама не магу.

Ён адкінуў цыгарэту ў урну.

— Ты не спяшайся,— параіў Мацей.— Магчыма, усё будзе нармальна.

Яны накіраваліся да сваіх станкоў. Радый паглядзеў на іх непрыхільна. Прабурчаў:

— Ну і раскурыліся! За гэты час можна па пачку высмаліць.

Арцём растлумачыў;

— Пра жыццё мы, Ураныч, гаварылі. Такую размову на пасля змены не адкладзеш.

Але Радый не слухаў. Ён стаяў, схіліўшыся над сваім станком, і вымяраў цыркулем гатовую дэталь. Прыгожа ён працаваў. Мацей яшчэ да арміі ўсё наглядзецца не мог на яго работу. Быццам бы і рухі ў яго такія, як ва ўсіх, але ўсё роўна прыгожа атрымліваецца. Як у артыста. Цяпер Радый разам з Сямёнычам над Мацеем шэфствуюць. Адзін з іх падыдзе ды і скажа: «На гэту дэтальку абароты можна павялічыць. Выйгрыш просты — час». Або: «Ты не гані, прыглядзіся лепш да чарцяжа».

А чарцяжы брыгада часта атрымлівала недапрацаваныя. Мацей усё яшчэ на аперацыёнцы сядзеў. А вось там, дзе заказы былі больш складаныя, тэхнолагі нярэдка падводзілі. Радый у такія мінуты лаяўся:

— Панабралі жаўтароцікаў з дыпломамі. Ды які гэта тэхнолаг, калі ён за станком у сваім жыцці не стаяў!

І бег сварыцца з тэхнолагамі. Часта тыя самі прыходзілі ў брыгаду, раіліся, каб зноў не памыліцца. Часцей за іншых даставалася Траццяку, таму самаму, што да Тані быў неабыякавы. Здольнік часам нават шкадаваў яго.

— Хлопец не вінаваты. Яго ў інстытуце гэтаму не вучылі. Пакуль сам усё рукамі не памацае, нічога ў рабоце не зразумее.— Мацей думаў у такія мінуты, што з Сяргея атрымаецца сапраўдны інжынер, і брала яго зайздрасць. Рашэнне паступаць у інстытут у гэтым годзе было ўсё больш цвёрдым.

А з Траццяком ён у той жа дзень, пасля размовы з Арцёмам, таксама счапіўся. Толькі не з-за чарцяжоў. Набліжаўся канец змены. Каля Мацея мінут пятнаццаць прастаяў Сямёныч. Ён праверыў яго па тэорыі апрацоўкі металаў, што звычайна пытаюць на камісіі, якая прымае экзамен на разрад. Уважліва паслухаў Мацея і пайшоў далей па цэху.

І тут з'явіўся Траццяк. Мацей спачатку падумаў, што яму проста няма чаго рабіць у сваёй тэхналагічцы, вось і выйшаў у цэх. Траццяк ішоў да Сяргея Здольніка. Быў ён у новенькім, з іголачкі, касцюме, яркім гальштуку. Мацей прыпыніў станок, каб дастаць дэталь і паставіць яе на абдзірку. Ён крыху стаміўся і час ад часу паглядваў на гадзіннік. Да канца змены заставалася зусім няшмнога, а там — прыме душ і зойдзе па Таню.

Траццяк спыніўся каля Здольніка. Тэхнолагі ўвогуле часта да Сяргея падыходзілі. Некалькі разоў яму прапаноўвалі стаць тэхнолагам, але той адмаўляўся.

— Прывітанне,— сказаў Траццяк Сяргею.

— Прывітанне, шэф. Штосьці сёння вы чарцёжыкамі не парадавалі...

— Кінь ты жартаваць. Сам хутка зразумееш,— хлеб у нас не самы салодкі.— І тут жа перайшоў на другую тэму.— А ваш новы хлапчук шустры. На першы погляд такі ціхмяны...

Мацей зразумеў, што размова ідзе пра яго,— навічком у брыгадзе быў толькі ён.

— Працуе ён нядрэнна. Хутка таму-сяму фору дасць,— адказаў Здольнік.

— Не аб тым я. У іншай справе занадта шустры.

— У якой жа?

— З Танькай яго бачылі, і, кажуць, у адносінах з ёй ваш Мацей робіць зайздросныя поспехі.

Мацей спыніў валок, выцер рукі анучкай і пайшоў проста на Траццяка.

— Ішоў бы ты адсюль,— сказаў тэхнолагу Здольнік.— Быццам бы дарослы чалавек, а мелеш лухту.

Але Мацей падышоў ужо.

— Давай, тэхнолаг, гавары яшчэ. Я далёка быў, дрэнна чуў, вось і прыйшоў бліжэй, каб разабрацца.

— Паглядзіце на яго, і на самой справе шустры,— крыху адышоўшы ад Мацея, сказаў Траццяк.— Гэта табе расказваць трэба, а не мне. Падзяліся вопытам...

Твар Здольніка імгненна зрабіўся барвовы.

— Што ты пляцеш?!

Траццяк хуценька адышоўся ад яго, здзіўлена спытаў:

— Ты што? З глузду з'ехаў?

І тут наблізіўся Мацей.

— Гэта мяне датычыцца, тэхнолаг! — яго пальцы сціснуліся ў кулак на кашулі Траццяка. Па падлозе пакаціліся гузікі.

— Пусці! — крактануў той, спрабуючы адвесці руку Мацея.

— Не спяшайся. Хачу яшчэ раз усё пачуць. Паўтары. Тады адпушчу.

Траццяку стала раптам горача. Твар яго пакрыўся буйнымі кроплямі поту.

— Я ўжо сказаў і больш паўтараць не буду. Ты і сам усё ведаеш.

— Я дрэнна чуў. Паўтары.

— Не такая яна незачэпа, якой хоча паказацца. Звычайная дзеўка!

Мацей расціснуў кулак. Траццяк адскочыў ад яго на крок.

— Вар'ят нейкі! Сяброўку, бачыце, пакрыўдзіў. Вы б хоць абчасалі яго крыху. Напэўна, з вёскі з'явіўся. Адразу біцца...

У Мацея раптам усё паплыло перад вачыма. У шэрым тумане выразна паўстаў твар Траццяка. Яму страшэнна захацелася стукнуць па гэтым твары.

Зноў даляцеў да яго голас Траццяка:

— З-за дзеўкі...

Мацей замахнуўся, але ў гэты момант руку яго нехта стрымаў. Ён азірнуўся. Аказваецца, усе хлопцы тут — Радый, Васіль, Сяргей. А руку яго трымае Арцём і кажа:

— Стой, хлопец. Бяду на сябе наклічаш і на ўсю брыгаду таксама. Давай мы гэтую фізіяномію пакінем да лепшага выпадку.

Мацей на колькі крокаў адышоўся.

Радый падступіўся да Траццяка, паклаў яму руку на плячо, сказаў:

— Ішоў бы ты адсюль, хлопец. А то і праўда па карку зловіш. Людзі мы рэзкія...

Траццяк паправіў гальштук і, нічога не сказаўшы, пайшоў.

— Перакур! — аб'явіў Радый.— Я дазваляю.

Уселіся на лаўкі. Толькі Палуян не пайшоў. Вырашыў яшчэ некалькі дэталяў зрабіць, каб на заўтрашні дзень не пакідаць.

Арцём першы парушыў маўчанне.

— Шчаслівчык ты, Мацей. Я табе гэта сёння ўжо гаварыў. І вось цяпер зноў паўтараю. Бачыш, нават гэты маразматык на тваю дзяўчыну нічога дрэннага сказаць не мог. Зайздрасць у ім, звычайная зайздрасць засела. Вось і прыйшоў ён табе нервы пашчыпаць.

— І сапраўды, ты не засмучайся. Нічога страшнага не адбылося,— сказаў Сяргей.

А Радый усміхнуўся:

— Нядобра б атрымалася, калі б Мацей стукнуў

яго. Твар вар'яцкі быў. Як у Касіуса Клея ў час паядынку з Фрэзерам. Ты што, боксам займаўся?

— Крыху. Ды і то не ў секцыі, а ў сябе ў двары. Здабылі старыя баксёрскія пальчаткі і кожны дзень трэніраваліся. А да арміі разы два біцца даводзілася. У парку. Там выйсця не было. Або кідай сваю дзяўчыну і ўцякай, або кулакі наперад выстаўляй...

— Вось і поўны парадак! — сказаў Арцём.— Хоць адзін спартсмен у брыгадзе з'явіўся. Усіх нас павядзеш ГПА здаваць.

— Я ўспомніў! — усклікнуў Сяргей.— У наступную нядзелю мы і сапраўды ГПА здаём. Цімчук прыходзіў. Як з нажом да горла прыстаў — забяспеч поўную яўку. Трэба аб'яву ў цэху павесіць: «І стары, і малы на старт!»

Радый зазначыў:

— Бачу, настрой у вас бадзёры. Значыць, час да станкоў... У нас яшчэ мінут дваццаць у запасе ёсць.

У Мацея быў выдатны настрой. Канфлікт з Траццяком здаваўся цяпер проста смешным. Добра, што Арцём адвёў ягоную руку...

Пасля змены ён забег па Таню. Яна ўжо чакала яго. Хацеў расказаць ёй аб тым, што здарылася. Але вырашыў не рабіць гэтага. Раптам у яе сапсуецца настрой? Д'ябал з ім, з гэтым Траццяком.

— Мы на спаборніцтва брыгаду Дашкевіча выклікалі. Чула пра такога?

— Не.

— Дужа працавітыя хлопцы. Выпіваюць толькі. Але працуюць!..

— І як гэта вы рашыліся?

— Ды вось так. Усёй брыгадай прынялі рашэнне. Толькі мне крыху страшна. Раптам пачну партачыць на складаных заказах...

Яна спытала зусім сур'ёзна:

— Ты што, баязлівец?

І яму зноў захацелася расказаць пра ўсё. Асабліва пра тое, як па падлозе каціліся гузікі Траццяка. Але ён зноў стрымаўся.

— Яшчэ б не баяцца! Хлопцы мяне ў брыгаду ўзялі. А цяпер — спаборніцтва з Дашкевічам. Не магу ж я брыгаду падводзіць. Таму і страшнавата...

Яны падышлі да яе дома.

— Пойдзем, баязлівец, я цябе чаем напаю. І яшчэ што-небудзь смачнае знайду.

Ён адмоўна пакруціў галавой. На ім быў не той касцюм, каб знаёміцца з яе бацькамі.

— Я не пры парадзе. Скажуць твае бацькі, прывяла нейкае пудзіла.

Яна засмяялася.

— Зноў пасуеш?

Мацей прамаўчаў.

Па дарозе дамоў ён уяўляў сябе ў новым касцюме, з узнагародай на грудзях. «Праходзьце, малады чалавек»,— сказаў бы Танін бацька-геолаг. «Я вельмі рада з вамі пазнаёміцца,— сказала б маці.— Вы такі малады і амаль герой». Ён рассмяяўся ад гэтых сваіх думак.

Ён узяў білеты ў кіно і паглядзеў на гадзіннік. У запасе яшчэ тры гадзіны. Успомніў — даўно ў Вольскага не быў. Пакрыўдзіцца ён, скажа, як жыць не было дзе, дык знайшоў, а цяпер знік. Але дзяжурная сказала, што ён зноў адправіўся ў рэйс і вернецца толькі праз тры дні.

— Ён пытаўся, ці не прыходзіў ты,— сказала яна.

— І што вы яму адказалі?

Дзяжурная паглядзела на яго са здзіўленнем:

— Ты ж знік, даўно не быў...

Гаспадыні дома не было. Мацей з'еў некалькі бутэрбродаў з каўбасой, пералічыў свае грошы — да зарплаты павінна хапіць, можна нават пайсці з Таняй пасля фільма ў кафэ. Адкрыў знойдзенае ў паштовай скрынцы пісьмо з дому. «Маўчыш ты доўга,— пісала

маці.— Калі дамоў прыедзеш? Не за тысячу ж кіламетраў. Зусім побач. Мне сястра пісала, што ты не прыходзіш да яе. Дарэмна. Мужык у яе дрэнны чалавек, але якая табе справа да яго? Ёй і так нясоладка жывецца. Што думаеш з інстытутам? Бацька хвалюецца, што ты пасябруеш з благімі хлопцамі і табе будзе не да падрыхтоўкі. Хутчэй напішы нам аб усім падрабязна».

Мацей вырашыў заўтра ж напісаць сваім. Дзівакі яны. «З дрэннымі хлопцамі пасябруеш...» Бацька заўсёды быў перастрахоўшчыкам. Калі Мацей расказаў яму аб усім, што было ў апошнія дні службы, ён, вядома ж, быў рады за яго і горды, але без канца паўтараў: «Гэта ж магло дрэнна скончыцца...»

Мацей адклаў пісьмо і адчуў сябе стомленым. Ён заўсёды моцна стамляўся к канцу рабочага дня, але сёння мышцы балелі больш звычайнага. Ён лёг на канапу, але так і не заснуў. Усё паглядаў на гадзіннік і мінут праз дваццаць узняўся, пагаліўся, пачаў прасаваць штаны.

На спатканне прыйшоў на паўгадзіны раней, і час гэты цягнуўся вельмі доўга. Таня падышла нейкая зусім новая, незнаёмая: паспела за гэтыя некалькі гадзін зрабіць новую прычоску.

— Падабаецца ці не вельмі?

— Вельмі,— адказаў Мацей.

У кіно ён паглядваў усё больш на Таню, а часам заплюшчваў вочы і слухаў яе ціхае і вельмі блізкае дыханне.

— Ты зусім не глядзіш фільм,— сказала яна ціха.— Спаць пасля змены хочацца?

— Не... Толькі хутчэй бы скончыўся гэты фільм.

Яны першымі выйшлі з залы і зазірнулі ў суседняе кафэ. Людзей там было шмат, але, на шчасце, знайшліся свабодныя месцы.

— Ты любіш шампанскае? — спытаў Мацей.

— Вельмі.

Яна чокалася з ім бакалам, смяялася і гаварыла:

— Уяўляеш, я ведала, што калі-небудзь абавязкова сустрэну цябе. Толькі не падумай, што я дзівачка якая-небудзь. Проста я ведала гэта. А потым, калі ўбачыла цябе побач, падумала зусім спакойна: вось ён прыйшоў.

— А я ніколі не думаў аб гэтым,— сказаў Мацей.— І не верыў, што такое ўвогуле бывае. Цяпер дакладна ведаю — бывае,— ён паклаў сваю далонь на яе руку. Яму вельмі хацелася, каб хоць на імгненне вакол іх не было гэтых шумлівых і вясёлых людзей.

## 10

Мацей заканчваў пісьмо дамоў.

Здольнік, які ішоў у сталоўку, сказаў:

— Ты б ужо лепш за капустай гэтым заняўся. Усё ж зручней...

Пры слове «капуста» Мацей праглынуў сліну. Усе грошы, якія заставаліся да зарплаты, пайшлі на шампанскае.

— Нічога, я і тут папішу,— сказаў ён.— Есці сёння зусім не хочацца.

— Добра павячэраў? — усміхнуўся Здольнік.

Мацей пастараўся паказаць здзіўленне:

— А ты адкуль ведаеш?

— Па вачах бачу, што галодны, як д'ябал, і ў кішэні ў цябе вецер гуляе. На, трымай сярэбраны,— ён паклаў у далонь Мацея металічны рубель,— і давай за мной.

— Дзякуй. Заўтра аддам.— Мацей сабраў свае ліст-кі з варштата, пайшоў у сталовую.

— Запомні, калі абанкруцішся, гавары мне, не саромеючыся. Прыйдзеш да мяне дамоў, наясіся на тыдзень. У мяне маці кухарка па прызванню.

— Мая таксама добра гатуе,— сказаў Мацей.

Тут жа, у сталоўцы, Мацей дапісваў пісьмо.

«У мяне ўсё ў парадку,— пісаў ён.— На разрад хутка здаваць буду. У інстытут рыхтавацца яшчэ не пачаў, але вазьмуся. Ужо кнігі падрыхтаваў».

Ён бы і далей пісаў. Да таго ж Здольнік, відаць, знарок цягнуў час, сёрбаў суп, але адарваў Мацея ад паперы вельмі знаёмы голас.

— Таленты ў цябе, сакратар, пад самым носам прападаюць. Гэтага хлопца трэба рэдактарам цэхавай насценгазеты назначыць. А то насценгазета жаўцее з паўгода.

Цімчук! Толькі яго тут не хапала. Паставіў свой паднос на стол.

— Гэта я ўлічу, таварыш сакратар. А лісток у другім цэху жаўцее. Наш мы кожны месяц, а здараецца, і часцей мяняем.

Цімчук хмыкнуў. Яго невялікія вочкі заблішчэлі. Зразумеў — пераблытаў штосьці. Ён няспешна сеў за стол і, адкусваючы хлеб, спытаў:

— І пра што вы ў сваёй свежай газеце напісалі?

— Пра тое, што брыгада наша, напрыклад, Дашкевіча і яго хлопцаў на спаборніцтва выклікала...

Цімчук адкусіў кавалак хлеба, праглынуў некалькі лыжак супу.

— Пра гэта мне ўжо ваш майстар гаварыў. Абыдуць яны вас...

— Гэта мы яшчэ паглядзім, хто каго,— не вытрымаў Мацей.— Чаго загадзя гаварыць?

Цімчук узняў бровы.

— Вось гэта выхаванне! Пазнаю ў гэтым маладым чалавеку і Урбановіча, і цябе, сакратар.

— Ну і добра, што пазнаеш,— сказаў Сяргей, дапіваючы кампот.

Хутчэй бы ён, падумаў Мацей, а то гэты Цімчук яшчэ да чаго-небудзь прычэпіцца. І праўда, сакратар

камітэта камсамола галоўнае пакінуў на канец размовы.

— Добра, спаборнічайце. Гэта ваша справа. Але вось чаму ў газеце пра сваіх цэхавых п'яніц не напісалі? Шаржык які-небудзь на іх прыдумалі б.

— Пра ўсіх пісаць — газеты не хопіць,— махнуў рукой Сяргей.— Пасля работы забягалаўка ў парку па ўсіх швах трашчыць і у суседнія гастраномы не прабіцца. А ўсё чаму?..

— Чаму? — перапытаў Цімчук.

— Няма чым хлопцам заняцца. На заводскіх вечарах ад суму памерці можна. Танцы, танцы... Больш нічога. Праўда, па святах яшчэ даклады. Надакучыла гэта ўсім.

— Вось ты і прапануй што-небудзь новенькае на пасяджэнні бюро.

— На тым самым, дзе мяне заслухоўваць будуць?

Цімчук адмахнуўся:

— Хопіць табе... А пра п'яніц я не так сабе загаварыў. Трапілі вашы два зайчыкі ў міліцыю. Бойку ў парку пачалі...

— Хто?

— З фрэзернага ўчастка — Шаціла і Шамко.

— Дык жа Шамко ўсяго з месяц працуе,— здзівіўся Сяргей.— Трэба камсамольскі сход сабраць і ўсыпаць як мае быць.

Цімчук пайшоў.

— Дабіў ён мяне,— нявесела ўсміхнуўся Здольнік.— Ёсць прычына даць мне ў косці на бюро.

— У нас у арміі зусім інакш было,— сказаў Мацей.— А тут людзі пад градусам нават на работу прыходзяць. Пасмейваюцца сабе спакойна. Ведаюць — рабочых не хапае, значыць, ніхто не праганіць. Не баяцца.

Сяргей усміхнуўся:

— А ты тэарэтык. Армія — гэта армія, а завод —

зусім іншая справа. Тут чалавека адным загадам не спыніш, не перавыхаваеш.

— А табе ніхто не забараняе працаваць так, як ты хочаш,— не ўтрымаўся Мацей і памкнуўся ісці ў цэх, але, па праўдзе кажучы, толькі выгляд рабіў, што збіраецца туды. Хацелася адарвацца і забегчы на хвілінку да Тані.

Але Здольнік прапанаваў:

— Давай разам да гэтых «герояў» зойдзем. Можа, яны паелі ўжо. Пасля ўчарашняга апетыт не вельмі добры павінен быць.

— Давай,— згадзіўся Мацей і не без суму паглядзеў на дзверы, якія вялі ў цэх оптыкі.

На фрэзерным участку нікога не было. Толькі майстар стаяў ля свайго станка.

— Дзе Шаціла і Шамко? — спытаў Сяргей.

Маршчыністы твар майстра спахмурнеў.

— Пашчасціла...— цяжка ўздыхнуў ён.— Зваліліся мне на галаву... Хоць бы вы, камсамол, на іх паўздзейнічалі. А то я хутка не вытрымаю...

— Дзе яны ўсё ж?

— Абедаюць, напэўна,— больш спакойна пачаў майстар.— А магчыма, і пахмяліцца пайшлі. Выгнаць іх не магу — план гарыць. Канец месяца хутка,— майстар пачухаў патыліцу.

— А з кім яны п'юць, ведаеце?

— Як не ведаць? Я ж не сляпы. Янушкевіч тут на такарным ёсць такі. Кажуць, мужчына галавасты, працаваць умее, а хлопцаў з панталыку збівае. Пасля работы тут як тут: «Давайце па рубліку». Хлопцы маладыя, а мяшкі пад вачыма раніцой вісяць, як у п'яніц з паўвекавым стажам.

— Вы б хоць за вучнем сваім прыглядвалі,— з папрокам сказаў Здольнік.— Не паспеў на завод прыйсці, а п'яніцай ужо стаў. У міліцыю разам з Шацілам трапіў.

— Во, сказаў: «Не паспеў на завод прыйсці...» Ён гатовенькім прыйшоў. Валасы па плечы, штаны шырынёй з бабскую спадніцу. Ды і за словам у кішэню не лезе. А вось, дарэчы, яны ідуць.

Па цэху ішлі двое хлопцаў. Адзін — гадоў семнаццаці, з рэдкімі абвіслымі вусікамі, з такой жа рэдкай шавялюрай, якая падае на самыя плечы, вузкія, як у дзяўчынкі. Другі — старэйшы гады на тры, а то і на чатыры. І ўвесь выгляд у яго быў больш упэўнены, задзірлівы.

— Добры дзень, Шаціла,— сказаў яму Здольнік.

Шаціла адказаў не адразу, аглядзеў Мацея з ног да галавы доўгім, уважлівым позіркам, прабурчаў:

— Вітаю камсамольскае начальства,— паказаў галавой у бок Мацея: — А гэта, значыць, новы актывіст?

— Ага. Зусім як і ў цябе новы калега па п'янцы.

Не паспеў Шаціла і слова ў адказ сказаць, як ягоны напарнік выкрыкнуў:

— Чаго нам мараль чытаеш? Самі адукаваныя. Фрэзу не прапілі. За свае грошы п'ём. Трапілі ў міліцыю — няхай караюць!

— Спакойна, Віталь,— Шаціла падняў руку,— спакойна, трэба берагчы нервовыя клеткі. А таварыш сакратар цэхавай камсамольскай арганізацыі хай паслухае маладога рабочага.

— Што вы крыўляецеся, як клоуны. Глядзець агідна! — не вытрымаў Мацей.

— А ты не глядзі. Ідзі адсюль на свой такарны,— кінуў Шаціла.— Я цябе ведаць не ведаю, падпявала.

Мацей зрабіў насустрач крок, спытаў:

— Гэта хто падпявала?

Шаціла адступіў, выставіўшы наперад рукі, папярэдзіў:

— Камсамольскім актывістам біцца нельга.

— Вось і пагавары з такімі,— развёў рукамі майстар.

— Добра, хопіць на сёння,— сказаў Здольнік.— Размаўляць мы з імі будзем усім цэхам на сходзе. А калі і потым не зразумеюць, станем хадайнічаць перад адміністрацыяй аб звальненні.

Адышлі ад фрэзернага, і Мацей сказаў:

— Гэты, другі хлопец, з вусамі, нічога. Ён проста пераймае ўсё. Калі я ў арміі аддзяленнем камандаваў, у мяне таксама быў падобны. Думаю, яшчэ можа чалавекам стаць.

Здольнік нават спыніўся:

— А што, калі ты гэтым зоймешся? Паспрабуй. Увядзём цябе ў савет маладых рабочых, і шэфствуй сабе на здароўе. Тым больш, вопыт у цябе ёсць. А камсамольскіх даручэнняў — ніводнага пакуль.

Мацей усміхнуўся, сказаў:

— Пахваліўся на сваю галаву. Ладна, запісвай даручэнне.

## 11

Арцём не з'явіўся на работу. Радый падыходзіў да яго станка і пытаўся:

— Не прыйшоў? — і адразу ж дадаваў: — Зразумела, не прыйшоў. Значыць, ужо не прыйдзе.

У абедзенны перапынак ён шпарка хадзіў па бясконцаму цэху. Астатнія хлопцы па-ранейшаму шліфавалі лаўку ў курылцы, купаючыся ў клубках дыму.

— І чаго кіпяціцца? — здзівіўся Васіль.— Раней ён так не псіхаваў з-за прагулаў. Скажа пару слоў — і супакоіцца.

Здольнік сказаў:

— А можа, захварэў Арцём? У газетах пішуць — эпідэмія нейкага асаблівага грыпу.

— Яго не так проста зваліць грыпу,— азваўся Здольнік.

— Гэта правільна, хлопец ён моцны. Учора мяне

на сотцы ледзь не абышоў. А я ў батальёне хутчэй за ўсіх бегаў,— сказаў Мацей і тут жа дадаў· — Але з кім не здараецца.

За дзень да гэтага Здольніку ўдалося вывесці амаль увесь цэх на заводскі стадыён здаваць нарматывы ГПА. Цімчук усміхаўся і гаварыў камусьці з прадстаўнікоў спартыўнага таварыства:

— У нас заўсёды так. На старт выходзім усім калектывам.

Са здачай нарматываў ГПА атрымалася сапраўдная камедыя. Многія нават не маглі дыстанцыю закончыць. Але прадстаўнік спорттаварыства гэтага не бачыў. Ён знік заспакоены — масавасць забяспечана. Цімчука таксама не было. Калі ўсё скончылася, заводскі інструктар фізкультуры раздаваў усім значкі ГПА. Нават Янушкевічу таксама ўручыў.

Назаўтра Мацея пабудзіла Варвара Цімафееўна рана.

— Чалавек тут да цябе. Гаворыць, з завода,— сказала яна.

Мацей нават здзівіцца не паспеў — з-за яе спіны выглядаў Арцём.

— Ледзь знайшоў цябе. Забраўся ты за блізкі свет,— сказаў ён.

— Ты што, учора ўвесь дзень шукаў мяне? — здзівіўся Мацей.

Арцём падняў рукі ўгору:

— Ну, здаюся, ну, забі — толькі вельмі трэба было ўбачыць цябе. Навіны ў мяне ёсць. Думаю, зайду, раскажу табе, а потым разам на завод патэпаем...

— Тут не навінамі дзяліцца трэба,— сказаў Мацей, пахмурна назіраючы за тым, як Арцём бутэльку піва на стол выстаўляе.— Учора Радый злаваў. Сам ведаеш, з планам у нас не вельмі, завалілі заказамі і дэталямі. Спознімся, не справімся — Дашкевіч шум падыме. Яго план ад нас залежыць, і яшчэ як!

Арцём затрымаў на ім пагляд быццам бы знарок, але загаварыў так, як усё роўна ўзважваў кожнае слова.

— Усё гэта правільна, Мацей. А вось спытаць, чаму таварыш твой на работу не выйшаў, нават і не падумаў. Адразу мараль пачаў чытаць.

— Ды пачакай ты крыўдзіцца. Давай гавары. Толькі піва мне не налівай — не п'ю.

— А я вып'ю. Сёння мне можна. І ўчора таксама можна было.

— Не цягні, выкладвай, што здарылася.

Але Арцём не спяшаўся. Ён залпам выпіў дзве шклянкі піва, усміхнуўся:

— Заканчваецца маё вольнае жыццё. Дакладней — амаль скончылася. Другім разам, але цяпер канчаткова. Можаш запісаць у пратакол: так будзе!

— Жаніцца надумаў?

— Вось іменна!

— І на рабоце з-за гэтага не быў?

— На рабоце не быў зусім па іншай прычыне. У той дзень у мяне ледзь усё не разладзілася.

Мацей зразумеў, што вось так адразу ад Арцёма нічога не даб'ешся. Глянуў на гадзіннік — час ісці. Хуценька прыгатаваў яешню. Яны перакусілі і выйшлі на вуліцу. На аўтобусным прыпынку было шмат народу.

— Цяпер давядзецца за сваё месца ў жыцці змагацца,— сказаў Арцём, быццам на нейкія свае, незнаёмыя для Мацея, думкі адказаў.

— Пакуль да завода дойдзем, ты мне паспееш усё расказаць або да вечара расцягнеш? — спытаў Мацей.

— Чаго тут расцягваць? Усё зразумела і проста. Памятаеш, расказваў я табе пра адну дзяўчыну, больш правільна, жанчыну?

— У курылцы расказваў.

— Дык вось, тым самым вечарам, пасля здачы

6 Зак. 599

ГПА я да яе пайшоў. Не атрымалася ў нас размова. Пасварыліся. Яна зноў за сваё ўзялася: не патрэбна я табе і іншае... Я і раззлаваўся. Непатрэбна дык непатрэбна. Жыві яе ведаеш, а я сам па сабе жыць буду. І пайшоў. А пасля ўсю ноч не спаў. Як хлапчук. Раніцой не на завод, а да яе пабег. І вырашылі мы ўсё. Вось так.

— Віншую цябе,— сказаў Мацей.— Ты зрабіў правільна. А Радыю мы ўсё растлумачым.

— Растлумачым. Ён зразумее, хоць я і паразіт, вядома,— не паспеў дагаварыць Арцём, як убачылі: насустрач ім ішоў па цэху Урбановіч.

— Сёння разам прыйшлі, а заўтра раптам забудзеце, што план гарыць, і патэпаеце міма? — І не паспеў Арцём рот раскрыць, як Урбановіч спытаў: — Расказвай, галубок, чаго і колькі ўчора выпіў...

Арцём глянуў на Мацея: маўляў, тут так проста не адкруцішся, заесць.

— Справа складаная,— пачаў Мацей першы.— Тут адразу ўсё і не растлумачыць. Лепш перанесці размову на абед.

Урбановіч недаўменна пацiснуў плячыма.

— Добра, я коратка. Справы ў мяне асабістыя ўчора вырашаліся...— выбухнуў Арцём, і Урбановіч на гэта сказаў толькі:

— Глядзі ў мяне, калі хлусіш — амба.— Пагляд у яго пацяплеў. Ён зразумеў, што каму-каму, але ўжо не Арцёму такім тонам заўвагі рабіць. Дадаў: — Добра, д'ябал з табой.

Перад абедзенным перапынкам Урбановіча і Мацея паклікаў Сямёныч, па яго словах, для асабліва важнай размовы.

Майстар сядзеў за сталом, накрытым абрусам, у ленпакоі. Вакол былі раскладзены чарцяжы, кнігі.

— Усё вучымся? — спытаў Радый і падміргнуў Мацею.

— Заела вучоба праклятая,— пасміхнуўся Мікалай Сямёнавіч.— Сам часам падумваю: ці трэба мне гэта пад старасць гадоў? І тут жа адказваю — трэба!

Радый і Мацей селі.

— Не надакучыла табе яшчэ з пруткамі валаводзіцца? — спытаў Мікалай Сямёнавіч у Мацея.

— Надакучыла.

— Да таго ж брыгадзе не вельмі выгадна,— сказаў Урбановіч.— Можна сказаць, рабочы рытм збівае. Мы ўсе універсалы, а ён — як вучань... Па-мойму, час...

— Вось я таксама лічу, што Мацею час пераходзіць на больш складанае — развёрсткі, штамбы, фрэзы. Займацца тым, чым брыгада займаецца.

— А брыгаду даўно ўжо час на даводку пераводзіць,— сказаў Урбановіч як бы між іншым.— Толькі калі прарыў, тады нам участак паслятэрмічкі даюць. Нават кольцы разьбовыя даводзіць давяраюць...

Мікалай Сямёнавіч пакруціў вус.

— Так проста мы з табой пытанне не вырашым. Пакуль што ваша брыгада Дашкевічу на даводку дэталі пастаўляе, а не Дашкевіч вам. Перамажыце іх, тады і паглядзім.

Урбановіч падбадзёрыўся, выгукнуў:

— Вось гэта, я разумею,— спаборніцтва! Перспектыва, як у газетах пішуць. Мы справіліся. І Мацей таксама. Некалькі разоў я яму пробу даваў рабіць — атрымліваецца.

— Значыць, на гэтым і вырашылі. Тыдні праз два, лічу, ён можа смела на разрад здаваць.

— Я таксама так лічу,— сказаў Урбановіч і Мацея па плячы паляпаў.— На вачах расцеш, таварыш Заха́рэвіч.

Калі прыйшлі на ўчастак, Урбановіч сказаў хлопцам:

— Прашу знаёміцца — новы токар-універсал. Толькі што ад Шэпеля.

— Віншую,— першы падышоў да Мацея Здольнік.— Даўно трэба за сапраўдную работу брацца, а то ўсё пруткі ды пруткі.— І да болю сціснуў Мацею руку.— Цяпер няхай трымаецца Дашкевіч.

— З'явілася перспектыва мець стабільныя заказы па даводцы,— сказаў Урбановіч.— Усё ад нас залежыць.

Палуян нават прысвіснуў:

— Здорава! Даводка — гэта грошыкі і работа прыемная, хоць і потам ад яе патыхае.

— Грошы, вядома, усім патрэбны,— нявесела паглядзеўшы на Палуяна, сказаў Здольнік,— але тут, я лічу, справа ў іншым. Размова ідзе аб нашым рабочым майстэрстве, і мы не павінны прайграць у спаборніцтве.

Твар у Палуяна запунцавеўся.

— Вечна ты дурнем мяне выстаўляеш. Я хацеў тое ж самае, што і ты, сказаць.

— Толькі іншымі словамі? — спытаў Арцём.

— Не табе аб гэтым гаварыць,— узбурыўся Палуян.— Учора дзе быў?..

— Не з таго мы, хлопцы, другую палову дня пачынаем,— сказаў Урбановіч.— Пойдзем лепш працаваць.

Арцём адкінуў цыгарэту і першы выйшаў з курылкі.

— Ну і завадны,— сказаў яму ўслед Палуян і тут жа звярнуўся да ўсіх астатніх: — І што я такога сказаў?

— Ты ўсё ж думай, перш чым сказаць што-небудзь,— параіў яму Здольнік.

Палуян нічога не адказаў на гэта. Мацей падышоў да свайго станка і паглядзеў на Арцёма. Рухі яго былі дакладныя, размераныя — ён заціскаў дэталь у патрон...

Мацей да поўначы праседзеў за паперамі — усё чарціў, перакрэсліваў і зноў рабіў.

Калі ў цэху ўсе сабраліся, Арцём сказаў:

— Тут нам Мацей нешта паказаць хоча. Мне здаецца, прапанова дзелавая,— ён падміргнуў Мацею, маўляў, усё будзе ў поўным парадку.

Урбановіч здзіўлена сказаў:

— Не паспеў з аперацыёнкі на сапраўднае заданне перайсці, а прапановы ўжо ёсць. Ве-ельмі цікава.

— Я гэта не цяпер прыдумаў, калі па праўдзе гаварыць... Толькі тады не паспеў праверыць...

— А цяпер? — спытаў Арцём.

— Праверыў,— прызнаўся Мацей.— Справа ўвогуле нескладаная. Як мы працуем? Цэнтруем, напрыклад. Заціскаем дэталь у патрон трохкулачковы або ў цангу. Падводзім заднюю бабку і цэнтруем. Шмат часу ідзе на падвод, увод бабкі, на заціскание.

— А як з гэтай сітуацыі выкруціцца? Што ты прапануеш? — не ўтрымаўся Урбановіч.

— Трэба, як мне здаецца, рабіць усё інакш. У патрон або ў цангу заціснем цэнтроўку, а ў свідравальны патрон задняй бабкі ўставім зажым, прывычны для нас «званочак».

— Што далей? — гэта Палуян не ўтрымаўся.

— У разцатрымальнік уставім звычайнае прыстасаванне. Яно і будзе падтрымліваць дэталь. Не будзе затрачвацца час на заціскание дэталі, усё можна рабіць па ходу. Станок спыняць не трэба, ды і заднюю бабку адводзіць давядзецца на два-тры абароты,— Мацей змоўк.

Некалькі імгненняў стаяла цішыня.

— Пайшлі да станка,— сказаў Урбановіч.

Ён выбраў у скрыні балванку, пакруціў у руках, як бы ўзважваючы, і сказаў:

— Зараз паглядзім, як гэта выглядае...

— Я сам пакажу,— сказаў Мацей.

Урбановіч адмоўна хітнуў галавой.

— Ты прабач, цярпенне ў мяне лопнуць можа. Хачу сам паспрабаваць.

Ён схіліўся над станком. Мацей стаў насупраць, каб усё бачыць. Яму здавалася, што Урбановіч, нягледзячы на свой вопыт, зараз усё пераблытае... Але той рабіў усё так, як гаварыў Мацей.

І вось ужо ўключан станок, закруцілася на вялікай хуткасці дэталь. Рухі Урбановіча, якія сталі, як і раней, засяроджаны і спакойны, былі няспешныя, ён паспяваў рабіць усё так, быццам вечна працаваў гэтым, толькі што прапанаваным Мацеем, спосабам.

Праз колькі хвілін ён перакідваў з рукі на руку гарачую яшчэ дэталь і, усміхаючыся, гаварыў:

— Малайчына, Мацей. Гэта ж можна дзве дэталі замест адной гнаць.

— М-да, добра ўсё атрымалася,— задумліва прагаварыў Здольнік.— І вельмі проста. Дарэчы, усе геніяльныя адкрыцці здаюцца вельмі простымі.

— А што — гэта і ёсць самае сапраўднае адкрыццё ў нашай такарнай справе,— сказаў Арцём.— Толькі вось што рабіць з ім?

— На што ты намякаеш? — спытаў Урбановіч.— На рацпрапанову, ці што? Пойдзем і пададзім на спадачку з блакітнай аблямоўкай гэтую рацпрапанову Дашкевічу і яго кампаніі, так?

Палуян зазначыў:

— Той-сёй толькі і чакае рацпрапаноў. Потым адразу ж расцэнкі зрэжуць.

— У нашым цэху ў апошні час штосьці не вельмі рацпрапановамі раскідваюцца, хоць, я ведаю, амаль у кожнай брыгадзе — і ў токараў, і ў фрэзероўшчыкаў — свае хітрыя задумкі ёсць,— усміхнуўся Арцём.— Таму маўчок аб вынаходніцтве Мацея.

— Нічога не разумею,— сказаў Мацей, калі пытанне было амаль вырашана.— Самі ж гаварылі, што Дашкевіч і ўся яго кампанія — хапугі, што яны нічым дзеля заробку не грэбуюць. І атрымліваецца, што самі мы думаем так, як яны...

Урбановіч прысвіснуў, а Здольнік сказаў:

— Па-мойму, Мацей правільна гаворыць.

— Правільна, правільна,— перакрыўляў яго Палуян.— Хлапчук захацеў дыплом рацыяналізатара атрымаць і прэмію прыхапіць. Ды што гэта прэмія ў параўнанні з тым, што ўсе мы страцім...

— Можна падумаць, што ты прэміі за рацпрапановы калі-небудзь атрымліваў,— упікнуў Палуяна Здольнік.

Твар у Палуяна пачырванеў:

— А табе што? Ты ў інжынеры перакінешся, а мне, напрыклад, да канца дзён сваіх ля станка спіну гнуць.

Здольнік пацiснуў плячыма. Арцём хацеў нешта сказаць, ды Урбановіч апярэдзіў яго:

— Няхай Мацей сам вырашае, што рабіць. У рэшце рэшт, гэта вынаходніцтва яго...

У Мацея цэлы дзень работа з рук валілася. У абедзенны перапынак абяцаў Таню наведаць, каб разам у сталоўку схадзіць, але адправіўся ў курылку.

Там ужо былі ўсе аднабрыгаднікі.

Арцём усміхнуўся і нявесела сказаў:

— У мяне, трэба ж, пасля гэтай нашай размовы штосьці з рукамі здарылася. Не хочуць працаваць. Я іх прымушаю, а толку ніякага. Як ватныя. Некалькі дэталяў запароў. Даўно такога са мной не было.

— І са мной — тое ж самае,— сказаў Мацей.

— Я нічога не сапсаваў, але адно сказаць магу — дрэнная ў нас размова атрымалася,— Урбановіч глыбока зацягнуўся. Ён знарок выпусціў дым акуратнымі, быццам з-пад штампа, кольцамі, кашлянуў.— Ясна,

што пасля такой рацпрапановы расцэнкі, як піць даць, зрэжуць. Але ж на тое і рацпрапановы.

— Глупства нейкае атрымліваецца. Быццам бы і выйсця няма,— сказаў Арцём.

— Я так думаю: пакуль мы з Дашкевічам спаборнічаем і вынікі невядома якімі будуць — аб вынаходніцтве Мацея нікому ні слова,— унёс прапанову Урбановіч.

— А потым што? Да начальства пабяжым? — выкрыкнуў Палуян, гледзячы на ўсіх.

— Дык ёсць усё ж выйсце ці не? — спытаў Здольнік ва ўсіх адразу.— Або зараз пачнём кулакамі размахваць?

— Не пачнём,— Урбановіч выйшаў у цэнтр.— Раскладзём дашкевічаў на лапаткі, а пасля няхай Мацей са сваёй рацпрапановай што хоча, тое і робіць.

— Я — за! — сказаў Здольнік.

Палуян, на якога ўсе паглядзелі, як па камандзе, сказаў нягучна:

— Надакучыла мне ўсё гэта. Чысцюлямі хочацца быць, аж брыдка.

— А брыдка, дык не глядзі. Вочы ў другі бок адвярні,— папікнуў яго Урбановіч.

— Не палохай. Не прападу.

Ён пайшоў.

## 13

У канцы дня Мацей адчуў, што рукі ў яго гудуць ад стомы. Ён застаўся задаволены — замест сарака дэталяў здаў у АТК цэлых пяцьдзесят пяць. Сказаў аб гэтым Здольніку. Той паляпаў яго па плячы:

— Ты проста малайчына. Новым спосабам працаваў?

— Так. Можна было б і больш зрабіць, але я баяўся напартачыць.

Сказаў і толькі тады заўважыў, што Здольнік невясёлы.

— А ты чаго сумны? Стаміўся?

— Стаміўся, вядома... Але не ў гэтым справа. Ты на мяне не пакрыўдзіўся?

— За што? — здзівіўся Мацей.

— Не прыкідвайся. Я б на тваім месцы пакрыўдзіўся. Калі спрэчка разгарэлася, не мог я за цябе як след заступіцца... Хутка я пайду з брыгады. А таму ж Палуяну за станком стаяць яшчэ дзесяткі гадоў.

— Глупства ўсё гэта, павер. Ды і не ў гэтым соль...— Мацей паглядзеў на гадзіннік: яму час да Тані.

— Ты чым займаешся вечарам?

— Сам яшчэ не ведаю. Магчыма, у кіно з Таняй сходзім, а потым вучыць трэба... У інстытут я вырашыў паступаць. На вячэрні.

— Гэта добра! Калі ў цябе што-небудзь не будзе атрымлівацца — звяртайся. Пасядзім пару вечаркоў, задачкі парашаем.

— Дзякуй. Але пакуль што мне трэба вучыць усё з самага пачатку. Калі цяжка будзе, я абавязкова прыйду да цябе.

— Заходзьце сёння да мяне. Старыя на дачу едуць. Пасядзім, музыку паслухаем. У мяне выдатныя запісы. А вучыць будзеш заўтра — субота ж.

— Я згодны. Прыйдзем, калі Таня, вядома, згодзіцца.

— А ты зараз да яе ідзеш?

— Ага.

— Тады пойдзем разам. Ты яшчэ не ведаеш маіх агітацыйных здольнасцяў... Угаворым!

Таня спачатку аднеквалася, а потым згадзілася. Дамовіліся сустрэцца на тралейбусным прыпынку.

Мацей доўга выбіраў, што яму апрануць. З касцюмам усё проста — у яго адзін добры касцюм. А вось

кашуль і гальштукаў шмат. Пабег у гастраном купіць віна, сказаўшы папярэдне Варвары Цімафееўне, што затрымаецца. Яна ўздыхнула:

— Адчуваю я, што хутка давядзецца мне новага кватаранта шукаць. Хлопец ты сур'ёзны, а такіх дзеўкі адразу ў рукі бяруць.

Мацей засмяяўся. Вельмі ўжо не падыходзіла слова «бяруць» да яго адносін з Таняй. Перадаў Тані словы гаспадыні. Яна рассмяялася:

— Сцеражыся, сур'ёзны хлопец!

У Здольніка ў гасцях была дзяўчына. Наташа. Здольнік уключыў музыку, наліў у бакалы віно.

— Я прапаную тост. Давайце вып'ем за нашага новага заводскага рацыяналізатара,— і паказаў на Мацея.

— Гэта ён рацыяналізатар? — здзівілася Таня.

— Яшчэ які! Такую штуку прыдумаў, што ўсе токары, нават самыя здольныя, калі даведаюцца, ахнуць.

— Загнуў ты, Сяргей... Усё элементарна...

Калі выпілі, Здольнік зноў пачаў:

— Ты б паслухаў, што пра цябе Сямёныч гаворыць! Так прама і сказаў — у гэтага хлопца рабочы талент.

Тут умяшалася Таня:

— Наташа, давайце запросім іх танцаваць, а то ўвесь вечар пра завод прагавораць.

— Мы здаёмся і больш не будзем! — падняў рукі Здольнік.

Добра, што ў Сяргея магнітафон і запісы ідуць адзін за адным. Можна танцаваць бясконца, не адпускаючы Таню ад сябе ні на імгненне.

— Я магу так танцаваць да раніцы,— шапнуў Мацей Тані на вуха.

— Я — таксама...

Назаўтра, седзячы з самай раніцы за падручнікамі, ён ніяк не мог засяродзіць на чым-небудзь увагу.

Успамінаў учарашні вечар — і танцы, і тое, як яны ішлі па пустынных марозных вуліцах, і як цалаваў яе і халодныя вусны імгненна рабіліся гарачымі. Мацей усё ж прачытаў і законспектаваў некалькі раздзелаў. Але ў галаве мала што засталося.

Ён знайшоў у кішэні двухкапеечную манету і пабег да тэлефоннай будкі, якую, быццам для яго, зусім нядаўна паставілі на супрацьлеглым баку вуліцы.

Мацей набраў нумар тэлефона і адчуў, як Таня ўсміхаецца ў тэлефонную трубку.

— Убачымся сёння? — спытаў ён.

— Ага. Я чакала званка і баялася, што ты не пазвоніш.

— Давай у кіно сходзім. «Раманс пра закаханых». Кажуць, добры фільм.

— Дамовіліся. А цяпер ідзі і садзіся за падручнікі.

— І ты таксама.

За дзве гадзіны да сустрэчы з Таняй Мацей пабег да кінатэатра, перамёрз, але «лішняга» білеціка так і не здабыў. Яны пахадзілі крыху.

— Зойдзем у кафэ. Я ні разу ў ім не быў. Назва добрая — «Медавуха».

У кафэ было цёпла і ўтульна. Іграў «Меламан». На цесным пятачку неяк умудраліся танцаваць пар пятнаццаць.

— Тут пахне мёдам,— сказала Таня.— І галоўнае — цёпла.

Яны селі за паўкруглы столік на дваіх. Мацей заказаў кактэйлі, каву.

— Вы паглядзіце, хто сюды прыйшоў — камсамольскі актывіст з барышняй,— пачуў ён за спіной насмешлівы знаёмы голас.

Мацей рэзка павярнуўся. На яго глядзеў Віця Шамко. Побач сядзелі двое такіх жа — з доўгімі валасамі, чырвонымі ад выпітага віна тварамі.

— А дзяўчына што трэба. Амаль міжнародны стан-

дарт,— сказаў адзін з сябрукоў Шамко.— Можа, запрасіць яе на танец?

— Слухай, Шамко,— сказаў Мацей як мага спакойна.— Або выбірайся адсюль, або памаўчы. І свайму шчыглу-сябруку тое ж самае парай.

Як ні дзіўна, кампанія прыціхла. Толькі сябрук Шамко пачаў перасоўваць крэсла.

— Яны цябе могуць падпільнаваць вечарам,— сказала Таня.

— Не падпільнуюць. У мяне, дзякуй богу, ёсць вопыт. З кім-кім, а з гэтымі спраўлюся,— заспакоіў яе Мацей, і потым спытаў: — А ты не пазнала з іх нікога?

— Не. Хоць, пачакай, твар таго, што першы загаварыў, быццам бы недзе сустракала.

— Я табе неяк паказваў. Гэта мой падшэфны.

— Адчуваецца.

— Як падысці да яго? Сяргей даручэнне даў па камсамольскай лініі. Я згадзіўся, а цяпер сам не ведаю, як з гэтым Шамко загаварыць. На сходзе дадуць нагоняй за такое шэфства.

— Давай пойдзем адсюль, я ўжо сагрэлася.

У дзвярах яны сутыкнуліся з Янушкевічам і яшчэ з нейкім хлопцам. Кішэні ў іхніх паліто адтапырваліся.

— Якая сустрэча! — сказаў Янушкевіч, убачыўшы Мацея.— Канкурэнт, і ў такім месцы? Можа, вып'еш з намі «біяміцынчыку»? Мяне вунь хлопцы чакаюць.

— Дзякуй за запрашэнне,— сказаў Мацей,— а хлопцаў я і сам бачыў.

Мацею ўспомнілася гэта сустрэча праз некалькі дзён, калі ён убачыў у цэху аб'яву аб цэхавым сходзе. На парадку дня стаяла адно пытанне: разбор паводзін токара Янушкевіча.

— Напэўна, зноў у выцвярэзнік трапіў,— сказаў Арцём.

І тут сам Янушкевіч быццам з-пад зямлі вырас. Шырока расставіўшы ногі, прагаварыў:

— Аб'явы пішуць. А мне начхаць! — плюнуў і расцёр падэшвай шырокага чаравіка.— Што яны мне зробяць? Я — рабацяга. Ну, перабраў, хапіў лішняга, а міліцыя тут як тут. Я ж не робат, жывы чалавек...

Гаварыў ён гэта ўсім, хто спыніўся ля аб'явы.

Нехта зазначыў:

— Часта перабіраць ты, марская душа, стаў.

— Не за тваё! — выкрыкнуў Янушкевіч.

Калі на ўчастак прыйшоў Урбановіч, Арцём яму адразу ж сказаў:

— Бачыў аб'яву? Сапернік наш зноў уліп.

— Гнаць такіх трэба з завода,— вымавіў Урбановіч.— У жывёліну хутка ператворыцца, а ўсё ў грудзі сабе стукае, маўляў, я рабочы...

— Хай яго разбіраюць,— абыякава прагаварыў Палуян.— Нам што? Нават лепш. Лягчэй будзе іх перамагчы!

— Палуян у сваім рэпертуары! — сказаў Здольнік.

У канцы змены рабочыя пачалі сыходзіцца на сярэдзіну цэха, дзе звычайна адбываліся мітынгі, выступалі артысты з філармоніі, лектары з таварыства «Веды». Сёння павінен быў адбыцца сход з разборам справы Янушкевіча. Ішлі людзі на сход, пасмейваючыся.

— З яго як з гусака вада. План выконвае. А ад бутэлькі — за вушы не адцягнеш.

Першы ўзяў слова старшыня цэхкома Цімафееў.

— Таварышы,— сказаў ён.— Мне здаецца, мы вельмі часта і многа гаворым пра Янушкевіча, які ганьбіць імя рабочага чалавека. Цяпер, калі мы выйшлі ў рады перадавых, з-за такіх забулдыгаў, як ён, завод на ўсіх нарадах нядобрым словам успамінаюць...

Выступалі многія. Некаторыя жорстка, але большасць гаварыла, што Янушкевіч усё ж нядрэнны рабо-

чы і звальняць яго не варта. За ўсім моўчкі назіраў высокі маладжавы чалавек — начальнік механічнага цэха Пятровіч.

— Глупства нейкае атрымліваецца,— ціха сказаў Мацей.— Сядзіць сабе Янушкевіч і ўсміхаецца. Усё, маўляў, у парадку. Быццам і не пра яго гавораць.

— А ты вазьмі ды і выступі,— прапанаваў Здольнік.— Як прадстаўнік камсамольскай арганізацыі. Тым больш, Янушкевіч твайго падшэфнага спойвае. Аб гэтым і скажы.

— Ды не лезь ты,— махнуў рукой Арцём.— Д'ябал з ім, з Янушкевічам.

Мацей усё ж накіраваўся ў цэнтр пятачка. На яго паглядзелі са здзіўленнем...

— Тут многія выступалі,— пачаў ён,— і з многімі я не згодзен. Пры чым тут — добры рабочы? Перш за ўсё Янушкевіч п'яніца. Няхай бы піў сабе адзін. Дык не... Я бачу, як хаваецца за спіны Віця Шамко. Некалькі разоў у міліцыю трапляў. І ўсё дзякуючы каму? Свайму старэйшаму «сябру». Янушкевіч спойвае не толькі Шамко, але і іншых...

— Яйка курыцу вучыць,— гучна сказаў Дашкевіч.— Вы толькі паслухайце — чалавек нейкіх пару месяцаў на заводзе працуе, а ўжо ў настаўнікі лезе.

Усчаўся шум. Было незразумела, хто што гаворыць. І тут Янушкевіч стаў побач з Мацеем.

— Браточкі, ды вы мяне хоць пакарайце, але толькі яму гэтага не дазваляйце. Я ж на флоце служыў. А гэта хто? Салабон жаўтароты!

І тут наступіла поўная цішыня. Усе глядзелі на Мацея. І ён сам не памятае, як вырвалася ў яго:

— Салабонам у арміі ордэнаў не даюць. А такія, як ты, з «губы» не вылазяць...

Ён сказаў гэта і накіраваўся да сваіх.

— Які яшчэ ордэн? — спытаў Урбановіч.— У цябе ордэн ёсць?

— Раскажы,— прасілі з усіх бакоў.

Тым часам слова ўзяў начальнік цэха.

— Я лічу,— сказаў ён,— што Мацей Захарэвіч і іншыя таварышы, якія патрабавалі тут самых строгіх мер у адносінах да Янушкевіча, гаварылі справядліва. Такім не месца ў нашым рабочым калектыве!

Мацей толькі цяпер адчуў, якая мокрая ў яго кашуля. Яна прыліпла да цела, як у той дзень, калі ён ішоў па размытай зямлі, трымаючы ў руках іржавыя ад часу снарады.

Яго акружылі хлопцы, свае, з іншых брыгад.

— Добра ты Янушкевічу ўляпіў...— гаварыў хтосьці. І зноў яго прасілі: — Раскажы.

— Не цяпер, пасля.

Пайшлі ў курылку. Мацей глыбока зацягнуўся.

Раптам перад імі з'явіўся сакратар камітэта камсамола Цімчук.

— Таварыш Захарэвіч,— сказаў ён, не звяртаючы ўвагі на іншых.— Вы зайдзіце заўтра з самай раніцы ў камітэт камсамола. Мы цяпер толькі паглядзелі вашу армейскую характарыстыку. Разумееце, усё рукі не даходзілі. Вы б і самі маглі расказаць. Мы вырашылі падрыхтаваць стэнд пра вас.

— Добра, я зайду. Толькі ніякіх стэндаў. Я не маці-гераіня.

— Я вас вельмі прашу,— зноў паўтарыў Цімчук і знік.

— Цяпер ён ад цябе не адстане,— сказаў Урбановіч.

— Час дамоў ісці,— сказаў Палуян.— Бо Мацей, напэўна, вырашыў усіх нас замучыць да смерці. Быццам вады ў рот набраў.

Мацей зацягнуўся апошні раз, адкінуў недакурак і сказаў:

— Гісторыя гэта, увогуле, самая звычайная...

## 14

Надвор'е было дрэннае. Дождж ліў другія суткі.

Мацей вельмі баяўся паслізнуцца. Ён ішоў за капітанам, глядзеў на яго мокрую спіну і думаў: «Толькі б не ўпасці». Вецер дзьмуў моцны, частымі парывамі, але яму здавалася, што вакол стаіць мёртвая цішыня. Ён асцярожна перасоўваў ногі. Для мінёраў не прыдумалі ботаў з падэшвай, як у альпінісцкіх чаравіках, і дарэмна.

Яму здалося, што ён чытае думкі капітана, які ішоў наперадзе. Вядома ж, капітан думае аб тым жа: толькі б не ўпасці на гэтую размытую дажджом зямлю... Плечы ў капітана апушчаны, ступае ён цяжка, няўпэўнена. Нарэшце яны зноў дайшлі да ўзгорка. Апусцілі тое, што было ў іх на руках,— іржавыя нямецкія снарады...

Адышлі і, не згаворваючыся, закурылі.

— Ну, як? — спытаў капітан. Невядома, што ён меў на ўвазе.

Мацей не адказаў. Ён з прагнасцю зацягваўся дымам і думаў аб тым, што зараз страх зноў ажыве ў ім...

— Ну, як, не шкадуеш, што згадзіўся? — пытае ў яго капітан і выцірае пот з твару шырокай, перапэцканай зямлёй далонню. На твары застаюцца бурыя палосы, але капітану не да іх.

— Не шкадую,— гаворыць Мацей.— Чэснае слова, таварыш капітан.

— Тады — добра. Поўны, як кажуць, парадак. Сумненні мяне больш хваляваць не будуць. А гэта галоўнае — упэўненасць.

Мацей з капітанам разумелі адзін аднаго. Сам не ведае, як гэта атрымалася — здаецца, звычайна да людзей падоўгу прыглядаўся, усё ўзважваў. Напэўна, уся справа ў спецыфіцы службы. Даводзілася бачыць смерць усяго за некалькі крокаў. Нават не за некалькі

крокаў... Не тое слова. Часта смерць даводзілася акуратна, каб не ажыла яна раптам, у руках несці. Як цяпер...

Яны адышлі ад людзей, якія стаялі далёка, на такой адлегласці, каб у горшым выпадку смерць іх не дастала.

Людзі глядзелі на іх моўчкі. А яны быццам не заўважалі салдат, прадстаўнікоў гаркома партыі, міліцыянераў... Крыху далей стаяла «хуткая дапамога».

Калі «хуткая» прыехала, капітан сказаў:

— Дарэмна ўсё гэта. Работы мы вам не дадзім,— калі што — на шматкі... Вось так!

Урачы і санітары не знайшлі слоў у адказ.

Гэта было крыху раней.

Цяпер жа яны нікога не заўважалі.

— Давай яшчэ па адной выкурым і назад,— сказаў капітан.

Хтосьці падаў адкрытую бутэльку з мінеральнай вадой.

— Папіце.

— Не трэба,— сказаў капітан.— Потым ужо смагу натолім.

Яны курылі, як быццам нікуды не спяшаліся. Вецер падхопліваў дым і нёс у той бок, куды ім трэба было вяртацца.

Капітан кіўнуў галавой Мацею, і яны пайшлі.

— Ведаеш, я аб адным думаю,— сказаў капітан,— толькі б не ўпасці. Слізка. Думаю — упаду і дачку не ўбачу...

— Я аб тым жа думаю,— гаворыць Мацей.

— Нам трэба трымацца далей адзін ад аднаго,— гаворыць капітан.— На ўсякі выпадак.

— Не, лепш ужо так. Мы не ўпадзём, таварыш капітан.

Яны падыходзяць да снарадаў. Іх там засталося зусім нямнога. Ды і ўвесь склад, які выпадкова, як

гэта звычайна бывае, знайшлі каля гарадка, непадалёк ад іх часці, можна сказаць, невялікі. Бывалі выпадкі і больш складаныя, калі «працаваць» даводзілася амаль усяму батальёну. А цяпер засталося работы на мінут сорак. Не больш.

Мацей глядзіць на снарады, якія падобны на вялізныя рыбіны, і думае аб тым, што адбылося толькі ўчора. Склад гэты знайшлі. Паведамілі, як і належыць, у часць. Капітан грунтоўна ўсё ўзважыў. Так ужо атрымалася, што «старых» амаль не засталося, лічы. Мацей адзін. Капітан выклікаў яго да сябе. Сказаў прама, без лішніх слоў:

— Знаю, праз месяц дэмабілізацыя. Дамоў паедзеш. Не магу я табе загадаць... Сам вырашай — ідзеш або не.

— Гатовы выканаць любы загад, таварыш капітан! — сказаў Мацей і адчуў, як ад важнасці і незвычайнасці размовы, што адбываецца, у яго ледзь не сарваўся голас.

— Давай з табой, сяржант, інакш пагаворым,— не як камандзір і падначалены, а як два чалавекі, якія на вялікую рызыку ідуць. Сам ведаеш, намеснік мой у адпачынку. Нават калі я яго выклічу з Ташкента — пройдзе дні два. А чакаць нельга ніводнага дня. Астатнія афіцэры і салдаты, як кажуць, пораху не нюхалі. Выбару не было. Адзін ты застаўся ды я...

— Андрэй Аляксеевіч, для мяне пытанне вырашана.

— Дзякуй,— сказаў капітан і пайшоў.

...Яны аднеслі апошнія снарады ад дамоў, у якіх цяпер, на ўсялякі выпадак, не было ніводнай жывой істоты. Потым прагучаў выбух, і капітан сказаў: «Вось і ўсё. Я цябе віншую. Можна сказаць, пашчасціла нам». Сказаў так, каб чуў толькі ён, Мацей.

Перад самай дэмабілізацыяй прыйшоў загад аб узнагароджанні капітана Андрэя Аляксеевіча Пятроў-

скага і яго, Захарэвіча Мацея Цімафеевіча, ордэнамі Чырвонай Зоркі. Калі Мацею генерал прымацоўваў ордэн на парадны кіцель, яму ўсё здавалася, што адбываецца гэта не з ім, а з нейкім незнаёмым чалавекам...

Потым капітан угаворваў Мацея, які ўжо раз, заставацца на звыштэрміновую, а яго жонка, наадварот, адгаворвала.

— Вы не згаджайцеся, Мацей. Калі б яшчэ ў другім родзе войск, але толькі не ў гэтым.

— У другім, ты зразумей адно, ордэнаў не даюць,— смяяўся капітан.— Толькі ў нас можна сапраўдным чалавекам сябе адчуць. Ты скажы мне, Мацей, ці ж сапраўдны той мужчына, які ў жыцці не адчуваў смяротнай небяспекі? Не! Гэта яму толькі так здаецца, а ўжо хто-хто, а мы разумеем, што да чаго.

— Разумеем, Андрэй Аляксеевіч, але я на завод хачу. І ў інстытут паступіць.

— Добра, ідзі. Толькі не забывай свайго капітана. Хоць раз у паўгода пісьмо напішы...

Мацей з Таняй зайшлі да Здольніка.

Сяргей зварыў каву. Прынёс у талерцы піражкоў з мясам. Мацей толькі цяпер адчуў, што страшэнна галодны. Калі расправіўся з чатырма піражкамі, сказаў:

— Вось цяпер можна яшчэ на адзін сход ісці. І з Янушкевічам пагаварыць.

Сяргей рассмяяўся:

— Трэба было мне піражкоў з сабой узяць і накарміць цябе адразу пасля сходу. Ты і супакоіўся б!

— Ды я і так супакоіўся.

Калі выйшлі на вуліцу, Таня сказала напаўгалосу:

— Божухна, падумаць толькі — ты ў мяне герой. Ды яшчэ які! У час вайны не за кожны подзвіг ордэн давалі...

— Ты не параўноўвай,— сказаў ён.

— А я і не параўноўваю, а кажу аб тым, што ёсць. Можна, хлопцы, я сваім старым раскажу? Яны тады хваляваецца перастануць, што я позна дамоў вяртаюся.

— Калі толькі для гэтага — раскажы. Я не супраць. Можна.

## 15

## З дзённіка Мацея Захарэвіча

«На наступны дзень, калі на работу ішоў, недзе ў глыбіні грудной клеткі халадок адчуў. Адна думка не давала спакою: як цяпер да мяне хлопцы паставяцца?

Прыйшоў у цэх — і першага Віцьку Шамко сустрэў. Толькі яго мне цяпер і не хапала!

— Прывітанне,— сказаў Віцька і першы падышоў да мяне.

І руку падаў.

— Прывітанне.

— Добра ты сябруку майму ўляпіў.

— А ты за яго перажываў?

— Гэта не так важна. Лепш раскажы, за што ордэн табе далі. Я спачатку падумаў, што ты ўсё гэта выдумаў.

— Сапёрам я ў арміі служыў. Неяк знайшлі хлапчукі склад снарадаў нямецкіх. Вось і давялося гэты склад анулібраваць.

— Страшна было?

Нечакана для самога сябе я сказаў яму шчыра:

— Яшчэ як! Потам халодным абліваўся. Магло ж кожную мінуту выбухнуць...

— Здорава! Мне б у такім пераплёце пабыць!

Мы разышліся ў розныя бакі.

Сямёныч у час абедзеннага перапынку кажа мне:

— А ведаеш, многія цябе асудзілі, маўляў, хлопец яшчэ працаваць як трэба не навучыўся, а пачаў выступаць...

— А самі стаялі і маўчалі. Некаторыя дык заступацца пачалі.

— Я з табой згодзен. І табе гэта кажу вось чаму — працаваць цяпер ты павінен лепш, зразумеў?

Я пагадзіўся. Праз некалькі дзён пайшоў на разрад здаваць. Усе нашы за дзвярыма стаялі, перажывалі. Пыталі строга. Далі мне трэці разрад.

Нечакана ўсё атрымалася. Падыходзіць да мяне начальнік цэха і кажа:

— Захарэвіч, выклікае цябе Васіль Аркадзевіч.

Прозвішча ён не назваў, але я і так ведаў, хто гэта. На заводзе дырэктара ўсе так называлі — Васіль Аркадзевіч.

Дырэктар доўга са мной гутарыў. Спытаў, ці падабаюцца справы ў камсамольскай арганізацыі. Я сказаў, што не вельмі. Высветлілася, што і ён такой жа думкі.

— Хутка канферэнцыя камсамольская,— сказаў ён.— Вось давайце і пагаворым сур'ёзна, як нам справы палепшыць. Ты выступіш?

— Выступлю.

— Толькі ордэн прымацуй. Саромецца не трэба. Увесь цэх толькі пра нас і гаворыць. Радый неяк прыбег ад Сямёныча ўсхваляваны:

— Хлопцы, на абгон мы пайшлі. Крыху засталося, каб Дашкевіча па выніках квартала абагнаць.

— Здорава! — сказаў Сяргей.— Мне самому не верыцца.

— Толькі працаваць цяпер трэба будзе на поўную моц,— зазначыў Арцём.

І мы працавалі ў гэтыя дні як ніколі. Нават на абед не хадзілі. У курылку таксама. Пасля работы ў цэху затрымліваліся, абмяркоўвалі, як назаўтра працаваць лепш. Дамоў прыходзіў і адразу ж валіўся на ложак. Спаў некалькі гадзін, браўся за падручнікі. З Таняй стаў бачыцца радзей. У яе хутка экзамены...

Варвара Цімафееўна пісьмо мне прынесла. Чытала і плакала. Ад радасці. Сын яе прыязджае. За добрыя паводзіны датэрмінова з калоніі вызвалілі.

— Ты памятаеш, аб чым я цябе прасіла? — спытала яна.

— Як не памятаць. Я ўжо з Радыем перагаварыў аб тым, што трэба хлопца ў нашу брыгаду ўзяць. Падумалі з хлопцамі і вырашылі — няхай прыходзіць. Замест Палуяна. Быў у нас такі.

Прывёў я яго на завод. Спыніўся ён у нерашучасці перад доўгім пралётам цэха. Я яго падштурхнуў:

— Ідзі, ідзі смялей!

Надышоў гэты дзень. Віншаванні. Нам самім не верылася, што змаглі перамагчы брыгаду Дашкевіча.

Усе разам на вуліцу выйшлі. Вясенняе сонейка з-за хмар выглянула. І нечакана неба быццам прарвала — паліў дождж. Ён быў буйны, густы. Прахожыя хаваліся хто куды. Але мы на дождж не зважалі. Ішлі па вуліцы і жмурыліся ад сонечных промняў».

# НАСТАССЯ

Трафім быў крыклівым, з сапсаванымі нервамі. Усё ад хваробы. Падбіралася да яго хвароба нечакана — уначы ён раптам крычаць пачне, раніцай завойкае, а то і зусім некалькі дзён запар не ўстае з ложка. Настасся іншы раз спахоплівалася і кляла сябе, што пад канец жыцця звязалася [redacted] гэтым старым, у якога, мабыць, адразу ўсе чэрці ўсяліліся. Характар у яго нясцерпны быў, [redacted] больш за ўсё асуджала яна старога з-за яго прагнасці да грошай. Сама яна ніколі да іх асаблівай прыхільнасці не мела: ёсць — добра, няма — таксама добра. А стары кожную капейку пералічыць. Калі не ў ложку ляжыць, дык толькі тым і займецца, што падлічвае, колькі яна за дзень патраціла. Палічыць, паскрыпіць, што грошай шмат за дзень пайшло, і зноў зляжа — і не зразумець, ці то спіць, ці то стогне.

Настасся яго, шчыра кажучы, шкадавала. Яна ж на іх харчаванне не толькі пенсію сваю аддавала, але і дабаўляла з тых дваццаці рублёў, што ёй сын Колечка кожны месяц даваў. Пойдзе купіць старому малака, смятаны, цяляціны. Згатуе як належыць (а гатаваць яна майстрыха!), а пасля ціхенька пасміхаецца, гледзячы, як Трафім над сваім падлікам карпіць.

Як толькі выдавалася ў Настассі вольная хвілінка, пачынала яна ўспамінаць сваё ранейшае жыццё. Як даўно, быццам і не было гэтага ніколі, называў яе Хведар, першы муж Настассі, Кацяронькай. І дзе толькі слова такое адкапаў? Прысядзе да яе, нават калі вельмі на рабоце стоміцца, і мармыча, як той хлапец закаханы. Ласкавы ён быў. І сын у яго пайшоў. Убачыў сваю Наталлю і кроку ад яе не адступіў. Улюбчывы... Ажаніўся, дзеці ў яго пайшлі, а ўсё за жонкай, як за нявестай, ходзіць. Шчаслівая яго Наталля. Пашанцавала ёй, дый Колечку пашанцавала. Магла На-

стасся жыць з імі, як і раней жыла. Да скону дзён сваіх жыць магла, унукаў гадаваць, на шчаслівае жыццё сына глядзець і радавацца. Але адчула яна раптам, што зусім састарылася, адчула, што бывае іншы раз у цяжар сыну. Не тое каб ён сказаў нешта такое або падумаў нават... І жонка яго ставілася да яе, як да ўласнай маці. Але старая ў доме, па разуменню Настассі,— гэта лішні клопат для маладых. Раптам захварэе яна, за ўнукамі догляду няма, а з ёй самой нянчыцца даводзіцца, як з малым дзіцем.

У маладосці Настасся дужая была, вынослівая. Яшчэ калі вайна пачалася і сыну яе старэйшаму 23 гады было, за любую работу бралася. І на будоўлі працавала, і на хлебакамбінаце гарадскім. А як паклалі галовы і сын, і муж яе, у розных месцах паклалі,— яна да гэтай пары не ведае, дзе іх магілы,— занепала Настасся. Адна радасць засталася, якая не дала ёй зусім у горы сваім патануць — малодшы сынок. Яна паспела са сваім Фёдарам пажыць. Пяцьдзесят яму ўжо было, калі загінуў. І Колечка ў яе не тое каб вялікі, але і не маленькі застаўся — дзесяць гадкоў. Яна сябе гэтым як магла суцяшала, а суцешыць усё ж не магла. Па-новаму жыццё пачынаць не хацелася. Хадзілі, праўда, некалькі ўдаўцоў, парогі абівалі, але яна адна так і засталася. А цяпер вось Коля здзівіўся, калі яна пайшла жыць да Трафіма. А ёй проста роўныя адносіны да сябе патрэбны былі, хацелася сябе ні на грам лішняй не адчуваць, у цяжар блізкім, а, наадварот, патрэбнай яшчэ некаму быць. Дзеці ў Колі выраслі, у школу ходзяць. Вось так у яе склалася пад канец жыцця.

Задумалася Настасся. А стары зноў бурчыць. Што там з ім здарылася?

І падняло ж яго ліха з ложка. Твар белы, пад вачыма чорныя кругі.

— Можа, яешнечку зрабіць? Не еў з раніцы нічога...

Трафім яе слоў быццам і не чуе. Ён і на самой справе крыху глухаваты. Але, калі яму трэба, робіць выгляд, што зусім нічога не чуе.

Тады Настасся прыкрыкнула:

— Ну і не еш нічога. Прасіць не буду!

І хацела на вуліцу выйсці, як ён загаварыў:

— Ты мне, Настасся, кашулю дай чыстую. У палоску... Ты ж ведаеш якую. Сын сёння з дачкой прыйдуць. А я пакамечаны нейкі, сустракаць іх так няёмка.

Настасся ўспомніла, што і сапраўды сёння ў іх госці будуць. Прыйдуць бацьку адведаць. Сын Трафіма, Аляксандр, відаць, у маці пайшоў — ціхі такі, рахманы і вельмі ўжо ёй пачцівы. А дачка ўся ў Трафіма. Скура на ёй так і гарыць, ды і хітрая. Навучыла яна неяк бацьку, што, маўляў, памрэш, а кватэру каапературыўную не ўнуку, а чужой бабе пакінеш. Якая карысць з таго?

Стары не такі дурны, каб Настассі ўсё гэта пераказаць. Але неяк ускіпеў ды сказаў, што на яго кватэру ёй няма чаго разлічваць. Усё, што ў кватэры ёсць, і кватэра сама пасля яго смерці ўнуку дастануцца.

Моцнай была крыўда Настассі. Па самым сэрцы стары разануў. Коля тады з сям'ёй у адпачынку быў. Яна напісала яму пра ўсё. Сын прыслаў пісьмо, у якім клікаў да сябе, прасіў пакінуць Трафіма. Ёсць у яго дзеці, няхай і даглядаюць яго. А ў канцы прыпісаў: «Помню, пісьмо ты мне апошняе ад бацькі паказвала. Гордай ён цябе называў. Ты, мама, такая... А цяпер дазваляеш старому гэтаму з сябе здзекавацца, быццам ісці табе няма да каго...»

Настасся ўжо і рэчы сабрала, ды стары ўзмаліўся, плакаць пачаў, прасіць, каб не кідала яго. Яна яго і пашкадавала.

Калі радаўніца была і людзі па звычаю прыбіралі

могілкі родных, яна з сынам Трафіма і дачкой яго паехала на магілу першай жонкі старога. Прыбралі, дагледзелі як належыць. Па дарозе назад хавала ад Настассі вінаваты позірк дачка Трафіма.

Прыйшлі яны. І сын, і дачка старога. Папілі чаю, пагаварылі пра тое-сёе. Стары не хацеў перад дзецьмі немачным здавацца, з ложка нават злез... За сталом яму цяжка сядзелася, Настасся гэта бачыла, але ўголас нічога не сказала — ведала, сказаць так — смяротна Трафіма пакрыўдзіць.

— Цяжка за ім хадзіць, Настасся Пракопаўна? — спытаў сын.

Настасся не сказала нічога. Паківала няпэўна галавой.

А стары проста раззлаваўся:

— Чаго гэта хадзіць, га? Што, я пудзіла нейкае нерухомае?

— Ты, тата, што ні кажы, а Настассі Пракопаўне дастаецца з табой,— умяшалася дачка, і стары здаўся, знік і сказаў ледзь чутна:

— Вядома. Зусім хвароба адолела. А жонка яна правільная. Калі б не Настасся, даўно б здох, як сабака занядбаны.

Настасся вушам сваім не паверыла. Ніколі не чула яна ад старога ні слова падзякі. Доўга яшчэ гасцілі яго дзеці ў іх. Настасся на стол пірог выставіла, спецыяльна спечаны, чай падавала... Вочы Трафіма блішчалі і ўсміхаліся. Стаміўся ён сядзець, на канапу прылёг. Усё слухаў, пра што дзеці гавораць. Галоўным сэнсам у яго ў жыцці былі дзеці. Як і ў яе Колечка... Сышліся два старыя, таму што ўдваіх лягчэй апошнія дні дажываць. Хіба магла яна калі-небудзь падумаць, што ў яе жыцці так атрымаецца? Пра што хочаш магла думаць, толькі не пра гэта...

Калі дзеці пайшлі, стары зноў расклеіўся. Раструшчыла яна яму таблетку — цэлую стары праглынуць не мог. Ён выпіў, паморшчыўся — вельмі горкая была, і праваліўся ў сон. Настасся баялася, калі ён засынаў вось так імгненна. Рот у старога прыадкрываўся, шчокі пры кожным уздыху надзьмуваліся.

Да яе сон доўга не ішоў. Настасся прысела пагартаць часопіс, але доўга чытаць не змагла — вочы стаміліся і пачалі слязіцца.

Позвім вечарам пайшла яна ў магазін купіць малака, свежага сыру. Дзённыя клопаты яе на гэтым скончыліся да наступнага дня.

Заўсёды так было. Здаўна яшчэ, з самай маладосці. Цягнуліся да яе людзі, радасцю раскрываліся, пра гора расказвалі. Яна і сама не ведала — чаму б гэта? Часта Настасся і не магла нічога параіць — цяжка людзям парады даваць. І ў старасці таксама асабліва не параіш... Старасць толькі ў кніжках мудрай уяўляецца. Старасць больш разгубленая. І ў гэтым доме ў яе з самага першага дня сяброўка знайшлася. Настасся ёй заўсёды так і гаварыла:

— Дзень добры, сяброўачка...

Валянціна Настассі ўнучкай магла б быць — дваццаць два гады ўсяго. Але ж жыццё паспела ўжо яе пашматаць. Хлопец быў у яе. Кажуць, прыгожы — высокі, чарнявы. Усё абяцаў, што любіць будзе вечна, руку і сэрца прапаноўваў. Ну, а калі выйшла ўсё ў іх, як у мужа з жонкай, знік. З'ехаў некуды... Валянціна не ведала куды. Засталася адна з сынам. Бацька ў Валянціны — мужык буйны па характару, маляр па прафесіі... Дамоў рэдка цвярозы прыходзіў і кожны раз скаланаў увесь дом крыкам. Жонку ён у маладосці біў, а пад старасць зусім перастаў за чалавека лічыць. Яна яму і цвярозаму насуперак слова

не магла сказаць, а за дачку перад п'яным заступацца проста баялася... Валянціна захутвала свайго маленькага Сярожку ў коўдру і прыходзіла да Настассі. Плакала і гаварыла, што жыць ёй не хочацца.

— Як людзі такімі могуць быць? — пыталася яна скрозь слёзы.— Я яму так верыла, самым родным чалавекам лічыла. А цяпер паштоўкі нават не прышле. Што далей мне рабіць?

Што тут параіць?

— Ты Сярожку гадуй. Жыццё далей пакажа, як жыць. У жыцці без горычы не бывае. І яна як навука чалавеку. А Сярожку ты прынось. Яму ў мяне добра будзе. Стары ляжыць усё больш, а мне весялей... Маці твая няхай адпачне крыху. Ёй, беднай, хапіла.

Сярожку Настасся клала на свой ложак і гадзінамі гуляла з ім.

Стары ляжаў насупраць і смяяўся:

— Табе яшчэ такога б займець. Ну проста мамка...

Настасся ўспамінала даўнішнія часіны, калі яе першынец такім вось быў пацешным. Хавала яна ў такія мінуты свае слёзы ад старога. Не любіла яна паказваць свае слёзы.

З акна добра відаць, як вецер зрывае з дрэў лісце і гоніць яго ў розныя бакі па асфальце. Дажджы пачаліся. З дому ў такі час толькі ў магазін і выйдзеш. Трафім зусім злёг. Твар яго зрабіўся шэрым, вочы запалі. Доктар сказаў, зусім яму кепска. Ляжыць, моўчкі на яе глядзіць. Неяк сказаў:

— Пакіну я цябе хутка, Настасся. Сэрца маё адчувае...

Яна замахала на яго рукамі, што, маўляў, выдумляеш, і пастаралася хутчэй забыцца на гэтыя словы. А ад смутку немагчыма было збегчы... Смутак навальваўся на яе нечакана, сціскаў усё недзе пад сэрцам. Хацелася адной пабыць. На вуліцы Настасся доўга быць не магла — стары дакорліва пазглядае. Ва-

лянціна Сярожку перастала прыносіць — заходзіцца слязьмі, як старога ўбачыць. А раней не баяўся. І што ні рабі — не супакоіць яго.

Старога гэта зусім забівала.

— Дзіця,— кажа,— палохаю сваім абліччам...

Некалькі разоў заязджала Настасся да сына. У яго ўсё добра было. Ён нічога не пытаўся пра старога. Усё было напісана на яе твары. І не дакараў — куды ўжо тут дакараць...

У апошнія дні ад Трафіма амаль не ад'язджала «хуткая дапамога». Ён зусім перастаў размаўляць і вочы рэдка расплюшчваў.

І зноў, каторы ўжо раз у сваім жыцці, плакала яна, калі знайшла яго халодным, з пажоўклым тварам... Плакала, камечачы ў руцэ хусцінку.

Звезлі Трафіма на могілкі, памінкі справілі. Сабрала Настасся ў невялікі чамаданчык свае рэчы і аддала дачцэ старога ключ ад кватэры. Сына чакаць не стала і сама пайшла да яго.

Яна ішла адна па вуліцы. Халодны дождж убіваў у асфальт пачарнелае лісце. І раптам слабы праменьчык сонца прарваўся між хмар, слізгануў па лужынах, дрэвах, слізгануў па яе твары. Слізгануў і прапаў, рассыпаўшыся. І ўсё ж яна паспела яму ўсміхнуцца.

## НАЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

У Мінску, у сваім дванаццаціметровым пакойчыку ў агульнай кватэры, зайшоўшы ў якую адразу можна было вызначыць, што жыве тут адзінокі мужчына, Пятроў радаваўся блізкай сустрэчы з сястрой, якую

не бачыў паўтара года. Пасля таго як памерла маці (бацька, паранены на фронце, сышоў у магілу раней), яны засталіся адны, без бацькоў. Па характару Надзя нечым нагадвала Пятрову маці — мяккая, працавітая... Цяжка прыйшлося б яму без яе падтрымкі. Асабліва аднойчы, калі ў інстытуце справы былі кепскія, дый з грашыма цяжкавата было і ён збіраўся ўзяць дакументы і пайсці на завод.

Пасля ў іх сям'і прыбавіўся яшчэ адзін чалавек — жонка Пятрова. Праз год Надзя паехала ў Маскву вучыцца ў аспірантуры, выйшла там неўзабаве замуж. Цяпер яна кандыдат навук, у яе двое амаль дарослых дзяцей, і часта, седзячы ў адзіноце ў сваім паўпустым і вечна запыленым пакоі, Пятроў самотна ўспамінаў нібыта нядаўняе і ў той жа час незваротнае юнацтва.

Надзя пісала, што ён усё больш аддаляецца ад яе. Водпуск свой яна правяла з мужам у Карлавых Варах. Пятроў і зусім абышоўся без водпуску — рыхтавалася здача новага цэха і вырвацца яму з завода не было як. У Пятрова з дзяцінства выпрацавалася рыса характару, з якой ён страціў усякую надзею развітацца калі-небудзь — ён не выносіў, калі штонебудзь важнае для яго рабілася ў яго адсутнасць.

Камандзіроўка ў Маскву, якая надарылася нядаўна, узрадавала Пятрова. Ён даў сястры тэлеграму, а сам пабег па магазінах — што б гэта прывезці ёй у падарунак. Накупіў рознага — што-небудзь ды падыдзе.

Поезд набліжаўся да Масквы, і Пятрова ахоплівала ўсё большае хваляванне — а што, як не сустрэне? Не так даўно сястра пісала, што набылі яны з мужам невялікую, але дагледжаную дачу і каб ён прыязджаў да іх у водпуск. Сапраўды, што можа быць лепш за дачу — лес навокал і рачулка непадалёк... Зараз хоць і восень — цеплыня. У самы раз на дачы жыць. Раптам яны не ў Маскве і тэлеграмы яго не атрымалі?

Пятроў выйшаў з поезда. Агледзеў людзей на пероне. Нумар вагона ён паведаміў. Лепш за ўсё стаяць на месцы і чакаць. Ён так і зрабіў, але да яго ніхто не падышоў.

Перон апусцеў. Пятроў злаваўся на сябе за тое, што на ўсякі выпадак не забраніраваў гасцініцу. Давядзецца правесці ноч на вакзале, бо ўладкавацца ў Маскве ў гасцініцу не проста.

Ён прайшоўся ўздоўж перона, прысеў на лаўку. Было ціха. Людзі ў вакзале — Пятроў зазірнуў туды праз акно — патрохі прыладзіліся. Адны спалі на лаўках ушчыльную адзін да аднаго, другія, не знайшоўшы месца, хадзілі між радоў. На пероне засталася толькі жанчына. На выгляд ёй можна было даць гадоў пад сорак. Была яна ні худая, ні поўная, твар тонкі, нервовы. Па ім прабегла ўсмешка, калі яна перахапіла позірк Пятрова.

— Поезд спазняецца? — спытаў ён нечакана для сябе.

— Не. Вось-вось павінен прыбыць. Калінінградскі...

— А мяне не сустрэлі...— уздыхнуў Пятроў і замаркоціўся.

Яна супакоіла:

— Можа, праспалі. Восенню звычайна добра спіцца.

Больш гаварыць ім не было пра што, і Пятроў пайшоў у буфет купіць цыгарэт. Ён пачуў, як дыктар аб'явіў па вакзале, што прыбывае поезд з Калінінграда. Пятрову чамусьці захацелася паглядзець, каго сустракае гэта жанчына. Яна стаяла далёка ад платформы. Па ўсім можна было здагадацца, што яна не ведае, у якім вагоне прыбывае той, дзеля каго яна не заснула ў гэту ноч.

Поезд спыніўся. Міма ішлі людзі, і яна напружана ўглядалася ў іх твары. Але вось нікога не засталося.

— Не прыехалі,— сказала яна Пятрову.— У мужа промысел закончыўся. У нас дагавор ёсць — ён пры-

язджае, не папярэджваючы. Мне здавалася, ён прыедзе сёння.

Пятроў паспрабаваў суцешыць:

— Нічога. Заўтра ён абавязкова прывязе вам свежай рыбкі.

Яна ўсміхнулася і кіўнула яму галавой.

— Усяго добрага,— сказаў Пятроў.

— А як жа вы? — раптам спахапілася яна.— Так і будзеце начаваць на вакзале? Тут жа прысесці нават няма дзе.

— Мне не прывыкаць,— схлусіў Пятроў.

— Вось што,— сказала яна рашуча.— Я жыву недалёка. Кватэра вялікая. Месца знойдзецца.

Пятроў спачатку разгубіўся ад такіх слоў, але знайшоўся:

— Адмаўляцца не стану. У маім становішчы гэта смешна.

Яны ехалі ў таксі. Пятроў уяўляў, як бы на ўсё гэта паглядзела яго былая жонка. О, як бы абуралася яна! Перад ім узнік на імгненне скрыўлены злосцю яе твар. Яна цярпець не магла любых праяў амаральнасці, а потым усіх здзівіла, пайшоўшы ад Пятрова да нейкага ўрача. Тлумачэнняў Пятроў не чакаў. Ён раптам зразумеў, што для яго гэта не было ўдарам. Ён толькі пакутаваў ад разлукі з сынам — суд пакінуў яго маці. Пятроў нічога не змог перамяніць. Неяк у дзень нараджэння сына ён купіў падарунак і пайшоў да сына. Падышоўшы да кватэры, ён пачуў музыку, смех. Хацеў было павярнуць назад, але ўзяў сябе ў рукі і пазваніў. Дзверы адчыніла яна. Сказала не вельмі гучна:

— Гэта яшчэ што? — і зачыніла перад носам дзверы.

Падарунак ён пакінуў ля ўваходных дзвярэй...

— Вось тут,— сказала раптам яго выпадковая знаёмая шафёру.

7 Зак. 599

Калі яны ішлі да пад'езда, Пятроў раптам прыпыніўся, успомніў:

— Мы ж з вамі не пазнаёміліся.— І назваўся: — Аляксандр Данілавіч.

Яе звалі Аленай Міхайлаўнай.

Яны ўвайшлі ў кватэру. У ёй было надзвычай чыста. І ніводнай лішняй рэчы. Яму ўспомнілася абыякавасць жонкі да іх жытла, поўны развал у сваім халасцяцкім пакойчыку...

— У вас хораша,— сказаў ён шчыра.

Яна ўсміхнулася:

— Няма каму непарадак рабіць. Заўсёды адна.

Ён хацеў спытаць, чаму ў яе няма дзяцей, але своечасова спахапіўся.

У пакоі стаяў накрыты стол. Яна спытала:

— Хочаце есці? Толькі шчыра...

— Не, я ў вагоне перакусіў,— сказаў Пятроў, думаючы, што садзіцца яму за гэты стол ніяк нельга. Але яна пасадзіла яго за стол і, калі пачалі есці, сказала:

— Заўтра я яго сустракаць не пайду. Інакш засну ў класе.

— Вы настаўніца?

— Так, малодшых класаў. Мае вучні заўсёды ўсё заўважаюць. Ад іх нічога не схаваеш.

Пятроў дастаў з партфеля бутэльку каньяку і паставіў на стол.

— Няхай гэта бутэлька будзе некранутай. Маракі народ рэзкі, а Масква можа раптам аказацца цесным горадам. І дрэнныя тады мае справы.

— О, вы асцярожны чалавек,— засмяялася Алена Міхайлаўна.

Ад каньяку яна адмовілася, і Пятроў адзін выпіў кілішак.

— Ну, а цяпер ваша чарга пра сябе расказваць. Хто вы па спецыяльнасці?

— Інжынер. Самы галоўны на адным маленькім заводзіку.

І раптам ён пачаў расказваць ёй пра новы цэх, пра ўсе цяжкасці, выкліканыя будаўніцтвам, пра тое, што ў Маскве яму пазарэз трэба выбіць нейкае абсталяванне, пра тое, як спачатку не разглядзеў ён у новым дырэктары чалавека творчага і нават счапіўся з ім...

У Пятрова прапала боязь, што ён развучыўся размаўляць з жанчынамі. Ён прапанаваў ёй:

— Давайце вып'ем, каб ваш шчаслівчык-муж не прымусіў вас доўга чакаць.

Яна раптам перамянілася ў твары, падперла рукой падбародак, паглядзела некуды ўбок. Працягвалася гэта нейкае імгненне.

— Вашай жонцы добра,— сказала яна.— Ёй не прыходзіцца чакаць вас. Калі б вы толькі ведалі, як гэта жудасна чуць па радыё паведамленні аб штормах.

Пятрову вельмі захацелася расказаць ёй, што жонкі ў яго няма і сына цяпер таксама, лічы, няма і як не хочацца яму ісці кожны вечар у свой пакой — пусты, запушчаны, і таму гатовы ён сядзець на заводзе з раніцы да ночы, абы не быць сам-насам... Але было позна, дый навошта ёй ведаць пра ўсё гэта?

Алена Міхайлаўна дастала чыстую бялізну, паказала на тахту:

— Сцяліцеся.

Яна пайшла ў свой пакой, а Пятроў, засынаючы, успамінаў сваю першапачатковую няёмкасць і думаў, што ён нават не правінцыяльны, а зусім дзікі чалавек.

Прачнуўшыся раніцай, ён знайшоў на стале запіску: «Сняданак у кухні. Абавязкова паснедайце. Дзверы добра зачыніце. Усяго вам самага добрага».

Пятроў штурхаўся ў метро і думаў, што раскажы ён гэту гісторыю каму-небудзь — не павераць. Ён зайздросціў мужу Алены Міхайлаўны — капітану рыбала-

вецкага судна. Відаць, ён па-сапраўднаму шчаслівы...

І не дадзена было ведаць Пятрову, што аднойчы муж Алены Міхайлаўны вярнуўся, як звычайна, з плавання, але да яе не паехаў...

Трэцюю восень яна часта вяртаецца адна з вакзала. У дні, калі паязды прывозяць маракоў у водпуск...

## ДОЎГІ ЗВАНОК

Пасля ён пераконваў сябе, што гэта яму толькі ўявілася...

З нервамі ў Клімаўца ўсё ў парадку. Але ж здаюцца іншы раз явай бачаныя сны. Дарэчы, у сне гэтага адбыцца не магло. Ён і не спаў зусім, хоць яму і не пашкодзіла б паспаць. І чым больш, тым лепш. Ён стаміўся і даўно не высыпаўся. І, відаць, дарэмна. Карціна не атрымлівалася. У яго быў вопыт і даволі дастаткова таленту (Клімавец ведаў сабе цану), але нечага яму не хапала. Можа, самага галоўнага. Таго, што дазволіла б выказацца да канца. Неяк Клімавец раззлаваўся і парэзаў нажом карціну. Падобныя неўрастэнічныя жарты былі не ў яго характары, і ён пасля доўга сядзеў каля сапсаванай карціны, глядзеў на лахманы і ў душы пасміхаўся з сябе. Карціну запраста мог набыць музей, яна магла выклікаць пахвалу рэцэнзентаў. Ён ведаў гэта, але карціну, тым не менш, не шкадаваў.

Быў час, калі ён адчуваў недасканаласць сваіх карцін. Пэўна, ад таго, што жыў не толькі імі, а і яшчэ нечым іншым. Побач была яна. Доўгія валасы, крыху дзіўныя вочы, якія яму ніяк не ўдавалася намаляваць, тонкія пальцы прафесіянальнай піяністкі, хоць да музыкі яна не мела ніякага дачынення. Побач

з ёй Клімавец быў упэўненым чалавекам, нават тады, калі быць упэўненым проста не трэба было.

Праз гадзіну яна пазвоніць. Роўна праз гадзіну. Яна заўсёды была пунктуальнай. Гэты званок усё ж не прытрызніўся яму. Нечаканы для яго званок. Што ж яна сказала? Усё нечакана выскачыла з галавы.

Ён суха адказаў:

— Прыходзь. Я буду чакаць.

Так, яна сказала, што прыйдзе праз гадзіну. Яшчэ нешта... Клімавец проста не памятаў нічога...

У галаве ў яго непрыемна пуста. Так вечна ў яго было, калі думкі пераблытваліся і перабівалі адна адну. У апошні час з ім нярэдка здаралася падобнае. Стан, быццам у смяротніка, калі шанцаў на выратаванне няма. Чамусьці сотня заўсёды бярэцца за круглую лічбу. Колькі шанцаў засталося ў яго, калі адлічваць ад сотні? Нядаўна ў майстэрні ў Клімаўца закружылася галава, і, страціўшы раўнавагу, ён упаў. Ачуняў, лежачы ў перамешаных фарбах. Ляжаў нямала — фарбы паспелі добра падсохнуць. Пад вечар пайшоў да знаёмага медыка. Той доўга слухаў яго і прапанаваў абследавацца. Два тыдні Клімавец ляжаў у клініцы. Яго слухалі па некалькі разоў у дзень, рэгулярна давалі піць лякарствы. Да выстаўкі заставалася мала часу, і Клімаўцу здавалася, што з-за клінікі не паспее закончыць работу. Ён нерваваўся, сварыўся з урачамі і патрабаваў, каб яго неадкладна выпісалі. І неўзабаве яго выпісалі. Напаследак яго выклікаў да сябе прафесар, падобны на трэнера.

— Я крыху разбіраюся ў жывапісе,— сказаў прафесар.— Я быў на вашых выстаўках і цяпер ведаю, чаму ў вас нядрэнна атрымліваецца. Вы працуеце з поўнай аддачай.

— Я ў гэтым не ўпэўнены,— усміхнуўся Клімавец.

— Вы тут не вінаваты. Вы малады, а сэрца ў вас, шчыра скажу, дрэннае. Вам нельга многа працаваць.

Не спяшайцеся жыць. Больш адпачывайце. Гэта вельмі сур'ёзна...

Клімавец прымчаў дамоў, выбраў дзве карціны, адвёз іх прафесару і як ашалелы ўзяўся за работу. Ён старанна піў горкія лякарствы, глытаў таблеткі і некалькі разоў нават спрабаваў рабіць раніцай лячэбную гімнастыку.

Жыў ён пустэльнікам. Калі не зусім, дык амаль. Прыходзілі да яго іншы раз сябры, натуршчыцы і яшчэ той-сёй апрача натуршчыц. Клімавец неаднойчы наважваўся абзавесціся сям'ёй, але з гэтага нічога не атрымлівалася. Яму было трыццаць восем і жыў ён, галоўным чынам, успамінамі. Зрэдку выцягваў з-за шафы карціну, пакрытую пылам, у якой была недароблена толькі адна дэталь — вочы. Клімавец не мог выпісаць у фарбах тое, што бачыў у яе вачах. Доўга глядзеў на карціну і засоўваў назад за шафу.

Ён узняў галаву і агледзеў пакой. Рэчаў не шмат — тахта, магнітафон, кніжныя паліцы, мальберты ў кутку. У другім пакоі пасля смерці маці Клімавец зрабіў невялікую майстэрню — не заўсёды хацелася ехаць на ўскраіну горада, дзе майстэрню яму выдзеліў Саюз мастакоў.

Яна ненавідзела непарадак, і з яе прыходам у яго пакоі рабілася ўтульна.

Клімавец паспрабаваў расставіць рэчы так, як яны стаялі пры ёй. Нічога не атрымлівалася. Клімавец проста не памятаў іх ранейшыя месцы.

Шмат разоў ён збіраўся сказаць ёй: «Заставайся». І шмат разоў перадумваў. Ён ведаў — застанься яна тут, і ён пяройдзе ў стан бясконцага шчасця.

Ад таго часу яго аддзяляе шмат гадоў. Дзесяць. Амаль цэлае жыццё або, па меншай меры, вялікі яго кавалак. Ён выбраў сабе нялёгкую прафесію, і яна шмат патрабавала ад яго. Яму не хапала ведання жыцця. Рознага жыцця. І ён паехаў па ўсё гэта.

Цяпер сам здзіўляецца, як толькі адважыўся. Тады. Можа, на самой справе гэта было дзівацтвам. Сабраў рукзак, некалькі мальбертаў, нацягнуў на сябе кажух і пайшоў на вакзал. Яна праводзіць не прыйшла. Сваркі ў іх не было, але яна пакрыўдзілася на яго, хоць — ён гэта адчуваў — усё добра разумела і крыўдаваць не хацела.

У апошні вечар Клімавец аддаў ёй ключ ад кватэры і сказаў:

— Прыходзь і жыві. Час пройдзе хутка. Мне гэта неабходна. Ты сама ведаеш. Я еду па самога сябе.

Праводзіць яго яна ўсё ж не прыйшла. І пісьмаў доўга не пісала ў халодную глухамань, па якой хадзіў Клімавец. Пасля ён, праўда, атрымліваў пісьмы, але напісаныя быццам не яе рукой. Самае апошняе ён цытаваў у душы цэлымі днямі. Радкі пісьма нібыта ўрэзаліся ў памяць навечна і круціліся, круціліся ў галаве.

Прайшоў год. Клімаўца ніхто не чакаў, і ён паехаў далей. Мераў тысячамі крокаў тайгу, захварэў на запаленне лёгкіх у тундры. Іншы раз здавалася, што ў яго ніколі не было ў жыцці сябра, што ён доўга спаў і цяпер толькі расплюшчыў вочы.

Аднойчы ён пісаў партрэт старога і адзінокага геолага. Прозвішча ў яго дзіўнае было — Еўдашчукоў. Дык вось Еўдашчукоў пазіраваў яму тры дні, і размовы ў іх ракой ліліся. У родным горадзе Еўдашчукова чакаў вялізны, забіты наглуха дом. Чакаў шмат гадоў. Усё сваё жыццё пакінуў Еўдашчукоў на глухіх, таежных сцежках.

Ён раскрыўся перад гэтым чалавекам. З ім нельга было не быць шчырым.

Еўдашчукоў хрыпла і сумна засмяяўся. І сказаў злосна:

— Дурань ты, хлопец. Ехаць, каб убачыць маю, скажам, рожу і кінуць усё... Ды ты сам сябе ў ямку

закапаў. Такое не пройдзе, не забудзецца. Такое раз у жыцці бывае. Я ведаю.

Клімавец быццам звар'яцеў пасля гэтай размовы. Пачаў пераконваць сябе, што не было ад яе ніякага апошняга пісьма, што чакае яна яго, сабраў пацёрты рукзак і сеў у самалёт.

Суседка ахнула, убачыўшы яго, рукамі пляснула:

— Калі б не грошы, што за кватэру прысылаў, падумала б — прапаў чалавек. Гэта ж трэба так. Ды твая нябожчыца маці...

Ён яе не выслухаў, абарваў на паўслове і спытаў:

— Ці прыходзіў хто?

— Як жа, як жа, дзяўчына твая прыходзіла. Два разы. Потым доўга не было...

— І ўсё?

— Ключы прынесла і пайшла. Нічога не сказала амаль.

— Усё-ткі амаль? Што-небудзь хоць сказала?

— Нічога. Развіталася і пайшла.

Яму раптам захацелася плюнуць на свае карціны, на работу. Месяцы два хандрыў, не браўся за пэндзлі. Сустрэў яе сяброўку. Тая сказала, што яна выйшла замуж. Муж чалавек спакойны, інтэлігентны. Вельмі таленавіты вучоны...

— Таленавіты, значыць, вучоны,— прамовіў ён і раптам засмяяўся. Да слёз рагатаў. Так і павінна было быць. Кожнаму сваё ў жыцці. У гэтым ёсць сэнс. Няхай прасуе штаны і мые кашулі свайму вучонаму, пакуль ён будзе рухаць наперад навуку. Злосная была яго іронія.

— Ты проста піжон, Клімавец. Яна зрабіла правільна. Ты жудасны чалавек,— сказала яе прыгожая сяброўка і пайшла.

А ён усё падаграваў у сабе абыякавасць да ўсяго, што здарылася, і ўзяўся нарэшце за работу. Гэта паездка на Поўнач па сутнасці і зрабіла яго мастаком.

Аб яго работах загаварылі, некалькі з іх набыў музей, назву якога ён заўсёды вымаўляў з хваляваннем. У яго з'явілася імя. Пра гэта ён калісьці марыў, а цяпер усё гэта раптам стала непатрэбным. Ён быў адзінокі. Былі, праўда, у яго жанчыны. Але проста жанчыны, і толькі.

Аднойчы ён цвёрда вырашыў расставіць усё на свае месцы і ўладкаваць уласнае жыццё. Ён пісаў партрэт адной балерыны. Яна была вельмі мілай, і Клімаўцу падумалася, што ўсё гэта так проста. Некалькі дзён для запаўнення паперак, нядоўгая цырымонія... Напэўна, так бы ўсё і адбылося. Але ён сустрэў яе. Вечарам яна прыйшла да яго. Сядзела перад ім грузнаватая, маўчала, а пасля заплакала, уголас, па-бабску. І потым яшчэ яна прыходзіла і яшчэ... Клімаўцу было цяжка. Яна прыходзіла на некалькі гадзін, разам з ёй прыходзіла да яго шчасце, але потым яна спяшалася ісці. Спяшалася да сябе дамоў. Яна не магла адмовіцца ад таго свайго дома і перайсці да яго. У яе было двое дзяцей. Дзеці былі не толькі яе дзецьмі, але і дзецьмі яшчэ аднаго чалавека, якога ён ненавідзеў,— яе мужа. Яны любілі свайго бацьку, і яна не магла пазбавіць іх яго. Клімавец аднойчы не вытрымаў. Крычаў, што брудныя гэтыя ўсе іх сустрэчы і што ён не можа дзяліць яе з некім... Яна пайшла. І вось цяпер зноў пазваніла. Амаль праз два гады.

Доўга цягнецца час. Яшчэ цэлых дваццаць мінут. Ці памятае яна той вечар? Самы лепшы іх вечар. Яе муж быў у камандзіроўцы. Яны селі на электрычку і паехалі за горад. У лесе было па-восеньску жоўта. Лісце аднаго колеру з яе валасамі. Тады яму здалося, што ён упершыню за доўгі час убачыў яе вочы. Пад рукой не было фарбаў... Восем мінут. Навошта яна пазваніла? Так нечакана. Званок не мог яму прытрызніцца. Ён быў — гэты званок. І ўсё пачнецца спачатку. Варта ёй толькі ўвайсці ў гэты пакой. Колькі ён ведае

яе? Дзесяць гадоў. Роўна дзесяць. Што гэта? Званок у дзверы. Час скончыўся. Яна пунктуальная — можна звяраць гадзіннік. Клімавец замітусіўся па пакоі. Сеў у крэсла і закрыў вушы далонямі. Навошта яна так доўга звоніць? Ужо не кароткімі гудкамі, а адным, доўгім. Ужо стукаюць і заціхаюць унізе яе абцасы. Яму ўсё здаецца, што званок настойліва ломіцца ў дзверы. Няўжо яна пайшла? Ён яшчэ можа дагнаць яе. Дрыготкай рукой Клімавец адчыняе дзверы і, пераскокваючы праз прыступкі, бяжыць услед за ёй па лесвіцы.

## СТРАШНЫ ХЛЕБ

Той-сёй кажа, што вынес з маленства шмат успамінаў, дакладных, з падрабязнасцямі. Я гэтым пахваліцца не магу. Ад маленства ў мяне засталося шмат успамінаў, але нейкіх бязладных. Пэўна, гэта з-за маёй разгубленасці. Але затое я назаўсёды запомніў адны некалькі дзён. Мне здаецца, што ўсё гэта яшчэ адбываецца або, па меншай меры, адбывалася ўчора.

Спачатку ўсе плакалі і беглі некуды. Толькі бацька быў спакойны. Як звычайна, строгі і спакойны. Так было заўсёды. Я стараўся быць падобным на яго, але гэта мне не ўдавалася. Бацька сядзеў на крэсле ў кутку пакоя, спакойна размаўляў, а пасля пацалаваў усіх па чарзе — маці, бабулю, мяне і маю старэйшую сястру Ірку. Ён пайшоў не паварочваючыся. Пайшоў павольна, цяжкай хадой. Маці ўголас заплакала. Я сказаў ёй, што не трэба плакаць. Мая старэйшая сястра, у той час вельмі фанабэрыстая дзяўчынка, сказала, што я звычайны дурань і дурнем застануся, нягледзячы на тое, што пачалася вайна. Я не цярпеў крыўды. У вачах маіх зрабілася горача, і я, пэўна, даў бы ёй

добрага кухталя, але нейкая невядомая сіла ўтрымала мяне на гэты раз. Я зразумеў, што гэты дзень не зусім звычайны. Вайна... Я і раней чуў гэтае слова. Але яно гучала ў вуснах старэйшых неяк абыякава, гаварылі пра вайну спакойна. Цяпер мой бацька пайшоў на вайну. Я хацеў пабегчы следам і спытаць, што гэта такое. Але я не мог гэтага зрабіць. Бацька не дазваляў мне асаблівых вольнасцей. Калі цябе не клікалі — сядзі.

Праз некалькі дзён мы ад'язджалі. Над горадам ляталі самалёты, усё наўкола вухкала, і ў мяне прапала ўсякае жаданне глядзець на вайну.

Мы залезлі ў вагон, дзе было вельмі многа людзей, і доўга ў ім ехалі. І тут у маё жыццё ўвайшоў Міцька. Мы спалі на адной паліцы, і нашы маці баяліся, каб мы не скаціліся з яе. Ён спытаў:

— Ты бачыў, як ірвуцца бомбы?

Я прызнаўся:

— Не бачыў... У той час, калі яны рваліся, я сядзеў у склепе.

— А я бачыў.

Міцька страшэнна надуваў шчокі і гарлапаніў так, што ўвесь вагон перапалохаў. Я ўжо не мог спаць і думаў, што вось зараз у вагон трапіць бомба і разарвецца проста нада мной. Мне здавалася яшчэ, што яна можа і не ўзарвацца, а ўпадзе мне прама на нос. Мне было жудасна, і я зайздросціў Міцьку, які соп і ніколечкі не баяўся ні бомбы і нічога іншага на свеце.

Я заўсёды думаў пра ежу. Раней я еў дрэнна. Я сябе за гэта цяпер ненавіджу. У дарослых было шмат іншых спраў, і есці ім, напэўна, хацелася менш. Ва ўсякім выпадку, яны сапраўды думалі пра гэта менш. Нашы мамы працавалі, сёстры вучыліся, а мы цэлымі днямі думалі пра ежу. Мы пілі кісель з падсоленага

крухмалу і расказвалі адзін аднаму пра яйкі ўсмятку і смажаную каўбасу. Каўбасу чамусьці абавязкова тлустую. Я не вельмі любіў тлустую каўбасу, шчыра кажучы, нават зусім не любіў, але Міцьку яна вельмі падабалася, і ён угаварыў мяне думаць толькі пра тлустую смажаную каўбасу. Угаварыць мяне было наогул проста.

Вясковыя хлапчукі харчаваліся не лепш за нас. Усё ішло на фронт. Таму вайна мне здавалася на дзіва пражэрлівай. Я ўспамінаў усякіх пачвар з казак і ні з адной не мог параўнаць яе. Асабліва ў той дзень, калі я глытаў сліну і чакаў, пакуль маці спячэ праснакі з вотруб'я і травы... У гэты час прыбегла наша суседка і сказала глухім голасам, што ёй прынеслі пахавальную. Маці зусім забылася на печ, і ў хаце запахла паленым. Праснакоў я так і не дачакаўся.

Яна вярнулася дамоў непадобная на сябе, заплаканая. Бабуля паклала маці на ложак і паўтарала:

— Ну, што ж ты, навошта ж так...

А маці гаварыла то ціха, то вельмі гучна...

— Усе мы ўдовамі будзем, усіх паб'е... Ох-ох, і Васечку...

Майго бацьку, значыць. Я пачаў у той дзень баяцца, што бацьку заб'юць і я больш ніколі яго не ўбачу і не пачую.

А маці крычала:

— Не магу я так больш. Звар'яцею...

Яна нарэшце супакоілася і заснула. Раніцай маці паднялася, як звычайна, рана, пацалавала нас і пайшла.

Я чакаў Міцьку. Чамусьці не мог пайсці да яго сам. Ён прыйшоў да мяне ўдзень, калі я ўжо не спадзяваўся ўбачыць яго. Мы сядзелі і маўчалі.

— Можа, у класы пагуляем? — спытаў я.

— Ану іх, класы,— махнуў рукой Міцька,— вось калі б нам з табой на вайну пайсці.

Вочы яго загарэліся і адразу згаслі.

— Толькі не возьмуць нас...

І на самой справе, мы ж казяўкі. Гэтым смяротна крыўдным словам называў нас мясцовы хлопчык Пецька. Цяпер яго няма. Пецька знік. Рабяты казалі, што ён пайшоў на вайну. Але ён не быў казяўкай і мог на вайне спатрэбіцца. Яму было цэлых чатырнаццаць гадоў. Мы ж з Міцькам нікому не былі патрэбныя.

Да зімы стала яшчэ горш. Хлеба мы амаль не елі. Бульба не ўрадзіла і была маленькай, быццам арэхі. Варылі яе ў мундзірах, елі з соллю, але затое запівалі салодкай вадой — сем'ям ваенных давалі пайкі.

Маці працавала ў калгасе. Яна прыходзіла дамоў страшэнна стомленай і адразу валілася спаць. Яна зрабілася злоснай, і я баяўся трапіць ёй пад гарачую руку. Ад бацькі пісьмы прыходзілі рэдка. Калі іх доўга не было, дома амаль не размаўлялі, а сястра нават перастала са мной біцца.

Неяк па маці зайшлі позна ўвечары. Я ўжо засынаў. Праз сон пачуў абрыўкі фраз, з якіх зразумеў, што трэба ісці грузіць вагоны. Маці часта хадзіла з іншымі жанчынамі грузіць вагоны, і я не здзівіўся.

Прачнуўся я ад галасоў. Двух. Мамінага і бабулінага. Маці сядзела ў кутку, апусціўшы галаву. Відаць, яна толькі-толькі прыйшла. Бабуля гаварыла гучна. Не, яна не гаварыла, яна крычала:

— Грэх гэта. Страшны грэх. Карысці ад хлеба гэтага не будзе. Камяком у жываце ён стане. Што б муж твой табе сказаў?

Маці маўчала. Я нічога не разумеў — які хлеб? У нас жа не было хлеба... Чаму маці сядзіць у кутку стомленая і запыленая, а бабуля крычыць на яе і пры чым тут бацька? У гэта імгненне я ўбачыў мех. Ён стаяў ля парога. Я саскочыў з ложка і падышоў

да маці. Яна нават не паглядзела на мяне. Тады я тыцнуў пальцам у белы і мяккі мех і спытаў:

— Гэта хлеб?

Маці здрыганулася і паглядзела на мяне. Я ўбачыў, што вочы ў яе чырвоныя. Я баяўся, калі яна плакала, і сам таксама пачынаў плакаць.

— Хлеб, сынок,— ціха сказала яна.

А бабуля зноў закрычала:

— Нясі гэта назад, хутчэй нясі! Страшны гэта хлеб, страшны! Гора ад яго нам будзе, нясі хутчэй!

— Я як лепей хацела. Усяго толькі мяшэчак,— уздыхнула маці.

Яна паднялася, бабуля дапамагла ёй узняць мех на плечы.

Перад тым як пайсці, маці сказала:

— Ідзі спаць, рана яшчэ.

Мяне разбудзіла мая сястра Ірка і сказала, каб я ішоў снедаць. На стале дымілася бульба. Мы елі яе з соллю і ледзь не давіліся ад здавальнення.

Я сказаў сястры:

— У нас зусім нядаўна быў цэлы мех хлеба. Белага-белага. У мяне нават пальцы ад яго былі белыя. Паглядзі...

Але мука з маіх пальцаў паспела сцерціся, і я нічога не мог даказаць сястры. Яна смяялася:

— Дурань ты, Сашка. Мех хлеба... Прыснілася ўсё табе.

Пасля я ўсё жыццё еў хлеб. Хлеб розны — белы і чорны, хлеб з чым-небудзь яшчэ і проста адзін хлеб. І кожны раз, калі я ўспамінаю той страшны хлеб, які прынесла ў наш дом вайна і які я так і не пакаштаваў, камяк застрае ў мяне ў горле.

## РАЗВІТАННЕ

На яе сыходзіла дзіўная супакоенасць і абыякавасць да ўсяго. Сілы пакідалі яе з кожным імгненнем, сэрца замірала ў грудзях. Ніколі за сваё доўгае жыццё не магла яна падумаць, што ўсё будзе адбывацца з ёй вось гэтак.

А можа, усё было інакш? Кожны нясе ў магілу таямніцу сваёй смерці, ніколі не можна даведацца, што адбывалася. Тым больш яна маўчала. Погляд яе быў затуманены, і не зразумець было — у забыцці яна ці пры свядомасці.

Памірала яна занадта па-будзённаму, як быццам бы не адбывалася нічога страшнага. Усе вакол мітусіліся машынальна, бачна было, што ёй нічым не дапаможаш. І ўрач, выслухаўшы яе, прамовіў амаль лятуценна:

— Нам бы з вамі столькі пражыць...

Але вось погляд яе праясніўся. Яна пачала некага шукаць. Мяне падштурхнулі:

— Цябе, цябе...

Я схіліўся над ёю і ледзь разабраў:

— Вазьмі там,— яна паказала рукою ў бок кладоўкі, дзе стаяў яе куфар з кнігамі і яшчэ нечым: — Там знойдзеш. Сшыткі, пісьмы... Толькі табе. Прашу, захавай...

Усхваляваны гэтым перадсмяротным шэптам і словамі: «Толькі табе», я пайшоў у кладоўку і дрыжачаю рукою знайшоў сшытак.

У сваім пакоі раскрыў яго і ўбачыў тонкі пачак пісьмаў, абвязаны цясёмкай. Я дастаў першае пісьмо з пажоўклага канверта. Разам з ім выпала засушаная кветка.

«У Пецярбурзе вясна. Ты ўяўляеш — самая сапраўдная вясна! Я вельмі сумую па табе — маленькай,

бязважкай і такой далёкай ад мяне. У віры дзён, напоўненых самымі рознымі падзеямі, не перастаю думаць, марыць аб табе. Якімі цудоўнымі былі нашы дні! Памятаеш — ідзём павольна берагам ракі, твая рука ў маёй, ты зусім побач, і я шчаслівы, шчаслівы! А потым я даведаўся, што ты можаш быць і мужнай і хладнакроўнай. Толькі ж тваё хладнакроўе пры вобыску дапамагло Н. застацца. Ты з'явілася перад мной зусім новай, і я пакахаў цябе не толькі душою, сэрцам, але і розумам.

Прыціскаю цябе да сваіх грудзей, цалую, кахаю.

Твой С.»

Я пачаў успамінаць.

Яна не любіла сябраваць са старымі бабулямі з нашага двара, гэта было ёй у цяжар. Яны займалі з раніцы лаўкі, пакрыквалі на ўнукаў, вязалі, гаварылі бясконца пра свае хваробы і пра суседзяў.

Яна была далёкая ад усяго гэтага. Маленькая, сухенькая, яна трухала сярод дрэў у скверы то зусім павольна, то парывіста, хутка, быццам ёй няўтульна рабілася у амаль бязважкім, старым целе і яна імкнулася вырвацца з яго путаў на волю.

Сябры яе даўно пакінулі жыццё. Чым жыла яна? Мусіць, успамінамі. Імі яна ніколі не дзялілася. Толькі аднойчы сказала мне:

— Я і не заўважыла, як хутка прайшло жыццё.

І быццам саромеючыся, паказала мне фатаграфію — скалы ля мора, хвалі і на фоне ўсяго гэтага юная дзяўчына.

— Гэта я,— сказала яна і, адвёўшы вочы ўбок, схавала фатаграфію.— Мне здаецца, што ўсё гэта было так нядаўна. Так дзіўна,— вымавіла яна.

Я добра ведаў, што было яшчэ ў яе жыцці. Вайна, галоднае пасляваеннае жыццё, чацвёра дзяцей на руках, смерць мужа ад ран, жыццё з адной думкай — пра хлеб. І нарэшце — хуткаплынная старасць.

«Родная мая! Здзейснілася! Нарэшце — рэвалюцыя! Усёпаглынальная стыхія змяце стары, смуродны строй. Усе мы пасля доўгіх год знявагі атрымалі адзіна верную маці — свабоду. Праўда, яшчэ будуць смерці. Яшчэ будзе бойка за нашу справу, але ў паветры ўжо новае жыццё, цудоўнае, непаўторна шчаслівае!

Як не хапае цябе побач. Я гэта адчуваю кожнае імгненне. І ў той жа час мяне ахоплівае нейкая ўнутраная, неапраўданая радасць — ты ў бяспецы, ты недасягальная для куляў! Як я кахаю, як мару аб табе!

Назаўсёды твой С.»

І яшчэ з ёю засталіся кнігі. Кнігі замянялі сяброў, што адышлі ў нябыт, вярталі здольнасць марыць і жыць па-за старасцю. Яна ніколі не гаварыла пра гэта. Але я бачыў, як жвавелі яе вочы і сама яна рабілася іншай, чытаючы кнігі. Праўда, у яе хутка стамляліся вочы — яны слязіліся, з'яўлялася рэзь. І тады яна, не выпускаючы кнігі з рук, выходзіла на вуліцу — на паветры вочы хутка адыходзілі ад стомленасці, і яна зноў чытала.

Яна вучыла мяне разумець кнігу. Яна не давала павучэнняў, як і што чытаць, яна проста расказвала аб прачытаным, і мяне з кожным годам усё больш прыцягвала да таямнічых вокладак.

«Мілая мая! Зноў вясна — бурная, шалёная. Я павінен вярнуцца да забытага ў дні рэвалюцыі, я зноў аперырую. Аперырую без канца. Раненых усё вязуць і вязуць. Я ўвесь у крыві, у людской крыві. Адных мне ўдаецца вярнуць да жыцця, другім хіба што мог бы дапамагчы сам усявышні. Калі б ён быў.

Калі ўсё скончыцца, ці згіне гэтае пекла, імя якому братазабойчая вайна?!

Не ведаю, ці дойдзе да цябе маё пісьмо. Як там

у вас? Вельмі хвалююся за цябе! Я не маю больш сілы жыць без цябе! Калі ўсё гэта скончыцца — ёсць жа справядлівасць! — імчуся да цябе, за табою! Мару пакінуць сталіцу, ірвуся ў адкрыты бой з ворагам. Мне сказалі — просьба мая праз некалькі дзён будзе задаволена. Я еду на фронт. Не хвалюйся за мяне, чакай, чакай мяне з нецярпеннем!..

Цалую. Твой С.»

Больш пісьмаў у сшытку не было.

Яна стала мерзнуць нават улетку. Яе перасталі саграваць сонечныя промні. Вельмі рэдка выходзіла яна на вуліцу ў шарсцяным паліто, хадзіла павольна, быццам баючыся паваліцца.

І тут я выразна ўявіў увесь жах яе слоў:

— Будзе час, калі ты не зможаш папрасіць прабачэння...

Я тады зняважыў яе па-хлапечы жорстка, і мой пракляты ґонар не дазволіў сказаць так неабходныя нам абодвум словы.

Я стаў выходзіць разам з ёю на вуліцу, імкнучыся зрабіць выгляд, што не апякую яе. І яна таксама ўступала ў гульню, быццам нічога не заўважаючы. Мякка ступала па траве і ўсміхалася мне.

Ёй зрабілася зусім дрэнна. Яна маўчала, і ніхто не мог сказаць, ці засталася ў яе магчымасць гаварыць. У апошні дзень яна павяла галавою ў мой бок. У вачах яе было запытанне. Я кіўнуў галавой. Я ведаў, пра што яна хоча спытаць — пра пісьмы.

Яе дыханне стала рэзкім і перарывістым. Выклікалі ўрача. Ён нядоўга прабыў у яе пакоі.

— Цяпер ужо ўсё,— ён сказаў гэта без ценю спачування ці змены ў голасе. І як быццам просячы прабачэння: «А што зробіш, цяпер моладзь вунь як мрэ?!»

У апошні раз у жыцці я ўваходжу да яе. Яе мармуровы твар горды і спакойны. Я дакранаюся да яе халоднай, жорсткай рукі і шапчу, давячыся ўнутранымі слязамі:

— Бывай, бабуля...

## УСПАМІНЫ АБ АДНЫМ ДОЎГІМ ДНІ

Здарылася так, як я і думаў. Я ж так даўно ведаю Ігнацьева... А другой палавіне дня, калі сонца было злым і гнала з нас пот ручаямі, мы вылезлі з цягніка ў маленькім прыморскім гарадку. Адразу стала лягчэй дыхаць. Пахла морам. Мы нядоўга шыбавалі з нашымі чамаданамі. Праз нейкую гадзіну знайшлі пакой па сходнай цане — па паўтара рубля за суткі. Мы маглі б і больш заплаціць, у кішэнях у нас звінела, але каму ахвота лішнія грошы аддаваць.

— Удача! — з палёгкаю сказаў Ігнацьеў.— Цяпер у Прыбалтыцы па два, а то і па тры рублі за ноч дзяруць. Удачу трэба замачыць.

Я згадзіўся. Мы пайшлі шукаць рэстаран. Рэстаранаў тут была процьма, але месц не было. Нам яшчэ пашанцавала, мы занялі месца каля стойкі бара — пі што хочаш, толькі есці няма чаго, ну, але нічога, можна закусіць цыгарэтай. Выпілі мы па два кактэйлі ці не, здаецца, нават па адным, з другога толькі па глытку зрабілі. І тут Ігнацьеў усміхнуўся бландзінцы гадоў трыццаці пяці, бландзінка яму. Праз некалькі мінут яна адскочыла ад сваёй санаторнай кампаніі, і размаўлялі яны з Ігнацьевым так, быццам адно аднаго ведалі гадоў па дзесяць.

— Дрэнна, што ўсе людзі не жывуць у адным

горадзе. Мы маглі б сустрэцца і раней,— гаварыў ёй Ігнацьеў, падсоўваючы кактэйль.

Я гэту фразу ад яго мільён разоў чуў. Ён яе ўсім паўтараў у камандзіроўках і ў час адпачынку.

— Маглі б і на самой справе,— гаварыла яна.— Мне з табой лёгка.

Я адзначыў, што яны ўжо перайшлі на ты.

Раптам яна схамянулася:

— А чаму твой сябар смуткуе? — і тут жа падбегла да сваёй санаторнай кампаніі і назад вярнулася з сяброўкай — тоўстай, з тоўстымі губамі, валасамі сіняга колеру і прагнымі вачыма. Відаць, ад мужа вырвалася на курорт і марыць падгуляць. Толькі не са мной. Я тоўстых цярпець не магу. Не паспелі яны да нас падысці, як я, адчуваючы, што ад таўстухі проста не адчэпішся, прайшоў міма, прама ў залу, запрасіў на танец нейкую дзяўчыну і пратанцаваў з ёю, не сказаўшы ні слова. Яна была нічога сабе з твару, і мы маглі б з ёй згаварыцца на сустрэчу, але ў мяне ад кактэйляў язык зрабіўся цяжкі і з'явілася нейкая дзіўная лянота. Я пайшоў дамоў і заваліўся спаць. Сярод ночы мяне расштурхаў Ігнацьеў. Я якраз даглядаў непрыемны сон, я танцую з таўстухай з сінімі валасамі і замест туфляў у яе капыты. Я ўзрадаваўся, што Ігнацьеў разбудзіў мяне, і таму на яго не дужа раззлаваўся. Ён пачаў расхвальваць бландзінку і сказаў, што заўтра мне давядзецца пабыць на пляжы з яе сынам, пакуль яны сходзяць за білетамі ў кіно. Я кіўнуў галавой і адразу ж заснуў і сноў ніякіх больш не бачыў.

Назаўтра бландзінка прыйшла на пляж з хлопчыкам гадоў дзевяці-дзесяці.

— Давай знаёміцца. Мяне завуць дзядзя Жэня,— сказаў яму Ігнацьеў і працягнуў хлопчыку руку.

— А мяне Глеб,— неяк неахвотна адгукнуўся той. Вось дык справа — цёзка!

— Я таксама Глеб,— сказаў я яму, і хлопчык заўсміхаўся.

Мы купаліся, загаралі, елі бутэрброды, якія прынесла бландзінка. Ігнацьеў паглядзеў на гадзіннік і сказаў:

— Вось што, Глебы. Вы адпачывайце, а мы сходзім па білеты ў кіно, а то вечарам не дастанеш. Добра?

— Добра, мы згодны,— адказаў я.

А хлопчык нават вокам не павёў у бок Ігнацьева. Ён сядзеў на кукішках і глядзеў у мора. Ігнацьеў і бландзінка пайшлі.

— Што ты любіш больш за ўсё на свеце? — спытаў Глеб і паставіў мяне сваім пытаннем у глухі тупік. Што я люблю? Работу... Яна мне так абрыдла, што слоў не знайсці. Ігнацьеву падабаецца. Наша работа — яго прызванне. І які ідыёт панёс мяне... Што ж сказаць яму?

Мая аднапакаёвая кватэра неблага абстаўлена, і пара дываноў у ёй ёсць, і сценка югаслаўская, але ўсё гэта запылена. Пыл выціраць няма каму. Я жыву адзін. Была маці. Далёка, у вёсцы. Я рэдка ездзіў. Не было ахвоты ў аўтобусе трэсціся. Да таго ж маці пачынала дапытвацца, чаму не жанюся так доўга, чаму не жыву, як браты і сёстры. І даход у іх меншы, а апранутыя, абутыя як след, дзеці ў іх дагледжаныя і на кніжцы грошы водзяцца. З імі я рэдка бачыўся. Ад суму падохнуць можна, і з просьбамі ўсякімі лезуць: дастань дыван, «Жыгулі» без чаргі, футру...

Памерла маці. На пахаванні сустрэліся са сваякамі. Я іх з таго дня больш не бачыў. І не шкадаваў аб гэтым.

— Ты што, заснуў? — зноў звярнуўся ён да мяне.— Я ж пытаюся: што ты больш за ўсё любіш?

І тут я, каб не здацца яму поўным крэтынам, успомніў — я люблю футбол. Да мяне часта прыходзяць футбалісты і просяць што-небудзь дастаць. Я да-

стаю, а потым гляджу на іх з трыбуны, як на сваіх сяброў, і мне цікава.

— Я больш за ўсё люблю футбол.

І ў наступнае імгненне я пашкадаваў аб гэтым. Ён паглядзеў на мяне з такім шкадаваннем, быццам перад ім быў закончаны ёлупень.

Тады я спытаў:

— А ты што больш за ўсё любіш на свеце?

Ён адказаў не адразу. Устаў і паклікаў мяне. Мы зайшлі ў мора.

— Глядзі ў мора, толькі вачыма не міргай і не адводзь вачэй, глядзі, проста глядзі,— сказаў ён.

Я пачаў глядзець. Праз мінуту-другую мне гэта надакучыла, і я сказаў:

— Які сэнс глядзець? Я нічога не бачу. Мора пустое.

— Які ты смешны! — сказаў ён рэзкавата.— Ты глядзі ўдалячынь, толькі ўдалячынь, а потым я скажу табе, што можна ўбачыць у моры.

— Добра, я буду глядзець, толькі ты хутчэй гавары, што можна ўбачыць, а то ў мяне ў вачах пачынаецца рабаценне.

— Яшчэ рана,— сказаў ён.

І тады я вырашыў цярпець. Каб вочы не рэзала, папераменна заплюшчваў то адно, то другое вока.

— У моры можна ўбачыць усё, што захочаш. Бачыш, там, дзе вада зліваецца з небам, з'яўляецца карабель, увесь са шкла, празрысты, а за ім — дакладна такі ж шкляны горад.

Я працёр вочы і сказаў:

— Што ты вярзеш? Які карабель, які горад! Глупства нейкае.

Ён пайшоў ад мяне, сказаўшы:

— Ты такі ж, як і ўсе.

Я дагнаў яго каля нашай пасцілкі і сказаў:

— Але там жа нічога не было.

— Ну, дык што? Проста я захацеў убачыць горад

і ўбачыў яго і карабель таксама. Трэба ўмець уяўляць.

Я нарэшце зразумеў, што ён пры сваім розуме, і сказаў:

— А ў мяне не ўяўляецца. Ніколі нічога не магу ўявіць, пакуль не ўбачу сваімі вачыма, не пакратаю сваімі рукамі.

— Значыць, ты ніколі не навучышся маляваць,— сказаў ён.

— Гэта праўда, не навучуся.

— А я яшчэ люблю маляваць. Вось глядзі.

Ён дастаў з кішэні маленькі блакноцік, аловак і некалькімі штрышкамі намаляваў мора, неба і на гэтым фоне празрысты карабель на фоне празрыстага горада.

— Здорава! — сказаў я.— Хто цябе навучыў так маляваць?

— Ніхто. Проста мне вельмі падабаецца. Тата абяцаў адвесці ў студыю, але не паспеў. Мой тата памёр. Ён быў зусім малады і памёр ад страшнай хваробы. Такой, якую ніхто не вылечвае. Вось глядзі.

Ён паказаў мне свой блакноцік. Я пачаў гартаць і ўбачыў адны і тыя ж малюнкі. На іх быў мужчына з рэзкімі, такімі ж, як у Глеба, рысамі твару — у профіль, анфас. На адных малюнках ён усміхаўся, на другіх быў сумны.

— Гэта тата,— сказаў Глеб.

Ён ляжаў тварам уніз, і я заўважыў, што яго вострыя плечукі ўздрыгваюць. Недарэчнасць нейкая.

— Перастань, ты ж мужчына, да таго ж дарослы. Пайшлі лепш паплаваем. Хочаш, я пакатаю цябе на спіне?

Я заўважыў — Глеб не хоча, каб я бачыў, як ён выцірае слёзы. Я адвярнуўся. Потым мы паплылі. Плаваў ён няважна, і я сказаў, каб ён узбіраўся мне на спіну. Ён уладкаваўся на спіне, і смяяўся, і гаварыў, што я плыву, як вялізная жывая тарпеда. Я добра

такі стаміўся і цяпер ляжаў, уткнуўшыся тварам у гарачы пясок. Ён сядзеў побач. Непадалёку хлапчукі ганялі мяч.

— Ідзі пагуляй з імі,— сказаў я.

— Мне не хочацца. З імі не цікава.

Я заўважыў — ён крадком паглядае на гадзіннік. Маці чакае. А яна надоўга затрымалася ў чарзе. Я адчуў, што прагаладаўся.

— Пойдзем падсілкуемся,— сказаў я Глебу.— Вунь шашлычная. Добрыя шашлыкі нам не пашкодзяць.

Ён згадзіўся без асаблівага энтузіязму. Добра, што ў шашлычнай амаль не было чаргі. Я ўзяў адразу па тры шашлыкі. Глеб еў шашлыкі з апетытам і запіваў іх напіткам.

Я выйшаў з шашлычнай і пачаў паглядаць на дзяўчат. Колькі іх тут, і ўсе прыгожыя, модна апранутыя. Ці ж зраўняцца бландзінцы і яе таўставатай сяброўцы з імі. Мы селі на лаўцы каля помніка марской німфе. Я не выпадкова выбраў гэту лаўку. На ёй сядзела дзяўчына з доўгай шыяй, доўгімі нагамі і ела марожанае.

— А што, калі нам зрабіць такую ж німфу, Глеб? — сказаў ён мне.

— Як гэта зрабіць?

— Вельмі проста. Выкласці яе [redacted] пяску.

— Як ты выкладзеш? Народу на пляжы процьма.

Ён быў няўмольны:

— Трэба пайсці раніцай гадзін у пяць, калі на пляжы яшчэ нікога няма. Потым усе прыйдуць і ўбачаць німфу, вось будзе здорава!

Карацей кажучы, мы з ім балбаталі да таго часу, пакуль дзяўчына з доўгімі нагамі не пайшла, сказаўшы на развітанне:

— З вашага сына можа атрымацца добры чалавек.

Я і слова сказаць не паспеў, як яна знікла. Не бегчы ж за ёй следам...

Мы зноў пайшлі на пляж. Хутка з'явіліся Ігнацьеў і бландзінка.

— Вы не затужылі тут без нас? — спытала яна.

— Не, мы разглядалі шкляны карабель і дакладна такі ж праарысты горад,— сказаў я.

— Гэта выдумкі хлопчыка,— сказала бландзінка.— Я не ведаю, што з ім рабіць.

— Мы заўтра пойдзем з ім рабіць з пяску німфу. Абавязкова пойдзем,— так, Глеб?

Хлопчык рашуча заківаў галавой у знак згоды. Я ўзяў у гаспадара будзільнік і паставіў яго на пяць гадзін раніцы.

— Ты, відаць, звар'яцеў,— сказаў Ігнацьеў.

Я нічога не адказаў. Я курыў і глядзеў праз акно ў той бок, дзе мора злівалася з небам.

— Не шанцуе, вечна яны да мяне ў жонкі ліпнуць...— пачаў Ігнацьеў.

— Ідзі да д'ябла! — гыркнуў я на яго.

Ён нічога не зразумеў. Пачаў прасіць прабачэння, маўляў, не крыўдуй, што я адкалоўся і табе было з хлопцам сумна.

Я нічога не адказаў і лёг спаць.

Раніцой я прачнуўся не ад будзільніка, а ад таго, што буйныя кроплі дажджу моцна білі па цынкавым даху. Глянуў у акно — усё неба зацягнула хмарамі. Я заплюшчыў вочы і зноў заснуў, але праз паўгадзіны прачнуўся — зазвінеў будзільнік. Я думаў, ісці ці не ісці, але пасля апрануўся і пайшоў. Я ведаў — Глеб будзе чакаць мяне. І сапраўды. Ён стаяў ля санаторыя ў сінім плашчыку і берэце. Ён узрадаваўся, убачыўшы мяне.

— Сёння нічога не атрымаецца, дождж ідзе,— сказаў я.

— І мы зноў разыдземся? — неяк разгублена спытаў ён.

— Не, пойдзем гуляць на пірс. Бачыш, дождж

сціхае. Калі ён перастане, мы злепім німфу. Пясок цяпер як гліна — добра ляпіць.

— Давай ляпіць і ў дождж! — сказаў ён, і я здагадзіўся.

Мы дайшлі да пустога пляжа, пакрытага сотнямі тысяч маленькіх азёрцаў. Ён застаўся ў адных плаўках і пачаў вычэрчваць німфу, а я вырашыў пакуль выкурыць цыгарэтку. Але доўга раскурваць ён мне не дазволіў.

— Насі пясок,— сказаў ён.

— Чым?

Ён засмяяўся:

— Вось дзівак! У далонях. Калі іх правільна скласці, то можна данесці больш, чым лапатай.

І я пачаў насіць пясок. Да таго часу, пакуль ён выклаў рэльефную німфу з хвастом рыбы і жаночай галавой, у мяне ад работы ўваччу пацямнела.

— Вось і гатова,— сказаў ён.— Няхай прыходзяць і здзіўляюцца, няхай думаюць, што німфа выйшла з мора і прылегла адпачыць.

Дождж сціх. Мы прыселі на лаўку адпачыць. Мора было шэрае, нерухомае.

— А кім ты працуеш? — спытаў ён.— Ты нічога не расказваеш пра сваю работу.

Я не ведаў, што адказаць. Я не мог сказаць яму, што лічу тавары на вялізнай базе, хаджу па ёй у сінім халаце, удыхаю пахі мануфактуры, што наогул я чалавек, да якога прыязджаюць і прыходзяць — каму дублёнку, каму пыжыкавыя шапкі ці дыван, і мне тое-сёе перападае, і ў кішэні ў мяне звініць.

— Я лётчык,— сказаў я спачатку няўпэўнена, а потым больш цвёрда.— Я лётчык.

Ён пачаў у мяне распытваць аб розных марках самалётаў, хуткасцях, і я расказваў. Добра, што ў мяне сябар на Поўначы працаваў пілотам, і я ад яго шмат пра што даведаўся.

Мы доўга сядзелі каля мора, і я расказваў. Потым я адвёў яго ў санаторый і сказаў, што хачу паспаць, я ж на самой справе не выспаўся. Мы дамовіліся сустрэцца пасля абеду, можа, выгляне сонца, і мы пойдзем на пляж.

Па дарозе дамоў я зайшоў у кафэ. Спачатку вырашыў з'есці бліны са смятанай, а потым заказаў яшчэ біфштэкс і бутэльку віна. І правільна зрабіў. Ад віна настрой у мяне імгненна палепшыўся, а тут яшчэ ў кафэ ўвайшла даўганогая дзяўчына, якую я бачыў нядаўна.

— Сядайце за мой столік,— запрасіў я.

Яна мяне адразу пазнала і заўсміхалася.

— Дзіўна бачыць вас без сына.

Я заказаў салат, біфштэкс і яшчэ бутэльку віна. Яна ахвотна выпіла.

— А дзе вы тут бываеце? — спытала яна.

— Нідзе. Кафэ, пляж, кафэ.

— Чаму так? Тут жа выступаюць добрыя эстрадныя артысты. Амаль кожны дзень.

— Я не люблю ні добрых эстрадных артыстаў, ні дрэнных,— сказаў я.— Лепш ужо хадзіць па рэстаранах. Там не трэба рабіць выгляд, што табе ўсё цікава, можна курыць, танцаваць або проста піць.

Яна нічога не адказала. Мы дамовіліся ўвечары пайсці ў рэстаран. Яна, яе звалі Наташа, пайшла да мора, а я — спаць. Калі я прыйшоў, Ігнацьеў валяўся на ложку. Мне лень было размаўляць з ім, і я зрабіў выгляд, што адразу заснуў. Прачнуўся ад таго, што сонца прыпякло ў галаву, да таго ж я выпіў з раніцы амаль дзве бутэлькі віна. Неба было чыстае, як памыты крыштальны бакал. Я сеў у цень, закурыў і пачаў чакаць Глеба. Неўзабаве ён прыбег.

— Мама пайшла з Ігнацьевым на пляж,— сказаў ён.— Ігнацьеў сказаў, што ты напіўся і цяпер спіш.

— Сам ён напіўся,— сказаў я.

Мне раптам страшэнна захацелася акунуцца ў мора. Я сказаў пра гэта Глебу, і мы пайшлі на пляж. Мы купаліся да болю ў плячах, а потым ляжалі на гарачым пяску. Усё неба, з краю ў край, праштапарыў маленькі самалёт.

— А на такіх ты лятаў? — спытаў Глеб.

— Я схлусіў табе,— нечакана для сябе сказаў я.— Я не лётчык. Я працую таваразнаўцам на базе. Гэта самая агідная работа, павер мне.

Ён ляжаў побач моўчкі. Сам не ведаю колькі. Потым сказаў:

— Я таксама сказаў табе няпраўду. Мой бацька не памёр. Ён з намі не жыве. У яго ёсць іншыя дзеці. Я аднойчы ў школу ішоў і сустрэў яго з імі. Яны ляжалі побач у вялікай калясцы, аднолькавыя, як лялькі ў магазіне.

— Ён да цябе прыходзіць? — спытаў я.

— Прыходзіць. Але з ім сумна. Ён увесь час глядзіць па баках, і я бачу, што яму вельмі хочацца хутчэй пайсці. Ён ідзе, і мне зусім не шкада.

З даўганогай дзяўчынай мы пайшлі ў рэстаран, цэлы вечар танцавалі, елі, пілі віно, а пасля сядзелі ў парку.

— Скажы, можа, у цябе ёсць сын або дачка? — спытаў я.

Вочы ў яе выкаціліся з арбіт.

— Што з табой? — спытала яна.— Ты ж не вельмі многа выпіў?

Я сказаў, каб яна ішла дамоў, і яна, напэўна, падумала, што я ненармальны.

Мне раптам тэрмінова спатрэбілася пагаварыць з Глебам, і я пайшоў да санаторыя. Вокны санаторыя былі цёмныя.

Я пайшоў дамоў, Ігнацьеў спаў.

— Мы хутка развітаемся,— сказаў мне назаўтра Глеб.

Так, дзён мала засталося. Пяць, чатыры, тры, два... Я бачу ў вачах Глеба страх. Мне таксама страшна. Толькі па маіх вачах гэтага не скажаш.

— Ты прыязджай да мяне,— гавару я.— Прыязджай. Канікулы яшчэ не скончыліся. Час ёсць.

Ён ківае галавой. Ён чакаў гэтых слоў. Я даю яму свой адрас.

Я прыходжу іх праводзіць. Мы стаім з Глебам, яго маці і Ігнацьевым. Ва ўсіх твары сумныя, а ў Глеба проста няшчасны.

Яны садзяцца ў аўтобус, аўтобус ад'язджае. Неба ўспорвае маланка. Я хутка іду па вуліцы, што вядзе да мора, у твар мне б'е калючы вецер.

Ігнацьеў ці то застаўся на прыпынку, ці то паціху клыпае. Я крочу хутка, не аглядваючыся.

# ЗМЕСТ

## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ

**Кацюшэнка М.**

К 30 Дні, як усе іншыя: Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1981.—222 с., іл.

65 к.

Новая кніга Міхася Кацюшэнкі «Дні, як усе іншыя» — пра жыццё нашых сучаснікаў — рабочых аднаго са сталічных заводаў і супрацоўнікаў маладзёжнай рэдакцыі. Не ўсё проста ў рабоце і жыцці гэтых людзей, нямала канфліктных сітуацый, складаных жыццёвых паваротаў. І ў залежнасці ад таго, як яны выходзяць з гэтых сітуацый, вызначаецца іх маральная, а нярэдка і прафесійная годнасць.

Апавяданні, якія дапаўняюць аповесці, таксама пра нашых сучаснікаў.

**70303—019**
**К————————9—80**
**М 302(05)—81**

**ББК 84 Бел 7**
**Бел 2**

МИХАИЛ ПЕТРОВИЧ КАТЮШЕНКО

**Дни, как и все остальные**

*Повести и рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Г. Б. Нужкова. Мастак В. Г. Мішчанка. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Т. М. Собалева

ІБ № 776

Здадзена ў набор 11.04.80. Падп. да друку 15.12.80. АТ 05301. Фармат $70 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк арк. 9,80. Ул.-выд. арк. 9,81. Тыраж 12 000 экз. Зак. 599. Цана 65 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.